ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

АДДЗЕЛ V. СЭРЫЯ V. КНІГА 2.

# ПРАЦЫ

## ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА ЗЬЕЗДУ

10—13 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ.

ВЫДАНЬНЕ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
У МЕНСКУ—1927.

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

Аддзел V. Сэрыя V. Кніга 2.

# ПРАЦЫ

## ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА ЗЬЕЗДУ

### 10—13 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ

КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
У МЕНСКУ — 1927

Надрукована згодна з пастановай Цэнтральнага Бюро Краязнаўства ад 23 лютага 1927 г. ў ліку 1.000 паасобнікаў.

Адказны Рэдактар, Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры *Ар. Смоліч.*

# Прамова т. Бялугі пры адчыненьні Зьезду.

Ад Першага да Другога Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду прайшоў год. Калі прааналізаваць галоўныя моманты разьвіцьця краязнаўчага руху за мінулы год, то іх прыдзецца заўважыць два. Папершае, мы назіраем надзвычайна шпаркі рост нашае краязнаўчае сеткі і прыток новых членаў у організацыі; падругое, непропорцыянальнасьць паміж агульным ростам організацый і пашырэньнем, паглыбленьнем навукова-дасьледчае працы членаў організацый. Навукова-дасьледчая праца па вывучэньні краю значна адставала і адстае ад росту членаў організацый. У гэтым пакуль што няма нічога хваравітага, бо неабходна спачатку сабраць жывыя і актыўныя сілы, аб'яднаць іх у пэўныя організацыйныя формы, вывучыць іх падрыхтоўку, здольнасьці, паставіць перад імі яскравыя і пэўныя мэты, каб потым бяз буйных і цяжкіх памылак, без шкадлівае траты сіл, часу, бяз траты веры ў магутнасьць колектыўнае працы можна было-б прыступіць да працы па вывучэньні краю.

Краязнаўчыя організацыі разьвіваюцца на грунце шпаркага і буйнога росту будаўніцтва нашае соцыялістычнае гаспадаркі і культуры; яны самі ўдзельнікі гэтага будаўніцтва. Прычына адставаньня ў тым, што да пэўнага часу ў разьвіцьці краязнаўства пераважную ролю адыгрываў організацыйны момант.

У разьвіцьці краязнаўчых організацый ёсьць недахопы: слаба разгорнута сетка сельсавецкіх агульных гурткоў.

Гэта значны недахоп у нашай працы, бо мы мала маем тых первястковых організацый, у якія толькі і могуць уваходзіць актыўныя сілы сялянства, асабліва моладзі. Мы наогул мала ўцягнулі ў нашы організацыі рабочых і сялян (да 5%). У нас слабая сетка і школьных гурткоў, асабліва пры сямігодках; гэта таксама значны недахоп, бо мы мала выхоўваем тыя жывыя сілы маладых дасьледчыкаў, якія пасьля школы будуць нашаю апораю, нашаю зьменаю. Па гэтых пытаньнях, пакуль што організацыйнага зьместу, Зьезд скажа сваё цьвёрдае і рашучае слова. І гэтае слова дасьць напрамак далейшай організацыйнай працы краязнаўчай сеткі.

Але калі адкінуць гэтыя недахопы, калі ўзяць разьвіцьцё краязнаўчага руху ў цэлым, то мы павінны будзем прызнаць, што ён разьвіваўся больш-менш нормальна, што сетка краязнаўчых організацый расла і пашыралася правільна. Мы, напрыклад, маем досыць моцныя акруговыя таварыствы, блізка ўсе раёны ўтварылі раённыя таварыствы. Гэты факт констатаваў пашыраны пленум ЦБК, які адбыўся ў восень мінулага году ў Інбелкульце.

Гаворачы аб нашым разьвіцьці з організацыйнага боку, нельга не сказаць, што тут стаяць перад намі і новыя задачы. Мы маем на ўвазе далучаныя да нас нядаўна Гомельскую і Рэчыцкую акругі; дэлегаты краязнаўчых організацый ад гэтых акруг знаходзяцца тут; яны разам з намі будуць вырашаць пытаньні краязнаўчае працы. У гэтых акругах краязнаўчы рух ішоў па іншым шляху, яны ня маюць такой густой сеткі організацый, якая ёсьць у межах ранейшай Беларусі. Але гэта ня значыць, што яны ня маюць дасягненьняў, ня маюць практыкі. У іх гэта ёсьць. І вось скарыстаньне іх вопыту, скарыстаньне жывых сіл—неабходная задача.

У сваю чаргу, гомельскія і рэчыцкія краязнаўцы павінны шырака разгарнуць працу па організацыі сеткі паводле нашай, скарыстаўшы нашу практыку. Агульнымі сіламі, пад кіраўніцтвам партыі, мы выраўнаем лінію разьвіцьця краязнаўчага руху па ўсёй тэрыторыі БССР.

Як было сказана, навукова-дасьледчая праца, а таксама праца па зьбіраньні сырога матар'ялу, па вывучэньні краю адставала ад агульнага росту краязнаўчых організацый. Але гэта ня значыць, што памянёная праца за мінулы год не расла і не пашыралася. Наадварот, у гэтай галіне мы маем дасягненьні, якія сьведчаць, што гэта праца таксама значна пасунулася наперад.

Але нам неабходна перабудаваць нашу справу так, каб усе жывыя сілы прыцягнуць да карыснай творчай працы. Гэта цяжкая справа, і цяжар яе абумоўліваецца пэўнымі прычынамі. Агульная падрыхтоўка краязнаўцаў не дазваляе адразу ім шырака разгарнуць дасьледчую працу. Калі да падрыхтоўкі дабавіць веды мэтодаў дасьледваньняў, уменьне весьці назіраньне, уменьне сыстэматызаваць матар'ялы, рабіць вывады і г. д., то мы ўбачым, што ня кожны член організацыі адразу стане актыўным дасьледчыкам. Патрэбен час, у працягу якога новы краязнаўца падрыхтуецца.

З прычыны непадрыхтаванасьці краязнаўцаў мы бачым вельмі значнае пашырэньне такое працы, як зьбіраньне фольклёру, запіс слоў жывое мовы, назіраньне за зьявамі прыроды і вельмі мала бачым дасьледваньняў экономікі краю, побыту, гісторыі, вывучэньня форм сельскай гаспа-

даркі і г. д. Апошнія об'екты досьледаў патрабуюць і падрыхтоўкі, і часу, і ведаў мэтодаў працы,—інакш кажучы, усяго таго, што патрабуе часу для набыцьця ведаў.

Другі Зьезд разьвяжа некалькі пытаньняў па дасьледваньні і вывучэньні краю. У нас зараз шмат такіх чарговых пытаньняў: і організацыя краязнаўчага музэю, і дасьледваньне экономікі сялянства, і дасьледваньне зямляўпарадкаваньня, і вывучэньне прамысловасьці краю, гісторыі раёну, акругі і г. д. Зьезд ня можа разьвязаць усіх пытаньняў. Іх можа паступова разьвязваць цэлы шэраг зьездаў, пленумаў і інш. Мы вырашым толькі частку пытаньняў, але і гэта дасьць нам значную дапамогу ў нашай далейшай працы. Мы ўпэўнены, што пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнае партыі рашуча і сьмела пойдзем па новым шляху, па шляху дапамогі ў соцыялістычным будаўніцтве.

Соцыялістычнае будаўніцтва немажліва без навукі, бяз належнага разьвіцьця культуры. Пабудаваць соцыялізм сіламі працоўных мас, г. зн. паднімаць масы на вышэйшую ступень культуры. Мы павінны заўладаць тымі карыснымі данымі навукі, якія мы можам атрымаць ад буржуазіі, скарыстаць гэтыя даныя ў сваіх клясавых інтарэсах, пераварыць іх, прыстасаваць да ўмоў пабудовы соцыялізму. Тут, бязумоўна, значную ролю могуць і павінны адыграць краязнаўчыя організацыі. Краязнаўчыя організацыі—гэта дапаможныя ўстановы, выкліканыя да жыцьця новымі ўмовамі будаўніцтва гаспадаркі і культуры. Яны павінны весьці сваю працу ў самай сьціслай сувязі з савецкімі ўстановамі, організацыямі, дапамагаючы апошнім вынікамі свае навукова-дасьледчае працы. Нават свае дасьледчыя пляны ў некаторых галінах яны мусяць узгадняць з плянамі савецкіх установаў. Інакш нельга, бо соцыялістычнае будаўніцтва—гэта плянавасьць, гэта разумны разьлік. Калі мы гаворым, што нашы краязнаўчыя організацыі павінны шчыра павесьці дасьледчую працу па пабудове соцыялізму, гэтым самым мы разумеем, што яны павінны шчыра працаваць і над пабудоваю культуры—нацыянальнае па форме і пролетарскае па зьмесьце.

---

# Справаздача Цэнтральнага Бюро Краязнаўства на II Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

*(Зьмест дакладу т. Казака А.).*

## I. Агульныя палажэньні.

За апошнія гады назіраецца надзвычайна шпаркі рост краязнаўчых організацый і ажыўленьне краязнаўчай справы. Чым далей, краязнаўчы рух набывае ўсё больш грамадзкі характар; чым далей, у гэтую справу ўцягваюцца ўсё больш шырокія масы працоўных. За мінулы год лік членаў краязнаўчых організацый павялічыўся на 100%. Гэта відавочна сьцьвярджае выказаную ня раз краязнаўцамі думку, што краязнаўства ёсьць дзіця рэволюцыі. Трэба толькі дадаць—Кастрычнікавай. Бо толькі Кастрычнікавая рэволюцыя, якая абудзіла шырокія працоўныя масы, толькі пролетарская рэволюцыя, высунуўшая лёзунг аб пабудове социялізму, дзякуючы правільнаму ідэёваму кіраўніцтву Комуністычнай партыі, магла выклікаць гэткую агульную зацікаўленасьць да вывучэньня жыцьця мас і ўмоў іх працы.

Галоўная задача, якая высунута сучаснай эпохай—гэта вырашэньне пытаньня аб соцыялістычным будаўніцтве. Пры ўсякім будаўніцтве патрэбна веданьне ўмоў і ўсіх абставін, у якіх яно адбываецца, тым больш гэта патрэбна пры соцыялістычным будаўніцтве. У гэтым рабочая кляса пераканалася асабліва ў мінулым гаспадарчым годзе.

На дапамогу Савецкай уладзе ў вырашэньні гэтага пытаньня прыходзяць краязнаўчыя організацыі, якія ставяць мэтай усебаковае вывучэньне краю сіламі мясцовых працаўнікоў.

Важнасьць гэтага пытаньня асабліва павялічваецца ў такіх маладасьледваных краінах, як БССР, дзе вучоных спэцыялістых вельмі мала і сродкі для дасьледваньня абмежаваны.

Краязнаўчая справа зьяўляецца, як вядома, справай масавай, колектыўнай і добраахвотнай. Яна ахапляе сабой усіх тых, якія цікавяцца вывучэньнем сваёй мясцовасьці незалежна ад заняткаў і ведаў: рабочы, які жыве доўга на фабрыцы, ведае гісторыю яе і ўмовы працы да рэволюцыі і цяпер, можа даць каштоўны краязнаўчы матар'ял па гісторыі

фабрычнай вытворчасьці і побыту рабочых; ня меншую карысьць для вывучэньня краю можа прынесьці і селянін, які даўно жыве на адным месцы і назірае за зьявішчамі прыроды, гаспадаркі, быту і наогул жыцьця. Гэта пацьверджана практыкай. Вось чаму трэба, каб ідэя краязнаўства ахапляла ўсё больш і больш шырокія масы працоўных.

У БССР краязнаўчы рух, пад ідэёвым кіраўніцтвам Компартыі, у такім кірунку і разьвіваецца. Гэта можна прасачыць на росьце членаў краязнаўчае сеткі.

а) У параўнаньні з мінулым годам рост членаў у агульных організацыях павялічыўся з 3.738 да 7.073 (на 90%), а разам са школьнымі організацыямі—да 9.389 (на 130%).

б) Організацыі прымаюць больш масавы характар, што заўважваецца з наступных лічбаў: агульны % удзелу настаўніцтва, у параўнаньні з мінулым годам, панізіўся з 80 да 70, затое % удзелу сялян і рабочых падняўся з 2 да 5 і % іншых (агрономаў, дактароў, лясьнічых) падняўся да 25.

в) Назіраецца ўзмацненьне ўдзелу партыйцаў у краязнаўчых організацыях: восеньню % партыйцаў быў 7, а зараз 10,4, а % комсамольцаў падняўся з 4 да 9.

## II. Організацыйнае аформленьне і праца краязнаўчай сеткі.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства накіроўвала краязнаўчую справу па ўказаным шляху. Падставай для разьвіцьця краязнаўчай справы ў гэткім кірунку былі пастановы І Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, у якіх грунтоўна былі намечаны шляхі краязнаўчага руху як організацыйна, так і практычна. На працягу ўсяго 1926 году краязнаўчая справа як у цэнтры, так і на мясцох была накіравана на ажыцьцяўленьне пастаноў Зьезду і праверку іх.

Галоўным заданьнем, якое даў І Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства і ўсёй краязнаўчай сетцы ў організацыйным кірунку, было: а) вывучэньне організацыйных форм краязнаўчага руху дзеля іх удасканаленьня, б) высьвятленьне складу членаў організацый і в) вывучэньне і дасьледваньне раёнаў. На працягу ўсяго пэрыоду ЦБК займалася вырашэньнем гэтых пытаньняў. Канчаткова вызначыліся і ўсталяваліся наступныя формы краязнаўчых організацый: сельсавецкія гурткі, раённыя і акруговыя т-вы. Усе гэтыя організацыі будуюцца паводле тэрыторыяльнага прынцыпу яны маюць мэтай усебаковае вывучэньне мясцовасьці ў мэжах тэрыторыі.

Першапачатковай краязнаўчай ячэйкай лічыцца гурток у сельсавеце, які ставіць мэтай вывучэньне сельсавету, як часткі раёну. У склад яго ўваходзяць усе асобы, якія цікавяцца вывучэньнем гэтай адміністрацыйнай адзінкі: настаўнік,

агроном, доктар, лясьнічы, іншыя працаўнікі, партыйцы, камсамольцы, рабочыя і сяляне.

Для вывучэньня раёну ў раённым цэнтры організуецца зацікаўленымі асобамі т-ва, якое ставіць мэтай усебаковае вывучэньне раёну і ў якое ўваходзяць членамі сельсавецкія гурткі. Раённае таварыства вядзе працу па сталым апрацаваным пляне і кіруе працай сельсавецкіх гурткоў, якія вядуць працу паводле зацьверджанага раённым т-вам пляну.

Акруговае т-ва складаецца з краязнаўцаў, якія жывуць у горадзе, і ставіць мэтай вывучэньне акругі. Па пытаньнях вывучэньня і дасьледваньня раёнаў, як частак акругі, акруговае т-ва краязнаўства складае плян дасьледваньня па розных галінах і накіроўвае дзейнасьць раённага таварыства, якое разгортвае сваю працу, увязаўшы з плянам акруговага таварыства.

Апрача памянёных краязнаўчых організацый, існуюць пры школах-сямігодках, тэхнікумах школьныя краязнаўчыя гурткі, а пры вузах—краязнаўчыя таварыствы. Гэтыя гурткі маюць задачай: а) тэорэтычна падрыхтавацца для вядзеньня справы ў будучыне, б) дапамагчы агульным краязнаўчым організацыям у вывучэньні і дасьледваньні тэй ці іншай галіны.

Школьнымі яны завуцца толькі затым, што знаходзяцца пры школах. Ад школьных гурткоў краязнаўства трэба адрозьніваць працу школы на краязнаўчым ухіле. Праца школьных гурткоў краязнаўства можа і павінна быць накіравана такім чынам, каб дапамагчы выкладаньню школы.

Вывучэньне форм і мэтодаў краязнаўчай працы, накіраваньне, організацыю і падлік яе вядзе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Вось організацыйная структура краязнаўчай сеткі БССР. Структура гэтая была намечана ў пастановах І Зьезду і канчаткова замацавана практычнай працай.

Для ўнясеньня яснасьці ўва ўзаемаадносіны паміж краязнаўчымі організацыямі ЦБК прышлося на падставе вопыту скласьці статуты для ўсіх форм краязнаўчых організацый. У статутах поўнасьцю праведзена адзначаная вышэй думка аб падпарадкаванасьці сельсавецкіх краязнаўчых гурткоў раённым таварыствам і аб падлегласьці раённых таварыстваў у сэнсе навуковага дасьледваньня накіраваньню акруговых з захаваньнем пляну дзейнасьці ніжэйшай організацыі.

Школьныя гурткі залежаць ад школьных саветаў і ўвязваюць сваю дзейнасьць па вывучэньні мясцовай тэрыторыі з агульнай мясцовай краязнаўчай організацыяй. У статутах паказаны кірунак працы з боку організацыйнага і навуковага. Статуты зацьверджаны, як нормальныя, і павінны стаць завяршэньнем організацыйнай структуры.

## III. Навукова-дасьледчая праца.

У навуковай галіне за мінулы год увага ўсіх краязнаўчых організацый была накіравана, паводле пастаноў I Краязнаўчага Зьезду, на вывучэньне і дасьледваньне раёнаў.

Каб дапамагчы ў гэтай справе краязнаўчым організацыям, каб даць ім прыклад, як рабіць вывучэньне,—ЦБК падняло пытаньне перад Інбелкультам аб выдзяленьні аднаго раёну з мэтай усебаковага яго дасьледваньня і вывучэньня. ІБК падтрымаў гэтую думку і ўсямерна дапамагаў ажыцьцяўленьню яе. Пасьля дэталёвага абгаварэньня гэтага пытаньня было пастаноўлена абраць для вывучэньня Асіпавіцкі раён. Уся справа па зборы матар'ялаў, дасьледваньні і вывучэньні раёну праводзіцца Асіпавіцкім раённым таварыствам краязнаўства пад кіраўніцтвам Старшыні—тав. Немцава. Апрацоўка матар'ялаў робіцца ў адпаведных сэкцыях ІБК. З мэтай інструктаваньня мясцовых працаўнікоў і дасьледваньня некаторых спэцыяльных пытаньняў у Асіпавічы накіроўваліся тыя ці іншыя навуковыя працаўнікі: проф. Бузук для дасьледваньня мовы, т. Рак для вывучэньня хатніх рамёстваў, т. т. Тэрлецкі і Рагавы для вывучэньня глебы, т. Зьбіткоўскі з мэтай паказаньня, як зьбіраць расьліны і прадстаўнік Мэдсэкцыі для вывучэньня санітарнага боку. Вывучэньне раёну працягнецца да чэрвеня месяца. Зараз у плянавым парадку праводзіцца вывучэньне бюджэту часу селяніна і монографічнае апісаньне паселішч; матар'ялы падрыхтоўваюцца да друку.

Лічачы пытаньне па ўсебаковым вывучэньні раёну вельмі важным, ЦБК прапанавала ўсім акруговым таварыствам краязнаўства ўнесьці ў свой плян працы пытаньне па вывучэньні аднаго раёну, на якім згуртаваць усю ўвагу акруговага таварыства. Але ня ўсе акруговыя таварыствы прынялі пад увагу гэтую прапанову, некаторыя акругі да гэтага часу не выдзелілі такога раёну, а іншыя хоць і выдзелілі, але нічога ня робяць у іх з боку вывучэньня. Затое, на працягу гэтага году вызначылася шмат такіх раёнаў, якія сваімі сіламі непасрэдна праводзяць працу па ўсебаковым вывучэньні раёну. Амаль у кожнай акрузе ёсьць па адным такім раёне, а ў некаторых акругах—па два-тры раёны. Найбольшыя дасягненьні ў гэтым кірунку ёсьць у раёнах—Расьнянскім Калінінскай акругі, Асьвейскім—Полацкай, Сьмілавіцкім і Узьдзенскім—Менскай, Прапойскім—Магілеўскай і Грозаўскім—Слуцкай. Вынікам гэтай працы зьяўляецца організацыя раённага краязнаўчага музэю. Усяго такіх музэяў 16. Музэі гэтыя паступова заваёўваюць аўторытэт і становяцца самымі лепшымі пропагандыстамі і популярызатарамі краязнаўства сярод акаляючага насельніцтва. Ёсьць шмат выпадкаў, калі сяляне

самі, знашоўшы тую ці іншую рэч, нясуць яе ў музэй. Але-ж гэтыя выпадкі маюць месца толькі ў тых раёнах, дзе краязнаўчыя т-вы добра выявілі сябе пастаноўкай працы. Ёсьць таксама выпадкі, калі мясцовыя органы ўлады зварочваюцца да краязнаўчых організацый за атрыманьнем тых ці іншых вестак. Усё гэта кажа аб тым, што паступова пытаньне краязнаўства пускае ўсё больш моцнае карэньне ў гушчы насельніцтва, што пытаньне гэтае з цягам часу набывае ўсё большыя правы грамадзянства.

Апрача пытаньняў вывучэньня і дасьледваньня раёну краязнаўчыя організацыі ў мінулым годзе вялі наступную працу: зьбіралі словы для краёвых слоўнікаў, рознага роду фольклёрныя матар'ялы, вялі фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні, якія дасылалі праз акруговыя таварыствы або непасрэдна для апрацоўкі ў ІБК.

Краязнаўчымі організацыямі таксама вялася плянавая праца па заданьнях ІБК па вывучэньні хатніх рамёстваў, бюджэту часу селяніна, дасьледваньні коопэрацыйнага апарату, апісаньні помнікаў старажытнасьці і прыроды і ў апошні час па апісаньні паселішч. Але-ж ня ўсе краязнаўчыя організацыі аднальково выконвалі заданьні; каля 25% організацый існавалі на паперы і амаль ніякай працы не вялі.

## IV. Кіраваньне краязнаўчай справай.

Як ужо зазначалася вышэй, накіраваньне працы краязнаўчай сеткі БССР вядзе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства праз Прэзыдыум ЦБК, які складаецца з т. т.: Бялугі (старшыня), Казака (намесьнік), Касьпяровіча (Навуковы Сакратар), двух агульных інструктароў—Атраховіча і Шашалевіча і двух інструкторооў нацменшасьцяй—Аляксандрава і Дамброўскага, рэдактара часопісу „Наш Край" т. Бядулі і прадстаўніка ЦКЛКСМБ. Стала працуе ў ЦБК пяць чалавек. У сваёй працы Прэзыдыум ЦБК кіраваўся пастановамі І Краязнаўчага Зьезду і ўказаньнямі Прэзыдыуму ІБК. Уся праца вялася па сталым пляне. Згодна гэтага пляну рэгулярна, штотыдзень рабіліся пасяджэньні Прэзыдыуму, на якіх у каляндарным парадку заслухоўваліся ў мэтах коордынаваньня працы, інформацыі датычных па працы да ЦБК сэкцый ці Камісій ІБК або даклады інструктароў аб стане краязнаўчай справы ў тэй ці іншай акрузе і выніках абсьледваньня. Пастановы Прэзыдыуму рэгулярна і сваячасова накіроўваюцца ў акруговыя таварыствы, дзе становяцца кіруючым матар'ялам у працы. Апрача гэтага на пасяджэньнях разглядаліся тыя ці іншыя прынцыповыя пытаньні, анкеты, програмы і протоколы акруговых таварыстваў, па якіх рабіліся належныя ўказаньні. Усяго за

справаздачны пэрыод адбылося 28 пасяджэньняў ЦБК, тры пленумы, з якіх адзін пашыраны з удзелам прадстаўнікоў ад акруговых таварыстваў. У мэтах высьвятленьня стану краязнаўчага руху зроблены падлік краязнаўчых організацый, матар'ялы якого надрукаваны ў часопісе. Зьвернута асаблівая ўвага на вывучэньне і ўдасканаленьне форм краязнаўчага руху, з якой мэтай, апрача апрацаваных статутаў для усіх форм організацый, пры ЦБК організаваны камісіі: Школьная, Студэнцкая і Падарожніцкая. Камісіі гэтыя організаваны нядаўна з прадстаўнікоў зацікаўленых організацый і павінны дапамагчы вывучэньню і ўвязцы працы краязнаўчых організацый у навучальных установах. Падарожніцкая Камісія мае мэтай вывучэньне найбольш цікавых і каштоўных месц па БССР і маршрутаў. Організаваньне гэтай Камісіі выклікана запатрабаваньнямі жыцьця і складзена з прадстаўнікоў адпаведных устаноў. Гэтай Камісіяй ужо зроблена наступнае: наладжана 6 маршрутаў па гарадох і 12 па БССР. У мэтах вывучэньня форм краязнаўчага руху сярод нацменшасьцяй організавана пры ЦБК Яўрэйская сэкцыя, а Польскі Аддзел Інбелкульту мае свайго сталага прадстаўніка ў ЦБК. Да гэтага часу краязнаўчая праца сярод нацменшасьцяй ня мела посьпеху, уся ўвага накіравана была на вывучэньне форм і асаблівасьцяй працы, замацаваньне якіх намечана зрабіць на гэтым Зьезьдзе, куды запрошаны прадстаўнікі з месц для апрацоўкі пытаньняў у сэкцыях Зьезду.

У мэтах палепшаньня матар'яльнага становішча акруговых краязнаўчых організацый ЦБК сваячасова праз адпаведныя інстанцыі былі прыняты меры аб унясеньні акруговых таварыстваў краязнаўства ў мясцовы каштарыс. Дзякуючы гэтаму, матар'яльнае становішча шмат якіх таварыстваў узмацнілася ў параўнаньні з мінулым годам. Але-ж ёсьць і такія акругі, як Менская, Бабруйская, у якіх матар'яльнае становішча, у сувязі з тым, што па ЦБК не асыгнавана сродкаў на субсідыю акруговых таварыстваў, значна пагоршылася: амаль ніякіх сродкаў у гэтых таварыстваў не аказалася. ЦБК у гэтым кірунку прыняты былі ўсе належныя меры: падымалася пытаньне пры зацьверджаньні каштарысу, рабіліся захады ў адпаведныя АВК і ў некаторых акругах пытаньне ўрэгулявана. На працягу справаздачнага пэрыоду праароблена ЦБК значная праца па популярызацыі краязнаўчай справы праз друк, агульныя сходы і пастаноўку пытаньняў па настаўніцкіх курсах. Зроблены захады перад партыйнымі, савецкімі, комсамольскімі і профэсіянальнымі організацыямі з мэтай прыцягненьня ўвагі да гэтай справы мясцовых організацый, асабліва шмат у гэтым напрамку зроблена ў васеньні пэрыод.

Каб даць магчымасьць краязнаўчым організацыям азнаёміцца з пытаньнямі краязнаўчага руху па навейшай краязнаучай літаратуры—для кожнай раённай організацыі выпісаны невялічкія бібліотэчкі неабходнай краязнаўчай літаратуры популярнага зьместу, у апошні час прыняты меры да папаўненьня іх навейшай літаратурай. Апрача таго ўвесь час усім краязнаўчым організацыям дасылаецца часопіс „Наш Край“.

Праз часопіс „Наш Край“ увесь час падтрымліваецца сталая сувязь з краязнаўчымі організацыямі і навуковымі інстытуцыямі СССР і некаторымі організацыямі Заходняй Эўропы. Усяго ЦБК пасылаецца ў РСФСР—88 экзэмпляраў, з іх 47 нумароў у Смаленскую губ. і б. Гомельшчыну—26, у УССР—8 і ЗРСФСР—7 і ў Заходнюю Эўропу—77. Сувязь з організацыямі сумежных краін узмацнілася асабліва пасьля Акадэмічнай Конфэрэнцыі. ЦБК атрымана выданьняў ад СССР 136 і шмат з Заходняй Эўропы.

У апошнія часы наладжан сталы абмен часопісу з акруговымі газэтамі, што дае магчымасьць ЦБК сачыць за станам справы на мясцох. У мінулым годзе, асабліва ў васеньні пэрыод, у сувязі з узмацненьнем штату ЦБК праароблена значная праца па жывым інструктаваньні і абследваньні стану краязнаўчай справы на мясцох: з верасьня па студзень м-ц ува ўсіх акругах у плянавым парадку праведзены акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі, якія поўнасьцю абслужаны прадстаўнікамі ЦБК. З мэтай устанавіць адзіны погляд на задачы краязнаўства на ўсіх акруговых конфэрэнцыях ставіўся даклад на тэму: „Задачы і мэты краязнаўства“. Адначасова рабілася абсьледваньне ў адным або двух раённых таварыствах кр-ва гэтай акругі. Усяго на працягу году было зроблена выездаў у акруговыя таварыствы 19 і ў раённыя—30.

За васеньні пэрыод амаль поўнасьцю выканана пастанова пашыранага пленуму адносна жывога інструктажу. Абсьледваньне і накіраваньне справы вялося паводле спэцыяльна апрацаваных інструкцый. Абсьледваньні гэтыя надзвычайна многа далі ЦБК ў сэнсе вывучэньня стану краязнаўчай справы ў акругах. Дзякуючы непасрэднаму азнаямленьню са справай на месцы, прышлося зусім зьмяніць погляд на становішча краязнаўчай справы ў некаторых акругах.

Пасьля кожнага абсьледваньня вынікі абгаварваліся на паседжаньнях Прэзыдыуму ЦБК. Гэтыя абсьледваньні значна дапамаглі вывучэньню форм краязнаўчага руху.

Значная ўвага ЦБК была зьвернута на наладжаньне справы Менскага акруговага т-ва па заданьні пашыранага пленуму. За апошні час у працы гэтага таварыства ёсьць

ажыўленьне справы: праведзены раённыя конфэрэнцыі і акруговая, наладжана кіраўніцтва раённымі т-вамі, зьвернута ўвага на арганізацыю школьных гурткоў пры сямігодках; наладжаньню справы шмат перашкаджае адсутнасьць сродкаў.

Па гораду Менску ЦБК ўсямерна дапамагала наладжаньню і ажыўленьню краязнаўчай справы ў т-ве БДУ, гуртку пры БПТ; своячасова арганізаваны і абслужаны новыя гурткі на Вышэйшых Курсах Беларусазнаўства, настаўніцкіх курсах, пры гідротэхнікуме і польскім яўрэйскім тэхнікумах. Усе гэтыя арганізацыі пэрыодычна абслугоўваліся прадстаўнікамі ЦБК і ІБК. Перад зімовымі вакацыямі па гурткох праведзены гутаркі і зроблены ўказаньні, што рабіць студэнтам у часы вакацый.

Увесь час ЦБК прыцягвалася належная ўвага краязнаўчых арганізацый да дэмографічнага перапісу 1926 г. ЦБК своячасова давала арганізацыям неабходныя ўказаньні ў гэтай справе. Пытаньне гэтае абгаварвалася на пашыраным пленуме ЦБК 3-4 верасьня і на ўсіх акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях. Апошні раз пытаньне гэтае абгаварвалася на пасяджэньні ЦБК 24/XI-1926 г., дзе былі прыняты конкрэтныя ўказаньні наконт удзелу краязнаўчых арганізацый у перапісе.

Апрача гэтага ЦБК сачыла за выкананьнем іншых пастаноў І Зьезду: заказаны і разасланы па арганізацыях членскія білеты; надрукаваны і разасланы матар'ялы І Зьезду.

## V. Як апрацоўваюцца матар'ялы.

ЦБК навуковай дзейнасьці не вядзе, а толькі зьяўляецца органам кіруючым, арганізуючым і ўлічваючым. У гэтым кірунку яно і вяло працу. Усе матар'ялы, якія атрымліваюцца з месц праз ЦБК, накіроўваліся ў адпаведныя камісіі ІБК: слоўнікавы матар'ял—у Слоўнікавую, гісторыка-археолагічны — у Гісторыка-Археолёгічную, мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні—Мэтбюро і Фэнбюро і фольклёрныя матар'ялы—у Літаратурную Камісію, а ў апошні час з арганізацыяй Фольклёрнай Камісіі—у Фольклёрную. Паступленьне матар'ялаў з месц за год можна бачыць з наступных лічбаў:

а) Слоўніаквага—154.106 картак-слоў.
б) Фольклёрнага 8.565.
в) Мэтэоролёгічных назіраньняў—86.
г) Фэнназіраньняў—212.
д) Розных анкет—140.
е) Іншых матар'ялаў—736.

Усе дасланыя матар'ялы апрацоўваюцца ў адпаведных Камісіях. Найгорш стаяла справа з фольклёрным матар'ялам. Але ў апошні час з арганізацыяй Фольклёрнай Камісіі на

чале з проф. Бузуком і сакратаром Шлюбскім справу гэтую можна лічыць урэгуляванай: т. Шлюбскі ўжо разгледзеў матар'ялы, вывучыў іх і даў ацэнку іх вартасьці ў артыкуле „Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу краязнаўчымі організацыямі“, зьмешчаным у часопісе „Наш Край“ № 1 і 2 за 1927. Апрача паказаных матар'ялаў, якія дасылаюцца краязнаўчымі організацыямі, або паасобнымі дапішчыкамі, шмат якія Камісіі ІБК вядуць праз ЦБК вывучэньне таго ці іншага пытаньня шляхам дасылкі анкет. У такіх выпадках звычайна гэтае пытаньне ўзгадняецца з ЦБК, высьвятляецца яго прынцыповы бок, вартасьць і потым ужо дасылаецца на месцы для запаўненьня.

## VI. Мэтодычнае кіраўніцтва.

Мэтодычнае кіраўніцтва ЦБК ажыцьцяўляе праз часопіс „Наш Край“ шляхам выданьня тых ці іншых інструкцый, програм і анкет. ЦБК вывучае запатрабаваньні мясцовых організацый у тэй ці іншай галіне, дагаварваецца з адпаведнай камісіяй, сэкцыяй ІБК або навуковым супрацоўнікам, каб падрыхтаваць інструкцыю, потым праглядае яе з боку адпаведнасьці да краязнаўчых організацый і, калі знойдзе яе падыходзячай, пускае ў друк.

У апошніх нумарох ёсьць досыць організацыйна-кіраўнічага матар'ялу. Наогул, калі падлічыць за ўвесь час, то кіраўнічага і мэтодычнага матар'ялу зьмешчана досыць.

## VII. „Наш Край“.

„Наш Край“ зьяўляецца органам ЦБК. Праз яго ЦБК праводзіць накіраваньне ўсёй краязнаўчай справы на мясцох, а таксама высьвятляе стан краязнаўчага руху па БССР, зьмяшчае матар'ялы мясцовага і агульна-навуковага характару, якія адбіваюць жыцьцё краіны. Зьмешчаны ў часопісе матар'ял на 1-е студзеня 1927 г. распадаецца на аддзелы такім чынам:

| | |
|---|---|
| а) Кіраўнічага матар'ялу па організацыі краязнаўчага руху . . . . . . . . . | 17 |
| б) Навуковых . . . . . . . . . | 44 |
| в) Інструкцый, програм і анкет . . . . | 30 |
| г) Матар'ялаў з месц. . . . . . . | 33 |
| д) Хронікёрскіх заметак . . . . . . | 91 |

е) Бібліографічныя працы бадай у кожным нумары.

Гэтыя лічбы даволі выразна сьведчаць аб тым, што ўсе аддзелы былі адпаведна поўнымі, што ў гэтым кірунку амаль поўнасьцю выканана пастанова Зьезду; неабходна толькі пашырыць мэтодычны і кіраўнічы аддзелы і зьмяшчаць больш матар'ялаў вытворчага характару. „Наш Край“ сабраў каля сябе сталы кадр супрацоўнікаў, якія ўдзельнічаюць у

ім у ліку звыш 50 асоб, ня лічачы супрацоўнікаў, прысылаючых хронікёрскія заметкі. Чым далей—усё павялічваецца лік дапішчыкаў з месц, якія дасылаюць матар'ялы. Ужо прыходзіцца падумаць наконт таго, каб стаць на шлях паасобных выданьняў ЦБК, бо матар'ялаў бывае занадта. Бяда толькі, што сродкаў няма. Усяго па каштарысе ў гэтым годзе зацьверджана на часопіс 9.000 руб. і шляхам падпіскі атрымана 560 руб.; між тым патрэбна на выданьне часопісу ў тым выглядзе, як ён выходзіць (4-5 аркушоў) 12.000 руб. Такім чынам не хапае каля 3.000 руб. і прыходзіцца ставіць пытаньне аб скарочаньні часопісу да 3 аркушоў. Стаць на гэты шлях зараз, хоць і вельмі цяжка, але прыходзіцца. Тутака адзіным выхадам зьявіцца дапамога краязнаўчых організацый па распаўсюджваньні часопісу „Наш Край" і пашырэньні падпіскі на яго. У далейшым ЦБК лічыць, што ўся справа па накіраваньні краязнаўчым рухам павінна вясьціся галоўным чынам праз часопіс „Наш край". На гэты кірунак ЦБК стала і на палепшаньне часопісу зварочвае значную ўвагу: справа рэдакцыі не адрозьніваецца ад справы ЦБК.

Галоўным недахопам у выданьні часопісу зьяўляецца несваячасовасьць і нерэгулярнасьць яго выхаду. Але-ж гэты недахоп не залежаў ні ад ЦБК ні ад Рэдактара. Цяпер, калі ІБК набыў сваю друкарню, ёсьць надзея што недахоп гэты будзе зьнішчаны. Аб гэтым ужо сьведчыць выхад апошніх двух намароў. Зьнішчэньне гэтага недахопу павінна значна пашырыць падпіску на „Наш Край".

У заключэньне лічу неабходным высунуць тыя пытаньні, на якіх павінна згуртавацца ўвага Зьезду:

а) популярызацыя справы. Ня гледзячы на тое, што ў гэтым напрамку вялася праца, трэба будзе на бліжэйшы пэрыод пашырыць і ўзмацніць справу популярызацыі краязнаўства, бо шырокія колы працоўных вельмі мала знаёмы з ёй;

б) ахапленьне краязнаўчай сеткай нізавых адміністрацыйных адзінак—сельсаветаў. Гэта значыць, трэба ўзяць курс, каб першапачатковыя краязнаўчыя гурткі ахапілі сабою ўсе куткі БССР;

в) паглыбленьне краязнаўчай справы. Неабходна ўзяць курс на практычную пастаноўку пытаньняў: па вывучэньні экономікі, гаспадаркі, быту з мэтай дапамагчы культурнаму і гаспадарчаму будаўніцтву і організацыі музэяў;

г) зьвярнуць увагу на ўцягненьне ў краязнаўчую справу шырокіх мас студэнцтва з тым, каб з іх выхаваць будучых дасьледчыкаў і кіраўнікоў па вывучэньні мясцовага краю;

д) зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне форм і

асаблівасьцяй краязнаўчага руху сярод нацыянальных меншасьцяй;

е) наладзіць належным чынам падлік краязнаўчых організацый і іх працы;

ж) узмацніць мэтодычна-організацыйнае кіраўніцтва і наладзіць апрацоўку дасылаемых з месц матар'ялаў.

---

# Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР.

*(Зьмест дакладу т. Касьпяровіча М.).*

Дакладных вестак з друку, вестак Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і яго архіву, справаздачных матар'ялаў з месц, а таксама іншых даных па гісторыі нашага краязнаўства ў мінулым годзе далёка не хапае для падрабязнай характарыстыкі стану і дзейнасьці краязнаўчых аб'яднаньняў у БССР. З 156 разасланых Цэнтральным Бюро справаздачных схэм атрымана з адказамі толькі 95. Да таго, з ліку 61 організацыі, якія не адказалі, пераважнае месца займаюць раённыя т-вы краязнаўства—46. Але ўсё-ж у агульных, найбольш характэрных, рысах карціна нашага росту і продукцыі можа быць вызначана.

Калі на працягу папярэдняга году краязнаўчая справа Беларусі характарызавалася ў першай палове году пераважна зьбіраньнем індывідуальных краязнаўчых сіл у колектывы, аб'яднаньні і ў другой—аформленьнем краязнаўчага руху, дык у пачатку гэтага году рабілася далей гэтае аформленьне, а канец прайшоў пад знакам апанаваньня мэтодолёгіяй краязнаўства. Дасьледваньні, экспэдыцыі, экскурсіі, організацыя музэяў і інш. таксама мелі месца ў краязнаўчай справе, але не зьяўляюцца ўласьцівымі дзейнасьці ўсіх краязнаўчых організацый. Зразумела, паказаны процэс організацыйнага аформленьня краязнаўчага руху яшчэ ня скончыўся, а азнаямленьне з мэтодамі дасьледваньня і вывучэньня краю толькі пачалося. Так што дзейнасьць сеткі ў будучым годзе змушана будзе ісьці ў гэтым кірунку з тым, каб у другой палове году даць пачатак масавай краязнаўчай творчасьці—вывучэньне краю.

Акрэсьленыя організацыйныя формы нашага руху ў новых статутах спыняць шмат спрэчак па такіх пытаньнях, якім яшчэ нядаўна аддавалася шмат часу ня мясцох.

Матар'яльная база краязнаўчых організацый трохі палепшылася, але ня ўсюды аднолькава. Ёсьць часамі і пагоршаньні, а ўласна—у Бабруйскай, Барысаўскай, Аршанскай, Менскай акругах. Агулам, у мінулым годзе краязнаўчыя організацыі

мелі—4.615 р. 71 к., а сёлета па мясцовых бюджэтах маюць 8.500 руб. Па акругах гэтыя сродкі разьмяркоўваюцца так:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Колькі акр. т-ва мела летась | Колькі мае сёлета | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская | 900 | 600 | |
| 2 | Бабруйская | 300 | — | |
| 3 | Барысаўская | 397 р. 83 к. | — | |
| 4 | Віцебская | 475 | 2.000 | |
| 5 | Гомельская | — | — | |
| 6 | Калінінская | 300 | 500 | |
| 7 | Магілеўская | 300 | 600 | |
| 8 | Мазырская | 357 р. 58 к. | 3.800 | |
| 9 | Менская | 300 | — | |
| 10 | Полацкая | 840 р. 30 к. | — | |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | |
| 12 | Слуцкая | 445 | 1.000 | |
| | Разам | 4.615 р. 71 к. | 8.500 | |

Зразумела, гэта далёка ня тое, што трэба было-б, але ўсё-ж у пэўнай меры задавальняе першапачатковыя патрэбы.

Усіх краязнаўчых організацый, якія вядомы ЦБК, налічваецца 240, з ліку якіх: акруговых таварыстваў краязнаўства—12, раённых т-ваў краязнаўства—98, гурткоў краязнаўства—65, школьных і тэхнікумаўскіх гурткоў і т-ваў краязнаўства ў вышэйшых школах—65. На мінулым-жа Зьезьдзе лічылася 167 організацый. Ня гледзячы на тое, што частка організацый, насаджаных на мясцох зьверху, памерла, другая частка зьлілася з іншымі організацыямі, лік краязнаўчых аб'яднаньняў, як бачым, павялічыўся на 73 організацыі. Праўда, як летась, так і сёлета ёсьць такія організацыі, якія не даюць аб сабе ніякіх вестак і большасьць якіх складае групу організацый, што лічацца толькі на паперы. Лік організацый па акругах, у параўнаньні з мінулым годам, відаць з наступнай табліцы:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік організацый, вядомых ЦБК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Даслалі весткі | | Не даслалі вестак | | Усіх | |
| | | к 1 зьезду | к 2 зьезду | к 1 зьезду | к 2 зьезду | к 1 зьезду | к 2 зьезду |
| 1 | Аршанская | 8 | 6 | 6 | 23 | 14 | 29 |
| 2 | Бабруйская | 11 | 10 | 2 | 5 | 13 | 15 |
| 3 | Барысаўская | 10 | 9 | 8 | 21 | 18 | 30 |
| 4 | Віцебская | 7 | 16 | 18 | 6 | 25 | 22 |
| 5 | Гомельская | — | — | — | 1 | — | 1 |
| 6 | Калінінская | 10 | 11 | 6 | 33 | 16 | 44 |

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік організацый, вядомых ЦБК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Даслалі весткі | | Не даслалі вестак | | Усіх | |
| | | к 1 зьезду | к 2 зьезду | к 1 зьезду | к 2 зьезду | к 1 зьезду | к 2 зьезду |
| 7 | Магілеўская | 6 | 13 | 13 | 17 | 19 | 30 |
| 8 | Мазырская | 6 | 10 | 5 | 5 | 11 | 15 |
| 9 | Менская | 9 | 14 | 21 | 13 | 30 | 27 |
| 10 | Полацкая | 6 | 5 | 6 | 10 | 12 | 15 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | — | 1 | — | 1 |
| 12 | Слуцкая | 4 | 2 | 5 | 9 | 9 | 11 |
| | Разам | 77 | 96 | 90 | 144 | 167 | 240 |

Лік організацый, якія даслалі весткі аб сваёй дзейнасьці, павялічыўся, але разам з тым павялічыўся лік організацый, якія не даслалі вестак да Зьезду і аб якіх прыходзіцца браць весткі з спраў, друку і да т. п. крыніц. Гэта сьведчыць таксама і аб тым, што рост краязнаўчай справы ня толькі ня скончыўся, але перажывае яшчэ першапачатковы кругабег.

Амаль што такі самы малюнак з лікам членаў:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік членаў краязн. сеткі, вядомых ЦБК | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Па анкетах | | Наогул па вестках ЦБК | |
| | | к 1 зьезду | к 2 зьезду | к 1 зьезду | к 2 зьезду |
| 1 | Аршанская | 687 | 960 | 873 | 1.053 |
| 2 | Бабруйская | 430 | 501 | 430 | 980 |
| 3 | Барысаўская | 321 | 516 | 321 | 1.080 |
| 4 | Віцебская | 465 | 877 | 465 | 1.179 |
| 5 | Гомельская | — | — | — | — |
| 6 | Калінінская | 457 | 692 | 457 | 1.011 |
| 7 | Магілеўская | 399 | 1.074 | 603 | 1.345 |
| 8 | Мазырская | 128 | 456 | 128 | 464 |
| 9 | Менская | 410 | 669 | 495 | 1.225 |
| 10 | Полацкая | 339 | 388 | 435 | 891 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | — | — |
| 12 | Слуцкая | 102 | 148 | 107 | 309 |
| | Разам | 3.738 | 6.281 | 4.314 | 9.637 |

Агулам лік членаў павялічыўся на 100%. Ні па аднэй акрузе мы ня маем зьмяншэньня. Падзел па партыйнасьці, нацыянальнасьці і профэсіі складу тых краязнаўчых організа-

цый, якія даслалі весткі к 2 Зьезду, высьвятляецца ў % для нас больш дэталёва з наступнай табліцы:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Па партыйн. | | | Па нацыянальнасьці | | | | | Па праф. | | Вучняў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Чл. і к. КПБ | Чл. КСМ | Бесп. | Беларус. | Яўрэяў | Палякаў | Расійцаў | Інш. | Асьв. | Інш. | |
| 1 | Аршанская. | 5,2 | 4,7 | 91,1 | 83 | 10 | 1 | 5 | 1 | 80 | 20 | 93 |
| 2 | Бабруйская | 20 | 16 | 64 | 60 | 20 | 8 | 10 | 2 | 80 | 20 | 179 |
| 3 | Барысаўская. | 10,8 | 6,4 | 82,8 | 80 | 10 | 2,5 | 4 | 2,5 | 90 | 10 | 564 |
| 4 | Віцебская | 9 | 9 | 82 | 82 | 5 | 2 | 3 | 8 | 66 | 34 | 196 |
| 5 | Гомельская | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Калінінская | 10 | 11 | 79 | 86 | 7 | 1 | 3 | 3 | 66 | 34 | 214 |
| 7 | Магілеўская | 7 | 9 | 84 | 90 | 5 | 1 | 3 | 1 | 70 | 30 | 391 |
| 8 | Мазырская | 14,5 | 11,5 | 74 | 80 | 15 | 1 | 2 | 2 | 70 | 30 | 8 |
| 9 | Менская | 11 | 10 | 79 | 70 | 15 | 3,5 | 7 | 4,5 | 81 | 19 | 379 |
| 10 | Полацкая | 7 | 5 | 88 | 92 | 3,5 | 1 | 1 | 2,5 | 60 | 40 | 178 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Слуцкая | 10 | 6 | 84 | 80 | 18 | 1 | — | 1 | 60 | 40 | 14 |

*Увага.* Лік вучняў паказаны ў абсолютных лічбах і не ўваходзіць у гэтай табліцы ў разьмеркаваньне членаў сеткі па партыйнасьці, нацыянальнасьці і профэсіі, якое, як ужо адзначалі, паказана ў проц.

Такім чынам, пропорцыянальна складу насельнасьці БССР нацыянальны склад нашых організацый расьце правільна. Праўда, краязнаўчая праца сярод яўрэйскай і польскай насельнасьці пачалася пазьней, але ўсё-ж яна пасьпела абхапіць даволі значны лік насельнікаў, павялічэньне якога, як і ліку краязнаўцаў наогул,—чарговая задача мясцовых організацый. Павялічэньне гэта павінна адбыцца пераважна за кошт сялян, работнікаў, а таксама членаў розных профэсіянальных саюзаў.

Разам з колькасным ростам вызначаецца і якасны. У той час як у мінулым годзе пераважная большасьць членаў высьвятляла для сябе свае абавязкі ў маладых організацыях— у гэтым годзе лік асоб, што зрабілі тую або іншую краязнаўчую працу, складае значны % усіх членаў сеткі, а ўласна:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік членаў, згодна анкетных вестак | |
|---|---|---|---|
| | | Што зрабілі якую-небудзь працу | Усіх |
| 1 | Аршанская | 200 | 960 |
| 2 | Бабруйская | 118 | 501 |
| 3 | Барысаўская. | 66 | 516 |
| 4 | Віцебская | 288 | 877 |
| 5 | Гомельская | — | — |

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік членаў, згодна анкетных вестак | |
|---|---|---|---|
| | | Што зрабілі якую-небудзь працу | Усіх |
| 6 | Калінінская | 117 | 692 |
| 7 | Магілеўская | 94 | 1.074 |
| 8 | Мазырская | 103 | 456 |
| 9 | Менская | 220 | 669 |
| 10 | Полацкая | 104 | 388 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — |
| 12 | Слуцкая | 24 | 148 |
| | Разам | 1.334 | 6.281 |

Уступіўшы ў шэрагі аб'яднаньня, краязнаўцы знаёмяцца з задачамі і мэтодамі краязнаўчай працы і, зьліквідаваўшы сваю краязнаўчую няпісьменнасьць, пачынаюць вытворчую краязнаўчую дзейнасьць.

Калі гаварыць аб нашым актыве, нельга абыйсьці пытаньня аб складзе праўленьняў нашых організацый, які высьвятляецца з наступнай табліцы:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Па партыйн. | | | Па нацыянальнасьці | | | | | Па проф. | | Усіх |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Чл. КПБ | Чл. КСМ | Бесп. | Белар. | Яўрэяў | Палякаў | Расійцаў | Іншы. | Асьв. | Інш. | |
| 1 | Аршанская | 9 | — | 26 | 30 | 2 | 1 | 2 | — | 23 | 12 | 35 |
| 2 | Бабруйская | 26 | 3 | 22 | 42 | 6 | 2 | 1 | — | 43 | 8 | 51 |
| 3 | Барысаўская | 18 | 1 | 24 | 32 | 9 | 2 | — | — | 38 | 5 | 43 |
| 4 | Віцебская | 14 | 2 | 44 | 54 | 4 | — | 2 | — | 51 | 9 | 60 |
| 5 | Гомельская | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Калінінская | 17 | — | 41 | 50 | 6 | 1 | 1 | — | 44 | 14 | 58 |
| 7 | Магілеўская | 12 | 2 | 31 | 38 | 5 | 1 | 1 | — | 43 | 2 | 45 |
| 8 | Мазырская | 18 | 6 | 46 | 57 | 8 | 1 | 4 | — | 63 | 7 | 70 |
| 9 | Менская | 4 | 3 | 27 | 26 | 5 | 3 | — | — | 30 | 4 | 34 |
| 10 | Полацкая | 8 | — | 11 | 15 | 2 | 1 | 1 | — | 10 | 9 | 19 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Слуцкая | 5 | — | 13 | 16 | 1 | — | — | — | 15 | 3 | 18 |
| | Разам | 131 | 17 | 285 | 360 | 48 | 13 | 12 | — | 360 | 73 | 433 |

Увага. У гэтай табліцы не паказаны склад праўленьняў організацый, якія месьцяцца ў асьветных установах.

Здараецца, што ў склад праўленьняў уваходзяць асобы, якія зусім не зацікаўлены краязнаўчай працаю і таму не клапоцяцца аб яе пашырэньні. У наступным годзе трэба зьвярнуць на гэта пытаньне асаблівую ўвагу і абіраць у праўленьні асоб, якія могуць быць карысны організацыі. Бясспрэчна, што папярэдняя і гэтыя табліцы сьведчаць аб якасным

палепшаньні пэрсональнага складу краязнаўчай сеткі, але, на жаль, апошняя яшчэ не ўвабрала ў сябе ўсё тое, што можа быць карысна ў справе краязнаўства. Самая першая па заснаваньні арганізацыі праца—падлік краязнаўчых сіл, асоб, якія могуць быць карысны справе, а таксама ўстаноў,—нідзе не рабіўся. А паміж тым, мясцовы тэхнік, напрыклад, нават ня будучы членам арганізацыі, можа даць цікавую працу аб шляхох раёну; мясцовая сельска-гаспадарчая або мэтэоролёгічная станцыя таксама вядуць вывучэньне краю, і ня зьвязвацца з імі, не вадзіць туды экскурсій ня згодзіцца ні адзін краязнаўца. Гэты падлік сіл і ўстаноў, а таксама літаратуры па мясцовым краі і об'ектаў дасьледваньня зьяўляецца першачарговай задачай нашае сеткі, вырашэньне якой павінна наступіць у як найхутчэйшы тэрмін.

Арганізацыйна-краязнаўчая сетка ў перадзьездаўскі час складалася з гурткоў краязнаўства—звычайнага, прышкольнага і тэхнікумаўскага—і таварыстваў краязнаўства: раённага, акруговага і пры вышэйшых школах. Часткова дзякуючы былой неадпаведнасьці статутаў, часткова дзякуючы іншым прычынам, узаемасувязь і кіраўніцтва прымалі часамі нездаровы характар, як імкненьне да камандваньня ў Барысаўшчыне, тэндэнцыя да прымусовага збору слоўнікавага матар'ялу ў Магілеўшчыне і да т. п. Кіраўніцтвам вышэйстаячай арганізацыі здаволены 6, а нездаволены 24 з 96 арганізацый, што даслалі анкеты.

Сярод нездаволеных пераважнае месца займаюць нядзейныя арганізацыі.

Адносна паказанага ўхілу да прымусовасьці прыходзіцца адзначыць, што краязнаўчая справа цалкам добраахвотная і тутака, як нідзе больш, патрэбна сьвядомая самаахвотная праца, пераконваньне, што трэба і як трэба рабіць, а не загад. У пераважнай большасьці арганізацый гэтак і было, такая лінія павінна замацоўвацца і ў наступным. Там, дзе былі адпаведныя ўмовы, асабліва ў краязнаўчых организацыях акруговых цэнтраў, праца вялася па сэкцыях. Апошнія былі самыя розныя: этнографічна-гістарычныя, экономічныя, прыродазнаўчыя, гістарычныя, прыродна-географічныя, яўрэйскія і інш. Практыка паказала, што лягчэй падзяляць працу інакш, і ў новых статутах вызначаны наступныя сэкцыі: культурна-гістарычная, прыродна-географічная, грамадзка-экономічная, яўрэйская, польская і латыская. Калі няма адпаведных умоў для ўсіх—можа працаваць некалькі сэкцый. У складзе сэкцый могуць працаваць камісіі.

Сувязь мясцовых краязнаўчых організацый з савецкімі профсаюзнымі, грамадзкімі і партыйнымі ўстановамі і арганізацыямі наладзілася, і краязнаўчыя аб'яднаньні цалкам прасякнуліся неабходнасьцю гэтай сувязі. Яна выяўлялася ва

ўзаемным прадстаўніцтве, дачы даведак установам і організацыям і да т. п. На жаль, часамі з боку савецкіх і іншых установ (Лёзна, Высачаны) не ўсталяваліся сьвядомыя адносіны да організацый. Наогул, у шмат якіх мясцох яшчэ патрэбна працаваць над заснаваньнем належнага грамадзкага гмаху навокал краязнаўчай справы.

Усе організацыі зразумелі неабходнасьць плянаваньня свае працы, і апошняе часта захапляе іх настолькі, што частка організацый гады два ўсё ўкладае праз пэўны час новыя і новыя пляны, а выкананьне іх не пачынаецца. Самі па сабе пляны гэтыя бываюць і занадта ідэальныя, добрыя, дакладныя. Але большасьць іх не абапіраецца на рэальныя магчымасьці і сілы свае організацыі. Перад укладаньнем сталага пляну не праводзіцца падлік краязнаўчых сіл, установ, літаратуры і об'ектаў дасьледваньня, аб чым гаварылася вышэй. Зразумела, і апошнюю працу трэба праводзіць плянава. Але плян гэтае працы—часовы, плян першапачатковай працы, якая павінна быць папярэднікам сталай вытворчай працы.

Ніякая краязнаўчая дзейнасьць немажліва без папярэдняга збору фактаў, матар'ялаў, колекцый, а значыць, і організаваньня мясцовага музэю. Колекцыянаваць, як вядома, можна ўсё: грошы, маркі, якія мелі зварот у даным краі; паштоўкі з відамі мясцовага краю; малюнкі, экслібрысы свайго краю; ботанічныя, геолёгічныя і г. д. Праўда, організаваньню музэяў перашкаджае адсутнасьць памяшканьняў, але на першых часох гэта не такая ўжо непераможная перашкода. Асобнае памяшканьне неабходна тады, калі ёсьць экспонаты і ў такім ліку, што ўжо не зьмяшчаюцца ў памяшканьні, дзе месьціцца організацыя: хаце-чытальні, школе і да т. п. Музэі адчынены ці пачалі організавацца ў наступным ліку:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Музэяў | Экспон. | Памяшк. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская | 3 | 1.150 | 2 |
| 2 | Бабруйская | 3 | 3.000 | 2 |
| 3 | Барысаўская | — | — | — |
| 4 | Віцебская | 1 | 240 | 1 |
| 5 | Гомельская | — | — | — |
| 6 | Калінінская | 3 | 2.840 | 3 |
| 7 | Магілеўская | 1 | 150 | 1 |
| 8 | Мазырская | 3 | — | — |
| 9 | Менская | 2 | 534 | 2 |
| 10 | Полацкая | 1 | 500 | 1 |
| 11 | Рэчыцкая | — | — | — |
| 12 | Слуцкая | 1 | 2.825 | 1 |
| | Разам | 18 | 11.239 | 13 |

Апрача музэйных збораў, організацыі за гэты час сабралі вельмі шмат розных матар'ялаў, паказаць лік якіх у пэўнай клясыфікацыі вельмі трудна, бо яны дужа рознастайныя. Па вестках справаздачных схэм мы маем:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Картак-слоў | Фолык. запіс. | Колек-цый | Апісань-няў | Анкет | Іншых матар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская . . . . . | 6.220 | 2.103 | 25 | 200 | 20 | 4 |
| 2 | Бабруйская . . . . . | 9.596 | 1.150 | 47 | 14 | 16 | 1 |
| 3 | Барысаўская. . . . . | 2.146 | 565 | 2 | 23 | 16 | 155 |
| 4 | Віцебская . . . . . | 19.368 | 938 | 32 | 18 | 43 | — |
| 5 | Гомельская . . . . . | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Калінінская . . . . . | 1.331 | 1.252 | 29 | 34 | 124 | — |
| 7 | Магілеўская . . . . . | 20.869 | 905 | 16 | 40 | 19 | 14 |
| 8 | Мазырская . . . . . | 8.556 | 704 | 6 | 22 | 155 | — |
| 9 | Менская . . . . . | 10.700 | 969 | 7 | 17 | 5 | 62 |
| 10 | Полацкая . . . . . | 2.526 | 671 | 11 | 35 | 9 | 500 |
| 11 | Рэчыцкая . . . . . | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Слуцкая . . . . . | 918 | 375 | 4 | 10 | 93 | — |
| | Разам . . | 87.230 | 9.632 | 179 | 413 | 500 | 736 |

Нават улічваючы некаторую няпэўнасьць лічбаў, дасягненьні, як бачым, даволі значныя.

Краязнаўчы рух па сваёй прыродзе патрабуе, каб краязнаўчы процэс цалкам адбываўся на мясцох, каб організацыі не рабіліся простымі агентамі па зборы матар'ялаў для цэнтральных інстытуцый. Але пакуль што нашы організацыі яшчэ мала займаліся апрацоўкаю сваіх матар'ялаў, і гэта зьяўляецца іх чарговаю задачаю. З пералічаных вышэй матар'ялаў апрацоўваліся на мясцох матар'ялы толькі ў сямі акругах: Аршанскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Калінінскай, Магілеўскай, Віцебскай, Мазырскай. Іншыя матар'ялы часьцей за ўсё перадаваліся ў вышэйстаячую краязнаўчую організацыю ці непасрэдна ў Інбелкульт, а часамі—Акадэмію Навук (Ленінград), Таварыству Аматараў Сьветазнаўства (Ленінград) і інш.

Апрача вышэйпаказаных матар'ялаў, шмат іх ёсьць у справах агульных сходаў і конфэрэнцый організацый, якіх адбылося:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Сходаў: Сэкцый-ных | Сходаў: Агульн. | Конфэрэнц.: Раённых | Конфэрэнц.: Акругов. | Дакладаў на іх |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская . . . . | 20 | 9 | — | 2 | 30 |
| 2 | Бабруйская . . . . | 35 | 16 | 6 | 1 | 24 |
| 3 | Барысаўская. . . . | 43 | 15 | 5 | 2 | 29 |
| 4 | Віцебская . . . . | — | 20 | 5 | 2 | 46 |

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Сходаў | | Конфэрэнц. | | Дакладаў на іх |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сэкцыйных | Агульн. | Раённых | Акругов. | |
| 5 | Гомельская . . . | — | — | — | — | — |
| 6 | Калінінская . . . | 22 | 34 | 3 | 2 | 36 |
| 7 | Магілеўская . . . | 38 | 21 | 8 | 2 | 57 |
| 8 | Мазырская . . . | 14 | 19 | 2 | 1 | 10 |
| 9 | Менская . . . | 17 | 9 | 1 | 1 | 33 |
| 10 | Полацкая . . . | 39 | 11 | — | 1 | 19 |
| 11 | Рэчыцкая . . . | — | — | — | — | — |
| 12 | Слуцкая . . . | 15 | 6 | — | 1 | 3 |
| | Разам . | 243 | 160 | 30 | 15 | 287 |

Пералічыць назвы ўсіх вядомых нам дакладаў на сходах і конфэрэнцыях амаль што немагчыма, дзеля чаго мы абмежаваліся іх агульнай лічбай. Пераважны характар дакладаў мэтодычны, а таксама культурна-гістарычны і грамадзка-экономічны. Менш—прыродна-географічны. Частка матар'ялаў знаходзіцца ў організацыях у відзе рукапісаў.

Далёка не апошнюю галіну дзейнасьці краязнаўчых організацый павінна займаць падарожніцкая справа. Усе віды яе: экспэдыцыі, падарожы, экскурсіі і вандраваньні даюць вельмі шмат у сэнсе пазнаньня свайго краю. Організацыйны кругабег працы перашкаджаў нормальнаму развою гэтай справы. Па акругах усіх відаў падарожніцтва адбылося: Аршанскай—6, Бабруйскай—22, Барысаўскай—6, Віцебскай—10, Калінінскай—2, Магілеўскай—19, Мазырскай—3, Менскай—13, Полацкай—1, а ўсяго—82. Тым лепш трэба рыхтавацца організацыям да наступаючага лета. Краязнаўчыя аб'яднаньні павінны ўвесьці іх у свой плян, накіраваць па краязнаўчым ухіле.

Рэалізацыя творчасьці краязнаўчай сеткі, як справа новая, ня зусім здаваляла яе запатрабаваньні. Гэтаму прычыняўся і матар'яльны стан організацый, іх беднасьць. У асноўным-жа рэалізацыя творчасьці ішла па правільным шляху: рукапісныя часопісы гурткоў, часопісы на шапірографах і шклопісах т-ваў, выданьні звычайным друкарскім шляхам, а таксама зьмяшчэньне сваёй продукцыі ў мясцовых і цэнтральных газэтах, „Нашым Краі“ і інш. часопісах і выданьнях. Свае выданьні мелі тры акруговыя т-вы і зьмяшчалі свае працы ў мясцовых газэтах—адна організацыя, цэнтральных—2, „Нашым Краі“—6, іншых часопісах—2, іншых выданьнях—1. На жаль, мясцовыя газэты ня так шмат зьмяшчаюць матар'ялаў краязнаўчых організацый.

Толькі популярызацыя краязнаўчае справы створыць спрыяючыя ўмовы для дзейнасьці нашых організацый і пры-

цягне ў шэрагі апошніх шырокія масы. Паміж тым, гэта галіна дзейнасьці нашае сеткі ў наступным годзе патрабуе асаблівае ўвагі, пашырэньня і паглыбленьня. Популярызацыя рабілася часамі толькі шляхам дакладаў. Вусная жывая сувязь вельмі карысная, але ана абслужвае толькі даную невялікую аўдыторыю. Да яе трэба далучыць пісьмовую популярызацыю ў друку, а таксама інформацыю аб сваёй дзейнасьці праз друк. У мінулым-жа годзе з усяго ліку прыслаўшых запоўненыя справаздачныя схэмы толькі адна організацыя зьмяшчала інформацыю аб сабе ў сваіх выданьнях, чатыры—у іншых, 25—у „Нашым Краі“, 19—у цэнтральных газэтах і 18—у інш. выданьнях.

Як бачым, популярызацыя, як такая, у мясцовым і цэнтральным друку была вельмі выпадковай. Таксама выпадковы характар насілі і мясцовыя краязнаўчыя выстаўкі, дапасаваныя да сваіх і іншых зьездаў, або звычайныя. Выданьне лістовак, паштовак з відамі мясцовага краю, яго помнікамі прыроды, старасьветчыны і да т. п. зусім не адбывалася. А гэта—адзін з найгалоўных відаў популярызацыі краязнаўства і справы аховы помнікаў. Пакуль шырокія колы ня будуць ведаць помнікаў і цаніць іх, датуль нашы меры аховы не дасягнуць мэты. Справа-ж аховы помнікаў была наладжана вельмі нездавальняюча.

Умовы працы нашае сеткі былі далёка няспрыяючыя: адсутнасьць сродкаў, памяшканьняў, перагрузка членаў сеткі іншаю працаю і г. д. Галоўнаю-ж перашкодаю, хоць і выпадковаю, зьяўляліся памянёныя, часамі ня зусім сьвядомыя, адносіны мясцовых працаўнікоў да краязнаўства на мясцох.

„Наш Край“ у асноўным задавальняў сетку. У дэталях выявілася патрэба даваць больш мэтодолёгічнага і організацыйна-мэтодычнага матар'ялу. Затое сетка слаба задаваляла „Наш Край“ сваім матар'ялам, інформацыяй і інш.

---

# Як праводзіцца вывучэньне Асіпавіцкага раёну.

*(Зьмест дакладу т. Немцава А.).*

## I. Заданьне ЦБК.

На сваім пасяджэньні ад 19 траўня 1926 г. ЦБ пастанавіла даць прыкладнае апісаньне раёну, вызначыўшы для абсьледваньня адзін тыповы раён, на якім і сконцэнтраваць усю ўвагу ЦБ. Аб вызначэньні для гэтай мэты Асіпавіцкага раёну наша т-ва краязнаўства даведалася толькі

тады, калы ўжо для аформленьня справы прыехалі ў Асіпавічы прадстаўнікі ЦБ. Гэта было 29 траўня 1926 г.

Абсьледваньне паводле заданьня трэба было правесьці ў гадавы тэрмін; яно павінна было выконвацца навуковымі сіламі Інбелкульту і мясцовымі краязнаўцамі Асіпавіцкага т-ва.

Зразумела, што той матар'ял, які быў ужо ў т-ве—далучыўся да набытага пазьней.

Вывучэньне пачалося з 1 чэрвеня 1926 г. і павінна быць закончана да 1-га чэрвеня 1927 г.

## II. Тэхнічны бок справы.

На чале раённага таварыства, якое цяпер налічвае 67 чалавек, стаіць бюро з 7 чалавек.

Роўналежна з т-вам працуюць па абсьледваньні раёну 2 вучнёўскія гурткі пры гарадзкой і чыгуначнай сямігодках; агульны лік членаў у іх, прыблізна, 60 чалавек.

Увесь раён падзелены на 7 частак—адпаведна 7-мі сельсаветам; у кожны сельсавет абраны агульным сходам т-ва адказны працаўнік, на абавязках якога ляжаць зносіны з бюро, разьмеркаваньне матар'ялу, атрыманага ад бюро, паміж членамі т-ва і г. д. На кожнага адказнага працаўніка ў сярэднім прыпадае 4-5 чал. краязнаўцаў. Ва ўсіх сельсаветах адказнымі працаўнікамі зьяўляюцца настаўнікі.

Ідэёвае кіраўніцтва вывучэньнем раёну належыць ЦБ.

Для абсьледваньня на месцы складзены плян, зацьверджаны ЦБ. Плян разьлічаны на год, мае тры аддзелы: 1) геаграфічна-прыродазнаўчы, 2) гістарычна-этнографічны і моваазнаўчы і 3) экономічны.

Увесь плян складаецца з 12 частак—на кожны м-ц прыпадае заданьне, у якое абавязкова ўваходзяць пытаньні па ўсіх аддзелах агульнага пляну. Пры складаньні пляну прымалася пад увагу „сэзоннасьць“ зьявішч. Праўда, гэта ня было вытрымана да канца, бо зіма спыняе непасрэднае вывучэньне прыроды (расьліннасьці).

Увесь плян, з аднаго боку, як-быццам досыць падрабязны—так кажуць адказныя працаўнікі, маючы на ўвазе лік пытаньняў, з другога боку, пры працы па пляне вынікаюць новыя пытаньні, не прадугледжаныя плянам. На мой погляд, пры досыць зацяжной працы трэ' было-б гэты плян яшчэ пашырыць—за кошт растлумачаньня яго пытаньняў.

Гэты плян, дзякуючы таму, што ў таварыстве ёсьць гэктограф, які дае магчымасьць павялічыць лік экзэмпляраў, друкуецца на гэктографе ў выглядзе месячных заданьняў і праз Культаддзел РВА рассылаецца адказным працаўнікам па сельсаветах. Пасылаецца ён звычайна ў канцы м-ца.

Калі бываюць з ЦБ анкеты, апытальнікі ці што іншае—яно далучаецца да заданьня. Праўда, гэтыя апытальнікі і

анкеты ніколі не супадаюць па сваім зьмесьце з зьместам заданьняў.

Некаторыя пытаньні даюцца досыць падрабязна—далучэньнем да іх тых інструкцый і анкет, якія друкаваліся і друкуюцца ў часопісе „Наш Край“ (анкета Тэрлецкага і інш.). Іншы раз дадаюцца і ўзоры картак для абсьледваньня тэй ці іншай рэчы—напрыклад, узор глебавай карткі.

Атрымаўшы гэтае заданьне ад бюро, адказны працаўнік разьмяркоўвае працу. Звычайна, праца разьбіраецца па аддзелах: адзін (ці два) бярэ прыродазнаўчую частку, другі—этнографічную, трэці—экономічную. Зразумела, што яны павінны даць адказы на пытаньні толькі ў межах свайго сельсавету. Заданьне звычайна разьмяркоўваецца на агульных сходах настаўнікаў, школ, раёнаў.

## III. Праца па абсьледваньні.

Адказы на пытаньні, якія атрымоўваюцца з месц—розныя. Ёсьць добрыя—відаць, што іх прадумалі і праверылі; ёсьць такія, што робяцца насьпех; ёсьць і такія, што даюцца, абы толькі адвязацца.

Між іншым, гэтыя адказы паказваюць, што ў пляне ёсьць недахоп у тым, што заданьні складаюцца з трох разрэзаў, якія часта ня маюць паміж сабой ніякай сувязі; такім чынам, пры падагульненьні прыходзіцца рабіць выбарку і перапісваць.

Пашырэньня адказаў, у параўнаньні з пытаньнямі заданьня, не прыкмячаецца.

Пры абсьледваньні ўжываюцца ўсе тыя мэтоды, якія наогул існуюць. Экскурсійны мэтод павінен быць адзіным—з далучэньнем апытаньняў—у справе абсьледваньня гістарычных мясцовасьцяй. Мэтэоролёгія, фэнолёгія і інш. вымагаюць назіральнага мэтоду. Адносна апрацоўкі матар'ялу трэба сказаць, што гэта магчыма тады, калі ёсьць добрыя спэцы ў тым ці іншым пытаньні.

Краязнаўчыя організацыі зьяўляюцца добраахвотнымі; у першыя часы свайго існаваньня ўсе яны імкнуцца да таго, каб як-мага больш уцягнуць у працу людзей—гэта значыць, ідзе колькасьць за кошт якасьці.

Між тым, у гэтай справе якасьць грае важную ролю, і з прычыны таго, што організацыйны пэрыод скончыўся, час падумаць аб тым, каб якасьць павялічыць за кошт колькасьці.

Асіпавіцкае т-ва налічвае 67 асоб; але актыўны ўдзел у працы прымае, прыблізна, 55%. Такім чынам, 45% нічога ня робяць. Ня думаю, каб Асіпавіцкі раён быў выключэньнем у гэтым выпадку.

Сюды трэба дадаць яшчэ наступнае. Важнасьць краязнаўчай працы зразумела асабліва настаўнікам; але сярод іх

ёсьць і такія, што нічога ня робяць і глядзяць на краязнаўчую працу, як на прымусовую.

Такім чынам, адказны працаўнік павінен быць досыць працаздольным членам т-ва і „адказным“, а гэта вымагае: 1) даць некаторую краязнаўчую асьвету такому працаўніку і 2) вызваліць яго ад іншых грамадзкіх абавязкаў, каб ён меў час працаваць па краязнаўстве.

Аб вызваленьні адказных працаўнікоў гаварылася на краязнаўчым сходзе ў прысутнасьці інспэктара АКРАНА; у жыцьцё-ж гэта праведзена ня было.

Адносна павялічэньня краязнаўчай адукацыі трэба сказаць, што яе да гэтага часу можна было зрабіць на месцы толькі праз адпаведную літаратуру; але-ж яе ў нас мала.

## IV. Вывучэньне прыроды.

Мэтэоролёгічная Станцыя ў Асіпавічах дае матар'ял для вывучэньня кліматычных асаблівасьцяй. Гэтага матар'ялу ў нас пакул што мала—усяго за 2 гады (1925 і 1926; станцыя пачала дзейнічаць у канцы 1924 г.). Мэтэоролёгічны матар'ял атрымліваецца ў загадчыка станцыі ў канцы кожнага месяцу. Раней (у 1925) на станцыю—для дзяжурства і азнаямленьня з мэтэоролёгічнымі прыладамі—пасылаліся вучні—члены вучнёўскага краязнаўчага гуртка. Матар'ялу гэтаму дадзена графічная апрацоўка; ім карыстаецца школа. Сувязь паміж школай і мэтстанцыяй самая цесная.

Фэнолёгічныя назіраньні таксама вяліся, але-ж значна слабей, чым мэтэоролёгічныя. Для гэтага рассылаліся карткі фэнолёгічных назіраньняў.

Расьліны нашага краю зьбіраліся згуртаваньнямі—гэта было зроблена ў мінулым годзе; у гэтым годзе таксама мае быць зроблена значная праца па зьбіраньні расьлін. Лік сабраных расьлін досыць значны; мясцовасьці, адкуль сабраны расьліны, наступныя: берагі каналу Радуціцкага, тарфяное балота, лес ур. Мяжэрына, вусьце ракі Сіняй (сенажаць і некаторыя ўзьлесьсі).

Горшая справа з зьбіраньнем шасьціножак і рыб.

У вывучэньні глебы раёну прынялі ўдзел агрономы—члены т-ва. Яны склалі глебавую карту раёну—праўда, ня досыць падрабязную. Дзеля вывучэньня глебы адказным працаўніком рассылаліся глебавыя карткі, якія яны павінны былі запаўняць у час экскурсій з вучнямі—пры капаньні ям у розных мясцох. Паміж іншым, хачу заўважыць, што справа запаўненьня гэтых картак аказалася не пад сілу звычайным працаўніком.

Запраўды—ня ўсякі працаўнік знойдзе вобмацкам, колькі ёсьць у глебе фізычнай гліны; гэта можна зрабіць толькі пры значнай падрыхтаванасьці, а значыць, можа быць

зроблена кваліфікаванай сілай або праз падняцьце краязнаўчай адукацыі працаўнікоў.

Апісаньне балот, рэк, вазёр, канаў робіцца працаўнікамі з месц; да гэтай справы трэба было-б прыцягнуць агрономаў, але зрабіць гэтага пакуль што не ўдалося.

З мэтай вывучэньня прыроды ў Асіпавіцкі раён прыяжджалі навуковыя працаўнікі—Тэрлецкі, Рагавы, Зьбіткоўскі.

## V. Прамысловасьць.

Саматужная прамысловасьць вывучаецца пры дапамозе тых анкет, якія разасланы былі ЦБК,—шляхам апытаньня. У гэтай справе значную дапамогу могуць зрабіць школы, у якіх захоўваюцца вучнёўскія працы.

У гэтым пытаньні досыць важную ролю граюць таксама і сельска-гаспадарчыя выстаўкі ў дзень ураджаю. Асіпавіцкае раённае т-ва мела на ўвазе скарыстаць гэткую выстаўку ў 1926 г.; але гэтай мэты не дасягнула, бо лік экспонатаў быў вельмі малы. Усё-ж такі былі зроблены замалёўкі некаторых узораў, дыяграм, узяты лічбы. Здаецца мне, што пытаньне аб скарыстаньні сельска-гаспадарчых выставак краязнаўчымі організацыямі павінна быць добра высьветлена на старонках часопісу „Наш Край“.

Фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў у нас нямнога; пераважна—млыны і лесапілкі. Адзіны шлях іх вывучэньня—апытальны. Тыя даныя, якія ў нас ужо ёсьць, паслужылі матар'ялам для ўкладаньня карты фабрычна-заводзкіх прамысловасьцяй нашага раёну з паказаньнем вытворчасьці ў год. Гэта карта для школ раёну зьяўляецца вельмі патрэбнай пры вывучэньні прамысловасьці раёну.

## VI. Этнографія і гісторыя.

Абсьледваньне раёну з этнографічнага і гістарычнага боку праводзіцца таксама на месцы. Апісаньне хат, вопраткі, абутку і г. д. робіцца з непасрэдныхназіраньняў.

Зьбіраньне песень не складае надта цяжкой працы; іншая справа з мотывамі. Запісаць ноты зможа ня ўсякі—гэта справа патрабуе некаторай музычнай падрыхтаванасьці.

Распрацоўка пытаньняў аб савецкіх установах і новым быце даручана аднаму з членаў бюро.

Пры абсьледваньні помнікаў старасьветчыны ўжываецца экскурсійны мэтод з дадаткам апытаньня сялян. Звычайна сяляне ахвотна апавядаюць пра той ці іншы помнік; праўда, пачатак запісу гэтых ведамасьцяй звычайна скарочвае іх апавяданьні. Асабліва гэта мае месца ў дачыненьні вывучэньня пытаньняў матар'яльнага характару.

Той апытальны ліст, які раней рассылаўся аб помніках старажытнасьці, дае слабыя вынікі—яны не даюць поўнага ўяўленьня ліку помнікаў. Тутака толькі ўважлівае вандра-

ваньне па раёне з апытаньнем жыхароў спэцыяльна для гэтай мэты дасьць пэўны матар'ял для ўкладаньня архэолёгічнай карты.

З мэтай атрымаць цэльны малюнак працы сельсавету робяцца выезды ў сельсаветы. Апытаньні па скарочаным пляне ідуць у двух кірунках—дарэволюцыйнага і пасьлярэволюцыйнага пэрыодаў. Матар'ял ад гэтага зьяўляецца дадаткам да адказаў працаўнікоў з месц.

Пытаньні сельскай гаспадаркі добра высьветлены ў анкеце „Монографія паселішча" Кісьлякова.

З мэтай вывучэньня дыялектолёгічных асаблівасьцяй мовы некалькі разоў наведваўся ў Асіпавіцкі раён проф. Бузук.

У нашым таварыстве да гэтага часу няма музэю, у якім патрэба вялікая. У першую чаргу музэй патрэбен для школы; вось чаму мне здаецца, што музэй павінен існаваць у школьным памяшканьні цэнтральнай раённай школы.

Па пляне раённы музэй павінен адбіць усё жыцьцё раёну па ўсіх галінах; частка матар'ялу ўжо ёсьць; але загаду на набыцьцё матар'ялу наогул для музэю (як вопратка, прылады, тканіны, гістарычныя рэчы і г. д.) не даецца з тэй прычыны, што яго няма дзе захоўваць.

У канцы хочу адзначыць, што ў справе абсьледваньня свайго краю маюць вялікае значэньне вучнёўскія гурткі краязнаўцаў — з вучняў старэйшых кляс сямігодкі. Програма працы нашых вучнёўскіх гурткоў тая-ж самая, што і раённага таварыства; але-ж ім даюцца пасільныя пытаньні. Трэба сказаць, што яны добрыя вандроўцы, яны маюць даць шмат песень, пагаворак і інш. матар'ялу; даць пляны сваіх хат, сядзіб, дзяжурыць па базары, рабіць абсьледваньне кварталаў, некаторых прадпрыемстваў. Звычайна ў іх ёсьць многа ахвоты працаваць, трэба толькі яе падтрымаць. Яны даюць шмат матар'ялу пры зьбіраньні расьлін. Такія пытаньні, як збор замоў, лекавых расьлін, лепш праводзіць праз вучняў, бо, як паказала практыка, гэты матар'ял яны атрымліваюць ад сваіх бацькоў, якія не заўсёды скажуць іх краязнаўцу.

---

## Організацыя і тып раённага краязнаўчага музэю.

Справаздача ЦБК, а таксама азнаямленьне са станам краязнаўчай працы на мясцох, сьведчыць аб тым, што організацыйную стадыю краязнаўства ў БССР можна ўжо лічыць закончанай. Організацыя краязнаўчых т-ваў ва ўсіх больш-

менш буйных гарадзкіх і местачковых асяродках, ахапленьне значнай масы мясцовых культпрацаўнікоў, паступовае пранікненьне краязнаўчай думкі ў вучнёўскую масу—усё гэта паказвае на тое, што на мясцох ужо падрыхтавана глеба для заснаваньня мясцовых культурных установ краязнаўчага тыпу.

Адсутнасьць такіх установ у сучасны момант прыводзіць да таго, што на мясцох хоць існуе значная бязумоўная зацікаўленасьць да краязнаўчай працы, яшчэ далёка ня ўсе сябры мясцовых таварыстваў фактычна ў гэтую працу ўцягваюцца.

Неабходна, каб мясцовая краязнаўчая праца мела ня толькі характар зьбіраньня, як гэта было дагэтуль, а каб яна сыстэматызавалася і сынтэзавалася ў мэтах абслугоўваньня шырокіх слаёў насяленьня, для выкананьня гэтага заданьня неабходна організацыя раённых краязнаўчых музэяў.

Краязнаўчыя раённыя музэі ад музэяў звычайнага тыпу будуць адрозьнівацца тым, што яны ў першую чаргу будуць адбіваць прыроду, экономіку, гісторыю і бытавую культуру раёну. Такія музэі не ганяюцца за дзівосамі кунсткамэрнага тыпу, яны таксама ня імкнуцца толькі паказваць, яны зьбіраюць матар'ял штодзённага жыцьця, яны імкнуцца вучыць і рабіць уплыў на акаляючае асяродзьдзе.

Краязнаўчыя музэі, якія зьяўляюцца раённымі, маюць магчымасьць концэнтраваць вакол сябе ўсе існуючыя сілы раёну—настаўнікаў, агрономаў, дактароў, перадавых рабочых і сялян. Усё працоўнае жыцьцё раёну павінна адбіцца ў музэі: акаляючая прырода, як об'ект прылажэньня энэргіі чалавека; праца ў яе шматлікіх формах і праявах; формы організацыі працы селяніна, саматужніка, рабочага; соцыяльна-палітычная гісторыя раёну, як продукт экономічных узаемаадносін; быт і культура, сьвяты і будні, мова, народная творчасьць і інш. Разам з гэтым раённы музэй павінен, па магчымасьці, знаёміць з больш удасканаленымі формамі працы, экспонуючы ня толькі тое, што тыпова, але і тое, што павінна спрыяць узвышэньню матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўнага насяленьня раёну.

Адным з самых важных момантаў музэйнай краязнаўчай працы зьяўляецца сыстэматызацыя матар'ялу. Апошні можа і павінен быць разьмеркаваны адпаведна практыцы мясцовай краязнаўчай працы па трох разьдзелах: 1) прыродна-географічным, 2) грамадзка-экономічным і 3) культурна-гістарычным. Адносна кожнага з паказаных разьдзелаў неабходна мець на ўвазе, што матар'ял павінен даць належнае ўяўленьне ня толькі аб статыцы, але і дынаміцы данае групы зьяў і ўсяго раёну ў цэлым.

Гэтым будзе дасягнута сынтэтычнасьць, што зьяўляецца самым важным мэтодам краязнаўчай працы наогул.

У прыродна-географічным аддзеле павінны знайсьц месца глеба, клімат, расьліннасьць, жывёлы, геолёгічная пабудова раёну і інш., у ґрамадзка-экономічным—віды працоўнай дзейнасьці мясцовага насяленьня: тэхнікі сельска-гаспадарчай і гарадзкой, саматужніцтва, коопэрацыі, гандлю; праца мясцовых дзяржаўных органаў і самакіраваньня; у культурна-гістарычным — быт насяленьня, архэолёгія, гісторыя даўняя і блізкая, гісторыя мясцовага рэволюцыйнага руху і г. д.

Краязнаўчы музэй павінен быць забясьпечаным неабходным мінімумам прылад і дапаможнікаў, якія ў значнай меры палягчаюць яго працу—рознага роду вымяральныя прылады, фотографічны апарат, карты, дыяграмы, табліцы і г. д.

Паколькі раённы краязнаўчы музэй павінен адбіць экономічную і культурную фізыономію раёну, паколькі экономіка і культура данага раёну не зьяўляюцца ізоляванымі—у раённым краязнаўчым музэі павінны знаходзіць месца і матар'ялы, якія ня зьвязаны непасрэдна з даным раёнам, затое дапамагаюць высьвятленьню яго сувязі з іншымі раёнамі і ўсёй краінай. Тут неабходна ўхіляцца ад крайнасьцяй—пачуцьцё меры падкажа організатарам, што павінна і што не павінна знайсьці сабе месца ў музэі з пункту погляду яго мясцовага значэньня.

Дзякуючы абмежаванасьці нашых культурных сіл на мясцох трэба не распыляць іх, а наадварот—трэба імкнуцца ўсякім чынам іх згуртоўваць і концэнтраваць. Наглядаецца тэндэнцыя ў адных мясцох будаваць спэцыяльна агрономічныя куткі, сельска-гаспадарчыя музэі, у другіх—санітарныя музэі, у трэціх—школьна-пэдагогічныя і г. д. Такая тэндэнцыя можа знайсьці апраўданьне і зразумела толькі ў буйным цэнтры; у невялікіх асяродках, якімі ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца нашы раённыя цэнтры, такое распыленьне сіл бязумоўна непажадана. У краязнаўчым музэі раённага маштабу мясцовыя агрономы могуць знайсьці прылажэньне сваім сілам шляхам дэмонстрацыі дасьледчых вучасткаў, складаньня глебавых карт, модэляваньня с.-г. прылад і г. д.; мясцовыя мэдычныя сілы—дактары, фэльчары і інш.—могуць дэмонстраваць разьвіцьцё мэдычнай справы ў дыяграмах і табліцах, мясцовыя хваробы і г. д. Пра настаўніка гаварыць ня прыходзіцца—працуючы па новых програмах, якія патрабуюць насычэньня школьнай працы краязнаўчым матар'ялам, ён зьяўляецца асабліва зацікаўленым у краязнаўчым музэі і павінен у першую чаргу дапамагаць яго організацыі, а таксама сыстэматызацыі матар'ялу ў мэтах абслугоўваньня вучняў. Дзякуючы гэтаму, музэй можа зрабіцца мясцовай навукова-вучэбнай установай, якая дапама-

У мэтах правільнага абслугоўваньня мясцовага працоўнага насяленьня музэй павінен стаць асьветнай установай, організуючы лекцыі і гутаркі па розных пытаньнях сельскае гаспадаркі, мэдыцыны, школьнага жыцьця.

У сваім імкненьні быць навукова-вучэбнай установай па вывучэньні раёну, краязнаўчы музэй павінен паступова абрасьці дапаможнымі ўстановамі, якімі зьяўляюцца бібліотэка і архіў. Кожны мясцовы працаўнік ведае па практыцы, як цяжка знайсьці мясцовую літаратуру; між іншым, апошняя ў нас ёсьць і паступова расьце—няма толькі належнага падліку і заховы. У архіве павінны захоўвацца дакумэнты па гісторыі, экономіцы, статыстыцы раёну, афіцыяльныя справаздачы дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, мясцовы друк, матар'ялы цэнтральнай прэсы, якія датычацца данага раёну, розныя мясцовыя рукапісы. У бібліотэцы павінна знаходзіцца мэтодычная краязнаўчая літаратура па розных аддзелах музэю, бягучая прэса; павінна весьціся сыстэматычная краёвая бібліографія, у якую працу з посьпехам могуць быць уцягнуты, пад кіраўніцтвам выкладчыкаў, вучні старэйшых груп.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на дасканалае азначэньне і апісаньне экспонатаў. Неабходна апісаць так, каб экспонат „сам за сябе гаварыў", прымаючы пад увагу культурны ўзровень наведваючых музэй. Павінна быць пры кожным экспонаце картка з азначэньнем назвы прадмету, адкуль здабыт, калі, якое яго прызначэньне, ужываецца ці вышаў з ужываньня, якім заменены. Такім-жа „пашпартам" павінны быць забясьпечаны і фотографіі, зарысоўкі і другія такія матар'ялы.

Узорная схэма, якая дадаецца (гл. Дзенс-Литовский и Абрамов „Познание местного края", стар. 156—159) ня ёсьць поўная; яна вызначае толькі тую лінію і той мінімум экспонатаў, матар'ялаў, дапаможнікаў, без якіх музэй ня можа выканаць сваіх заданьняў.

У сучасны момант вялікага будаўніцтва музэі павінны ўнесьці сваю „лепту", ператвараючыся з сховішчаў у цэнтры жывой працы. Адна швэдзкая журналістка, якая нядаўна наведалася ў СССР, адзначыла, што „ў савецкіх музэях ёсьць той жывы дух, якога няма ў музэях іншага сьвету. Яны напоўнены б'ючым крыніцай жыцьцём масы, якая з прагнасьцю аглядае колекцыі пад кіраўніцтвам спэцыялістых" („Известия ЦБК РСФСР" № 10 за 1926 г., стар. 354). Мы хочам думаць, што організацыя краязнаўчых музэяў сустрэне на мясцох самае жывое спачуваньне як з боку краязнаўчых організацый, так і з боку савецкіх і партыйных органаў, якія прыдуць на дапамогу гэтай справе шляхам адводу памяшканьняў, асыгнаваньня сродкаў і г. д. Неабходна, каб

нашы організацыі на мясцох глядзелі на справу організацыі музэяў ня толькі як на баявое заданьне, але як на і такую, без выкананьня якой далейшы прогрэс краязнаўчай думкі і працы на мясцох будзе надзвычайна цяжкім. Неабходна, каб насельніцтва, якое жыве ў раёне, ня толькі асазнала, але і пабачыла і адчула краязнаўчую працу, а гэта магчыма толькі пры існаваньні музэю.

---

## Плян Раённага Краязнаўчага Музэю.

*(Узорны).*

1. Плян раённага цэнтру (мястэчка, гораду) і яго бліжэйшых аколіц.

2. Карты мясцовага краю: аднавёрсткі, 2-х, 3-х, 5-ці, 10-ці, 20-ці і 25-ці-вёрсткі.

3. Карта раёну, акругі, фізычная і політычная карта БССР (этнографічнай), СССР.

4. Прылады—компас, вымяральныя прылады, фотографічны апарат; мэтэоролёгічныя прылады: тэрмомэтры, баромэтры, гігромэтр, дажджамер.

5. Схэматычныя картаграмы—на адлегласьці ад бліжэйшай станцыі чыгункі, параходнай прыстані і г. д., ад бліжэйшых цэнтраў—акруговага, сталічнага. Прасторавыя адносіны раёну да бліжэйшых раёнаў.

6. Глебавая карта раёну, акругі, БССР; узоры глеб поля, сенажаці, лесу і г. д. у монолітах і скрыначках з прылажэньнем іх хэмічнага аналізу і паказаньнем спосабаў рацыянальнага ўгнаеньня.

7. Кліматычная карта раёну, акругі, БССР—сярэдняя гадавая, сярэдняя месячная, ізотэрмы за студзень і ліпень; картаграмы, дыяграмы, схэмы кліматычнай характарыстыкі раёну, акругі, БССР—хмарнасьць, вятры, атмосфэрныя ападкі, ускрываньне і замярзаньне рэк і г. д.

8. Гідрографічная карта раёну (акругі, БССР) з азначэньнем выхаду і заляганьня грунтовых вод, студняў, крыніц, сажалак, парогаў, вадаспадаў і г. д. з адпаведнымі фотографіямі.

9. Геолёгічная карта раёну, акругі, БССР; узоры геолёгічных адкладаньняў, сьляды лядніковага пэрыоду, узоры карысных выкапняў з паказаньнем іх гаспадарчага прызначэньня.

10. Карта разьмеркаваньня расьліннасьці раёну ў картаграмах і дыяграмах. Гэрбарыі і ўзоры парод лесу, поля, сенажаці, гародаў, садоў; прыяцелі і ворагі (шкоднікі), абарона ад апошніх.

11. Жывёлы раёну, акругі, БССР; разьмеркаваньне па месцы знахаджэньня і часе году. Хатнія жывёлы, птушкі; мясцовыя і чужаземныя пароды хатняе жывёлы.

12. Карта разьмеркаваньня насяленьня раёну, акругі, БССР па нацыянальным, соцыяльным, полавым, узросным складзе.

13. Сельская і лясная гаспадарка раёну, акругі ў дыяграмах і ўзорах.

14. Кустарная і фабрычна-заводзкая прамысловасьць раёну ў дыяграмах і ўзорах; модэлі і малюнкі.

15. Гандаль і коопэрацыя ў раёне і акрузе.

16. Шляхі зносін—карта, тыпы дарог, шляхі зносін па сэзонах.

17. Дзейнасьць урадавых і грамадзянскіх устаноў—зем‘аддзел, комунальная гаспадарка, соцыяльнае забясьпечаньне, асьветныя ўстановы, больніцы, пошта, тэлеграф, агрономічная станцыя і г. д. у справаздачах, малюнках, апісаньнях, модэлях, фотографіях.

18. Агульны выгляд вёсак, мястэчак, маёнткаў і г. д. раёну; тыпы будовы ў модэлях, малюнках, фотографіях.

19. Вопратка і аздабленьні; яда і начыньне; апісаньне і рэцэпты страў.

20. Буднія дні і сьвяты селяніна і рабочага ў розных іх праявах.

21. Народная славеснасьць і мастацтва.

22. Рэлігія і забабоны; народная мэдыцына.

23. Мясцовыя слоўнікі.

24. Матар‘ялы па гісторыі рэволюцыйнага руху ў раёне і па агульна-політычнай і экономічнай гісторыі раёну.

25. Біографіі і фотографіі мясцовых дзеячоў.

26. Літаратура раёну і акругі—мясцовыя газэты, выпісы з кніг, часопісаў і г. д. Справаздачы мясцовых урадавых і грамадзянскіх устаноў.

---

# ПРАЦА СЭКЦЫЙ.

## 1. Прыродна-географічная сэкцыя.

### Вывучэньне клімату БССР.

**Вывучэньне прыродна-вытворчых сіл краіны—першы і неабходны этап рацыянальнае пастаноўкі і вядзеньня народнае гаспадаркі.**

Асноўным момантам краязнаўчай працы зьяўляецца вывучэньне фізычна-географічных і кліматычных умоў і асаблівасьцяй краіны. Гэта мае і тэорэтычную цікавасьць і вялі-

кае практычнае значэньне. Вынікі вывучэньня краіны ў гэтым напрамку важны і неабходны ўсім чыста, пачынаючы ад селяніна і рабочага і канчаючы дзяржавай у цэлым. Яны патрэбны для рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі цяпер, у бягучым годзе, яны неабходны і для правільнага і нормальнага плянаваньня і пабудовы яе на будучы час, на цэлы і доўгі шэраг гадоў.

Дэтальнае і ўсебаковае вывучэньне глебы, прыродных багацьцяў і клімату краіны як пазбаўляе ня маючых грунту захапленьняў і проектаў пры будаваньні і разьвіцьці гаспадарчага жыцьця ва ўсіх яго праявах і формах, так і наадварот, падтрымоўвае і надае бадзёрасьці ў цяжкія хвіліны, забясьпечвае адсутнасьць пэсымізму і хуткага астываньня да ўжо распачатых, на зусім навуковых падставах, захадаў і мерапрыемстваў.

Калі-б кожны, каму гэта неабходна, скажам, ведаў, што ў межах БССР магчымы замаразкі нават у пачатку чэрвеня (адзін замаразак на 10 год), дык, з аднаго боку, ён, можа, і ўстрымаўся-б ад разьвядзеньня такіх с.-г. культур, якія гэтага не пераносяць, а з другога—ня падаў-бы адразу духам, не ламаў-бы зноў свае гаспадаркі, вяртаючыся абавязкова да „старога“, калі на працягу двох год запар у чэрвені будуць замаразкі, будучы ўпэўнены, што ў чэрвені месяцы гэта зьява выпадковая, якая ў далейшым можа зноў быць, трэба думаць, з значнай ступеньню вераготнасьці, толькі праз 15—20 гадоў. Рацыянальна будаваць гаспадарку—яшчэ не азначае ісьці на „зло стыхіям“. Надзейней будзе—усялякім чынам іх выкарыстоўваць, дзеля чаго, зразумела, спачатку неабходна ўсебакова і як-мага глыбей і грунтоўна вывучыць зьявы прыроды, іх зьмены, залежнасьць між імі, паўторнасьць, магчымасьць адхіленьня ў той ці іншы бок і г. д.

Разьлічваць пры гэтым на практыку і веды „старых“, на іх шматвяковую „сельска-гаспадарчую і краязнаўчую мудрасьць“ ня вельмі выпадае. Калі да 20 проц. іх прымет, прыказак і пагаворак трэба прыняць пад увагу і можна навукова давесьці, дык бясспрэчна і кожнаму вядома таксама і тое, што, па іх погляду, „раней, у старыя гады, было куды лепш: дождж ішоў у свой час, сонца яскравей зьзяла, куды цяплей было“, словам, усё ў прыродзе зьмяняецца і няўхільна ідзе да пагоршаньня ўмоў існаваньня чалавека.

З другога боку—об'ектыўныя сучасьнікі гэтых мудрацоў: тэрмомэтры, баромэтры, гэліографы і г. д.—кажуць нам іншае. Яны даводзяць, а мы ня можам ня верыць ім, што клімат застаецца бяз зьмен, а надвор'е з году ў год мяняецца. Кожны мэтэоролёгічны элемэнт: тэмпэратура, ападкі, баромэтрычны ціск, хмарнасьць і г. д.—са дня на дзень бесьперарыўна зьмяняецца, але гэтыя зьмены ўвесь час хістаюцца

каля некаторых сярэдніх шматгадовых для кожнага з іх велічынь: гадавых, месячных, дэкадных, ночадзенных. І калі на данай тэрыторыі ёсьць здавальняючы лік пунктаў, на якіх бесьперарыўна вяліся мэтэоролёгічныя нагляданьні на працягу некалькіх год, дык кліматолёг заўсёды зможа падлічыць і паказаць, як гэтыя шматгадовыя сярэднія нормы для кожнага мэтэоролёгічнага элемэнту, сярэднія і крайнія, магчымыя ад гэтых норм, адхіленьні, іх паўторнасьць, а галоўнае— ступень верагоднасьці ўсяго гэтага. Выпадковасьць, нечаканасьць, довад „гэтага ніколі раней ня было“—усё гэта— вынік непаразуменьняў і незнаёмства з мэтодамі і дасягненьнямі навукі. А як-жа, дазвольце запытаць, дзяржава і розныя таварыствы не баяцца застрахоўваць гэтыя „выпадковыя зьявы, якія, здаецца, не падлягаюць ніякаму вучоту, а тым больш вывучэньню? І нешта ня чуваць, каб калі-небудзь гэтыя таварыствы цярпелі страты, а дывідэнды акцыянэрамі бяруцца бязумоўна вялікія. Гэтыя таварыствы бяруць на „страх“ і не прагараюць таму, што спачатку вывучаюць зьмены і паўторнасьць тых зьяў, ад вынікаў якіх яны зьбіраюцца страхаваць.

## Стан сеткі мэтэоролёгічных станцый на тэрыторыі сучаснай БССР у дарэволюцыйны час.

Пачынаючы ўсебаковае вывучэньне краіны, у прыватнасьці, вывучэньне яе клімату, вельмі натуральна і мэтазгодна спачатку дэтальна азнаёміцца і старанна вывучыць усё тое, што зроблена ў даным напрамку да нас, узяць на вучот і захаваньне ўсё, што прыходзіць да нас, як спадчына. Толькі тады, калі мы ўсё гэта падлічым, будзе відно, як і ў чым мы бедны ці багаты, на якой стадыі знаходзіцца ў нас вывучэньне клімату і на што нам неабходна ў першую чаргу накіраваць сваю энэргію і ўвагу. Пасьля гэтага мы будзем здольны весьці працу ня вобмацкам, не з зачыненымі вачыма, а сьвядома і ўпэўнена.

На жаль, спадчыну, у выглядзе сырых матар‘ялаў і навуковых досьледаў па вывучэньні клімату БССР, мы атрымоўваем невялікую. Царскі ўрад даваў на ўтрыманьне сеткі мэтэоролёгічных станцый вельмі абмяжованыя сродкі. Па гэтай прычыне такіх станцый мала было ў былой Расійскай імпэрыі. На наша шчасьце, і ў тыя часы былі запраўдныя краязнаўцы, якія разумелі сэнс і значэньне вывучэньня краіны, якія не шкадавалі на гэтую справу сваіх уласных сродкаў, а галоўнае—часу і працы. Дзякуючы іх сродкам і стараннасьці, організоўваліся як аддзельныя мэтстанцыі (некаторымі з іх мы да гэтага часу ганарымся), так і цэлыя сэткі іх. Што-б ня быць беспадстаўным, даволі назваць проф. Ключэўскага, організатара сеткі паўднёва-заходняй

часткі б. Расіі, Бялыніцкага-Бірулю (БССР) і Пульмана, якія шмат уклалі ўласных сродкаў, сілы і энэргіі ў тыя станцыі, якія імі былі адчынены. Такіх асоб, якія самаахвярна былі адданы справе вывучэньня клімату, было даволі многа. Але што яны маглі зрабіць адны, калі ня было сродкаў і належнай дапамогі з боку дзяржавы. Паміралі яны або па тэй ці іншай прычыне пакідалі месца, дзе імі былі організаваны станцыі, і распачатая імі справа вельмі часта занепадала, станцыі зачыняліся. Такім чынам, мала было карысьці ад іх працы, энэргіі і сродкаў, якія былі затрачаны. Справа ў тым, што нагляданьні важны і каштоўны толькі тады, калі яны робяцца ў даным месцы бесьперарыўна і досыць доўгі тэрмін (25—35 год). Нагляданьні з перарывамі або за тэрмін да 10 год ня маюць, у сэнсэ кліматолёгічным, бадай што ніякай вартасьці.

У такім становішчы знаходзілася справа вывучэньня клімату ў дарэволюцыйны час на тэрыторыі б. Расійскай імпэрыі. Тэрыторыя, якая складае сучасную БССР, таксама не зьяўляецца шчасьлівым выключэньнем з гэтага. Аб гэтым красамоўна кажуць наступныя лічбы. Станцый II разраду (програма іх—нагляданьні над ціскам атмосфэры, тэмпэратурай, шчыльнасьцью, ападкамі, хмарнасьцю, сілай і кірункам ветру і г. д.) з пэрыодам існаваньня большым, чым у 35 год ёсьць усяго дзьве станцыі (Горкі, Аршанскае акругі і Новае Каралёва, Віцебскае акругі). З пэрыодам трохі большым 20 год ёсьць толькі дзьве станцыі (Менская і Мар'іна-Горская, Менскае акругі).

Ня лепш знаходзіцца і справа вывучэньня ападкаў, гэтага вельмі нясталага па часе і абшары элемэнту, а таму і патрабуючага для свайго вывучэньня як-мага шчыльнай сеткі. Калі хто захоча зараз вывучаць разьмеркаваньне і нормы іх у межах БССР, дык ён зможа атрымаць для скарыстаньня нагляданьні толькі ад 30—35 станцый, калі пры гэтым будзе браць і ад такіх станцый, якія маюць толькі дзесяцігадовы пэрыод нагляданьняў.

Падкрэсьліваючы невялікі, у старыя часы, лік станцый як II, так і III разраду, неабходна адначасна адзначыць і ня зусім здавальняючае абсталяваньне першых. Мы зараз ня маем даных, каб меркаваць аб тэмпэратуры глебы, выпарваньні і, асабліва, адносна сонечнай інсоляцыі, бо да апошняга часу ніводная станцыя ня мела актыномэтру, ды і геліографаў было вельмі мала.

## Матар'ялы і працы па клімаце этнографічнай Беларусі.

Запісы нагляданьняў усіх мэтэоролёгічных станцый у дарэволюцыйны час звычайна адсылаліся на захаваньне ў Архіў Галоўнай Геофізычнай Обсэрваторыі (Ленінград, Васіль-

леўскі востраў, 23 л., д. № 2). Апошняя гэтыя нагляданьні правярала, а потым і друкавала з тымі ці іншымі скрачэньнямі ў так званых „Летописях Главной Физической Обсерватории". Друкаваньне нагляданьняў па станцыях II разраду Обсэрваторыяй покуль што даведзена да 1911 г., а па станцыях III разраду—да 1915 г. Складаючы вялікую навуковую вартасьць, гэтыя нагляданьні ў сучасны момант у поўным выглядзе (а гэта толькі і каштоўна) зьяўляюцца значнай бібліографічнай знаходкай. Прынамсі, іх нельга ўжо атрымаць з Галоўнай Геофізычнай Обсэрваторыі, дзе яны ёсьць у вельмі абмежаванай колькасьці, як рабочыя падручнікі.

Каштоўным выданьнем для вывучэньня клімату этнографічнай Беларусі ў сучасны момант зьяўляецца зборнік „Климатические условия в районе западного фронта", які выдадзены ГГО у 1916 г. Некалькі экзэмпляраў гэтага таксама вельмі рэдкага выданьня, ёсьць у продажы ў Обсэрваторыі.

Вельмі каштоўнай крыніцай па клімаце Беларусі зьяўляюцца працы А. І. Кайгародава: 1) „Осадки Западной области" (Запомо, вып. III), дзе аўтар дэтальна і грунтоўна разглядае паказаны мэтэоролёгічны элемэнт на падставе апрацоўкі матар'ялаў, якія надрукаваны ў „Летописях", 2) „Снеговой и ледяной покров Западной области" (ученые записки Горецкого С. Х. Института, т. II), дзе аўтар робіць зводку ўсіх матар'ялаў па гэтым пытаньні, якія зьмешчаны ў „Климатические условия в районе Западного фронта", у „Летописях", а таксама і ў папярэдняй сваёй працы.

Вельмі цікавай працай, толькі некалькі старой, зьяўляецца і „Климатический Атлас Российской Империи", выданьне ГФО 1900 г.

У сучасны момант паступова рэалізуецца імкненьне, каб нагляданьні мэтстанцый, якія існуюць зараз у БССР, былі ў першатворах ці копіях (адбітках) у Мэтэоролёгічным Бюро пры Наркамземе БССР, якое правярае іх і падрыхтоўвае да друку. Усе нагляданьні можна перасылаць або непасрэдна Мэтбюро па адрасу: Менск, Наркамзем, Мэтэоролёгічнае бюро, ці праз Інбелкульт.

## Становішча мэтэоролёгічнай сеткі ў БССР на 1/II 1927 г.

Да 1924 г. ўсе мэтэоролёгічныя станцыі ў БССР знаходзіліся пад загадам Галоўнай Геофізычнай Обсэрваторыі. З пачатку гэтага году Народны Камісарыят Шляхоў Зносін СССР пачаў організоўваць тут сваю самастойную сетку такіх станцый для абслугоўваньня сваіх патрэб і заданьняў. У канцы 1924 г. было організавана Наркамземам БССР Мэтэоролёгічнае Бюро, якое, па сутнасьці, зьяўлялася і зьяўляецца цэнтральнай дзяржаўнай установай і абслугоўвае патрэбы і

запатрабаваньні усіх установ рэспублікі. Такі паралелізм у організацыі і утрыманьні мэтсеткі ў межах БССР існуе і цяпер і ў 1924 г. быў бязумоўна шкодным, бо спачатку ня было належнай увязкі і ўзгоджанасьці ў працы. Але гэта, на шчасьце, удалося хутка зжыць. Мэтэоролёгічнае Бюро дабілася таго, што яно мае права атрымоўваць нагляданьні ад усіх станцый, незалежна ад таго, пад чыім загадам, а галоўнае,—на чыім утрыманьні яны знаходзяцца. Цяпер ужо ні ГГО, ні НКПС СССР не адчыняюць на тэрыторіі БССР новых станцый без папярэдняга ўзгадненьня гэтага пытаньня з Мэтбюро ў мэтах адзінства і плянавасьці пабудовы сеткі мэтстанцый. У сучасны момант ніякіх непаразуменьняў у працы няма. Толькі захаваўся ведамсьцьвенны характар утрыманьня існуючай сеткі мэтстанцый. Апрача гэтага, Галоўная Геофізычная Обсэрваторыя рашуча адмаўляецца з пачатку будучага году ўтрымоўваць сваю сетку мэтстанцый і перадае яе пад загад і на ўтрыманьне Мэтбюро.

На 1 лютага 1927 г. на тэрыторыі БССР было:

а) станцый II разряду 20, з іх 4—на ўтрыманьні ГГО, 7—НКПС СССР і 9—НКЗ БССР;

б) аэростатных—2 (Менск і Горкі);

в) дажджамерна-сьнегамерных—37, з іх 5 пад загадам ГГО, 2—пад загадам НКПС СССР і 30—пад загадам НКЗБ;

г) вада-дажджамерных пунктаў 40, усе яны знаходзяцца на ўтрыманьні Мэлземупраўленьня НКЗ БССР;

д) сьнегамерных пунктаў 15, пастаўлены НКЗ БССР;

е) вадамерных пунктаў 7.

Апрача гэтага, Мэтбюро зараз абсталёўвае дадаткова 12 дажджамерна-сьнегамерных станцый і пад умовай прыняцьця ўтрыманьня наглядальнікаў на мясцовыя сродкі, 2 станцыі II разраду (у Слуцку і Бабруйску).

Адносна гэтае сеткі неабходна сказаць наступнае:

а) сетка мэтстанцый II разраду ахапляе бадай усе акругі. Трэба было-б толькі абнавіць станцыю II разраду ў Чэрыкаве (Калінінская акруга);

б) сетка станцый III разраду (дажджамерна-сьнегамерных) хоць і мае патрэбу ў некаторым папаўненьні, але ўжо ў значнай меры задаваляе патрэбам дня пры вырашэньні пытаньня аб тэрыторыяльным разьмеркаваньні ападкаў і магла-б таксама задаволіць і будучага кліматолёга, пад умовай, разумеецца, неперарыўнага і штамгадовага існаваньня ўсіх гэтых мэтстанцый.

## Плян і задачы Мэтэоролёгічнага Бюро Наркамзему БССР.

Вывучыўшы абсталяваньне і працу беларускіх мэтстанцый за мінулыя гады, колькасьць гадоў нагляданьня па кожнай з іх, а таксама якасьць і навуковую вартасьць гэтых

нагляданьняў, абмеркаваўшы ўсё гэта са спэцыялістымі, Мэтбюро на грунце ўсяго гэтага атрымала ад адпаведных органаў такія дырэктывы для сваёй працы на бліжэйшыя гады:

а) зьвярнуць належную ўвагу на магчымае пашырэньне сеткі мэтстанцый III разраду;

б) не адчыняць пакуль што за свой кошт новых станцый II разраду, за выключэньнем дасьледчых устаноў НКЗБ;

в) ужыць максымум сродкаў і энэргіі на даабсталяваньне ўжо існуючых станцый II разраду неабходнымі прыладамі, выходзячы з прынцыпу: „лепш лікам менш, а якасьцю лепей“;

г) зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на інструктаваньне мэтстанцый і паляпшэньне якасьці нагляданьняў, якія даюцца імі;

д) наладзіць пры мэтстанцыях вядзеньне нагляданьняў па вучоту ўплываў мэтэоролёгічных фактараў на сельскую гаспадарку;

е) вясьці рэгулярную праверку нагляданьняў, якія прыходзяць са станцый, у мэтах іх апублікаваньня і магчымасьці своечасовага выкарыстаньня ў неабходных выпадках для кон'юнктурных дапушчэньняў па пытаньнях экономікі краіны.

Для лепшага высьвятленьня характару і ўмоў працы Мэтбюро, можна яшчэ дадаткова сказаць:

а) што яно заўсёды аказвала і аказвае, паколькі ёсьць сіла і магчымасьці, усямернае падтрыманьне і дапамогу краязнаўцам у справе організацыі імі на мясцох вядзеньня мэтнагляданьняў;

б) што яно працуе ў поўным контакце з ЦБК Інбелкульту, якое нязьменна аказвала і аказвае яму дапамогу і падтрыманьне і гэтым пасабляе разьвіцьцю справы вывучэньня краіны з боку кліматычнага.

### Праца краязнаўцаў па рэгістрацыі мэтэоролёгічных элемэнтаў.

Прыглядаючыся і вывучаючы працу краязнаўчых організацый, школ і паасобных краязнаўцаў, іх імкненьні і надзеі, можна вашу ўвагу, т. т., спыніць на наступным:

1. Усе краязнаўцы, па маім перакананьні, зусім уяўляюць усю важнасьць і неабходнасьць працы па вывучэньні ходу мэтэоролёгічных элемэнтаў.

2. Хто з іх бярэцца за гэтую працу, у большасьці выпадкаў (90—95 проц.) выконвае яе зусім здавальняюча.

3. Ніхто не задаволены станцыяй III разраду, кожны імкнецца абавязкова адчыніць у сябе станцыю II разраду. Усё гэта, усе гэтыя імкненьні, бясспрэчна, заслугоўваюць самай гарачай і поўнай дапамогі і падтрыманьня. Але тут, на мой погляд, ёсьць і некаторыя непаразуменьні.

I. Адчыняючы якую-б ні было мэтстанцыю, неабходна спачатку добра ўлічыць усе ўмовы за і супроць магчымасьці

бесьперарыўнага існаваньня яе ў даным месцы на працягу 20—30 гадоў. Адчыняць станцыю толькі тады ёсьць сэнс, калі ёсьць гарантыя, што за ўвесь гэты пэрыод яна будзе карыстацца месцам, якое цяпер для яе прызначана, і калі ўвесь час будуць надзейныя наглядальнікі, якія будуць вясьці нагляданьні без перарываў. Інакш, які сэнс затрачваць энэргію, сілы і сродкі на вядзеньне *нерэгулярных* (хоць-бы з перарывамі толькі ў 2-3 дні за месяц) і *каротка-тэрміновых* (на працягу толькі 5-6 гадоў) нагляданьняў, калі іх кліматолёг у далейшым ня будзе мець магчымасьці выкарыстаць пры вывучэньні клімату краіны? У даным выпадку будуць або вельмі кароткія рады нагляданьняў або зусім ніякага раду ня будзе. Наглядальнік, скажам, не зрабіў нагляданьняў усяго толькі на працягу 5 дзён за месяц, а ў выніку яго нагляданьні даюць няпэўныя сярэднія месячныя, а значыць і няпэўныя гадавыя велічыні наглядаемых ім мэтэлемэнтаў.

Гэту акалічнасьць трэба асабліва падкрэсьліць і мець на ўвазе з тае прычыны, што ў мінулым годзе ўжо былі выпадкі, што краязнаўцы спынялі нагляданьні ў час вакацый або станавілі станцыю, рэгулярна вялі нагляданьні на працягу 2-3 месяцаў, а затым перадавалі станцыю пад нагляд вучняў, якія пачалі прысылаць запісы нагляданьняў у такім выглядзе, што робіцца зусім зразумелым, што вучням даручылі працу, з якой яны ня могуць справіцца. Дадам яшчэ, што гэтыя факты бываюць на станцыях III разраду, дзе нагляданьні запісваюцца толькі адзін раз у дзень, адымаючы кожны раз максымум 5 хвілін, і для вядзеньня іх лёгка знайсьці і навучыць надзейнага заступніка. Калі-ж выходзіць, што ня так лёгка вясьці і гарантаваць рэгулярнасьць нагляданьняў нават на такіх элемэнтарных станцыях, дык зусім зразумела, наколькі трэба быць асьцярожным пры organізацыі больш складаных станцый II разраду, дзе ўжо і нагляданьні трэба рабіць 3 разы на дзень (а 7, 13 і 21 гадз.), і вядзеньне такіх кожны раз адымае каля 30 хвілін, і ня так лёгка навучыць і знайсьці надзейнага заступніка і зусім нельга здацца на новых наглядальнікаў, якія часта зьменьваюцца, і асабліва на малалетак-вучняў.

У сувязі з гэтым трэба наогул умовіцца і дагаварыцца адносна таго, што мэтстанцыі можна арганізоўваць з пэдагогічнай мэтай і мэтай навуковай. Гэта не адно і тое. Калі тая ці іншая конструкцыя і ўсталяваньне прылад, а таксама і мэтод вядзеньня нагляданьняў, скажам, будзе зусім адпавядаць мэтам і задачам пэдагогічным, дык гэта яшчэ ня кажа за тое, што атрыманыя такім чынам нагляданьні будуць мець абавязкова і навуковае значэньне, што іх можна выкарыстаць пры вывучэньні клімату краіны. Вельмі часта та-

кія нагляданьні ня маюць ніякага навуковага і вельмі праблематычнае пэдагогічнае значэньне—і наадварот, калі прылады належным чынам зроблены, праверана і ўсталяваны, а нагляданьні вядуцца і запісваюцца строга па інструкцыі, дык гэтыя нагляданьні маюць і навуковае і, бязумоўна, пэдагогічнае значэньне.

II. Фізычна-геаграфічныя ўмовы ў БССР такія, што з погляду макракліматолёга няма вялікай патрэбы зараз, асабліва калі ўзяць пад увагу абмяжованасьць сродкаў, станавіць блізка адзін ад другога па тэрыторыі краіны баромэтры, тэрмомэтры і псыхомэтры. Гэтыя прылады дорага каштуюць, а між тым цячэньне (ход) мэтэлемэнтаў, якія азначаюцца пры дапамозе іх, па ўсіх акругах БССР вельмі аднастайнае. Існуючая ў сучасны момант сетка мэтстанцый ужо ў значнай меры поўна іх улічвае па ўсёй тэрыторыі Рэспублікі.

Зусім іншы будзе малюнак, калі мы зьвернем увагу на ападкі, заляганьне сьнегавога насьцілу, хмарнасьць, навальніцы, градабіцьце, стан засеваў і траў і некаторыя іншыя зьявы. Рэгістрацыя ўсяго гэтага важна для кліматолёга і для пабудаваньня кон'юнктуры народнае гаспадаркі бягучага году ці месяца, а ў той-жа час як вяліка зьмяняльнасьць (пэрыодычнасьць) і розьніца ў разьмеркаваньні іх па часе і абшары. Папраўдзе, ніякая сетка станцый для іх падліку і рэгістрацыі ня можа лічыцца праз меру густой. Улічым і тое, што абсталяваньне гэтых наглядальных пунктаў і станцый або зусім не вымагае грашовых сродкаў, або ў невялікім разьмеры. Патрэбна любоў да справы і жаданьне працаваць.

На падставе ўсяго вышэйпаданага, я думаю, мы павінны прыйсьці да такіх, абавязковых для ўсіх нас, вывадаў:

а) неабходна быць вельмі строгім і асьцярожным пры выбары месца і прызначэньні наглядальнікаў для мэтстанцый;

б) гэта асьцярожнасьць павінна яшчэ больш праявіцца пры організацыі станцый II разраду, каб не затраціць дарэмна шмат грошай, сілы і энэргіі, калі праца станцыі не апраўдае свайго назначэньня;

в) неабходна ўжыць усе захады да пашырэньня сеткі мэтстанцый ці наглядальных пунктаў для вядзеньня нагляданьняў над ападкамі, сьнегавым насьцілам, мяцеліцамі, узьніманьнем і замярзаньнем рэк, канаў і вазёр, навальніцамі, градабіцьцем, станам засеваў і траў і ўплывам на іх мэтэоролёгічных фактараў;

г) трэба растлумачыць усім краязнаўцам, што нагляданьні і рэгістрацыя памянёных у папярэднім пункце зьяў і нават аднае з іх мае вялікае значэньне ў справе вывучэньня клімату краіны, што гэтыя нагляданьні таксама важны і каштоўны, як і нагляданьні над ціскам і тэмпэратурай паветра.

д) пры організацыі мэтстанцыі мець заўсёды на ўвазе, што нагляданьні на ёй толькі тады будуць каштоўны ў клі-матолёгічным напрамку, калі яны будуць вясьціся тут непарыўна на працягу досыць доўгага шэрагу гадоў.

---

## Інструкцыя і програма фэнолёгічных назіраньняў.

### Інструкцыя.

*Як весьці фэнолёгічныя назіраньні.* Паставіўшы сабе мэту—весьці фэнолёгічныя назіраньні, перш за ўсё ня трэба раскідацца. Лепш за ўсё спыніцца на нямногіх зьявах і штогод адзначаць імёны іх. Справа ня ў колькасьці, а ў якасьці. Калі назіральнік яшчэ мала знаёмы з прыродаю, ня ведае назваў, кветак, матылькоў і іншых шасьціножак, то, адзначаючы зьяўленьне таго ці іншага індывідууму або зацьвітаньне першых вясновых кветак, ён можа прысылаць іх у таварыства для дакладнага азначэньня назвы кветкі або шасьціножкі, над якою зроблена назіраньне. Пры назіраньні трэба рабіць агаворку, калі вы ня самі бачылі даную зьяву, а чулі аб ёй ад другіх. Абавязкова трэба адзначаць чысло, калі зьява назіралася. Прыблізныя адзнакі: „каля 10 чысла“, „паміж 10 і 20“ ня маюць ніякага навуковага значэньня, і дзеля таго, калі добра невядома, калі адбылася якая-небудзь зьява, аб ёй лепш за ўсё не ўпамінаць.

*Як весьці назіраньні над расьлінамі.* Назіраньні трэба весьці над расьлінамі, якія знаходзяцца ў ня надта зацененым і ня надта адкрытым месцы. Яны не павінны быць такімі, якія для данай мясцовасьці ненормальна рана або позна цьвітуць. Дрэвы трэба выбіраць сярэдняга ўзросту, кусты—сярэдняй вышыні. Момант пачатку зеляненьня або зацьвітаньня трэба азначаць не па назіраньнях над адным толькі экзэмплярам данай расьліны, а па некалькіх экзэмплярах, якія лёгка растуць у сярэдніх умовах данай мясцовасьці.

Як разумець момант цьвіценьня? Гэта момант зьяўленьня нормальна распушчаных вяночкаў некалькіх кветачак і пачатак пылкаваньня катковых суквецьцяў (гарэшнік, бяроза, хмель).

Пад зеляненьнем трэба разумець момант, калі данае дрэва або куст як-бы пакрылася зялёнаю дымкаю з прычыны таго, што з пупышынкаў пачалі распускацца лісточкі. Цяжка азначыць момант высьпяваньня пладоў. Для назіраньня над першым рухам соку ў бярозе (а таксама і клёне) трэба загадзя зрабіць на дрэвах сярэдняга ўзросту, на вышыні сярэдзіны чалавечага росту, уколы сьвярдлом і да дзірак падвесіць якую-небудзь шкляную пасудзіну. Назіраючы

штодня, можна вельмі дакладна ўлавіць момант пачатку гэтага процэсу.

Пры назіраньні над расьцьвітаньнем каліны трэба адзначаць час распусканьня сярэдніх пладавых кветачак, а ня крайніх бясплодных, якія павольна і няпрыметна мяняюць зялёную афарбоўку на белую. Калі трэскаюцца струкі жоўтай акацыі, трэба адзначаць, ці быў вецер у час гэтай зьявы, ці было зацішна.

*Назіраньні над птушкамі.* Час прылёту жаўранкі, удода, зязюлі, салаўя ня трэба зьмешваць з іх першым крыкам або песьняй, бо паміж абедзьвюма зьявамі праходзіць некалькі дзён.

Калі пралятаюць ключы жураваў, гусей, трэба адзначаць, па магчымасьці, усе дні, у якія яны былі заўважаны, з паказаньнем кірунку, у якім яны пралятаюць. Жураваў ад гусей можна адрозьніць па іх сылюэтах: у жураваў шыі і ногі выцягнуты, у гусей ногі падкурчаны. Апрача таго, жоравы курлыкаюць і па гэтым характэрным курлыканьні іх можна пазнаць нават у час начных пералётаў. Гарадзкія падластаўкі і звычайныя ластаўкі зьяўляюцца праз некаторы час адны пасьля другіх. У звычайнай ластаўкі горла і лоб глінястыя і хвост вілаваты, калі яна сядзіць, а ў гарадзкой падластаўкі—бела пад хвастом і хвост зложаны, калі яна сядзіць. Груноў-касароў (стрыжоў) часта зьмешваюць з ластаўкамі. Яны зьяўляюцца пазьней за ластавак. Пралятаючы, яны вызначаюцца сваімі характэрнымі чорнымі фігуркамі ў выглядзе серпікаў. Лётаючы ў паветры, яны праразьліва пішчаць. У адносінах да прылёту птушак заўсёды трэба адзначаць першыя адзінкавыя выпадкі прылёту і пасьля—масавыя. Адлёт, вядома, заўважыць цяжэй. Адносна жураваў, гусей тут можна гаварыць толькі аб асеньніх пералётах; лягчэй заўважваецца адлёт ластавак, груноў, буслоў, гнёзды якіх знаходзяцца на відавоку каля будынкаў.

*Назіраньні над шасьціножкамі.* Адзначаючы момант зьяўленьня хрушчоў і бабак (стракоз), трэба адрозьніваць адзінкавае іх зьяўленьне і масавае і пры гэтым у адносінах да бабак пажадана адзначыць выпадкі надзвычайна масавага пралятаньня іх з дакладным паказаньнем гадзіны, дня і кірунку лёту хмары шасьціножак.

---

## Програма.

### I. Назіраньні над расьлінамі.

1. Рух соку ў бярозе (Betula Verrucosa і B. pubescens).
2. Зацьвітаньне падбелу (Tussilago Farfara).
3. Зацьвітаньне пралескі (Hepatica triloba Chaix).

4. Зацьвітаньне гаёвага курасьлепу (Anemone nemorosa).
5. Зацьвітаньне шэрай алешыны (Alnus incana Willd.) і ліпучай (Alnus glutinosa Gartn.).
6. Зацьвітаньне гарэшніка-ляшчыны (Corylus Avellana).
7. Зацьвітаньне падсьнежніка (Galanthus nivalis).
8. Зацьвітаньне жоўтага курасьлепу (Anemone ranunculoides).
9. Зацьвітаньне сону звычайнага (Pulsatilla patens).
10. Зацьвітаньне асіны (Populus tremula).
11. Зацьвітаньне лотаці балотнай (Caltha palustris).
12. Зеляненьне чарэмхі (калакалушы) і бярозы.
13. Зацьвітаньне дзікага мігдалу (Amygdalus nana).
14. Зацьвітаньне клёну звычайнага (Acer platanoides).
15. Зацьвітаньне чарэмхі (калакалушы) (Prunus padus).
16. Зацьвітаньне бузіны галіністай (чырвонай) (Sambucus racemosa).
17. Зацьвітаньне вішні садовай, чарэшні, цёрна (Prunus spinosa), ігрушы і райскай яблыні.
18. Зацьвітаньне ландыша і майніка двухлісьцёвага або гарэлачак (Majanthemum bifolium DC).
19. Зацьвітаньне караганы або „жоўтай акацыі“ (Caragana orborescens).
20. Зацьвітаньне парэчак чырвоных (Ribes rubrum).
21. Зацьвітаньне бэзу звычайнага лілёвага.
22. Зацьвітаньне дубу летняга і зімовага.
23. Зацьвітаньне арабіны.
24. Зацьвітаньне крываўніка звычайнага (Achillea millefolium).
25. Зацьвітаньне (пылкаваньне) хвоі.
26. Зацьвітаньне каштана конскага.
27. Зацьвітаньне багуну балотнага (Ledum palustre).
28. Асіна пускае пух.
29. Зацьвітаньне пладовых кветак каліны звычайнай.
30. Зацьвітаньне робініі або „белай акацыі“ (Robinia pseudacacia).
31. Зацьвітаньне бабку трылісьцёвага (Menyanthes trifoliata) і жоўтых касачоў (Iris pseudacorus) на балоцістых мясцох.
32. Зацьвітаньне збанкоў (бурбалак) жоўтых (Nuphar luteum) на рэках і вазёрах.
33. Зацьвітаньне язьміну садовага пахучага.
34. Першы цьвет і плады ляснoй суніцы і маліны.
35. Зацьвітаньне ліпы звычайнай.
36. Зацьвітаньне і высьпяваньне чарніц.
37. Зацьвітаньне дурнап'яну (Datura stramonium L.).
38. Разлузваньне струкоў караганы („жоўтай акацыі“).
39. Зацьвітаньне палыну.

40. Зацьвітаньне бузіны чорнай.

41. Пачатак афарбоўкі лісьця, поўная афарбоўка, ход лістападу і поўнае агаленьне асіны і клёну.

42. Зацьвітаньне верасу (Calluna vulgaris Salisb.).

43. Зацьвітаньне гарычкі (званочкаў) (Gentiana pneumonanthe), падобнай да вялікага сіняга званочка.

44. Зацьвітаньне хмелю дзікага ў лясох і культурнага.

45. Зацьвітаньне псяркі звычайнай (Elsholtzia Patrinii Lep.).

46. Зацьвітаньне зімоўніка звычайнага (Colchicum autumnale).

47. Выпадкі паўторнага цьвіценьня расьлін позьняю восеньню.

## II. Назіраньні над птушкамі.

1. Зьяўленьне гракоў.
2. Зьяўленьне шпакоў.
3. Першая песьня палявой жаўранкі.
4. Першая песьня юрка-берасьцянкі (зябліка).
5. Зьяўленьне белай пліскі.
6. Пачатак цягі слонкі.
7. Першыя і наступныя ключы пралётных гусей і жораваў, масавы іх пралет і выпадкі, калі яны варочаюцца назад.
8. Прылет бусла.
9. Зьяўленьне і першы крык удода.
10. Першы крык бугай-птушкі.
11. Зьяўленьне першай ластаўкі звычайнай і гарадзкой падластаўкі.
12. Першае кукаваньне зязюлі і першая песьня салаўя.
13. Першае і масавае зьяўленьне груноў-касачоў (стрыжоў).
14. Першы крык івалгі.
15. Першы крык перапёлкі і першы крык драча.
16. Зьяўленьне драздоў-арабіньнікаў на арабінах.
17. Адлёт груноў-касачоў і ластавак (масавы адлёт і апошнія чароды).
18. Першыя і ўсе наступныя ключы пралётных жораваў і гусей.
19. Адлёт буслоў.
20. Зьяўленьне гілёў і імялушак.

## III. Назіраньні над шасьціножкамі.

1. Першы аблёт і пачатак узятку ў пчол.
2. Зьяўленьне матылька-крапіўніка.
3. Першы вылет кажаноў.
4. Масавы лёт хрушчоў.

5. Зьяўленье камароў-кусак.
6. Зьяўленьне вос і чмялёў.
7. Першы рой пчол.
8. Зьяўленьне аваднёў.
9. Выгнаньне ў канцы лета трутняў пчоламі з вульляў.
10. Зьяўленьне ў паветры васеньняга павуціньня і павукоў-лётнікаў.
11. Выпадкі масавага лёту шасьціножак (бабак, стрэлак, шаранчакоў і інш.) з паказаньнем кірунку і працягласьці зьявы.

## IV. Назіраньні над рознымі жывёлінамі.

1. Зьяўленьне на паверхні глебы калу земляных чарвякоў (на садовых дарожках).
2. Першае турканьне жаб.
3. Першы канцэрт зялёных жаб.

---

Для ўвязкі ўсіх назіраньняў з мэтэоролёгічнымі зьявамі пажадана адзначыць толькі ніжэйпаказаныя зьявы, не перагружаючы мінімуму.

1. Паломка лёду на вадаёмах і ачышчэньне ад лёду рэк і вазёр з паказаньнем іх назвы.
2. Першая навальніца.
3. Выпадак звароту халадоў (выпаў сьнег, пала шэрань, марозам прыхвачаны расьліны) з паказаньнем рэльефу мясцовасьці.
4. Першы прымаразак у восень на паверхні глебы (прымерзьлі гуркі, гарбузы, цьвет на бульбе) з паказаньнем рэльефу мясцовасьці.
5. Першы марозны дзень (калі лужыны, замярзаючы ў ночы, не растаюць у дзень).
6. Замярзаньне вадаёмаў (рэк, вазёр), васеньняе ўзьніманьне і канчатковае замярзаньне.
7. Выпаданьне першага сьнегу (калі выпаў і растаў і з якога часу затрымаўся).

Для ўвязкі ўсіх назіраньняў з сельска-гаспадарчымі зьявамі і работамі трэба адзначыць наступныя галоўныя моманты:

1. Першая сяўба аўсу і ячменю ў вёсках і на хутарох.
2. Пачатак пасадкі гуркоў, гарбузоў.
3. Выплываньне і пачатак красаваньня жыта і зацьвітаньне васількоў у жыце.
4. Высьпяваньне (цьвёрдая сьпеласьць і першае жніво жыта, аўсу і ячменю).
5. Масавы пачатак сенакосу на сухадолах.
6. Першы масавы збор палявых гуркоў.
7. Першая васеньняя сяўба жыта і зьяўленьне руні.

У сёлетнім годзе робіцца першая *спроба зімовых фэнолёгічных назіраньняў* па наступнай програме:

1. Прылёт і адлёт сьметнічкаў (сьнежных падарожнікаў) і
2. паўночных жаўранкаў.
3. Прылёт крыжадзюбаў (клястоў) розных відаў (з паказаньнем віду); калі нясуцца і выводзяць птушанят.
4. Зьяўленьне на сьнягу шасьціножак з прысылкаю саміх шасьціножак для азначэньня.
5. Пачатак расьсяваньня насеньня алешыны шэрай і ліпучай, елкі, хвоі, бярозы і ліпы.
6. Пачатак цечкі ў ваўкоў.
7. Першая цечка і першыя зайчаняты ў зайцоў.
8. Зьяўленьне афарбоўкі ў белак, зайцоў, белых курапатак і інш.

Трэба нарэшце адзначыць, што выпрацавана програма *міжнародных фэнолёгічных назіраньняў*. У міжнародную коопэрацыю фэноназіраньняў уваходзяць—Ангельшчына, Голяндыя, Бэльгія, Норвэгія, Нямеччына, Аўстрыя, Чэха-Славаччына, Паўночная Італія і СССР. Програма ўключае ў сябе 31 расьліну, 6 птушак і 5 шасьціножак, сьпіс якіх наступны:

Сьпіс расьлін для назіраньня над іх зацьвітаньнем.

1. Galanthus nivalis.
2. Eranthis hyemalis (у СССР не сустракаецца).
3. Croccus aureus.
4. Ulmus campestris (бераст, лём).
5. Corylus aveliana (гарэшнік).
6. Ficaria ranunculoides.
7. Tussilago Farfara (падбел звычайны).
8. Prunus amygdalus (мігдал).
9. Anemone nemorosa (курасьлеп гаёвы).
10. Prunus spinosa.
11. Quercus pedunculata (дуб звычайны).
12. Ribes rubrum (чырвоныя парэчкі).
13. Alliaria officinalis (часнотка лекавая).
14. Pirus malus (яблыня звычайная).
15. Syringa vulgaris (бэз лілёвы).
16. Aesculus hippocastanum (каштан конскі).
17. Prunus padus (чарэмха).
18. Cydonia vulgaris.
19. Cyísalus laburnum (ракітнік, у СССР сустракаецца Cytisus ratisbonensis).
20. Crataegus oxyacantha (глог калючы).
21. Chrysanthemum leucanthemum.
22. Sambucus nigra (бузіна чорная).
23. Rosa canina (рожа сабачая, шыпшына).
24. Symphoricarpus racemosus.
25. Robinia pseudacacia (белая акацыя).

26. Lilium candidum (лілея белая).
27. Costanea vesca (запраўдны каштан).
28. Scabiosa succisa (купніца).
29. Colchicum autumnale (зімоўнік звычайны).
30. Hedera helix (блюшч звычайны).
31. Helleborus niger (чэмер чорны).

### Сьпіс птушак.

1. Turdus musicus (дрозд-сьпявун), першая песьня.
2. Phylloscopus rufus (будаўнічок), першыя гукі.
3. Hirundo rustica (ластаўка звычайная), прылёт і адлёт.
4. Cuculus canorus (зязюля) першае кукаваньне.
5. Cypselus apus (грун-касар); прылёт.
6. Muscicapa grisola (мухалоўка шэрая) зьяўленьне.

### Сьпіс шасьціножак.

1. Apis mellifica (пчала), зьяўленьне яе на кветках.
2. Vespa vulgaris (аса); зьяўленьне.
3. Pieris rapae (бялянка рэпніца).
4. Anthocaris cardaminis.
5. Epinephile janira.

---

# II. Культурна-гістарычная сэкцыя.

## Укладаньне архэолёгічнай карты Беларусі.

I.

Мінулае Беларусі, так званы „прадгістарычны пэрыод“ яе жыцьця, да XII сталецьця, амаль што зусім не распрацавана. Галоўная прычына ў тым, што дагэтуль не распрацавана архэолёгія Беларусі.

Зьнішчэньне гэтага недахопу зьяўляецца чарговай навуковай справай ІБК, ВУЗ‘аў БССР і павінна таксама зьвяртаць на сябе самую поўную ўвагу ўсіх краязнаўчых організацый Беларусі, як справа надзвычайнае каштоўнасьці. Перш за ўсё трэба, каб былі асьветлены шырокія масы беларускага грамадзянства, і ў першую чаргу нашае сялянства, аб неабходнасьці аховы архэолёгічных помнікаў, якіх многа па ўсёй Беларусі.

Справа ў тым, што галоўнай крыніцай высьвятленьня сівой мінуўшчыны Беларусі да XII стагодзьдзя зьяўляюцца зямля і вада, у якіх захоўваюцца помнікі даўно мінулага, „прадгістарычнага“ жыцьця і побыту чалавека на тэрыторыі Беларусі.

У кожную вясну, калі пачынаецца праца на палетках з

плугам, звычайна знаходзяць у розных мясцох рэчы, якія ня маюць адносін да сучаснасьці. Напрыклад, выворваюць каменныя малаткі, железныя дзіды (коп'і) і тапары, медныя вобручы, скручаныя нібы вяроўка, грошы і г. д. Часьцей за ўсё трапляюцца чарапкі ад гліняных гаршчкоў і чалавечыя косьці, а пры іх мэдалікі, каралі, пацеркі і інш. Гэтыя знаходкі, часьцей за ўсё, сустракаюцца там, дзе існуюць старыя курганныя магільнікі, якія сяляне называюць „капцамі“, або „курганамі“, а таксама там, дзе паблізу ёсьць гарадкі, гарадзішчы, або замчышчы.

Але гэткія знаходкі трапляюцца і ў іншых мясцох—на берагох рэк, вазёр і каля балот. Усё гэта—*архэолёгічныя помнікі,* якія маюць часам вялікае навуковае значэньне. Трэба, каб кожнае месца, дзе трапілася такая знаходка, было абгледжана спэцыялістым і каб знойдзеныя рэчы захоўваліся ў музэі, дзе забясьпечана іх ахова і дзе іх могуць бачыць і вывучаць усе жадаючыя.

На падставе гэтага, пры кожнай знаходцы на сваёй ніве селянін, дзеля таго, што ён культурна сьвядомы, зараз-жа павінен абвяшчаць аб гэтым навуковыя ўстановы, каб знаходка была добра дасьледвана і трапіла ў музэй.

На жаль, у нас, на Беларусі дагэтуль на архэолёгічныя знаходкі ўвага не зварочваецца. Такія знаходкі амаль што ўсе губляюцца. Селянін знойдзе каменную прыладу (малаток або тапор і інш.), пачнецца ў вёсцы размова, што гэта „Пярунова страла“, і, у канцы, знаходка трапіць ня ў музэй, а ў рукі знахаркі, якая абдурвае людзей, і там гэтая рэч, каштоўная толькі для навукі, гіне. Калі з-пад лемяша вываліцца гліняны гаршчок, селянін перш за ўсё спадзяецца знайсьці ў гаршчку грашовы скарб. Але ўбачыўшы, што грошай няма, што ў гаршчку толькі попел з спаленымі касьцямі, або тлустая чорная зямля,—разьбівае гэтую пасудзіну. Калі-ж уцяміць пацеркі, каралі, дык разатрэ іх паміж пальцаў. Рэчы медныя перш за ўсё ламае, каб упэўніцца, ці ня золата гэта і пасьля кідае. Выараныя чалавечыя чарапы выкідае. Жалезны тапор нясе да каваля, каб насталяваць лямеш або тапор, але таксама без карысьці, бо як толькі каваль кіне гэтую знаходку ў горн, дык яна хутка згарае і ад удару молата разьлятаецца ў пыл. Пры раскопваньні вапняку, пры капаньні студні, пры лоўлі невадам рыбы ў рэчках і вазёрах знаходзяць аграмадныя косьці (біўні, чарапы, зубы) маманта і іншае жывёлы першабытнага часу, ледавіковага пэрыоду і кідаюць іх, як непатрэбную рэч.

Вось і гінуць такім чынам рэчы пэўнай навуковай каштоўнасьці!

А між тым ад 5 ліпня 1926 году Ўрадам БССР выданы закон, паводле якога ўсе архэолёгічныя помнікі

зьяўляюцца дзяржаўнай маемасьцю ў захове ІБК, дзеля чаго і архэолёгічныя знаходкі павінны прысылацца для агляду ў ІБК (Збор законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага Ўраду БССР, 1926 г., 3 жніўня, № 28, арт. 104 і 105).

Аднак, фактычна, перш чым вестка аб такой знаходцы дойдзе да названае навуковае ўстановы (ІБК або музэй), самыя рэчы псуюцца, або нішчацца.

Мясцовая інтэлігенцыя павінна была-б лічыць сваім грамадзянскім абавязкам пільна сачыць за архэолёгічнымі знаходкамі і дапамагаць у ратунку іх і ў дастаўцы ў музэі. Але яна дагэтуль, на жаль, за малым выключэньнем, не праяўляе тут належнае актыўнасьці. Ня гледзячы на тое, што існуе ІБК, з якім пісьмовыя зносіны бясплатныя і што, апрача ІБК, справа аб архэолёгічных знаходках не павінна мінаць мясцовых краязнаўчых устаноў.

II.

Паўстае пытаньне, чаму зьяўляюцца каштоўнымі і для Дзяржавы і для навукі архэолёгічныя знаходкі?

Гэтае пытаньне будзе ясным, калі ўспомнім тыя крыніцы, дзякуючы якім высьветлена, напрыклад, гісторыя Егіпту за многія тысячы гадоў да зьяўленьня хрысьціянства, або Асыра-Бабілёніі, або грэкаў і рымлян. Пры раскопках могілак і разбураных гарадоў у Егіпце знойдзены так званыя іерогліфічныя напісы; у Асыра-Бабілёніі—асобныя цэгліны з клінапіснымі знакамі; ад грэкаў і рымлян знойдзена шмат усялякіх рэчаў таксама шляхам раскопак у працягу ўжо сотні гадоў.

І ў нас, на Беларусі, ад старых часоў адзінымі докумэнтамі аб мінулых часох; калі тут жыў мамант і зьявіўся чалавек і аб тым як ён тут жыў многія тысячы гадоў—аб гэтым можна даць веды толькі на падставе вывучэньня тых сьлядоў і помнікаў жыцьця і побыту, якія захоўваюцца яшчэ ў зямлі, на асадах, у гарадзішчах, курганох, могільніках, а таксама на зямлі (пячоры каменныя) або ў вадзе (знаходкі касьцей маманта) і інш.

Адгэтуль зразумела, што калі нішчыцца якая-колечы рэч старасьветчыны, дык нішчыцца докумэнт, які застаўся ад старых насельнікаў нашага краю. А зьнішчэньне, бяз ведама вучоных спэцыялістых, развораваньне, роскопваньне гарадзішчаў, курганоў, магільнікаў—роўнаважна зьнішчэньню цэлага летапісу нярэдка некалькіх народаў, якія на гэтым месцы зьмянялі адзін аднаго.

Гэткім чынам, зьнішчэньнем курганоў, гарадзішчаў, магільнікаў робіцца злачынства супроць навукі і супроць роднага краю. Злачынства гэта павялічваецца надзвычайна тым, што зьнішчаныя помнікі нельга аднавіць. Разам з гэтым адпадае ўсякая магчымасьць зладзіць дакладную гісторыю таго пле-

мені, якое жыло ў нашым краі ў дагістарычны час. Таксама нельга нішчыць чалавечых чарапоў, бо гэтым аднімаецца магчымасьць высьветліць нацыянальнасьць народу, які насыпаў курганы і г. д.

Вось чаму Савецкая Ўлада праз свае ўстановы, як Інбелкульт і інш., клапоціцца, каб захаваць усе старадаўнія помнікі і сабраць як-мага больш рэчаў старажытнасьці.

## Узорная археолёгічная карта Магілёўскае акругі.



Гэтыя помнікі—нямыя, але краснамоўныя сьведкі даўно мінулага Беларусі, аб якім у нас нічога іншага не засталося.

Зьбіраньне гэтых знаходах у музэях і ўсебаковае дасьледваньне і параўнаньне іх з дапамогай шэрагу навук, як напрыклад, краніолёгія (навука аб чалавечых чарапох), топографія (навука аб павярхоўным выглядзе месц), палеонтолёгія (навука аб старажытных жывёлах), народная мова, гістарычныя весткі і г. д. высьвятляюць нацыянальны тып насельнікаў краю, межы іх пасяленьняў, ступень культурнасьці ў розныя часы жыцьця, зносіны з іншымі народамі і г. д.

Дасьледваньне архэолёгіі Беларусі ляжыць на абавязку Гістарычна-Архэолёгічнай Камісіі ІБК. Дапамагаць у гэтым ІБК заклікаюцца ўсе краязнаўчыя ўстановы БССР. Мала гэтага, абавязак кожнага сьвядомага грамадзяніна БССР—сачыць за тым, каб ня зьнішчалася нічога з помнікаў нашае старажытнасьці. Хто сьвядома выракаецца ад усямернай дапамогі справе захаваньня архэолёгічных помнікаў, той зьяўляецца дапамагальнікам у выкрэсьліваньні, лічбы за лічбай з таго капіталу архэолёгічна-гістарычных ведаў, якія патрэбны для будучыні.

Усе краязнаўчыя таварыствы і гурткі павінны быць на чале грамадзянства, якое яшчэ несьвядома ў галіне архэолёгіі Беларусі.

Перш за ўсё краязнаўцы павінны азнаёміць шырокія сялянскія масы з неабходнасьцю берагчы помнікі старасьветчыны, якія знаходзяцца ў зямлі, або ў вадзе, і ніякім чынам ня нішчыць іх.

Падругое, краязнаўцы павінны накіраваць усе свае сілы і магчымасьці да таго, каб занатаваць у поўнасьці, бяз пропускаў, усе архэолёгічныя помнікі і зараз-жа, без адкладу, скласьці архэолёгічную карту па кожным сельсавеце.

Гэтая карта будзе ня толькі ахоўным сьпісам дзяржаўнае маемасьці, якога яшчэ ў нас няма, але і добрым пуцяводнікам для навуковага плянавага вывучэньня архэолегіі БССР, без якога шырокая дасьледчая праца ў гэтай галіне немагчыма.

Праца павінна быць выканана хутка і старанна. Для гэтага трэба стварыць адпаведную організацыю, напрыклад—тройку на кожны сельсавет, або інакшы плян для выкананьня справы, які будзе ўстаноўлены Зьездам.

Карыстаючыся картай трохвёрсткай (3 в. у цалі) гэтая організацыя павінна: а) скласьці дакладны сьпіс усіх архэолёгічных помнікаў і знаходак на тэрыторыі, якая будзе ёй вызначана і б) нанесьці гэтыя знаходкі на карту пры дапамозе ўмоўных знакаў, якія апрацаваны Гістарычна-Архэолёгічнай Камісіяй ІБК і ніжэй вызначаны.

## III.

Што-ж менавіта павінна быць занатована, запісана і затым нанесена на архэолёгічную карту?

— Усе тыя помнікі, якія зьяўляюцца астачай, або сьледам даўно мінулага жыцьця чалавека на тэрыторыі БССР.

Даемо іх пералік з паказаньнем тых умоўных знакаў, якімі належыць іх азначаць на карце.

1. Месцы, дзе знаходзяць косьці маманта, першабытнага быка, аленя і іншае няіснуючае цяпер жывёлы. Гэтыя косьці трапляюцца ў размывах берагоў рэчак, пры выкапваньні вапеннага каменя, пры капаньні студняй на рознай глыбіні, напр., 2-3 сажняў, пры рыбалоўлі і інш.

Пры нанясеньні на карту знаходкі касьцей вымершае цяпер „першабытнае“ жывёлы карыстаюцца знакам № 1.

2. Месцы асад („стаянкі“), на якіх знаходзяцца ў значнай колькасьці (нібы пасеяны) вырабы з крэменя ці каменя: стрэлкі, нажы, малаткі, тапары, далоты і інш. У значнай большасьці гэтыя каменныя прылады меленькія, але сустракаюцца яны і значнай велічыні.

Пры адзначэньні такіх крамянёвых асад на карце трэба карыстацца знакам № 2.

3. Месцы, на якіх сустракаюцца знаходкі належных прылад, вызначаныя пад № 2, але выпадкова, як знаходкі паадзіночныя, трэба на карце адзначаць знакам № 3.

4. Старажытныя паселішчы, сялібы маюць яшчэ назву попелішча, царковішча. Яны ня маюць ні валоў, ні равоў. Няма на іх, у большасьці, старажытных могілак. Але знаходзяцца рэчы, якія мог ужываць чалавек: каралі, персьцяні, брасьлеты, жалезныя тапары, нажы і інш., а таксама дзе-ні-дзе ёсьць шмат чарапкоў ад старое глінянае пасуды якой цяпер няма.

Гэткія паселішчы на карце адзначаюцца знакам № 4.

5. Гарадзішча, або гарадкі, замчышча (узвышша, штучна апрацованае, з рвамі і валамі) адзначаюцца на карце так:

а) круглае па форме—знакам № 5,

б) усе іншыя (3-4 кутныя і інш.)—знакам № 6.

6. Валы, якія знаходзяцца не на гарадзішчах, а асобна (якія вялізнай даўжыні і маюць форму простай ці загнутай лініі)—адзначаюцца на карце № 7.

7. Курганы (нярэдка называюць на Беларусі „капцы“) добра пералічваюцца і адзначаюцца на карце з наступнымі дадаткамі:

а) курганы адзначаюцца наогул знакам № 8,

б) лік (цыфра кurганоў у аднэй групе ці згуртаваньні зазначаецца знакам № 9, інакш кажучы, агульным знакам для адзначэньня кургана, але з правага боку гэтага знаку ставіцца цыфра, якая будзе паказваць колькасьць курганоў у гэтай групе),

в) курганы, якія абкладзены каменьнем зьнізу, адзначаюцца знакам № 10,

г) курганы доўгія па сваёй пабудове, але ня з прычыны абворваньня, або раскопваньня, зазначаюцца знакам № 11,

д) курганы—ужо раскопаныя, развораныя, ці раскопаныянавуковымі дасьледчыкамі або аматарамі, адзначаюцца знакам № 12.

8. Месцы старажытных (нясучасных) пахаваньняў, на якіх знаходзяцца цэлыя касьцякі людзей і каля іх розныя рэчы: каралі, пярсьцёнкі, тапары, нажы, аружжа, чарапы ад гаршчкоў і інш. адзначаюцца на карце: а) знакам № 13, або калі сустракаюцца могілкі, абкладзеныя або пакрытыя каменьнем,—знакам № 14.

9. Пячоры, штучна зробленыя ў старасьвецкія часы, або натуральныя, але са знаходкамі касьцей чалавека, ці жывёлы, мэталёвых альбо каменных і касьцяных вырабаў—адзначаюцца знакам № 15.

10. Каменьні, штучна апрацаваныя (калі на іх ёсьць літары ці крыжы), і каменныя бабы адзначаюцца знакам № 16.

11. Крыжы каменныя з напісамі і бяз напісаў—адзначаюцца знакам № 17.

12. Знаходкі выпадковыя наогул усялякага роду старажытных рэчаў: мэдальёнаў, мэдалікаў, прывесак, аздоб, аружжа і інш. адзначаюцца знакам № 18.

13. Месцы знаходкі монэтных скарбаў адзначаюцца знакам № 19.

## ЗНАКІ ДЛЯ АРХЕОЛЁГІЧНАЙ КАРТЫ


1

2

3

4

5

6

7

8


9

10

11

12

13

14

15

16

17

18

19

Да гэтага трэба дадаць адну прапанову: да складзена архэолёгічнае карты па кожным сельсавеце трэба даць адпаведны дакладны сьпіс усіх архэолёгічных помнікаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі кожнага сельсавету і прысылаць у ЦБК разам з апрацаванай архэолёгічнай картай.

Тэрмін для выкананьня гэтае працы павінен апрацаваць Краязнаўчы Зьезд.

---

## Програмы па вывучэньні хатніх рамёстваў і саматужнай прамысловасьці Беларусі.

Разьвіцьцю гэтага віду прамысловасьці заўсяды прыдавалася вялікае значэньне. Яшчэ з сярэдзіны 70-х гадоў мінулага сталецьця царскі ўрад пачаў выдаваць значныя сродкі на высьвятленьне гэтай справы. Была організавана камісія па вывучэньні саматужнай прамысловасьці. Камісія разгарнула шырака сваю працу. Яна вывучала саматужную прамысловасьць з тымі-ж мэтамі, якія і мы перад сабою ставім у сучасны момант, гэта значыць, вывучала не дзеля навукі, а ставіла чыста практычныя мэты, як напрыклад, палепшаньне вытворчасьці, пашырэньне яе, насаджэньне новых промыслаў і г. д. Дзеля дасягненьня гэтых мэт вывучалася ня толькі свая саматужная прамысловасьць, а нават рассылаліся агенты ў пазамежы дзяржавы, дзе яны вывучалі як пастаноўку розных рамесьніцкіх школ, так і паасобныя промыслы, якія можна бало-б потым перанесьці ў былую Расію. Як вынік працы гэтай Камісіі засталіся каля 10-ці тоўстых томаў. Але сколькі-б іх ні лістаць, дык аб промыслах Беларусі няма ніводнага радку. Апошняе зусім зразумела, бо царскі ўрад клапаціўся выключна аб цэнтральных губэрнях, акраіны-ж, як колёніі, існавалі дзеля эксплёатацыі. Беларускімі саматужнікамі, як бачым, ня цікаваліся.

Толькі ў памятнай кніжцы па Менскай губэрні за 1890 г., выд. Менскага Статыстычнага Камітэту, зьмешчаны невялікі артыкул А. П. Смардоўскага аб географічным пашырэньні саматужных промыслаў па Меншчыне, а да памятнай кніжкі за 1901 г. дадана „ведомость кустарных промыслов“; бяз подпісу аўтара ёсьць вёсткі па Магілеўскай акрузе за 1910 год і па Віцебскай за гэты-ж год *). Такім чынам дасканалага вывучэньня беларускіх промыслаў і хатніх рамёстваў да сучаснага моманту мы ня маем. Наша задача зьяўляецца ў тым, каб як-мага хутчэй запоўніць гэты недахоп. Апошняе выклікаецца, тым, што надыходзячы аграрны крызіс патрабуе

*)—Доклад о кустарных промыслах Могилевской губ. И. М. Мусерского г. Могилев, 1910 год.—Хозяйственное положение и промыслы Витебской губ. Витебск, 1910 г.

большай рацыяналізацыі вясковай гаспадаркі, а гэтая справа ў значнай меры будзе залежаць ад разьвіцьця і пашырэньня промыслаў і хатніх рамёстваў. Самі сабою яны, бязумоўна, пашырацца ня будуць—патрэбен будзе цэлы шэраг розных мерапрыемстваў. Усе гэтыя мерапрыемствы могуць быць толькі вынікам усебаковага вывучэньня рамёстваў.

Перад кожным дасьледчыкам можа паўстаць пытаньне—як прыступіць да працы? Вывучыць адно рамяство альбо промысел якой-небудзь тэрыторыяльнай адзінкі—ці ўсе? Разьвязваньне гэтага пытаньня цалкам залежыць ад здольнасьцяй дасьледчыка і наяўнасьці матар‘ялу. Лягчэй, вядома, вывучыць адзін які-небудзь промысел на невялікай тэрыторыяльнай адзінцы, чым усе. Што датычыцца тэрыторыі, якую павінен ахапіць той ці іншы дасьледчык, я лічу, што лепш усяго даваць нарыс рамёстваў па раёнах. Апошняе, бязумоўна, не выключае таго, што хто-небудзь возьме меншую альбо большую тэрыторыяльную адзінку—вартасьць досьледу ад гэтага ня страціцца. Пераважнасьць за раёнам зьяўляецца ў тым, што з аднаго боку раён мае значную тэрыторыю, а з другого боку—сабраць весткі па раёне ў шмат разоў лягчэй, чым па акрузе. Прымаючы пад увагу, што знойдуцца дасьледчыкі, якія будуць цікавіцца асобнымі промысламі і рамёствамі, а побач з імі будуць і такія, якіх будзе цікавіць разьвіцьцё ўсіх промыслаў, дык ніжэй даюцца дзьве програмы: адна дзеля вывучэньня асобных промыслаў, а другая дзеля вывучэньня ўсіх промыслаў і рамёстваў.

Усе доследы і наогул матар‘ялы, якія высьвятляюць стан рамёстваў і промыслаў, просьба накіроўваць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце.

## Програма дзеля вывучэньня асобнага промыслу—рамяства.

1—Мясцовасьць і насельніцтва (назва акругі, раёну, паселішча, урочышча. Лік двароў і людзей. Соцыяльны склад насельніцтва).

2—Агульная характарыстыка промыслу (назва, ступень самастойнасьці, галоўны занятак, пабочны, тэрмін і працяг працы, лік асоб занятых промыслам, пашырэньне і асяродкі).

3—Гісторыя промыслу (час і прычыны ўзьнікненьня, росквіт, ці упадак, відазьмены).

4—Экономічныя ўмовы (характар зямлякарыстаньня, лік зямлі і яе якасьць. Забясьпечанасьць жывёлай, хто апрацоўвае зямлю. Ці ўва ўсіх ёсьць зямля).

5—Надворныя абставіны і вытворчасьць промыслу: а) дзе праходзіць праца, памер памяшканьня, у асобных памяшканьнях ці не. Наём памяшканьня, цана, рамонт, б) апісаньне інструмэнтаў, прыгатаўленьне, закупка, месца вы-

творчасьці іх, даўжыня іх працы, пракат, в) матар'ялы, назва іх, свае ці куплёныя, забясьпечанасьць матар'яламі, хто дастаўляе матар'ялы, якім парадкам набываюцца, д) апісаньне прыёмаў працы, мажлівасьць палепшаньня спосабаў вытворчасьці, удасканальваньні, прыдуманыя самімі саматужнікамі, адзіночная праца, падзел працы, вытворчасьць, е) гатовы продукт, падлік, сартыроўка, недахопы, ж) узоры, уласныя ці запазычаныя, хто прыдумвае, адкуль запазычаны, мастацтва ў промысьле.

6—Прадстаўнікі працы: а) хто працуе—мужчыны, жанчыны, дзеці. Ці ёсьць рабочыя, адкуль яны, на якую працу, чый інструмэнт, аплата, даўжыня працоўнага дня, в) вучні, с) арцелі, назва, тэрмін дзейнасьці, калі і як яны ўзьніклі, моманты якія спрыялі ўзьнікненьню, структура, капітал, недахопы, ці былі выпадкі распаду арцеляй і прычыны распаду, d) патрэбнасьць рамесьнікаў у сельска-гаспадарчых продуктах. Падаткі, чысты прыбытак, роля кошту продуктаў у бюджэце рамесьніка.

7—Капіталы. (Разьмер і тэрмін зваротаў. Свой ці чужы капітал. Крэдыт і які).

8—Збыт рэчаў. (Як збываюцца здабытыя рэчы, ці заўсяды, памер попыту, цана, скупшчыкі і заказчыкі, раён збыту).

9—Санітарна-культурныя ўмовы: а) пачатак і канец працы, уплыў на здароўе, асабістасьці хвароб, сьмяротнасьць, б) культурны стан, асабістасьці насельніцтва; уплыў промыслу; песьні аб промысьле; пісьменнасьць.

10—Агульныя вывады. (Выгоднасьць промыслаў, калі нявыгодны, дык чаму існуе, будучыня промыслу, неабходныя ўмовы дзеля яго існаваньня і пашырэньня, замена яго, высяленьне, выгады скупшчыкаў, коопэраваньне рамесьнікаў, мажлівасьць і неабходнасьць правільнага крэдыту).

## Програма па вывучэньні хатніх рамёстваў і промыслаў (раёну, акругі).

### Уступ.

1—Весткі аб вывучэньні промыслаў за мінулы час.

2—Мэтоды вывучэньня: (экспэдыцыйны, анкетны, выбарчы і інш.).

3—Паўната абхвату вывучэньня насельніцтва.

4—Дадатковыя весткі аб падліку.

### I.

### *Стан саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці за мінулы час.*

5—Лік асоб занятых у прамысловасьці (агульны, па сельсаветах, раёнах).

6—Лікавае параўнаньне з іншымі акругамі і ўдзельная вага сельскай рамесьніцкай прамысловасьці ў рэспубліцы.

7—Адноснае значэньне паасобных вытворчых груп.

| Назва вытворчых груп | Лік асоб занятых у рамесьн. прамысловасьці | % адносіны ліку асоб занят. у данай групе вытворчасьці | |
|---|---|---|---|
| | | Да насельніцтва | Да ліку ўсіх самат. і рамесьнікаў |
| 1. Здабыча і апрацоўка гліны, пяску, вапны. | 200 | 0,24 | 5,4 *) |
| 2. Апрацоўка мэталяў. | | | |
| 3. Выраб с.-г. інвэнтару: колаў, саней, сох, бар. | | | |
| 4. Хімічная апрацоўка дрэва. | | | |
| 5. Мэханічная апрацоўка дрэва. | | | |
| 6. Хімічная прамысловасьць. | | | |
| 7. Харчовая прамысловасьць. | | | |
| 8. Апрацоўка воласу, касьцей, рагоў і адбросаў скур. | | | |
| 9. Скураная і футровая прамысловасьць. | | | |
| 10. Апрацоўка шэрсьці. | | | |
| 11. Апрацоўка лёну апроч пражы і тканьня. | | | |
| 12. Апрацоўка пянькі і іншых валакністых матар'ялаў. | | | |
| 13. Выраб вопраткі, абутку і інш. | | | |
| 14 Прамысловае рыбацтва. | | | |
| 15. Розныя промыслы і рамёствы. | | | |

8—Конкрэтны пералік промыслаў, якія ўваходзяць у групы.

| Назва рамяства | Лік рамесьнікаў | На аднаго рамесьніка ў год | | На ўсіх рамесьнік. у год у тысяч. руб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Валавы продукт | Чысты прыбытак | Валавы продукт | Чысты прыбытак |
| Ганчарства. . . | 3.753 | 60 | 36,3 | 235,2 | 136,0 |

9—Выяўленьне разьмеру вытворчасьці і прыбытку па групах агулам і на аднаго чалавека.

10—Месца продукцыі рамесьніцтва ў балянсе прамысловасьці.

*) Лічбы ў сэхматычных табліцах даны, як прыклады.

| Назва групы (глядзі § 7) | Кошт продукцыі прамысловасьці па данай групе | Кошт продукцыі рамесьніцтва | % продукцыі рамесьніцтва складае адносна пр. прамыслов. |
|---|---|---|---|
| | | | |

11—Параўнаньне ліку рамесьнікаў мінулага часу з даным момантам.

12—Агульны лік рамесьнікаў і іх агульны прыбытак.

## II.

### *Рамесьнікі ў даны момант.*

13—Агульныя ітогі (лік рамесьнікаў і г. д.).

14—Агульныя паказьнікі становішча рамесьніцтва па сельсаветах, раёнах, акрузе.

| Назва акругі, раёну, сельсавету | Колькасьць рамесьнікаў | | | Усяго адзначана | | % адносіны паселішч і гаспадарак з рамесьн. да аг. ліку | | % адносіны рамесьнікаў да агульнага ліку насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У сельсаветах | Паселішчах | Гаспадарках | Лік прадпрыемстваў | Лік занятых асоб | Пас. | Гасп. | |
| N сельсав. | 273 | 283 | 2.052 | 2.051 | 54,2 | 2.476 | 15,2 | 4,5 |

15—Агульную вытворчую характарыстыку акругі даюць наступныя групавыя паказьнікі.

| Назва групы (глядзі § 7) | Лік рамесьніцкіх гаспадарак | Лік рамесьнікаў | % адносіны рам. данай групы да агульн. ліку насельн. | % адносіны данай групы да агульн. ліку рамесьнікаў |
|---|---|---|---|---|
| Рыбацтва . . | 769 | 895 | 0,1 | 0,8 |

16—Лік мужчын, жанчын і дзяцей па групах рамёстваў (на сто асоб, занятых рамяством прыходзіцца: мужчын, жанчын, дзяцей).

17—Наёмная праца.

18—Сэзоннасьць працы і яе працяг.

| Назва рамёстваў па групах (гл. § 7) | % рамёстваў, якія вядуць працу | | | | | Сярэдні працяг сэзону ў тыднях |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Увесь год | Вясною | Летам | У восень | Зімою | |
| Футравая . . . | 4,9 | 4,6 | 1,3 | 3,6 | 85,6 | 14 |

19—Сувязь рамесьнікаў з вясковай гаспадаркай.

| Групы па засеву | Рамесьн. гаспад. | Наогул гаспадаркі | Сярэдні памер засеву на адну гаспадаркі | |
|---|---|---|---|---|
| | у % | у % | Рамесьн. гаспад. | Наогул гаспадарку |
| Безьзямельныя . | 0,9 | 0,4 | — | — |
| Ад 0,1 да 2 дзес. . | 14,5 | 30,1 | 1,5 | 1,4 |
| Ад 2,1 да 5 дзес. . | | | | |
| Ад 5,1 да і звыш. . | | | | |

20—Валавая продукцыя рамесьніцкай прамысловасьці.

| Назва групы (глядзі § 7) | Агульная сума валавой продукцыі | % сумы групы да ітогу |
|---|---|---|
| | | |

21—Валавая продукцыя і страты вытворчасьці па асобных вытворчых групах.

| Назва групы (глядзі § 7) | Цана валавой продукцыі | Элемэнты валавой продукцыі | | | | Элемэнты чыст. прод | | | Прыбытак на аднаго рамесьніка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сырэц і матар. | Апал і асьвятл. | Чыстая продукц. | Рамонт і арэнда | Зарплата | Іншыя выдаткі | Чысты прыбыт. | |
| | | | | | | | | | |

22—Выдаткі па ўсіх промыслах.

| Назва выдаткаў | Агульная сума | % да цаны валавой продукцыі |
|---|---|---|
| 1. Цана перапрацованага сырцу і матар'ял. | | |
| 2. Цана апалу і асьвятленьня . . . | | |
| 3. Амортызацыя аснаўнога капіталу . . | | |
| 4. Чыстая продукцыя (каштоўнасьць, якую дае хатняя прамысловасьць) . . . | | |

23—Вытворчасьць працы.

24—Формы эксплёатацыі ў хатняй прамысловасьці (дзяржаўная, коопэрацыйная, прыватная, арцелі).

III

25—Склад хатняй прамысловасьці і яе географічнае пашырэньне.

Прыклад: *рыбацтва*—ак яно разьвілося. Лік паселішч, гаспадарак, асоб, якія займаюцца гэтым промыслам. Сума продукцыі, даўжыня сэзону, географія.

*Апрацоўка каменю, гліны і інш.*

| Назва рамяства | Лік паселішч | Лік гаспадарак | Лік асоб | Валавая продукцыя | На аднаго чалавека | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Валавой продукц. | Чыстага прыбытку | Сэзон работы ў тыднях |
| Вапна . . | | | | | | | |
| Цэгла . . | | | | | | | |
| Гаршчкі . . | | | | | | | |

Географія (м-ка Ракаў 20 асоб вырабляюць продукцыі на 2.500 руб.).

26—Вывады.

# III. Школьна-краязнаўчая сэкцыя.

## Краязнаўства ў школе.

Пытаньням краязнаўства ў школе ў сучасны момант надаецца шмат увагі, як з боку органаў краязнаўства, так і з боку ўстаноў Народнага Камісарыяту Асьветы.

Звычайна, калі ідзе гутарка пра краязнаўства ў школе, то заўсёды маецца на ўвазе вясковая аднакамплектная школа, сямігадовая школа і школа сялянскай моладзі.

Паўстае пытаньне: 1) У якой меры гэтыя школы могуць прыняць удзел у вывучэньні сваёй мясцовасьці? 2) Якім парадкам узгодніць гэтае вывучэньне з навучальнымі плянамі памянёных школ? 3) Якія вынікі можна атрымаць з гэтага вывучэньня?

Справа ў тым, што краязнаўства, у навуковым разуменьні гэтага слова, вывучае не агульныя законы зьяў жывой і няжывой прыроды, соцыяльна-экономічнага і культурна-гістарычнага жыцьця, а яно цікавіцца тымі асаблівасьцямі ў прыродзе, экономіцы і быце, дзякуючы якім, краіна набывае асаблівую, толькі ёй уласьцівую афарбоўку. Яно, краязнаўства, вывучае не наогул геолёгію, паверхню, флёру і фаўну краіны, фольклёр і быт яе насельніцтва, а яно цікавіцца тымі асаблівасьцямі, якія наглядаюцца ў зьявах вя-

домай мясцовасьці і шукае для іх тлумачэньня.

Гэта вывучэньне адбываецца паводле наступнага пляну (па Дзонс-Літоўскаму):

а) учот і зьбіраньне матар'ялу;

б) разьмеркаваньне яго па месцы і часе;

в) вывучэньне гэтага матар'ялу і выкрыцьце залежнасьці паміж фактамі і зьявамі;

г) навуковае ўпарадкаваньне (клясыфікацыя) матар'ялу;

д) навуковы сынтэз і

е) практычныя вынікі.

Для больш-менш дакладнага ўяўленьня сабе ступені ўдзелу школы ў гэтай працы пазнаньня сваёй краіны, разгледзім паасобку элемэнты, з якіх складаецца школа: настаўніка, вучня, школьныя програмы і абсталяваньне школы.

Настаўніцтва старэйшых кляс нашых сямігодак у пераважнай сваёй большасьці—з вышэйшай кваліфікацыяй, гэта—скончыўшыя наш ВУЗ і былыя настаўніцкія інстытуты. Аднакамплектныя школы і наогул школы першага концэнтру ўкамплектаваны маладым настаўніцтвам з пэдтэхнікумаў і настаўніцтвам з былых настаўніцкіх сэмінарыяў. І толькі нязначная частка настаўніцтва без належнай падрыхтоўкі. Уся гэтая армія асьветнікаў, узятая ў цэлым, складае спадзеўную і рэальную сілу для вядзеньня сталай краязнаўчай працы. Асабліва, калі прыняць пад увагу, што на пытаньні краязнаўства, як агульнага, так і школьнага ў вучэбным пляне Наркамасьветы па перападрыхтоўцы настаўніцтва, адводзіцца значны лік гадзін. А ў апошнія часы, здаецца, сьпее думка пра організацыю спэцыяльных краязнаўчых курсаў для настаўніцтва пры ЦБК. Даводзіцца пашкадаваць, што ў навуковых плянах нашых пэдтэхнікумаў і БДУ не адводзіцца месца для пытаньняў краязнаўства.

Пяройдзем да вучня. Тут, папершае—трэба мець на ўвазе ўзрост вучняў першага концэнтру—узрост да пачатку палавога дасьпяваньня і, падругое—узрост вучняў другога концэнтру—узрост палавога дасьпяваньня і далейшага афармленьня псыхічных здольнасьцяй вучняў.

Па навуковых вестках, вучні першага концэнтру характарызуюцца наступнымі рысамі: у іх „павялічваецца зыбкасьць увагі і яе здольнасьць да разьмеркаваньня; нагладаецца, значны процэс у разьвіцьці наглядальнасьці (пачынаючы з 7 год); павялічваецца памяць; дзіця ўсё болей і болей пачынае ўжо наперад складаць сабе плян (напрыклад—гульняй, сваіх заняткаў і г. д.); з сямі да дзесяці год ужо пераважае об'ектыўная цікавасьць (гэта значыць расцэнка рэчаў без расцэнкі яе значэньня толькі для сябе); нагладаецца больш працяжная валявая напружнасьць. Але ўсё-ж яшчэ кола рэальных ведаў і ўяўленьняў—няпрыметнае; на-

глядаецца ўжываньне слоў побач з няведаньнем іх значэньня“ *).

Адносна программ першага концэнтру трэба зазначыць, што яны, асабліва ў III годзе навучаньня, цалкам вызначаюцца сваім краязнаўчым зьместам. Досыць пералічыць комплексы III году навучаньня: „Наш раён“, „Наш акруговы горад“, „Наша краіна“ (акруга), каб упэўніцца ў гэтым. Менш краязнаўчых комплексаў у IV годзе навучаньня: „Беларусь“, „Кастрычнікаўская рэволюцыя“, „СССР і галоўныя капіталістычныя дзяржавы“, „Сусьвет і месца зямлі ў ім“ і „Новая вёска“.

Гаворачы аб перапрацоўцы програм III і IV гадоў навучаньня больш за ўсё маюць на ўвазе так званы краязнаўчы мэтод, ці краязнаўчы падыход да азнаямленьня вучняў з сваёй мясцовасьцю, або, як кажуць, з сваім краем. Пры гэтым пад краем мысьліцца (для гэтага ўзросту) вёска, мястэчка, фабрычны пасёлак, горад, сельсавет, раён, акруга.

Краязнаўчы мэтод, ці падыход у школьнай працы мае на ўвазе:

а) навучыць вучня бачыць новае ў знаёмым;

б) навучыць разважаць адносна бачанага;

в) прывучыць, заахвоціць вучня да сыстэматычных наглязаньняў;

г) падвесьці вучня да мажлівасьці самастойнага пераадкрыцьця зьяў і законаў прыроды і г. д. Словам, маецца на ўвазе разьвіцьцё псыхічных здольнасьцяй вучня: увагі, успрыманьня, разважаньня, кола рэальных ведаў і ўяўленьняў, мовы і г. д. на мясцовым матар‘яле.

Відавочна, што такі падыход да працы патрэбен і неабходзен. Але нас больш цікавіць тая краязнаўчая праца, якая пасільна вучням гэтага ўзросту, поплеч з перапрацоўкай програмы і набываньнем формальных звычак у звычайнай пісьменнасьці.

Калі ў вучняў гэтага ўзросту павялічваецца „увага, наглядальнасьць, об‘ектыўная цікавасьць, больш працяжная валявая напружанасьць і г. д., дык бязумоўна з імі мажліва нейкая краязнаўчая праца ў межах сяла, гораду, сельсавету ці раёну.

Гэта праца мысьліцца: а) як сыстэматычнае назіраньне за пагодай, як азнаямленьне вучняў з мясцовай глебай, яе складам, выкапнямі (калі яны ёсьць), б) мясцовымі расьлінамі і жывёламі, залежнасьцю іх жыцьця ад мясцовай прыроды, в) азнаямленьне з заняткамі насельніцтва і г. д. Знаёмячыся з складам глебы свайго сяла, з залежнасьцю яе ўрад-

*) Табліца псыхолёгічных роўналежнасьцяй, укладзеная А. А. Гайвароўскім, пад рэд. проф. С. М. Васілеўскага. Асьвета № 4, 1926 г.

лівасьці ад таго ці іншага ўгнаеньня,—вучань можа атрымаць веды па сельскай гаспадарцы.

Вучні гэтага ўзросту, нават бяз ніякага кіраўніцтва з боку настаўніка, могуць самастойна і падрабязна апісаць якую-небудзь хатнюю працу, звычай, адносіны бацькоў да сучаснага і мінулага, паколькі яны выяўляюцца ў размовах бацькоў; могуць з поўным посьпехам весьці бюджэт хатніх і гаспадарчых выдаткаў сваіх бацькоў.

Такім парадкам, шляхам азнаямленьня з рэальнымі, акаляючымі вучня прадметамі, з іх значэньнем для чалавечага жыцьця, вучань будзе папаўняць свой запас рэальных ведаў і ўяўленьняў, будзе павялічваць свой слоўнікавы скарб, а разам з тым будзе рыхтавацца да практычнага жыцьця і набываць звычкі ў краязнаўчай працы. І конкрэтным вынікам гэтай працы можа зьявіцца: а) запіс фэнолегічных нагляданьняў, гэрбары вывучаных вучнямі расьлін, моноліты мясцовых грунтоў, якія знойдуць сваё месца ў школьным, або ў мясцовым раённым краязнаўчым музэі.

Пяройдзем зараз да другога концэнтру. Вучні гэтага ўзросту (узросту палавога дасьпяваньня) характарызуюцца наступнымі рысамі: „зьяўленьнем інтэлектуальнае ўвагі; павялічэньнем паўнаты ўспрымальнасьці, зьніканьнем ільлюзыянізму; мысьленьне гэтага ўзросту больш об'ектыўнае; разьвіваецца здольнасьць да індукцыйных абагульненьняў і адцяглага мышленьня; разьвіваецца здольнасьць да дыфэрэнцаванага абдумваньня матар'ялу; пачынае разьвівацца рацыянальнае запамінаньне; павялічваецца дакладнасьць азначэньняў. Пад канец школьнага ўзросту пачынаецца больш шпаркае разьвіцьцё эстэтычных і інтэлектуальных пачуцьцяў. З 10-ці да 15-ці год (па Нодзю) разьвіваецца спэцыяльная працяжная захопленасьць, напрыклад—колекцыянаваньнем, кніжкамі і г. д. А па Мэйману, вучань у гэтым узросьце (15 год), пачынае дасканала і ўсебакова разьбірацца ў тэй галіне, якая яго цікавіць. Мэты гэтага ўзросту больш сьвядомыя, валявая напружнасьць больш працяжная; павялічваецца актыўнасьць; зьяўляецца цікавасьць да вандраваньняў.

Прымаючы пад увагу гэтую характарыстыку, можна з упэўненасьцю сказаць, што вучням другога концэнтру, а таксама і вучням школ сялянскай моладзі ў поўнай меры пасільны наступныя бакі краязнаўчай працы (вядома пад кіраўніцтвам настаўніка):

а) учот і зьбіраньне краязнаўчага матар'ялу (цікавасьць да колекцыянаваньня і вандраваньня, здольнасьць усебакова разьбірацца ў галіне, якая яго цікавіць, працяжная валявая напружнасьць,—даюць для гэтага грунт),

б) разьмеркаваньне матар'ялу па месцы і часе,

в) вывучэньне краязнаўчага матар'ялу і выкрыцьце за-

лежнасьці паміж фактамі і зьявамі (апіраецца на: зьяўленьне інтэлектуальнае ўвагі і паўнаты ўспрымальнасьці, об‘ектыўнае мысьленьне, здольнасьць да індукцыйных абагульненьняў, дыфэрэнцаванае абдумваньне матар‘ялу і г. д.).

З невялікімі выключэньнямі можна згадзіцца і з тым, што гэтаму ўзросту ўласьціва да вядомай ступні і навуковая сыстэматызацыя прыродазнаўчага матар‘ялу.

Што ня змога для гэтага ўзросту, дык гэта—навуковы сынтэз і сталыя практычныя вынікі. Хоць вядомыя вынікі вучнёўскае краязнаўчае працы могуць быць, але пра гэта ніжэй.

Пры самым павярхоўным азнаямленьні з програмамі школы другога концэнтру, кідаецца ў вочы іх, часамі выразны, краязнаўчы зьмест: няма таго закону, або палажэньня, каб яны не лёкалізаваліся на мясцовым матар‘яле.

Програмы па прыродазнаўству даюць азнаямленьне: 1) з расьлінамі, іх будовай (а ў зьвязку з гэтым і з некаторымі хімічнымі зьявамі)—V кл.; 2) з жывёламі (карыснымі і шкоднымі)—VI кл.; і 3) з хімічнымі зьявамі—VII кл.

Прыводжу некаторыя выняткі з гэтых програм: „расьлінныя згуртаваньні прыродныя і штучныя; прычыны разьмеркаваньня расьлін у абшары вядомай краіны“.

„Прылады для вывучэньня пагоды“.

„Элемэнтарны аналіз глебы. Элемэнтарны аналіз угнаеньня. Расьлінныя згуртаваньні. Лясное згуртаваньне. Флёра балота. Забалочваньне“...

„Барацьба з шкоднікамі сельскае гаспадаркі“ і г. д.

Вось як раіцца распрацоўваць гэты матар‘ял у тлумачэньні да програм (V кл.):

„Усё жыцьцё расьлін павінна разглядацца з трох бакоў: жыцьцё расьліны, як асобнага індывідууму, як члена гуртовых расьлін і як прадстаўніка віду. На гэтай ступені ўжо неабходна прыступіць да практычнага азнаямленьня *з сыстэматыкай мясцовых расьлін пры дапамозе вызначніка і зельніка*.

Програма па фізыцы з першай-жа старонкі пачынаецца так:

„Экскурсіі да крыніцы, студні, артэзіянскай студні. Гутарка аб зьбіраньні вады пад зямлёй“.

„Праверка паказаньняў баромэтра на мэтэоролёгічнай станцыі“.

„Рэгулярныя нагляданьні над тэмпэратурай паветра. Пабудова графіка. Знаходжаньне сярэдняй месячнай тэмпэратуры“.

„Атмосфэрныя ападкі“.

„Экскурсіі на фабрыкі, заводы, майстэрні“. Выкладаньне фізыкі, гаворыцца ў паясьняльнай запісцы, павінна „грунта-

ваццa на назіраньнях і досьледах зьявішч прыроды і асабліва на вывучэньні зьявішч у працэсе выкарыстоўваньня іх чалавекам у прамысловасьці і штодзённым жыцьці“. Там-жа выказваецца думка пра вялікую карысьць досьледаў, калі яны робяцца на самадзельных вучнёўскіх прыладах.

Гэтая думка вельмі каштоўная (хоць і ня новая) у тым сэнсе, што дае выйсьце ў пытаньні пра абсталяваньне школьнае мэтэоролёгічнае станцыі.

Спрыяе вядзеньню краязнаўчай працы ў школе і програма па матэматыцы. Ёсьць тут і

„Прасьцейшае здыманьне пляну эккерам і кутамерам, прасьцейшай астролябіяй“.

„Вылічэньне плошчы па пляну і праверка яго ў натуры“.

...„Майстраваньне астролябіі (прасьцейшай), мэнзулы, нівэліра, рэек“...

„Здыманьне пляну“.

Грамадазнаўства разглядае: беларускую вёску, і беларускі горад з іх сучаснымі гаспадаркамі, экономікай і політычным жыцьцём; беларускі фэўдалізм; эпоху гандлёвага капіталізму ў Зах. Эўропе, Расіі і Беларусі... Гісторыю Беларусі XIX і XX сталецьця.

Аб програме па беларускай мове і літаратуры гаварыць не даводзіцца. Тут мы знойдзем усё,—пачынаючы ад „сучасных частушак, прыказак, прыказак аб паншчыне—і канчаючы вывучэньнем нашых пролетарскіх пісьменьнікаў.

З гэтага кароткага азнаямленьня з програмамі мы бачым, што яны часамі літаральна вымагаюць ад настаўніка і вучняў такой працы, якая па сваім зьмесьце і значэньні зьяўляецца краязнаўчай працай: нагляданьні за пагодай, экскурсіі, сучасныя прыказкі, дрындушкі і г. д.*).

Ясна, што нашы програмы наскрозь прасякнуты элемэнтамі краязнаўства. І вось, для накіраваньня да вядомых рэальных вынікаў гэтай, будзем казаць „програмнай“ краязнаўчай працы нашых сямігодак і школ сялянскай моладзі, для больш дакладнага акрэсьленьня задачы і форм гэтай працы, пры кожнай школе неабходна вылучэньне вучнёўскага і настаўніцкага актыву ў школьны краязнаўчы гурток. Ён мае вялікае значэньне як у сьценах школы, так і па-за школай.

Папершае, дзякуючы гуртку, ня будзе парывацца і прыпыняцца краязнаўчая праца, распачатая ў першым концэнтры школы (пачынаючы з III і IV гадоў навучаньня),—наадварот,—яна будзе шырыцца і паглыбляцца; падругое,—усе тыя вынікі „програмных“ нагляданьняў, досьледаў і задань-

*) Цэнтр. Дасьл. Школа зараз працуе над комплекснымі програмамі, якія ячшэ больш надаюць сямігодцы краязнаўчага і марксыцкага зьместу.

няў, экспанатаў, сабраных у часе экскурсій,—будуць так ці інач́ай скарыстаны, што мае вялікае значэньне ў пэдагогічнай практыцы: калі вучань пабачыць, што вынікі яго працы маюць нейкую каштоўнасьць, гэта заахвочвае яго і да далейшай працы; патрэцяе—тыя фэнолёгічныя і іншыя нагляданьні, якія школа вядзе ў „програмным" парадку, дзякуючы гуртку будуць працягнуты і ў час летняга перапынку, а гэта няміну̀ча зьвяжа школу з акаляючым жыцьцём. Нарэшце, немалое значэньне гуртка і ў тым, што ён накіруе зьлішак вучнёўскае энэргіі часу палавога дасьпяваньня ў бок карысных, навуковай цікавасьці, інтарэсаў.

Трэба падкрэсьліць неабходнасьць сувязі гуртка з комсамольскімі організацыямі. Гэтая сувязь пазбавіць гурток мажлівых палітычных хібаў і, бязумоўна, працягнецца вучнямі пасьля сканчэньня школы і зьнітуе моладзь на грунце палітычных і краязнаўчых інтарэсаў. Комсамольскія організацыі могуць прыняць чынны ўдзел у працы гуртка ў тых разох, калі яна будзе выходзіць па-за сьцены школы.

Мэты і задачы гуртка вызначаюцца яго статутам у наступным выглядзе*).

§ 1. „Гурток краязнаўства пры N... школе мае мэтай:

а) усебаковае вывучэньне і дасьледваньне сваёй тэрыторыі ў прыродна-географічным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным стасунках у межах (вёскі, мястэчка, сельсавету ці раёну);

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем сваёй тэрыторыі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамадзянства.

Зьмест працы школьных краязнаўчых гурткоў вызначаецца § 3 Статуту, паводле якога школьны краязнаўчы гурток:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтодах і выніках сваёй працы;

б) організуе лекцыі, вечарыны, дыспуты і г. д.

в) організуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае організацыі музэяў і габінэтаў сваёй школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых організацый;

е) зьбірае бібліотэчку, адпаведна сваім заданьням;

ж) у сваёй дзейнасьці кіруецца інструкцыямі і програмамі, выданымі ЦБК, і радамі раённага таварства краязнаўства;

*) Статут гуртка краязнаўства пры N школе, зацьверджаны Наркамасьветы 15 студзеня 1927 г. пад № 38. Асьвета № 8, стар. 108. 1926 г.

з) зносіцца з краязнаўчымі організацыямі.

Мне здаецца, што вакол выконваньня гэтага пляну, запаўненьня яго жывым зьместам, згуртуецца ўвесь жывы актыў вёскі і гораду, пачынаючы, вядома, ад школы і комсамольскіх організацый і канчаючы бацькамі вучняў. І запраўды, хто не пацікавіцца дакладам пра вынікі нагляданьняў за пагодай, пра пахаджэньне таго ці іншага шкодніка вясковай гаспадаркі і пра способы змаганьня з ім: хто не захоча ведаць пра лекавыя расьліны свойго раёну і г. д.

Але гэта ня ўсё. Напрыклад, адзін або некалькі гурткоў могуць вывучыць бюджэт некалькіх тыповых гаспадарак, што можа мець значэньне для нашых гаспадарчых органаў.

„Усе задачы навучаньня трэба ставіць, каб кожны дзень, у любой вёсцы, у любым горадзе, моладзь разьвязвала практычна задачу агульна-грамадзкай працы, няхай маленькай, няхай самай простай“ (Ленін).

Гэта самае трэба сказаць і адносна школьнага краязнаўства: яно павінна мець так званы „вытворчы“ характар. Якія-ж задачы краязнаўчага зьместу а разам з тым і вытворчага характару,. можа разьвязваць моладзь у школьным краязнаўчым гуртку?

На школьным кавалку зямлі гурток можа дасьледваць: а) сарты зялёнага ці штучнага ўгнаеньня, найбольш карыснага для глебы вядомай вёскі; б) способы паляпшэньня мясцовых сартоў насеньня; в) прыстасаваньне заводнага насеньня да прыродных умоў вёскі; г) распачаць вывучэньне шкоднікаў садоў і гародаў і способаў змаганьня з імі і г. д., і г. д.

Вядома, што ў гэтай працы, як і ва ўсякай новай працы, патрэбна вялікая асьцярожнасьць з боку кіраўніка школьнага краязнаўчага гуртка—настаўніка.

Няхай гурток прыстасуе да мясцовых умоў хоць адно добрае заводнае насеньне, няхай выкрые хоць аднаго шкодніка саду, ці гароду і навучыць, як зьнішчыць яго,—і гэта ўжо будзе вялікае дасягненьне школьнага, памойму, „вытворчага“ краязнаўства. І такая праца ніколі не пашкодзіць школьнай вытворчасьці—заняткам, бо будзе рабіцца ў вольны ад заняткаў час.

Мне вядомы выпадкі, калі слава школы стаяла высака ня толькі таму, што там добра вучаць, а і таму, што на школьным гародзе радзіла капуста, што там „бульба расла, як каменьне“, што школьная пшаніца стаяла, „як устрыжана“ і паўгара пуда на чвэрці дзесяціны дала 22 пуды ўмалоту.

Вывучаючы слоўнік жывой мовы, праявы старога і новага быту ў горадзе і вёсцы, гурток з комсамольскай організацыяй можа павесьці змаганьне з нездаровымі праявамі ў гэтых бакох мясцовага жыцьця.

Ужо нечага гаварыць пра тое, што гурток можа заха-

ваць ад зьнішчэньня шмат рэчаў гісторыка-археолёгічнай вартасьці, сабраўшы іх у свой музэй. Усім вядомы дзіцячыя „знаходкі“ „грымотных“, або „пяруновых стрэл“ (прылады каменнага веку). Гэта самае можна сказаць і адносна „зьмяіных“, ці „чортавых грошай“ (клады).

У выніку ўсебаковага вывучэньня вядомай мясцовасьці праз некаторы час у школе павінна зьявіцца „жывая“ карта гэтай мясцовасьці: яе глебы, расьлін, жывёл, прамысловасьці, гушчыні насельніцтва і г. д. Усё гэта патрэбна рабіць тым больш, што і програма патрабуе праверкі старых плянаў і маляваньне карт свае мясцовасьці.

У горадзе сіламі школ можа быць зроблены „жывы“ плян гарадзкой прамысловасьці. І калі гэты плян штогодна паднаўляць, ён будзе надзвычайна цікавай і каштоўнай працай і ў першую чаргу для школ гораду.

У зьвязку з збіраньнем і захаваньнем экскурсійнага і іншага краязнаўчага матар'ялу, паўстае пытаньне пра організацыю школьнага краязнаўчага музэю і пра яго адносіны да раённага музэю.

Гэтага падзелу рабіць ня варта і вось чаму: зносячы свае знаходкі ў мясцовы краязнаўчы музэй, вучні будуць бачыць грамадзкую каштоўнасьць сваёй працы, а бацькі могуць пераканацца, што іх дзеці ня толькі „ходзяць па полі, ды лісьцё збіраюць“, а з зьбіраньня бывае карысьць. Нарэшце, гэтае зьбіраньне можа зацікавіць і бацькоў вучня, што можа даць надзвычайна добрыя вынікі для справы. Гэтая супольная праца старых і малых, паміж іншым, будзе зьбліжаць школу з грамадзянствам.

Нарэшце, дзякуючы выхаваўчаму ўплыву гуртка, з яго ўдзельнікаў можа стварыцца спадзеўны актыў па ахове прыроды.

Такім парадкам:

1. Перад школай, пачынаючы з III году навучаньня, мажліва пастаноўка задач краязнаўчага зьместу.

2. Для разьвязваньня гэтых задач пры кожнай школе неабходна ўтварэньне школьнага краязнаўчага гуртка паводле зацьверджанага статуту. (Асьвета № 8, 1926 г.).

3. Праца гуртка павінна мець вытворчы характар.

4. Гурток не перашкаджае школьнай працы, а дапамагае вучням актыўна вывучаць акаляючае жыцьцё.

5. Праца ў гуртку, у цеснай сувязі з Комсамолам, рыхтуе з вучняў малады з марксыцкім сьветаглядам краязнаўчы актыў.

---

# Краязнаўчая праца ў Вузах БССР.

Са справаздачных дакладаў ЦБК, якія заслуханы намі на Зьезьдзе, мы можам канстатаваць, што да апошняга часу ў краязнаўчую працу ўцягнуты вельмі нязначны лік студэнтаў Вузаў і тэхнікумаў. Процант студэнцтва ў краязнаўчых т-вах пры нашых Вузах і краязнаўчых організацыях пры тэхнікумах зусім мізэрны. Яшчэ менш зацікаўлены ў гэтай працы навуковыя супрацоўнікі, выкладчыкі і профэсура. Ніякай увязкі між навучальнымі плянамі і краязнаўчай працай ня было. А між тым Вузы і тэхнікумы зьяўляюцца тымі ўстановамі, дзе краязнаўчая праца павінна асяродкавацца, дзе матар'ялы па вывучэньні краю павінны навукова распрацоўвацца. Тут павінны выхоўвацца будучыя організатары краязнаўчага руху ў раёнах, кваліфікаваныя працаўнікі для вёскі. І цяпер, калі пачынаецца новая фаза краязнаўчага руху—пераход ад організацыйнай працы да дасьледчай, ад колькасьці да якасьці—неабходна краязнаўчую працу ў Вузах і тэхнікумах паставіць на належную вышыню. Гэтая праца павінна стаць працягам вучэбнай працы па-за сьценамі Вузу і тэхнікуму. Яна павінна стаць ля, бораторна-дасьледчай працай, скарыстаньнем на практыцы, у жыцьці тых тэорэтычных ведаў, якія студэнт атрымоўвае ад Вузу ці тэхнікуму.

Гэтую асноўную задачу можна вырашыць у двох напрамках. Перш-на-перш, мы павінны дабіцца таго, каб навуковая праца, навуковыя досьледы, програмы і навучальныя пляны Вузаў і тэхнікумаў былі больш прасякнуты краязнаўчым зьместам, каб краязнанаўчая праца студэнцтва ўвязвалася з асноўнымі дысцыплінамі на адпаведных факультэтах і аддзяленьнях, каб яна праходзіла пад кіраўніцтвам адпаведных профэсароў і лектароў, каб было зьнішчана саматужніцтва ў зьмесьце краязнаўчай працы, каб былі ўсталяваны аднолькавыя формы яе, вызначаны об'екты яе і апрацаваны програмы па тым ці іншым пытаньні краязнаўства.

Падругое, кожны студэнт—будучы агроном, каморнік, пэдагог, доктар, незалежна ад таго, ці працуе ён у краязнаўчым т-ве Вузу ці не, павінен быць азнаёмлены з мэтодыкай краязнаўства, бо па сканчэньні Вузу яму прыдзецца спаткацца з гэтай працай, вясьці яе, кіраваць гэтым рухам. З гэтае прычыны ў такіх Вузах, як БДУ і СГА трэба дабівацца заснаваньня катэдры краязнаўства, а ў пэдагогічных і іншых тэхнікумах і вышэйшых школах неабходна ўвесьці, як асобную дысцыпліну, мэтодыку краязнаўства.

У організацыйным напрамку перад намі стаіць задача ўцягнуць у краязнаўчую працу як-мага больш студэнцтва, так популярызаваць краязнаўства сярод студэнтаў, каб яны зразумелі, што гэтая праца ёсьць частка іх навукова-дасьледчай

працы, тэй працы, якую студэнты праводзяць у габінэтах і лябораторыях, з тэю толькі розьніцай, што ляборатoрыяй у гэтым выпадку зьяўляецца само жыцьцё. Трэба заўважыць, што студэнцтва толькі тады можна ўцягнуць у краязнаўчую працу, калі яно будзе бачыць, што вынікі працы выкарыстоўваюцца як адпаведнымі сэкцыямі Інбелкульту, так і катэдрамі навучальных устаноў.

Што датычыцца формы і зьместу краязнаўчай працы студэнтаў, дык трэба разьмежаваць працу ў часы вучобы і працу летнюю, у часы вакацый. У часы вакацый студэнт-краязнаўца—найлепшы кіраўнік, інструктар краязнаўчых гурткоў і арганізацый у раёнах, школах і павінен сваю працу, вывучэньне таго ці іншага пытаньня на мясцох, увязваць з мясцовымі краязнаўчымі арганізацыямі з мэтай дапамогі і выкарыстаньня досьледаў, якія там ёсьць. У зімовы час усе сабраныя студэнцкімі краязнаўчымі арганізацыямі матар'ялы распрацоўваюцца, абгаварваюцца ў адпаведных сэкцыях і г. д.

Увязваючы сваю краязнаўчую працу з мясцовымі арганізацыямі, т-вы пры БДУ, СГА, Вэтінстытуце, Комвузе падлягаюць непасрэднаму кіраўніцтву ЦБК. Заснаваньне пры ЦБК спэцыяльнай сэкцыі, праз якую ЦБК будзе кіраваць краязнаўчай працай студэнцтва, дасьць магчымасьць усю працу праводзіць плянава, больш продукцыйна, чым яна праводзілася дагэтуль. Таксама той факт, што студэнцкія краязнаўчыя арганізацыі будуць у далейшым працаваць па асобным статуце, павінен аб'яднаць у працы як студэнтаў, так і профэсуру.

Што датычыцца краязнаўчых арганізацый тэхнікумаў і іншых навучальных устаноў павышанага тыпу, дык яны, зьвязваючы сваю працу з мясцовымі краязнаўчымі арганізацыямі, падлягаюць агульнаму непасрэднаму кіраўніцтву акруговых т-ваў краязнаўства і таксама працуюць па асобным статуце.

---

# Праца Яўрэйскай сэкцыі.

## Вывучэньне мястэчка.

*(Зьмест дакладу т. Аляксандрава).*

Наша мястэчка зусім ня вывучана—вось з чаго прыходзіцца пачаць, прыступаючы да пастаноўкі проблемы вывучэньня мястэчка. У адмену ад двух іншых соцыяльна-экономічных тыпаў паселішчаў—вёскі і гораду, якія ўжо з даўных часоў зьяўляюцца об'ектамі дэтальнага вывучэньня з боку экономістаў, статыстаў, географаў і інш., мястэчка стаяла

ўбаку ад вялікіх шляхоў навуковага абсьледваньня. Якія-ж прычыны гэтага.

Перш за ўсё прыходзіцца адзначыць *прамежкавае становішча мястэчка, як соцыяльна-экономічнага тыпу.* Яно, калі можна так сказаць, „ні к сялу, ні к гораду“, дакладней кажучы, экономічна знаходзіцца паміж горадам і вёскаю. З прычыны цэлага шэрагу ўмоў спэцыфічных і характэрных для Беларусі і Літвы, а таксама некаторых частак Украіны (Падолія—Валынь), мястэчка на працягу шэрагу вякоў зьяўлялася пасрэднікам паміж вясковымі і гарадзкімі групамі насельніцтва. Рознастайнасьць заняткаў местачковага насельніцтва, пазбаўляла мястэчка з аднаго боку найбольш характэрнай адзнакі вёскі, як соцыяльна-экономічнага тыпу—*аднастайнасьці* профэсіянальнага складу, з другога—дробны характар рамяства, гандлю, адсутнасьць экономічнага размаху, характэрнага для фабрычна-заводзкай прамысловасьці—не даваў магчымасьці залічаць мястэчка да гарадзкога тыпу паселішча. Адзначаныя моманты спэцыфічнасьці мястэчка спрыялі таму, што ў розных абсьледваньнях мястэчка толькі адзначалася, як „выключэньне з правіла“, але не вывучалася.

Другая прычына—асаблівасьці нацыянальнага складу местачковага насельніцтва. Пераважнасьць яўрэйскай масы сярод местачковага насельніцтва, політыка прыгнечаньня, якая праводзілася ў адносінах да яе з боку расійскага самаўладзтва з самага моманту далучэньня Беларусі і Украіны да Расіі да рэволюцыі 1917 году—гэтая політычная абставіна накіравала цікавасьць ня ў бок об'ектыўнага вывучэньня мястэчка, а ў бок абароны, або крытыкі мерапрыемстваў, накіраваных супроць яўрэйскага мястэчка.

Мястэчка сталі разглядаць не як паселішча асаблівага экономічнага тыпу, а *як яўрэйскае паселішча.* Гэта ў выніку прывяло да таго, што з-за спэцыфічных адносін з боку офіцыяльных прадстаўнікоў улады да яўрэяў *забываліся пра мястэчка, як такое.*

У выніку гэтых прычын, якія зьяўляюцца па нашай думцы галоўнымі ў пытаньні, якое нас цікавіць, мястэчка засталося зусім не абсьледваным. Вёскаю цікавіўся статыстык і агроном, прамысловасьцю гораду цікавілася фабрычная інспэкцыя—так ці іначай, але гэтыя офіцыяльныя прадстаўнікі ўлады пакінулі значны матар'ял па гісторыі разьвіцьця гаспадаркі гораду і вёскі. Мястэчкам-жа амаль ніхто ня цікавіўся.

Ня лепш стаіць справа і з вывучэньнем мястэчка ў яўрэйскай публіцістычнай і навуковай літаратуры. Колькасьць экономічных абсьледваньняў яўрэйскага насельніцтва адносна невялікая, а местачковае насельніцтва закранута імі ў агульным выглядзе, не бярэцца пад увагу спэцыфічнасьць

местачковай экономікі, як тыповай. Экономічная клясыфікацыя яўрэйскага насельніцтва падпала агульнай норме—дзяленьню на вясковае і гарадзкое насельніцтва, і нават у такой капітальнай працы, як „Сборник материалов об экономическом положении евреев в Росии" (Выд. Яўрэйскага Комуністычнага Т-ва, 2 тт. 1904 г.) няма спэцыяльнай статыстыкі і экономікі местачковых яўрэяў.

Яшчэ горш стаіць справа з монографічным вывучэньнем асобных местачковых паселішчаў. Гэты мэтод, які ўсё больш заваёўвае сабе права грамадзянства ў навукова-статыстычных абсьледваньнях, толькі зьлёгку закрануў яўрэйскае мястэчка.

Мы можам адзначыць толькі дзьве працы ў гэтай галіне: „Статистика одного местечка"—Я. Ляшчынскага (на стара-гэбрэйскай мове, у часопісу „Гашилэах" (1903 г.) і „Местечко Краснополье"—д-ра Рохліна (СПБ. 1909 г.).

Чым-жа зьяўляецца гэтая невялікая літаратура аб экономіцы мястэчка.

Як агульнае правіла можна адзначыць наяўнасьць наступных характэрных рыс: 1) Экономіка яўрэйскага насельніцтва разглядаецца не на фоне агульнай экономікі данага краю і нават ня ў сувязі з ёю, а як нешта асобнае, ізляванае—іначай кажучы, як экаиоміка асобнай групы насельніцтва, спэцыфічная і замкнутая ў сабе. Усякаму, нават павярхоўнаму наглядальніку, ня можа, напрыклад, ня кінуцца ў вочы штодзённая экономічная сувязь мястэчка з вёскаю, яўрэя-саматужніка і дробнага гандляра з беларускім селянінам, аднак-жа гэтая сувязь толькі констатуецца, але не вывучаецца. Няма ніводнае спробы параўнаць дынаміку местачковай экономікі з дынамікаю наўкольных местачковых гаспадарак, з якімі яна заўсёды стыкаецца. 2) Экономіка мястэчка, якая разглядаецца, як экономіка асобнай групы, *укінутай* у агульную экономіку краю, але не складае яе органічнай часткі, разглядалася статычна, але не дыялектычна.

Падыход быў пераважна апісальны, ня было гістарычнага аналізу і экономічнай пэрспэктывы. Аўтар памянёнага абсьледваньня „Местечко Краснополье" д-р Рохлін даў, напрыклад, падрабязнае апісаньне экономікі толькі яўрэйскага насельніцтва гэтага мястэчка, ня гледзячы на тое, што яўрэйскае насельніцтва к таму часу давала тут досыць значны процант.

Мы лічым, што такое падзяленьне экономікі паселішча паводле нацыянальных адзнак зьяўляецца чыста штучным і бязумоўна ненавуковым. 3) Ня было моманту соцыяльнай дыфэрэнцыяцыі і параўнаньня аднакіх соцыяльных груп у розных нацыянальнасьцяй, якія жылі побач і штодзень стыкаліся паміж сабою на глебе экономічнай дзейнасьці.

Зусім не параўноўваліся саматужнікі вясковыя і местач-

ковыя, гандляры местачковыя, гарадзкія і вясковыя і г. д. Усе пералічаныя рысы дарэволюцыйнага эканомічнага вывучэньня мястэчка можна абагуліць і падвесьці пад адну адзнаку—адсутнасьць моманту органічнасьці і ўзаемадзеяньня паміж эканомікай мястэчка і іншымі часткамі эканомікі краю.

Пералічаныя прычыны і характэрныя рысы дасьледваньня эканомікі мястэчка, якія выявіліся, як вынік гэтых прычын, цалкам адпадаюць пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі.

Социялістычнае будаўніцтва ня ведае эканомічнага падзелу па нацыянальным прынцыпе, але яно ня можа ня лічыцца з ім, як і з рэшткамі памешчыцкай і капіталістычнай організацыі гаспадаркі, якія яшчэ ёсьць. Ува ўмовах социялістычнага будаўніцтва БССР мястэчка, як социяльна-эканомічны тып, займае значнае месца. За апошнія гады органы Савецкай улады ў цэнтры і на мясцох моцна заняты пытаньнямі аздараўленьня эканомікі працоўных слаёў местачковага насельніцтва—саматужнікаў, земляробаў; у адміністрацыйных адносінах мястэчкі ня ўсюды ўліваюцца ў агульны рэзэрвуар сель—і акрсаветаў, а вылучаюцца, як самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі, што прыводзіць да організацыі местачковых нацыянальных саветаў.

Гэтыя новыя палітычныя моманты, якія кардынальна адрозьніваюцца ад дарэволюцыйнага мінулага, павінны і ня могуць не адбіцца ў сэнсе радыкальнай пераацэнкі мэтодаў дасьледваньня і вывучэньня эканомікі мястэчка. Апошняе павінна быць уціснута ў рамкі агульна-дзяржаўнай эканомікі краю — такая асноўная прадпасылка ўсякага эканомічнага вывучэньня мястэчка, якая адначасна намячае лінію будучага і кідае пэўнае сьвятло на мінулае.

У якім-жа кірунку павінна ісьці праца па вывучэньні эканомікі мястэчка.

Каб ухіліцца рызыкоўных абагульненьняў, неабходна пачаць з монографічнага вывучэньня асобных мястэчак у іх мінулым і сучасным, вывучаючы на іх тэндэнцыі разьвіцьця асобных тыпаў мястэчак і ўстанаўліваючы гэтыя тыпы. Трэба сказаць, што да гэтага часу ў нас няма тыполёгіі мястэчак—аб мястэчку прынята гаварыць і разглядаць яго з агульнага пункту погляду. Возьмем для ілюстрацыі адно пытаньне—аб насельнасьці мястэчка. У гэтым пытаньні ёсьць шэраг трафарэтных пераконаньняў, якія з прычыны сваё трафарэтнасьці, як шмат хто думае, не патрабуюць довадаў. Якія-ж гэтыя агульна прынятыя палажэньні: 1) што мястэчкі скрозь яўрэйскія; 2) што насельнасьць мястэчка пераважна непрацоўная, а займаецца дробным пасрэдніцтвам і скупляньнем сялянскіх тавараў; 3) што мястэчкі не выяўляюць асаблівых тэндэнцый да росту і г. д. Між тым, варта падыйсьці да гэтага сур'ёзнага пытаньня ня з пункту погля-

ду агульнага, як гэта было раней, а з пункту погляду краю і прытым узятага ў больш дэтальным разрэзе асобных акруг і раёнаў і малюнак будзе іншы. Выявіцца: 1) што далёка ня ўсе мястэчкі можна лічыць яўрэйскімі па пераважным нацыянальным складзе; ёсьць шэраг мястэчак, у эканоміцы якіх мясцовы неяўрэйскі элемэнт грае вельмі значную ролю; 2) што процант працоўнага яўрэйскага насельніцтва значна большы, як думаюць на падставе толькі агульных меркаваньняў, гэта сьцьверджана абсьледваньнямі, зробленымі за апошні час шэрагам дзяржаўных, партыйных і грамадзкіх органаў; 3) што за апошняе дзесяцігодзьдзе, у сувязі з узмацненьнем чыгуначнага будаўніцтва, шэраг местачковых пунктаў (Жлобін, Каленкавічы і інш.) вырас, набліжаючыся да гораду, або да паселішча гарадзкога тыпу, іншыя мястэчкі ўтварыліся, як значныя чыгуначныя паселішчы. Такі монографічны падыход будзе спрыяць большай дакладнасьці палажэньняў і вывадаў, што мае цяпер ня толькі навуковае, але і глыбака практычнае значэньне.

Калі-ж да гэтага пытаньня падыйсьці ня з пункту погляду аднае статыкі, а гістарычнай дынамікі, то мы адразу сустрэнемся з шэрагам проблем, якія да гэтага часу ня толькі ня вывучаны, але і слаба пастаўлены.

Возьмем для прыкладу Стары Быхаў. Тут у пачатку XIX сталецьця неяўрэйская насельнасьць складала ўсяго 2 проц., цяпер яна складае 60 проц. Што гэта азначае? Ясна, што мы маем справу тут з пэўным процэсам на працягу ўсяго XIX ст., які сьведчыць, аб паступовым зьмяншэньні яўрэйскай насельнасьці і росьце неяўрэйскай. Куды-ж убывала яўрэйская насельнасьць і адкуль прыбывала неяўрэйская. У яўрэйскай эканомічнай літаратуры на першае пытаньне адказваюць—эміґравала ў Амэрыку; што да другога пытаньня, то на яго не адказваюць па тэй прычыне, што яно ня ставілася. Між тым, варта трошкі ўдумацца ў гэтае пытаньне ў адносінах да асобнага паселішча і выявіцца: 1) што побач з эміграцыяй знадворнай была і эміграцыя ўнутраная, асабліва моцная за апошнія гады, але яшчэ ня ўлічаная; 2) што сялянскае насельніцтва ішло ня толькі ў буйныя гарады, але і ў менш значныя паселішчы гарадзкога тыпу. А кожнаму-ж ясна, што Стары Быхаў—пункт не прамысловы і ўва ўсіх адносінах „ціхі“, далёка не зьяўляецца адзіночным зьявішчам,—такіх паселішчаў шмат. Мы закранулі для прыкладу адно пытаньне і пераканаліся, што пры дэтальным монографічным вывучэньні яно цягне за сабою цэлы шэраг іншых, ня менш важных, і што толькі на падставе падобнага абсьледваньня мы здолеем прыйсьці да запраўды правільных, навукова-праверанага практычных абагульненьняў. Такі монографічны мэтод зьяўляецца найбольш падыхо-

дзячым для мясцовых краязнаўчых організацый, якія павінны яго ўжываць у сваёй працы, бо ў гэтым апраўданьне іх дзейнасьці з пункту погляду навуковых запатрабаваньняў.

Монографічнае вывучэньне местачковай экономікі павінна быць прасякнута прынцыпам *узаемадзеяньня* экономікі ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць мястэчка. Неабходна перастаць ізолявана разглядаць мястэчка, як тып *яўрэйскай* экономікі, а трэба памятаць, што мястэчка—адзін з характэрных соцыяльна-экономічных тыпаў Беларусі, якім яно было ў мінулым, якім застаецца цяпер. Трэба, каб праца па вывучэньні мястэчка была справаю не адных яўрэйскіх працаўнікоў ці яўрэйскіх сэкцый пры местачковых таварыствах краяўзнаўства; трэба, каб гэтым цікавілася і займалася ўся краяўзнаўчая організацыя, як цэлае.

Для ілюстрацыі прывяду наступны прыклад. Ёсьць у нас у Беларусі цэлы шэраг мястэчак, якія непасрэдна прымыкаюць да вясковага паселішча; як агульнае правіла, вясковыя паселішчы ўтварыліся значна раней мястэчак, якія да іх прымыкаюць.

Ніводнаму з нашых дасьледчыкаў-гісторыкаў, экономістаў і інш.—ня прышлося над гэтым пытаньнем застанавіцца і высьветліць; а між тым, тут хаваецца адна з спэцыфічных форм пераходу ад замкнутай натуральнай гаспадаркі прыгоннага тыпу да таварнага, форма характэрная для Беларусі; дэтальнае вывучэньне *адначаснай* гісторыі вёскі і мястэчка бязумоўна выкрые ў гэтым пункце шмат цікавага. Надзвычай- на цікавы з гэтага пункту погляду местачковыя кірмашы, якія да гэтага часу граюць значную ролю ў экономіцы мястэчка і вёскі і яшчэ цяпер слаба вывучаны.

Ад момантаў экономічнага ўзаемадзеяньня натуральна перайсьці да пытаньня ўзаемнага культурнага ўплыву. Мы цяпер вельмі шмат гаворым аб неабходнасьці ўзаемнага азнаямленьня з культураю ўсіх нацыянальнасьцяй нашай рэспублікі, але конкрэтна ў гэтых адносінах зроблена вельмі мала; навуковыя-ж шляхі для разьвязаньня гэтай проблемы амаль зусім не праложаны. Да гэтага часу значная частка нашых мясцовых працаўнікоў-краязнаўцаў карыстаецца для даведак аб нацыянальнасьцях Беларусі адпаведным разьдзелам з IX т. выданьня Сямёнава „Россія“, прысьвечанага Верхнему Падняпроўю і Беларусі. Калі ў большай сваёй частцы гэтая кніга захавала сваё значэньне, як крыніца краязнаўчай працы, то трэба сказаць, што ў частцы, якая датыкаецца яўрэяў Беларусі, яна, апрача спэцыфічнага „душка“, поўна вялікіх скажэньняў.

А між тым у гэтай галіне працы—проста непачаты край. У мове яўрэйскай і беларускай ёсьць шмат агульных слоў (належыць адзначыць на гэтую тэму артыкул т. Шуль-

мана, які нядаўна зьявіўся ў часопісу „Полымя“); гэтая праца можа цяпер пашырацца ў сувязі з працамі Інбелкульту над акадэмічнымі слоўнікамі беларускай і яўрэйскай мовы, асабліва—працамі краязнаўчых т-ваў над мясцовымі слоўнікамі. Возьмем галіну фольклёру. Ёсьць шмат яўрэйскіх народных песень, часта рэлігійнага зьместу, куды ўкраплены асобныя беларускія словы і выразы. Што да народнай мэдыцыны, то бясспрэчна знахары і „шпрэхеры“ (яўрэйскія знахары) мелі свае агульныя профэсіянальныя тайны, якія цяпер могут быць выкрыты.

Надзвычайна мала дасьледваны і распрацаваны матар‘ялы *па гісторыі* мястэчка.

Яўрэйскія гісторыкі карысталіся ў якасьці асноўнай крыніцы па мясцовай гісторыі так званымі „пінкосім“ (хронікі-летапісы) пахавальных брацтваў, сынагог, грамадзкіх арганізацый. Гэты матар‘ял, за невялікімі выключэньнямі, часьцей за ўсё закранае падзеі пераважна рэлігійнага і рытуальнага характару, але ў некаторых частках адкрывае заслону соцыяльных узаемаадносін. Значна большая колькасьць докумэнтаў мясцовай гісторыі яўрэйскага насельніцтва захоўваецца ў розных дзяржаўных архівах—агульных, судовых, паліцэйскіх і інш.,—а між тым яўрэйскія гісторыкі сюды мала заглядалі. Калі ў адносінах да эканомікі мястэчка мы высоўваем прынцып, што местачковая эканоміка—частка эканомікі краю, то трэба тое-ж самае сказаць і ў адносінах да гісторыі мястэчка: гісторыя мястэчка ў прыватнасьці, гісторыя яўрэйскага насельніцтва, частка мясцовай гісторыі, а гэтым самым—і ўсяе гісторыі Беларусі.

Надзвычайна важным і злобадненўным зьяўляецца пытаньне аб *новым быце* ў сувязі з соцыяльным перабудаваньнем мястэчка, якое адбываецца цяпер у шырокіх разьмерах. Прыцягненьне яўрэйскага местачковага насельніцтва да земляробскай працы, умацаваньне і ўзмацненьне ўдзельнай вагі працоўных элемэнтаў у соцыяльнай структуры мястэчка, адміраньне ў быце рэлігійных форм і традыцый—усё гэта асабліва павінна выклікаць цікавасьць да мястэчка, дзе формы быту лічыліся як-бы раз назаўсёды ўстаноўленымі. Пачатак гэтаму зроблен абсьледваньнямі, зробленымі студэнтамі Ленінградзкага Географічнага Інстытуту і сабранымі ў шэрагу нарысаў пад рэдакцыяй проф. Тан-Богораза „Еврейское местечко в революции“ (ГИЗ, 1926). У гэтым кірунку могуць і павінны пайсьці працы яўрэйскіх сэкцый краязнаўчых таварыстваў, тут іх работа цалкам упіраецца ў сучаснасьць, тут, знаходзячыся на мяжы паміж мінулым і сучасным, прыпадымаецца заслона будучага.

Мы далёка ня вычарпалі ўсіх проблем, зьвязаных з вывучэньнем мястэчка. Комплекс эканомічных, ідэолёгічных і

бытавых зьяў, зьвязаных з паняцьцем аб мястэчку ў яго дынамічным разьвіцьці—з аднаго боку настолькі багаты, з другога—настолькі мала распрацаваны, што літаральна—што ні крок, то проблема. Тут працаўніку-краязнаўцу прыдзецца быць запраўдным дасьледчыкам але ў гэтым і зьмяшчаецца каштоўнасьць гэтай працы.

Мы паставілі пытаньне—няхай працаўнікі на мясцох распачнуць яго ажыцьцяўленьне. Неабходна цьвёрда памятаць: праца яўрэйскіх сэкцый у галіне краязнаўства не павінна быць адарвана ад агульнай працы—гэта ня толькі практычны падыход, гэта вынікае з прынцыповага ўгрунтаваньня ўсяе нашае працы. Мы спадзяемся, што ў найбліжэйшы час, організуючы ўзорныя абсьледваньні асобных раёнаў, нашы т-вы падойдуць да вывучэньня мястэчка з пункту погляду высынутых намі проблем, зьбіраючы матар'ял для іх разьвязаньня і ўдакладненьня.

———

# Дзеньнік

## прац 2 Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду 10—13 лютага 1927 г.

У працах Зьезду прымала ўдзел 187 дэлегатаў: 34 ад акруговых таварыстваў краязнаўства, 82 ад раённых таварыстваў краязнаўства, 21 ад краязнаўчых організацый у асьветных установах і 50 ад цэнтральных установ і організацый (паіменны сьпіс гл. ніжэй).

### ВЯЧЭРНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ 10 ЛЮТАГА.

Зьезд адчыніў старшыня Цэнтральнаго Бюро Краязнаўства т. *Бялуга* а 18 гадзіне ў вялікай залі Інстытуту Беларускае Культуры (Рэволюцыйная, 21) уступнай прамовай (гл. вышэй).

Тав. *Мялешка* (Полацак), узяўшы слова для ўнечарговай заявы, спыніўся на апошніх падзеях у Зах. Беларусі і ўнёс наступную рэзолюцыю:

„Другі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, сабраўшыся 10 лютага ў сталіцы Савецкай Беларусі—Менску, у ліку 187 сяброў, прадстаўляючых каля 9.000 організаваных членаў краязнаўчых таварыстваў і гурткоў,—рашуча протэстуе супроць нячуванага разгулу польска-панскага фашызму на чале з крывавым маршалам Пілсудзкім.

Зьезд акрэсьлена зазначае, што сучасны тэрор у Заходняй Беларусі супроць беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху ёсьць сваеадменнае паўтарэньне мураўёўскага тэрору, які быў сабраны ў сваім часе супроць другога польскага паўстаньня.

У той час як у Савецкай Беларусі, дзе пануе ўлада рабочых і сялян, нацыянальнае пытаньне атрымала правільнае ленінскае вырашэньне, дзе пад кіраўніцтвам Компартыі пашыраецца культура нацыянальная па форме і пролетарская па зьместу, а таксама шпарка адбудоўваецца як сельская гаспадарка, так і прамысловасьць, у гэты самы час у Заходняй Беларусі, ва ўмовах польска-панскага фашызму, над беларускімі рабочымі і сялянамі пануе страшэнны зьдзек, прыгнечаньне і ўціск, адміністрацыя душыць і гвалтуе працоўныя масы; аддае зямлю працоўных сваім прыслужнікам—вайсковым асаднікам; у краі расьце беспрацоўе ў зьвязку з культурна-гаспадарчым заняпадам, зачыняюцца беларускія школы і гімназыі, разграмляюцца беларускія банкі, коопэратывы, сельска-гаспадарчыя таварыствы, руйнуецца сельская гаспадарка.

Польскі фашызм учыніў страшэнны пагром легальнай організацыі беларускай сялянска-работніцкай грамады, якая кіравала культурна-нацыянальным рухам беларускіх працоўных мас, арыштоўваюцца беларускія дзеячы, якіх польская жандармэрыя страшэнна катуе ў сваіх турмах, расстрэльваюцца беларускія рабочыя і сяляне і нават арыштоўваюцца, без папярэдняй выдачы соймам „недатычныя“ беларускія дэпутаты—правадыры сялянска-работніцкай грамады, як Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і інш.

Праводзіцца заядла полёнізацыя „Ўсходніх крэсаў“, уціскаецца беларуская прэса, родная мова.

Зьезд упэўнены, што польская буржуазія вельмі памыляецца, калі яна мысьліць, што ёй удасца задушыць культурна-нацыянальны рух трохмільённага беларускага народу. Гэтага ніколі ня будзе таму, што перамога, бязумоўна, будзе на баку працоўных. Раней ці пазьней, але польская буржуазія прадстане перад пролетарскім судом беларускіх, польскіх і украінскіх рабочых і сялян.

Зьезд заклікае ўсіх членаў краязнаўчых організацый зрабіць заходнім

братом матар'яльную дапамогу, популярызуючы гэтае пытаньне сярод шырокіх грамадзкіх колаў.

Далоў фашысцкі тэрор!

Няхай жыве культурна-нацыянальны рух у Заходняй Беларусі!

Няхай жыве Компартыя, якая вядзе вызваленьне працоўных усяго сьвету!

Няхай жыве БССР!"

Зьезд аднагалосна прымае гэтую рэзолюцыю протэсту.

Т. *Бялуга* для вядзеньня Зьезду прапануе абраць Прэзыдыум, Сакратарыят і Мандатную Камісію. Прэзыдыум абіраецца ў складзе т. т. *Бялугі, Абрамчука, Казака, Мікалаева* (Гомель), *Крукоўскага* (Мазыр), *Гірканд* (Клімавічы), *Самцэвіча* (Барысаў), *Васілеўскага* (Ворша), *Лапчынскага* (Смаленск), *Цярэшчанкі* (Віцебск), *Салаўёва* (Горкі), *Вокуня* (Магілеў), *Дзівака* (Бабруйск), *Пяцэвіча* (Слуцак), *Мялешкі* (Полацак), *Пічэты* (БДУ), *Марука* (БДУ), *Камоцкага* (Менск) і *Лапіна* (Рэчыца).

Сакратарыят абіраецца ў складзе т.т. *Касьпяровіча, Бядулі, Троські, Мацьвяёнка* і *Шашалевіча*.

Мандатная Камісія—у складзе т.т. *Аніхоўскага, Атраховіча і Казакевіча.*

Старшыня Зьезду т. *Бялуга* агалашае наступны парадак працы Зьезду.

## I. Пленум:

1. Справаздача ЦБК і пэрспэктывы яго далейшай працы—даклад т. *Казака*.
2. Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР—даклад т. *Касьпяровіча*.
3. Вывучэньне тыповага раёну—судаклад т. *Немцава*.
4. Організацыя і тып краязнаўчага музэю—даклад т. *Аляксандрава*.

## II. Грамадзка-экономічная і культурна-гістарычная сэкцыя.

1. Гаспадарча-экономічнае вывучэньне вёскі—даклад т. *Кісьлякова*.
2. Вывучэньне саматужнай прамысловасьці краю—даклад т. *Рака*.
3. Вывучэньне гісторыі раёну—даклад т. *Мялешкі*.
4. Укладаньне архэолёгічнай карты краю—даклад т. *Даўгялы*.

## III. Сэкцыя школьнага краязнаўства.

1. Краязнаўства ў школе—даклад т. *Шапялевіча*.
2. Краязнаўства ў вышэйшых школах—даклад т. *Сянькевіча*.
3. Экскурсіі з вучнямі ў прамысловыя прадпрыемствы — даклад т. *Самцэвіча*.

## IV. Яўрэйская сэкцыя.

1. Вывучэньне сучаснага мястэчка—даклад т. *Аляксандрава*.
2. Інформацыйнае паведамленьне Гістарычнай камісіі Яўрэйскага аддзелу ІБК—т. *Сосіса*.
3. Інформацыйнае паведамленьне Слоўнікавай камісіі Яўрэйскага аддзелу ІБК—т. *Вейнгера*.

## V. Пленум:

1. а) Аб краязнаўчай дзейнасьці Горацкага Навуковага т-ва па вывучэньні Беларусі—т. *Журыка*.
   б) Аб дзейнасьці Смаленскага Губ. Т-ва Краязнаўства—т. *Лапчынскага*.
   в) Аб зьбіраньні фольклёру і асаблівасьцяй гутарак—т. *Бузука*.
   г) Аб працы Літаратурнай камісіі і ўдзеле ў ёй краязнаўцаў—т. *Замоціна*.
   д) Аб сучасным стане і пэрспэктывах слоўнікавай працы на мясцох—т. *Байкова*.
   е) Аб выяўленьні, вывучэньні і ахове помнікаў—т. *Мароза*.
   ж) Аб зборы народных мэлёдый—т. *Грыневіча*.
2. Даклад Мандатнай Камісіі.

3. Даклады старшынь сэкцый аб працы апошніх і зацьверджаньне рэзолюцый сэкцый.

*Дэлегат з месца:* З прычыны таго, што шмат дэлегатаў можа цікавіцца працай іншых сэкцый, а ня толькі працай аднае сэкцыі, патрэбна было-б даклады школьна-краязнаўчае сэкцыі заслухаць на пасяджэньнях пленуму Зьезду. Я прапаную ў гэтым напрамку ўнесьці зьмены ў парадак дня.

*Казак* (нам. старшыні ЦБК). Сродкі абмежаваны і немагчыма зьмяняць парадак працы сэкцый. Неабходна трымацца парадку. Можна толькі грамадзка-экономічную сэкцыю аб'яднаць з сэкцыяй культурна-гістарычнай з тае прычыны, што на Зьезд не зьявіўся т. *Кісьлякоў*. Даклад т. *Рака* аб вывучэньні хатніх рамёстваў, такім чынам, заслухаць на пасяджэньні культурна-гістарычнай сэкцыі.

*Бялуга* зачытвае тэлеграму т. *Кісьлякова* аб немагчымасьці прыехаць з прычыны яго хваробы і прапануе галасаваць прапанову т. *Казака*. Прапозыцыя т. Казака прымаецца.

*Ламака* (Магілёў). Неабходна яшчэ ў парадак дня ўнесьці інформацыю т. *Сербава* аб раскопках у Быхаве і т. *Шчакаціхіна* аб працы мастацкай сэкцыі.

*Бялуга*. Організацыйная Камісія па падрыхтоўцы Зьезду зрабіла прапанову ўсім сэкцыям ІБК падаць заявы аб жаданьні інформаваць Зьезд аб сваёй працы. І цяпер ня трэба вырашаць пытаньне, якое ўносіць т. *Ламака*. Можна даручыць Прэзыдыуму Зьезду згаварыцца з т. *Сербавым* і *Шчакаціхіным* адносна іх інформацый. Я прапаную прыняць парадак дня ў цэлым.

Зьезд прымае парадак дня ў цэлым і зацьвярджае рэглямэнт прапанаваны Оргкамісіяй. Т. *Бялуга* ўносіць прапанову запрасіць у Прэзыдыум зьезду Намесьніка Старшыні Саўнаркому БССР т. *Барсукова*, які прысутнічае на Зьезьдзе. Прапанова прымаецца і запрашэньне сустракаецца аплёдысмэнтамі.

*Леванёнак* (Гарадок, Віц. акр.). Неабходна зьвярнуць увагу, што „Працы 1-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ толькі цяпер мы атрымоўваем у надрукаваным выглядзе. Патрэбна, каб „Працы“ гэтага Зьезду былі надрукаваны своечасова, не пазьней як у месячны тэрмін.

*Дэлегат з месца*. Калі немагчыма заслухаць даклад т. *Кісьлякова* тут, на Зьезьдзе, дык прапануецца, з прычыны важнасьці гэтага пытаньня, надрукаваць даклад т. *Кісьлякова* ў „Працах 2-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“.

Прапанову т. т. *Леванёнка* і аб надрукаваньні ў „Працах Зьезду“ дакладу т. *Кісьлякова* Зьезд прымае аднагалосна.

Далей Зьезд заслухоўвае даклад т. *Казака* „Справаздача ЦБК і пэрспэктывы яго далейшай працы“ (гл. вышэй).

Пасьля дакладу т. *Казака* Зьезд заслухоўвае даклад т. *Касьпяровіча* „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР“ (гл. вышэй).

Трэцім заслухоўваецца даклад т. *Немцава* „Як праводзіцца вывучэньне Асіпавіцкага раёну“ (гл. вышэй).

## РАНЕШНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ 11 ЛЮТАГА.

Спрэчкі па дакладах: „Справаздача ЦБК і пэрспэктывы яго далейшай працы“, „Дзейнасьць Краязнаўчай сеткі БССР“ і „Як праводзіцца вывучэньне Асіпавіцкага раёну“.

*Міскевіч* (Полацак). На 2-м Краязнаўчым Зьезьдзе мы павінны адзначыць, што нашы краязнаўчыя організацыі яшчэ да гэтага часу не зьвярнулі належнай увагі на популярызацыю краязнаўчай працы. У горадзе насельніцтва крыху ведае аб краязнаўстве, а на вёсцы амаль што ніхто і ня чуў пра гэта. ЦБК неабходна зьвярнуць большую ўвагу на нашы нізавыя краязнаўчыя організацыі. На раёнах ёсьць шмат рэчаў, але ў нас няма спэцаў, якія адзначалі-б вартасьць іх. Неабходна, каб з Менску часьцей выяжджалі

спэцыялісты. Падругое, трэба сказаць, што вывады т. Касьпяровіча адносна правільнасьці росту краязнаўчых арганізацый памылковы. Рост гэты няправільны, бо настаўнікаў у арганізацыях налічваецца 70%, значыць рост адбываецца за кошт іншых груп—галоўным чынам—рабочых, сялян. Паляпшэньні ў працы ёсьць, але ёсьць недахоп і значны недахоп, што сяляне ня ўцягнуты ў краязнаўчую працу. Патрэцяе—уся краязнаўчая праца вядзецца выключна праўленьнямі нашых арганізацый, а маса членаў ня ўцягнута ў працу. ЦБК павінна пачаць кіраваць гэтым уцягненьнем.

*Крукоўскі* (Мазыр). Праглядаючы проект тэзісаў па справаздачы ЦБК, трэба адзначыць, што калі роля краязнаўства, як фактару для будаўніцтва краю высьветлена, дык той бок краязнаўчай справы, аб якім кажа Ольдэнбург, што мэта краязнаўства, каб „наша жизнь стала содержательной во всех отношениях"—гэты бок у проекце зусім ня высьветлены. Мінулы год мы гаварылі аб афармленьні раённых т-ваў, цяпер кажам аб арганізацыі сельсавецкіх гурткоў, але даць ім зьмест працы, даць грунт, пасільную праграму іх дзейнасьці—гэтага мы гарантаваць ня можам і аб гэтым ні слова ня сказана ў проекце тэзісаў ЦБК. А гэта неабходна, бо кожная краязнаўчая арганізацыя павінна мець мэтавую ўстаноўку.

Цяпер коратка спынюся на працы краязнаўчых арганізацый за мінулы год. Аб уцягненьні ў краязнаўчую працу нацменшасьцяй мы гаварылі і на 1-м Краязнаўчым Зьезьдзе, і на пленуме, а рэальна мы цяпер нічога не зрабілі. На мясцох у гэтым напрамку, не адчуваецца, што ёсьць цэнтр і мы ня ведаем, хто арганізоўвае гэтую працу.

Пераходжу да школьнага краязнаўства. Створана камісія і ў „Нашым Краі" ўжо была надрукавана першая спроба ў гэтым напрамку. Школьна-краязнаўчай сэкцыі трэба шчыльней зьвязацца з Мэтодкомам НКА, каб лепш наладзіць працу. Са справаздачы высьветлілася, што мала дала інструкцый па вывучэньні экономікі і наогул. Толькі надрукавана адна інструкцыя па хатніх рамёствах. Экскурсійная праца павінна заняць значнае месца, а ў нас у гэтым напрамку пакуль што амаль нічога ня зроблена.

*Мялешка* (Полацак). У працы ЦБК за мінулы год ёсьць значныя дасягненьні, але ёсьць і недахваты. Дасягненьні: 1) краязнаўчая сетка пашырылася; 2) павялічыўся лік сяброў; 3) акуратна пачаў выходзіць „Наш Край"; 4) наладжана жывая сувязь, праўда ня зусім добра, але лепш, чым у мінулы год. Недахопы: 1) ЦБК зусім не абараняла каштарысаў, якія былі складзены на мясцох і перасланы ў Менск. Акруговыя т-вы прынялі ўсе меры, каб скласьці каштарысы і правесьці іх праз Акруговыя ўстановы, але ЦБК сваім прадстаўніцтвам не змагло абараніць іх. ЦБК, так сказаць, прамаргала. 2) У ЦБК ня было сталага погляду на працу акруговых т-ваў. Я здаволены, што ў ЦБК ёсьць цяпер сталы погляд на арганізацыі, што можна заўважыць з дакладу т. *Казака*. 3) Лік членаў павялічваецца, але ў арганізацыях большы лік пасыўных членаў. Калі, напр., у Асіпавіцкім раёне 45% не актыўных членаў, дык што казаць пра іншыя раёны? З гэтае прычыны трэба зьвярнуць увагу не на пашырэньне краязнаўчай сеткі, а на поглыбленьне яе і на зьнішчэньне краязнаўчай няпісьменнасьці. 4) Мала зроблена па ўцягненьні комсамольскага актыву. 9%—гэта малы процант. На гэта трэба зьвярнуць увагу, бо хто можа ўцягнуць у краязнаўчую працу сялянскую масу, калі не Комсамол? Комсамольцы, якія працуюць з энтузыязмам, могуць дапамагчы краязнаўчай працы. 5) Праводзілася зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу, народнай творчасьці, а зьбіраньне матар'ялаў па экономіцы не праводзілася. На гэта скажуць, што ў гэтым напрамку мы незнаёмы з мэтодамі. Калі так, дык значыць трэба вывучаць мэтоды, трэба, каб у „Нашым Краі" зьмяшчаліся мэтодычныя артыкулы адносна розных галін краязнаўства. 6) Няма ўвязкі краязнаўчай працы з вучэбнай працай, мэтодкомы ня зьвязаны з краязнаўчымі арганізацыямі. У школьных програмах вельмі мала мясцовых матар'ялаў, а калі ёсьць, дык ня ўмеюць выкарыстаць іх. На гэта трэба зьвярнуць увагу, неабходна, каб была ўвязка між гэтымі арганізацыямі. 7) Зьбіраючца розныя матар'ялы, бываюць недахопы ў працы і трэба

каб ЦБК зараз-жа заўважвала хібы. Толькі адзін раз было зроблена гэта, як напр., у заўвагах т. Байкова аб зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу. Толькі тады можна наладзіць працу, калі будзе праглядацца матар'ял і ня будуць рабіцца памылкі. 8) Некаторыя праграмы, якія апрацоўваюцца камісіямі, ня маюць тлумачальных запісак, напр. праграма фэнолёгічных нагляданьняў. 9) Т. *Казак* сказаў, што трэба падумаць аб скарачэньні „Нашага Краю". Мы аднагалосна павінны протэставаць і сказаць, што гэтае скарачэньне немагчыма. Наадварот, трэба палепшыць выданьне, каб ня было падвойных нумароў, каб часопіс быў у сельсавецкіх гуртках, у кожнай школе, бо гэта самы неабходны часопіс для настаўніка.

*Мазуркевіч* (Віцебск). Разглядаючы карту, якая вывешана адносна пашырэньня краязнаўчых організацый, відаць, што калі параўнаць пашырэньне краязнаўчых організацый на Беларусі і іншых рэспубліках СССР, дык можна падумаць, што ў нас пашырэньне займае першае месца ў Саюзе. Але на мясцох заўважваецца, што не заўсёды ёсьць увязка між раённымі і первястковымі організацыямі і акруговымі. Прычына гэта — настаўніцтва, якое складае пераважную частку нашых організацый, перагружана, а іншыя працаўнікі яшчэ інэртны. Трэба па магчымасьці выкарыстаць спэцыялістых, бо іх у нас не хапае. Аграномы і каморнікі мала нам дапамагаюць. Трэба прыцягнуць іх. Трэба аб'яднаць працу. У нас працуюць саматугам, індывідуальна, асабіста і часамі праца не зьяўляецца здабыткам організацыі. У рэзолюцыі гэта трэба адзначыць. Трэба яшчэ падкрэсьліць і востра паставіць пытаньне аб зьнішчэньні краязнаўчай няпісьменнасьці. Мы часта бываем прадастаўлены самім сабе, інструктаж нас ня можа задаволіць, няма літаратуры. Трэба на мясцох пачаць падрыхтоўку. Ні адна акруга яшчэ не распрацавала гэтага пытаньня. Неабходна, каб былі ня толькі лекцыі, але былі наладжаны і курсы, бо для нас важна, каб кожны з нас браўся за працу сьвядома. У нас часта бывае, што інструкцыя даецца, а мы ня ўмеем па ёй рабіць і самае простае пытаньне застаецца адчыненым. ЦБК трэба зьвярнуць увагу, каб краязнаўцы, якія працуюць па тэй ці іншай галіне, атрымоўвалі вядомую падрыхтоўку. Трэба падвучыць нават інструктаж, паслаць куды, хоць за межы ці што. Экспэдыцыі і экскурсіі, якія наладжваюцца нашымі організацыямі, ня маюць сыстэматычнасьці. Інструкцыі, якія дае цэнтр, часта ня могуць быць праведзены на месцы дзякуючы нашай інэртнасьці.

Трэба экскурсіям надаць плянавасьць. Часта едуць вывучаць Каўказ, а вывучаць свой раён няма ахвоты. Такім чынам, трэба папулярызаваць гэтую справу. Нават з экономічнага боку ня будзе недахопу, бо тыя сродкі, якія выдаюцца на выезды, можна было-б скарыстаць на экскурсіі.

Хачу яшчэ сказаць адносна музэяў. Дзяржаўны Музэй ня мае аддзелу жывёлаводзтва. У суседзяў гэта ёсьць. Трэба яшчэ, каб прэпараты, якія робяцца ў акругах і марнуюцца там, былі організаваны ў асобныя аддзелы.

*Цярэшчанка* (Віцебск). Т. *Казак* і другія прамоўцы казалі аб працы Віцебскага т-ва. Не хачу спрачацца за пальму пяршынства, але павінен сказаць, што Віцебскае Акруговае т-ва як было, так і засталося, нават пасунулася ўперад у сваёй працы. Тлумачыцца гэта тым, што раней быў стыхійны рост. А падругое, ЦБК у той час мала рабіла, яно, папраўдзе кажучы, сваю працу распачало толькі ў гэтым годзе. Недахопы, якія ўказваюцца ў працы Віцебскага т-ва, тлумачацца проста і мы іх ведаем. Інструктар *Атрахові*ч паехаў у тыя раёны нашай акругі, дзе праца слаба вялася, аб гэтым мы і самі ведалі. Трэба зьвярнуць увагу на інструктаж, трэба ўзгадніць абсьледваньне інструктарскім апаратам з праўленьнямі акруговых т-ваў.

Асноўнай хібай у працы ўсіх акруговых т-ваў зьяўляецца адсутнасьць належнага вучоту. На Зьезьдзе кажуць, што ЦБК прамаргала адносна каштарысаў акруговых т-ваў. З гэтае прычыны нам самім трэба паказаць, што мы робім, паказаць карыснасьць працы. Мы шмат робім, але гэтага ня відаць. Неабходна, каб кожны наш крок, кожная самая нязначная праца былі зарэгістраваны.

Скарачэньне „Нашага Краю" непажадана. Толькі трэба сказаць, што

ЦБК і рэдакцыя часопісу не заўсёды ўважліва адносяцца да матар'ялаў, якія перасылаюцца. Часта не даецца ніякага адказу, не паведамляюць, куды накіравалі той ці, іншы матар'ял. Трэба завесьці аддзел у часопісу, у якім паведамлялася-б, куды дзеўся той ці іншы матар'ял.

Адносна організацыйнага афармленьня краязнаўчых організацый трэба сказаць, што ня гледзячы на поўнае высьвятленьне організацыйных форм нашых організацый яшчэ дагэтуль няма ўвязкі ў працы акруговых, раённых т-ваў і гурткоў. Неабходна, каб акруговыя т-вы давалі заданьні раённым, апошнія—гурткам і каб ня было такой зьявы, што часта працай па раёне кіруе гурток, а не раённае т-ва.

*Аніхоўскі* (БДУ). Я хачу спыніцца на 3-х момантах краязнаўчай працы, як яны адбіліся ў працы ЦБК: популярызацыі краязнаўства, росьце краязнаўчых організацый і паглыбленьні краязнаўчай працы. Рост краязнаўчых організацый ёсьць адно з дасягненьняў ЦБК, але адносна популярызацыі краязнаўчай працы зроблена вельмі мала, а можа і нічога ня зроблена. Склад ЦБК моцны, але ня ў гэтым напрамку. Прадстаўнікамі ЦБК не даюцца артыкулы ў друк, а „Наш Край" мала пашыраны ў масах. А ЦБК можа наладзіць гэтую популярызацыю. Інструктарскі апарат у ЦБК моцны, гэта ўсім вядома. Таксама даволі моцная і наша краязнаўчая сетка, аб гэтым мне гаварылі нават у Ленінградзе, у ЦБК РСФСР. Але мэтоды популярызацыі нашай працы часта нікуды ня варты. На пленуме ў верасьні крылі Калініншчыну, паганялі яе, загналі на 5-е месца. Але абсьледваўшы, пабачылі, што праца на Калініншчыне ня горш, як у другіх акругах. Цяпер ня дужа добра памінаюць Віцебшчыну. Мы таксама ня сьпім, мы робім, але мы не навучыліся падлічваць зробленае. ЦБК трэба зьвярнуць на гэта ўвагу і больш уважліва аднесьціся да артыкулаў, якія пасылаюцца ў „Наш Край" і популярызуюць нашую працу. Як прыклад няўважлівых адносін у гэтым напрамку, пакажу на такі факт. Была напісана гісторыя краязнаўчай працы на Калініншчыне, але ў „Нашым Краі" яе не маглі зьмясьціць поўнасьцю. Гэта адбівае ахвоту.

Скажу адносна інструктарскага агляду. Ня вельмі часта адбываюцца выезды інструктароў на раёны. Кажуць: не хапае грошай. З прычыны гэтага неабходна, каб ЦБК было самастойна па бюджэту.

Адносна ўцягненьня ў краязнаўчую працу моладзі, асабліва студэнцкай неабходна ЦБК дабівацца перад Наркамасьветы, каб пры Вузах была адчынена катэдра краязнаўства. Патрэбна шырэй паставіць пытаньне: не краязнаўства і студэнты, як аб гэтым пісалася ў „Нашым Краі", а краязнаўства і Вузы. Краязнаўчая праца ў Вузах яшчэ не наладжана, уся студэнцкая маса ня ўцягнута ў яе. У мэтах популярызацыі гэтай справы Т-ва краязнаўства пры БДУ надрукавала заметку ў „Сав. Беларусі", каб зачапіць краязнаўчыя організацыі пры другіх Вузах і выклікаць іх выказацца аб сваёй працы. Праўда, цяпер ужо наладжваецца сувязь паміж краязнаўчымі організацыямі Вузаў, прымаюцца крокі да замацаваньня гэтай сувязі, створана камісія, якая будзе кіраваць працай у Вузах.

*Марук* (БДУ). Я таксама ў першую чаргу закрану пытаньне аб популярызацыі краязнаўчай працы. Маладым краязнаўцам, якія толькі пачынаюць працаваць, адразу прыходзіцца спатыкацца з гэтым пытаньнем. А да гэтага часу ў нас вельмі мала ставілася дакладаў для рабочых, сялян, моладзі. Т. *Казак* кажа, што пытаньні краязнаўства ставіліся на рабочых сходах. Я сказаў-бы, што можна ўсумніцца, ці былі такія сходы. Мала популярызавана краязнаўчая праца сярод моладзі—студэнтаў і Комсамолу. Вышэйшыя школы толькі цяпер пачынаюць думаць аб гэтым.

А па маім погляду % удзелу комсамольцаў у краязнаўчай працы нязначны. Аб уцягненьні моладзі, асабліва комсамольскай, трэба ўзьнімаць пытаньне ў друку і высьвятляць яго. Адносна турызму для моладзі трэба сказаць, што ня трэба ўдавацца ў голы турызм, а трэба надаваць яму навуковы характар, краязнаўчы ўхіл, каб ня было аднаго толькі вандраваньня. Ня трэба турысцкіх таварыстваў, ня трэба распыляць краязнаўчых сіл, а

прасьледваць і навуковыя, і культасьветныя мэты. Прычына, чаму моладзь часта ня цікавіцца краязнаўствам тая, што зьбіраць косткі маманта, старыя грошы—не для ўсіх цікава, а на іншую працу ня ўказваюць. Хацеў-бы неабходна зьвярнуць увагу на пашырэньне краязнаўства ў Чырвонай арміі.

*Мікалаеў* (Касьцюковічы). Я хачу зьвярнуць увагу Зьезду на хібы ў працы ЦБК, якія дрэнна адбіваюцца на мясцох. Першая хіба—несваячасовае інструктаваньне, нездавальняючая па ліку колькасьць інструкцый, праграм, анкет, якія нам перасылаюцца. Прыходзіцца зьнімаць копіі для сельсавецкіх гурткоў, а ў нас няма такіх працаўнікоў, якія маглі-б вясьці гэтую працу распаўсюджваньня інструкцыйных матар'ялаў. ЦБК павінна ведаць лік краязнаўчых організацый і ў належнай колькасьці здавальняць інструкцыямі. Ня добра вялася праца ў ЦБК і па падліку працы т-ваў. Часта апошнія перасылаюць у ЦБК матар'ялы, запытваюцца адносна каштоўнасьці гэтых і не атрымоўваюць ніякіх адказаў. Неабходна, каб такія паметкі зьмяшчаліся ў „Нашым Краі".

*Гірканд* (Клімавічы). Я хачу падкрэсьліць пытаньне аб краязнаўчай працы ў школе. Гэтая праца павінна заняць першае месца. Якія мы ў гэтым кірунку атрымліваем інструкцыі? Мы ствараем краязнаўчыя гурткі ў сямігодках але няма аднастайнасьці, кожная сямігодка, кожная акруга, раён вядуць гэтую працу пасвойму. ЦБК ня дала сталага кірунку.

Праца нацменшасьцяй таксама не вядзецца па належных інструкцыях. Неабходна яе накіраваць у належнае русла. Апрача гэтага, на мясцох краязнаучай працы перашкаджае той факт, што профсаюзныя організацыі не зацікаўлены ў гэтай працы. Кожны працаўнік закідваецца іншай працай, а краязнаўчая адкідаецца на апошняе месца. ЦБК павінна зьвярнуць увагу на гэта. На ўсіх конфэрэнцыях ня ўзьнімаецца гэтае пытаньне. „Наш Край" пасылаецца ў акругу толькі па адным экзэмпляры. А ў нас няма сродкаў. Раёны ня маюць ніякай дапамогі ні матар'яльнай, ні мэтодычнай. Неабходна, каб ЦБК забясьпечыла акругі, раёны і сельсавецкія гурткі часопісам „Наш Край".

Неабходна зьвярнуць увагу і на тое, што працы, якія мы дасылаем, не зьмяшчаюцца ў „Нашым Краі". Неабходна больш чула да гэтага адносіцца, каб даць штуршок, ахвоту, моральнае здавальненьне. ЦБК павінна направіць і зьмясьціць матар'ялы, якія прысылаюцца з месц.

Былі нараканьні на студэнтаў БДУ, што яны мала працуюць. А скажэце, які % студэнтаў, ці скончыўшых БДУ, прысутнічае зараз на Зьезьдзе? Мы і вядзем усю працу! (воплескі).

*Кулакоў* (Азарычы). Па справаздачы ЦБК можна судзіць, што ЦБК ня мае пэўных вестак аб працы на мясцох. Даныя ЦБК узяты за 5-6 мес. назад. Сувязь ЦБК з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі слабая. Прадстаўнікі ЦБК ня былі ў „Афрыцы" (Мазыршчыне). Калі і наяжджае хто да нас ад ІБК, дык у раённае т-ва не наведаецца, мы аб гэтым толькі пасьля ведаем, што „быў нейкі з Менску, у кароткіх штанах" (сьмех у залі). Каб дапамагчы нам у нашай працы аб гэтым ніхто ня думае. Райт-ва атрымоўвае шмат анкет. Гэтым справа не канчаецца. Праз 3 дні акруговае т-ва таксама піша пра гэтыя анкеты, дае свае заданьні, і райт-ва ня вядае, каму ўгадзіць. Анкета пападае яшчэ ў школу. Трэба аб гэтым дагаварыцца, каб не паўтарацца. Трэба падтрымліваць дысцыпліну ў краязнаўчых організацыях. Ня можна так глядзець, што добра будзе абы што рабіць, а неабходна выконваць строга акрэсьленае заданьне. ЦБК не дае інструкцый, указаньняў адносна падручнікаў і падсобнікаў па краязнаўчай працы, напр., не напісала, дзе можна дастаць ботанічныя атласы.

Скарачаць часопіс „Наш Край" немагчыма. Часопіс чытаецца ўсімі краязнаўцамі. А на раёне звычайна ёсьць толькі 1 экз. яго. Памойму не скарачаць яго трэба, а павялічыць у 15 раз. Толькі адно трэба сказаць рэдакцыі „Нашага Краю", што аб матар'ялах, якія пасланы туды, няма чутак. Гэтага не павінна быць.

ЦБК бярэ курс на організацыю краязнаўчых гурткоў у сельсаветах. Організацыя іх магчыма, але трэба браць напрамак на тое, каб спачатку

стварыць 2-3 гурткі ў сельсавеце і выявіць пры дапамозе іх краязнаўчы актыў.

Адносна школьнага краязнаўства трэба сказаць, што шмат краязнаўчых матар'ялаў, якія сабраны школамі, гіне, марнуецца. ЦБК павінна даць мэтодыку школьнага краязнаўства.

Удзел у краязнаўчай працы іншых працаўнікоў—агрономаў, мэдыкаў, каморнікаў залежыць ад таго, як падыйдуць да іх нашыя організацыі. Я ня згодзен, што няма популярызацыі краязнаўчай працы. Краязнаўчыя організацыі перагналі іншыя добрахвотныя організацыі. Часта прыходзіць які-небудзь дзядзька і прапануе купіць у яго саху, якой 40 год (сьмех у залі). Значыць, популярызацыя ёсьць. Скажу яшчэ аб анкетах, якія рассылае ЦБК. У анкеце паселішчаў нічога нельга зразумець. Тут ЦБК вельмі „граматнае“, а трэба, каб і мы гэта зразумелі. Трэба, каб ЦБК дагаварвалася з акруговымі т-вамі.

Я багата чакаў ад дакладу па вывучэньні Асіпавіцкага раёну і нічога не атрымаў карыснага.

*Ражкоў* (Гомель). Нам, на Гомельшчыне, у сваю працу трэба ўнесьці такі самы энтузыязм, які існуе ў старой Беларусі. Толькі мне здаецца, што імкненьне захапіць шырокія масы краязнаўчай працай—ёсьць краязнаўчая романтыка. У нас, на Гомельшчыне, хоць Акруговае Краязнаўчае т-ва заснавана зусім нядаўна, але-ж краязнаўчая праца вядзецца даўно. У нас ёсьць да 100 монографій па краязнаўству, якія, між іншым, у значнай частцы выпаўнены нядобраякасна. Зазначаецца вялікая даверлівасьць краязнаўчых організацый да ўсякіх вестак, якія даюцца. Вывад, што трэба паглыбіць мэтодычную працу, але і мэтодыка краязнаўства толькі тады прынясе карысьць, калі краязнаўцы будуць знаёмы з об'ектамі свайго вывучэньня. Мы ня можам практычна дапамагчы краязнаўцам—сялянам, настаўнікам дзякуючы недахопу навукова-дасьледчых кіраўнікоў. Мне думаецца, што наогул навукова-дасьледчая праца можа поўна праводзіцца толькі ў ЦБК, а на мясцох яна магчыма толькі ў самым вузкім маштабе, як вывучэньне ўласьцівасьцяй мясцовай глебы, флёры і г. д. У Гомельшчыне была наладжана і выдавецкая справа. Выдадзена некалькі эканомічнага зьместу зборнікаў, шмат месца адводзілася краязнаўчай справе ў нашым часопісу—зборніку „В помощь просвещенцу“. У нас у некаторых мясцох масы прыймаюць актыўны ўдзел у краязнаўчай працы, напр., прысылаюць свае фэнолёгічныя назіраньні, што зьбіраліся на працягу 35 год.

Зьезд запрашае ў прэзыдыум Зьезду прысутнага ў залі поэта *Якуба Коласа.*

*Улашчык* (БДУ). Праца студэнцкіх краязнаўчых організацый наладжана слаба. У БДУ праца яшчэ ідзе. А ў іншых Вузах, у тэхнікумах працы амаль што няма. Белпэдтэхнікум зьбірае фольклёр, словы, Барысаўскі пэдтэхнікум вядзе мэтэоролёгічныя нагляданьні. Што датычыцца такой установы, як Музтэхнікум, дык апошні не вядзе нават тэй краязнаўчай працы, якую яму лёгка было-б весьці—ня зьбірае мэлёдый да песень.

Трэба падтрымліваць ня проста турызм, а навукова-дасьледчыя экскурсіі. Сярод студэнтаў ёсьць жаданьне ісьці, глядзець, вучыцца. Праўда ёсьць імкненьне толькі да Палесься, а шмат іншых цікавых месц застаецца недасьледванымі, ЦБК павінна распрацаваць маршруты, „Наш Край“ павінен кіраваць гэтым і агітаваць. І не рабіць так, як зроблена ў № 10—11 „Нашага Краю“, дзе зьмешчана адозва, у якой усё перавернута.

*Серафімаў* (Менск). У працы ЦБК і краязнаўчых організацый бязумоўна ёсьць дасягненьні, але ёсьць і недахопы. Да гэтага часу значнае месца ў працы займае вывучэньне старажытнасьці. Сучаснасьць вывучаецца вельмі мала. Мала зроблена таксама па вывучэньні гаспадаркі краю. З гэтае прычыны чыста-навуковая пастаноўка працы па вывучэньні старажытнасьці робіць уражаньне, што краязнаўчая праца—задача спэцыялістых і ня можа датычыцца рабочых і сялян. Неабходна конкрэтна вывучаць гаспадарку і прамысловасьць, каб, шырокія масы былі зацікаўлены і ўцягнуты ў гэтую працу.

Другім недахопам у нашай працы ёсьць тое, што апорай нашай працы павінен быць музэй, а, між тым, арганізацыйная пастаноўка Дзяржаўнага Музэю няправільна. Ён павінен з усіх бакоў ахапляць жыцьцё краіны. У нашым Дзяржаўным Музэі гэтага няма. Выстаўлена хата, селянін, яго вопратка, а што сее селянін, як ён абрабляе зямлю і гэтага няма. ЦБК бязумоўна зацікаўлена, каб будаваліся акруговыя і раённыя музэі, а яно ня дала ніякіх інструкцый, як складаць гэтыя музэі.

Адносна экскурсійнае справы трэба прызнать, што гэта справа сур'ёзная, надзвычайна важная і на жаль мы ў гэтым кірунку адсталі ад іншых рэспублік. Нам трэба мець сталы кадр кіраўнікоў гэтай справай. Нельга думаць, што экскурсіі трэба рабіць толькі на Каўказ, у Крым, трэба арганізаваць масавыя экскурсіі і на Беларусі. Адносна сродкаў, якія патрэбны на гэта, трэба сказаць, што мала яшчэ паставіць пытаньне аб гэтым, неабходна дабівацца, каб іх далі.

Скажу яшчэ адносна выступленьня т. *Гірканд*. Яе заява, што студэнцтву ў краязнаўчай працы належыць кіруючая роля—надта сьмелая заява. Фактычна студэнцтва ў краязнаўчай працы прыймае невялікі ўдзел.

*Бялуга* (ЦБК). У сваёй прамове я хачу закрануць наша балючае пытаньне, ці можа ЦБК аказаць шырокую дапамогу краязнаўчым арганізацыям у вывучэньні раёну. Я думаю, што шырокай дапамогі ад нас нельга чакаць. ІБК будуе дасьледчыя пляны, якія ахапляюць пэўныя галіны дасьледваньня і, калі гэта датычыцца вядомага раёну, тады ІБК дапаможа, а калі плян не пашыраецца на той ці іншы раён, дапамогі ня зможа даць. Падругое, у нас мала высокакваліфікаваных дасьледчыкаў і сілы немагчыма распыляць. Дзякуючы гэтаму немагчыма даць шырокую дапамогу. Адносна сродкаў трэба заўважыць, што ў гэтым годзе пастаўлена пытаньне, каб краязнаўчыя арганізацыі мелі свае каштарысы, бо само ЦБК мала мае сродкаў. Мы дабіваліся, каб т-вы атрымалі сродкі, але часта самі мясцовыя працаўнікі не дабіваліся гэтага і нам ня дужа добра было настайваць. Што датычыцца часопісу „Наш Край", дык з прамоўцаў ніхто не казаў, што часопіс не адпавядае свайму прызначэньню і наадварот напіралі, каб часопіс пашырыўся. Я павінен сказаць, што цяпер тыраж „Нашага Краю" скарачаецца да 1.200 экз. Бяз сродкаў немагчыма захаваць стары тыраж (голас Аніхоўскага: „трэба дабівацца!"). Мы і дабіваемся, але-ж Вам, т. Аніхоўскі, добра вядома, што ёсьць мяжа, праз якую нельга пераскочыць. І дзякуючы ўсяму гэтаму, мы ня можам шырака распаўсюдзіць „Наш Край". Мы павінны сказать, што калі пашырыцца падпіска на „Наш Край", толькі тады ІБК будзе дапамагаць выданьню. На мясцох павінны ўзьняць пытаньне аб пашырэньні падпіскі. Прамоўцы закранаді яшчэ пытаньне, што ня ўсё тое, што перасылаецца ў „Наш Край", рэдакцыя зьмяшчае. Немагчыма ўсяго зьмяшчаць, бо ня ўсё мае навуковую вартасьць. Праўда толькі, што неабходна, каб рэдакцыя паказвала, што зроблена з матар'яламі. Гэта ў далейшым будзе зроблена. Адносна самастойнасьці ЦБК—справа цяжкая, бо гэта арганізацыі добраахвотныя і не павінны мець дзяржаўнага бюджэту. З прычыны гэтага нам пакуль што куды лепей жыць супольна з ІБК. Але ў гэтым годзе будзе пастаўлена пытаньне аб самастойнасьці ЦБК. У працы ЦБК былі памылкі адносна ацэнкі працы краязнаўчых арганізацый, але памылкі не такія, як паказвалі таварышы, бо матар'ялы, якія прысылаюцца арганізацыямі, справаздачы не даюць глебы для правільнай ацэнкі. Закранаді яшчэ пытаньне, ці павінны мы весьці толькі навукова-дасьледчую працу, ці практычную. Гэта—спрэчнае пытаньне. Наша задача—зьбіраць матар'ялы, вывучаць іх, а практычную працу павінны выконваць іншыя ўстановы, якія і будуць карыстацца матар'яламі краязнаўчых арганізацый. Бязумоўна, нашы арганізацыі павінны трымаць самую цесную сувязь з савецкімі ўстановамі і арганізацыямі, якія займаюцца дасьледчай працай.

*Бараноўскі* (БДУ). Раённым працаўнікам трэба ўцягнуць у працу, асабліва па вывучэньні санітарна-гігіенічнага боку вёскі, мэдычных працаўнікоў. Як прыклад прывяду Асіпавіцкі раён, дзе ёсьць доктар, які вядзе ў

сваім кірунку краязнаўчую працу, а раённае т-ва і ня ведае аб гэтым. Адносна таго, што навуковыя працаўнікі Унівэрсытэту ня ўцягнуты ў краязнаўчую працу, дык трэба сказаць, што ў гэтым вінавата ЦБК, якое сваіх прадстаўнікоў пасылала да нас толькі тады, калі запрашалі.

*Бялуга* агалашае, што яшчэ запісалася ў спрэчках 14 асоб і ў Прэзыдыум паступіла прапанова альбо спыніць спрэчкі, альбо скараціць час выступленьняў да 5 хвілін.

Галасуецца прапанова, пастанавілі спыніць спрэчкі.

Слова для заключнай прамовы даецца т. *Немцаву*.

*Немцаў* (Асіпавічы). Каб у нас, у Асіпавіцкім раёне былі грошы, мы сваю працу па апісаньні раёну хутчэй-бы закончылі. Адносна прыцягненьня ў наша т-ва доктара я скажу, што калі-б ён у сваёй працы кіраваўся краязнаўчай мэтай, ён зьвязаўся-б з намі. Упаміналі наш актыў. Я скажу, што 45% гэта мінімум, а працуе больш. Называюць наш раён „паказальным". Мне цікава пачуць, як працуюць у іншых раёнах. Крытыкуючы працу нашага т-ва, не паказалі, чым дрэнна праца Асіпавіцкага раённага т-ва. Мой погляд—трэба стварыць кадр адказных працаўнікоў, правесьці іх праз курсы, аслабаніць іх ад іншых грамадзкіх абавязкаў. Гэта шлях—адзіна правільны. Правільна кажуць, што нельга абмежавацца толькі заданьнямі, а трэба даваць зьмест працы. Мы па магчымасьці так і робім.

Заключнае слова па дакладу „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі".

*Касьпяровіч*. У сваім заключным слове я спынюся на кожным выступленьні паасобку. Гаварылі аб няправільным росьце краязнаўчай сеткі, бо ён ідзе за кошт асьветнікаў. Мяне няправільна зразумелі. Я казаў, што ідзе правільна ў нацыянальны стасунку. Калі гаварыць аб росьце нашых організацый за кошт рабочых і сялян, дык трэба прызнаць, што тутака ёсьць значныя дасягненьні: краязнаўчая праца патрабуе падрыхтоўкі і зразу вялікага ліку рабочых і сялян ня ўцягнеш. Гэта робіцца паступова і ўжо ёсьць нават краязнаўчая праца рабочых і сялян і асабліва дапамога краязнаўчым організацыям. Для нормальнага ўцягненьня рабочых і сялян у краязнаўчую працу трэба стала паставіць популярызацыю краязнаўства.

Опонэнты па школьным краязнаўстве адзін аднаму супярэчылі: т. Крукоўскі хоча, каб школы сталі краязнаўчымі організацыямі, тады як наша задача кіраваць працаю краязнаўчых організацый, якія месьцяцца ў школах, а ня школаю. У зьмешчаным у „Нашым Краі" артыкуле ня было напісана, што праца Ленінскай школы—узор краязнаўчай працы, бо гэтая праца школьная, а не краязнаўчай організацыі. Разглядаць яе таму і можна толькі як працу школы, а не краязнаўчага школьнага гуртка. Зразумела, што пры належным кіраўніцтве працай вучняў матар'ялы, якія сабралі вучні, могуць мець навуковую вартасьць, апрача пэдагогічнай, якая будзе амаль што заўсёды. Опонэнт з Калініншчыны кажа аб неабходнасьці выданьня програм па школьным краязнаўстве, але-ж іх павінен выдаваць НКА.

Што датычыцца мэтодычнага кіраваньня школьных краязнаўчых організацый, дык яно ёсьць. Правільна кажуць, што выкладаньне ў тэхнікумах і вышэйшых школах слаба прасякнута краязнаўчым зьместам на дысцыплінах, дзе гэта мажліва. А мэтодыка краязнаўства зусім не выкладаецца. Трэба зьвярнуцца ў НКА з пытаньнем як аб пераглядзе школьных програм, так і з апошнімі пытаньнямі.

Адносна нашых музэяў правільна гаварылі што нашы музэі маюць пераважна культурна-гістарычны характар, хоць, праўда, у Бабруйску ёсьць спроба даць сёньнешняе Бабруйскай акругі.

Падлік у нашых організацыях пастаўлены вельмі дрэнна. Бібліотэчкі, якія атрымалі ад ЦБК раённыя організацыі на 1-м Зьезьдзе, у некаторых выпадках не дайшлі да організацый. Нават інвэнтарызацыя дзяржаўнай маёмасьці ў краязнаўчых організацыях пастаўлена таксама дрэнна.

Вінавацяць ЦБК ў тым, што яно ня ведае раённых т-ваў. Але ў гэтым яны самі вінаваты, бо нічога аб сабе ня пішуць і не паведамляюць. Трэба

на мясцох належна паставіць падлік працы, літаратуры, сіл, об'ектаў дасьледваньня, а таксама інвэнтарызацыю.

Т. Аніхоўскі, Марук і іншыя студэнты гаварылі, што ЦБК ня бывае на сходах студэнтаў. Гэта няпраўда, бо ня было амаль што ніводнага сходу там, на якім ня быў-бы прадстаўнік ЦБК. У „Нашым Краі“ была зьмешчана перадавіца, у якой гаварылася, што праца сярод студэнтаў слаба пастаўлена. Некаторыя студэнты гэтым абураны. Але сам прадстаўнік студэнцта, т. Улашчык, які рабіў у лістападзе даклад, сьцьвердзіў гэта. Т-ва пры Унівэрсытэце заснавалася толькі ў студзені месяцы, а перадавіца зьмешчана ў лістападзе мінулага году, чаго не заўважылі опонэнты.

Нам гаварылі, што мы карыстаемся весткамі і матар' яламі за 5-6 месяцаў назад. Гэта ня так. Фактычная справа: мы карыстаемся весткамі з месц аб стане справы на 1 студзеня 1927 г.

Мы рады, што ў Гомельшчыне краязнаўчая праца вядзецца даўно мы падтрымліваем т. Ражкова, які кажа, што ў першую чаргу трэба вывучаць прыроду і экономіку. Мы гэта і робім. Але Беларусь, як маладая рэспубліка, ня можа абмінуць вывучэньня гісторыі мовы, фольклёру і г. д. Нашыя організацыі, куды ёсьць доступ усім сілам, даюць магчымасьць росту краязнаўства як колькасна, так і якасна. Шырака-грамадзкі характар нашых організацый надае ім і практычнасьць у мэтах. Але правільна, што ў нас няма падрыхтаваных працаўнікоў. З 240 дакладаў, якія прачытаны ў нашых організацыях, 80%—на мэтодычныя тэмы, значыць, нашыя організацыі ёсьць свайго роду студыі. У нас можна організаваць і курсы, напр. пры акруговых т-вах.

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на апрацоўку бібліографіі.

Наконт рэалізацыі працы краязнаўчых організацый трэба мець на ўвазе, што „Наш Край“ усё зьмясьціць ня можа, бо часта ёсьць такі матар'ял, які не падыходзіць ні ў газэты, ні ў наш часопіс, чаму карысна мець свае рукапісныя ці на множальных апаратах выданьні.

Заключнае слова па дакладу „Справаздача ЦБК і пэрспэктывы яго далейшай працы“.

*Казак.* Наша задача падвесьці вынікі ў заключным слове вельмі аблегчана выступленьнем Бялугі і другімі прамоўцамі. Бязумоўна, усе выступленьні насілі дзелавы характар. Усе заўвагі, якія на Зьезьдзе былі зроблены, будуць прыняты пад увагу. Але ня праў т. Аніхоўскі, які сказаў, што ЦБК спыняецца толькі на добрых бакох працы. Гэта ня так (Аніхоўскі з месца: я гэтага не казаў). У сваім дакладзе я паказаў хібы ў нашай працы, у нашым проекце рэзолюцыі таксама паказаны нашы недахопы. Нашы даклады былі пабудаваны правільна, бо ў мінулым годзе праца разварочвалася стыхійна і цяпер мы павінны былі зрабіць падлік. Агульныя заўвагі, якія былі зроблены па нашых дакладах: 1) Трэба і ў гэтым годзе зьвярнуць належную ўвагу на популярызацыю краязнаўчай працы. Я згодзен з т. Мазуркевічам, які сказаў, што трэба падрыхтаваць кадр краязнаўцаў праз курсы. Цяпер мы гэтага ня можам зрабіць, але можа ўдасца сваімі сіламі адчыніць на мясцох курсы. Правільна кажа т. Мазуркевіч, што каб выхаваць добрых інструктароў, неабходна пасылаць іх за межы. Але покуль гэта будзе магчыма, прыдзецца весьці популярызацыю іншымі мэтодамі, ставіць даклады, справаздачы, інформацыі. Трэба і на настаўніцкіх курсах правесьці шэраг лекцый па краязнаўстве. 2) Адносна росту нашых організацый. Мы ня можам дабіцца таго, каб усе партыйцы і комсамольцы былі ў складзе краязнаўчых організацый, але процант партыйцаў і комсамольцаў усё-ж павялічваецца: на пленуме восеньню % партыйцаў быў 7, цяпер—10, комсамольцаў 4%, цяпер—9. Заўважваецца і рост сялян: на пленуме было 2%, цяпер—4-5%. Масы ўцягваюцца добраахвотна, з прычыны чаго прыкмячаецца павольны рост сялян. 4) Адносна прасоўваньня краязнаўчай сеткі да нізоў, скажу, што я не зразумеў т. Крукоўскага, які дабіваецца мэтавай устаноўкі для гуртка. Гэтая ўстаноўка выразна намечана ў статуце гуртка. Я думаю, што ў маім дакладзе ўсе пытаньні былі ахоплены, бо сярод пытаньняў, якія былі мне з боку дэлегатаў, ня было

2-х запытаньняў па адным пункце. Гэта азначае, што ўсе галоўныя галіны нашай працы выстарчаючa ахоплены. 4) Таварышы, якія выступалі, асабліва ўказвалі на неабходнасьць паглыбіць працу. Гэта правільна, бо арганізацыйны пэрыёд заканчваецца і прыдзецца ўзяцца за навукова-дасьледчую працу. Т. Ражкоў кажа, што мы ня зможам весьці навукова-дасьледчую працу. Але вопыт паказвае, што хоць ня высокая адукаванасьць нашых краязнаўцаў, ды ёсьць добрыя працы, асабліва ў тых мясцох, дзе заснаваны раённыя музэі. Зьезд ня можа зьмяніць кірунку нашай працы—дасьледваньне, вывучэньне раёну. Канешне, у першую чаргу патрэбна вывучэньне гаспадаркі, экономікі, быту, але ня можна спыняць і вывучэньня мовы і фольклёру. 5) Праца студэнтаў па краязнаўстве—важнае і новае пытаньне, і добра, што Зьезд спыніў сваю ўвагу на ім. Справа гэтая ня была ўрэгулявана. ЦБК арганізавала камісіі: школьна-краязнаўчую і студэнцкую. Ня добра зрабілі прадстаўнікі БДУ, якія спынілі увагу на артыкуле „Нашага Краю"—„Студэнт пазнай свой Край". У той час прадстаўнікі БДУ заявілі, што працы няма. Улашчык прасіў ЦБК дапамагчы і мы зрабілі заклік і канстатавалі гэта. Няверна і тое, што ў БДУ вядзецца праца, а ў іншых Вузах і тэхнікумах не вядзецца. Праца ў тэхнікумах ёсьць, у некаторых і вельмі добра працуюць, як напрыклад у Менскім Белпэдтэхнікуме, а ў Вузах праца не наладжана. 6) Вывучэньне асаблівасьцяй краязнаўчай працы сярод нацменшасьцяй – наша слабае месца. Гэтае пытаньне будзе падрабязна абгаворана ў яўрэйскай і польскай сэкцыях Зьезду. ЦБК мала яшчэ зрабіла ў гэтым напрамку і дало толькі кірунак. Была ўтворана яўрэйская камісія пры ЦБК. Аляксандраў, інструктар ЦБК, заявіў, што падрыхтаваны пляны працы і на Зьезьдзе, дзякуючы прадстаўнікам з месц, праца будзе пасунута ўперад. Т. Крукоўскі кажа, што адзін раз працай кіруе Яўрэйскі аддзел, другі раз ЦБК. Цяпер намі ўзят адзін кірунак. Усе камісіі ІБК зьвязваюцца з краязнаўчымі організацыямі праз ЦБК. Мы цяпер гэтага дабіліся. Т. Кулакоў абвінавачвае ЦБК, што анкеты трэба запаўняць і акруговаму т-ву і ЦБК. У гэтым напрамку Мазырскае Акруговае т-ва трохі перасаліла. Сэкцыя хатніх рамёстваў сама перасылала анкеты і Мазырскае т-ва ад сябе перасылала. Тут маглі быць непаразуменьні.

Т. Гірканд кажа, што трэба ўсё рабіць праз акругу. У нас існуе такі парадак: калі вывучэньне вядзе ІБК, тады ўсе організацыі адразу непасрэдна могуць дасылаць нам. Такі парадак ўстанавіўся і гэта жыцьцёва: бібліотэчкі, якія пасланы адразу ў раёны, атрыманы праз тыдзень, а бібліотэчкі, якія пасланы праз акругі, доўга ня былі перасланы. Бязумоўна, ЦБК павінна паведамляць акруговыя т-вы аб тых ці іншых чарговых заданьнях.

Цяпер нашы краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб мясцовыя савецкія ўстановы былі ў курсе нашай справы. Толькі ў гэтым выпадку яны будуць нам дапамагаць.

Адносна інструктажу я далучаюся да думкі, што нам гэта неабходна ўзгадняць з акругамі. Гэта будзе прынята пад увагу.

Прадстаўнік Гомельшчыны казаў, што ён першы раз чуў, што „Наш Край" дасылаўся ў Гомельшчыну. Я магу зачытать, колькі №№ часопісу ў мінулым годзе дасылалася ў Гомельшчыну. Усяго пасылалася 7 №№. Аб Віцебшчыне ўпаміналася ў дакладзе таму, што нявернае было ўраджаньне аб стане працы раней і трэба было ўнесьці ў гэтае пытаньне больш об'ектыўнасьці.

*Бялуга* агалашае прапанову абраць для складаньня рэзолюцыі па трох асноўных дакладах камісію з 9 асоб: Казака, Касьпяровіча, Мялешкі, Цярэшчанкі, Вокуня, Аніхоўскага, Ражкова, Кулакова і Васілеўскага.

## ВЯЧЭРНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ ПЛЕНУМУ ЗЬЕЗДУ 11 ЛЮТАГА.

Даклад т. *Аляксандрава* „Організацыя і тып краязнаўчага Музэю". (Гл. вышэй).

Спрэчкі па дакладу т. Аляксандрава „Організацыя і тып краязнаўчаго музэю".

*Касьпяровіч* (ЦБК). Спрачацца аб прынцыпах пабудовы Музэю, якія

выказвае т. Аляксандраў, ня прыходзіцца. Я-б хацеў выказаць свой погляд на музэй, як на лябораторыю краязнаўства. Аляксандраў орыентуецца на школу і гэта зразумела, бо большая частка краязнаўчых організацый складаецца з настаўнікаў. Школьны музэй—лябораторыя школы, процэс, а ня мэта. Таксама і раённы краязнаўчы музэй. Як ён ствараецца? Раённыя т-вы пачынаюць працу, накапляюць матар'ялы, напр. ставіцца даклад аб вясельлі, зьбіраюцца да яго розныя ілюстрацыі, фотографіі, зарысоўкі. Усё гэта павінна давацца ў музэй. Ён—канцавы пункт краязнаўчай працы, лябораторыя яе, а пасьля становіцца і адпраўным пунктам. Схэма т. Аляксандрава: у першую чаргу зацікавіць усе організацыі ў стварэньні музэю. Покуль ня будзе шырокага падтрыманьня з іх боку ў справе організацыі музэю, апошні ня будзе створаны. Напр., неабходна зацікавіць коопэратыў, саюз паляўнічых, РВК з яго аддзеламі. Утворыцца тая атмосфэра, якая будзе дапамагаць стварэньню музэю. Трэба больш агітацыі, шуму, як каля перавыбараў саветаў. Неабходна рабіць інформацыі, колькі за вядомы пэрыод сабрана матар'ялаў і ад каго. Такім чынам у 2-3 месяцы можна сабраць аснову для музэю. Краязнаўчая праца колектыўная і зрабіць гэта магчыма. ЦБК павінна скласьці самы лепшы плян разьмяшчэньня музэю, дэталізаваць плян працы, па складаньні яго, распрацаваць мэтоды працы паказаць на неабходнасьць паспартызацыі, вучоту і інвэнтарызацыі музэйных матар'ялаў.

*Глінскі* (Хоцімск). Перашкоды ў стварэньні музэяў, зьвязаныя з адсутнасьцю памяшканьняў, ня вельмі цяжкія. Прыклады музэяў Калінішчыны паказваюць, што сялянства ахвотна дае экспонаты ў Музэй. Організатары музэяў—ня спэцы, а дасылаць рэчы ў ЦБК вельмі цяжка. Трэба нам даць падручнікі, азначнікі. Лесаводы, земаддзелы і іншыя ўстановы робяць карты, але яны не пападаюць у музэй. Характар музэю азначаны правільна. ЦБК павінна даць узорны плян музэю.

*Ажэўскі* (Слуцак). Раймузэй павінен быць адбіткам акруговага. Трэба ўцягнуць у музэйнае будаўніцтва комхозы, савецкія гаспадаркі і інш., бо ў іх распараджэньні засталося шмат гістарычных рэчаў. Але для гэтага неабходна мець загад зьверху. Неабходна мець у музэях бібліографію і пажадана, каб з цэнтрархіву мясцовыя матар'ялы былі пераданы на месцы.

*Купрэвіч* (Меншчыны). Дакладчык абмежаваўся агульнымі палажэньнямі, а нам неабходна дэталізацыя. Ня ў пудох справа. Накапліваць матар'ялы неабходна з пэўнаю мэтаю і сыстэмаю. У нашых музэях ёсьць торбачкі і моноліты і ўсё гэта ня зьвязана ідэяй. Колекцыі дакладна не сыстэматызаваны, а трэба разглядаць расьліны, напрыклад, у сувязі з іх згуртаваньнямі.

*Васілевіч* (Віцебск). Я глядзеў на даклад т. Аляксандрава, як на пропаганду неабходнасьці краязнаўчых музэяў. Гэта неабходнасьць падкрэсьлена існаваньнем Менскага, Магілеўскага і Віцебскага музэяў, куды народ „валам валіць". Што датычыцца тыпу музэяў, дык вельмі добра, што т. Аляксандраў толькі намячае вехі. Неабходна спыніцца на адным моманце. Аляксандраў кажа, што трэба зьмяшчаць і замежныя экспонаты. Што разумець пад „замежнымі"? Напр., у Віцебскім Музэі ёсьць колекцыя XI ст., здабытая ў часе раскопак у Люцыне. Калі прыяжджаў у Віцебск Блессэ, ён сказаў, што гэтым колекцыям месца ў Рызе. І латыскія і расійскія вучоныя кажуць, што гэта фінская культура, а не славянская. А мы стаім рот разявіўшы ды слухаем. Але нам вядома, што славяне колёнізавалі гэты краі ужо з VII ст., і каб мы мелі прадметы і мясцовай культуры і Люцынскай, можна было-б рабіць вывады. А то нядаўна быў у нас археолёгічны зьезд, на якім быў відны археолёг, які сказаў, што ўсё гэта літоўскія старажытнасьці. Я толькі хачу сказаць, што ня трэба распыльваць музэйных рэчаў. Трэба задумацца над тым, што заставіць у мясцовых музэях. Як прыклад скажу, што Віцебскі Дзяржаўны Музэй конкуруе з Сураскім школьным музэем, у якім знаходзіўся трылобіт палеозойскай эры. Цяпер гэты экспонат аддалі нам. Такія рэчы павінны захоўвацца ў Дзяржаўным Музэі.

*Струнін* (Гомель). Пытаньне аб краёвым музэі ставіцца сваечасова.

Як абстаіць музэйная справа на Гомельшчыне? Перашкоды ў гэтым напрамку былі і ў нас. У нас ёсьць музэй імя Луначарскага, але ён бедны краязнаўчымі матар'ямі. Другі музэй—пэдагогічны, у якім ёсьць значны па колькасьці краязнаўчы матар'ял, але, на вялікі жаль, гэты музэй перадаюць у Бранск. Гэта для нас—цяжкая страта. Ведаючы, як цяжка стварыць акруговы музэй, напамінаю аб цяжкасьці ўтварэньня раённых музэяў. Мы спадзяемся, што Беларускі цэнтр будзе дапамагаць замацаваньню і разьвіцьцю музэйнае справы на Гомельшчыне. Асабліва нам важна, каб пэдагогічны музэй ня быў вывезены з Гомелю.

*Мурашка* (Полаччына). Шкада, што дакладчык і выступаўшыя ідэалізуюць пытаньне аб раённых музэях, а прадстаўнікі з раёнаў мала выказваюцца. На практыцы ні коопэрацыя і ніхто не дапамагае стварэньню музэяў. Ёсьць раёны, дзе няма памяшканьняў нават для школ (голас з месца: „Можна куток адвесьці ў школе!"). І куткі ўсе пазаняты. Няма каму вартаваць экспонаты. З прычыны гэтага лепш організаваць акруговыя музэі, узмацніць іх; у большасьці раёнаў ствараць музэі гэта ёсьць перамагаць непераможнае. Трэба таксама ўмацоўваць школьныя музэі. Прывяду факты з жыцьця: мы сабралі шмат грошай, але адносна некаторых з іх ня ведаем нічога. Знайшлі костку і думалі, што гэта костка маманта, а выйшла, што ня маманта, а каня (сьмех у залі). Наогул, стаўку на раённыя музэі трэба рабіць асьцярожна.

*Самцэвіч* (Барысаў). У практыцы стварэньня музэяў існуюць вялікія перашкоды. У прыклад возьмем Барысаў. Там у надзвычайна цяжкіх умовах быў закладзены музэй, але ня было памяшканьня. Знайшлі часовае памяшканьне ў Пэдтэхнікуме, але, дзякуючы пераходу апошняга на ляборатурную сыстэму, музэй выкінулі. Мы доўга біліся над гэтым, і да гэтага часу мы ня маем памяшканьня. Экспонаты знаходзяцца недзе на вышках 5-е школы. Цяпер гэтыя рэчы прышлі ў нягоднасьць. На раёнах яшчэ горшая справа. Няма зусім памяшканьняў. Другой перашкодай у стварэньні музэяў ёсьць адсутнасьць працаўнікоў. Мурашка прыводзіў прыклады недарэчнасьцяй у гэтым напрамку. А таму неабходна зьвярнуць увагу на падрыхтаванасьць. На пытаньне, што неабходна для раённага музэю, я скажу: усё тое, што мае практычнае значэньне, усе іншае трэба перадаваць альбо ў Дзяржаўны, альбо ў акруговы музэй.

*Кулакоў* (Мазыршчына). У нашым раёне музэйная справа знаходзіцца на 3-м месяцы... цяжарнасьці. Нам трэба было заручыцца падтрыманьнем усіх організацый. Калі мы заняліся гэтым, дык паўстала пытаньне, дзе знайсьці будынак. Мы зьвярнуліся ў РВК, каб нам царкву адвялі, а нам сказалі, што трэба згаварыцца з папом. Неабходна каб з боку ЦБК было што-небудзь зроблена ў гэтым напрамку. Царква мае цікавыя помнікі пісьменнасьці, якія марна гінуць. Казалі, што музэй ёсьць ляборатория. Тут шэраг нявырашаных пытаньняў: хто будзе загадваць, хто будзе маляваць, які каштарыс, ці будзе наогул якая-небудзь грашовая база. Таксама востра стаіць пытаньне аб паднаўленьні музэйных экспонатаў, аб іх набыцьці. Часта ні за якія грошы не набудзем, і нам-жа ня красьці іх.

*Радзевіч* (Вузда). Мы яшчэ два гады таму назад пачалі агітаваць за краязнаўчы музэй. І што-ж? Вучні нанесьлі шмат экспонатаў. Праўда, адну клясу завалілі конскімі галовамі. Але з усіх экспонатаў знайшлося да 300 экспонатаў па саматужнай прамысловасьці. Толькі сяляне гэтым ня цікавяцца, бо прасьніцу яны бачылі, яна ім абрыдла. Ёсьць у нас экспонаты флёры, фаўны, але спэцыяльнага будынку няма і гэта падрывае наш аўторытэт. Яшчэ ў нас ёсьць сакрэтнае распараджэньне Мікалая, яго трымае ўпаўнаважаны профбюро і кажа, што аддасьць яго толькі за грошы. Наогул грошы неабходны. Калі іх няма—не адчыняй музэю, бо спаць ня будзеш, каб экспонаты не загінулі.

*Мялешка* (Полаччына). Калі чытаеш тэорыю адносна організацыі музэю, здаецца, што лёгка, але калі ўзяцца за практычную працу, дык ня так лёгка. Організацыя музэяў неабходна, бо вакол іх будзе гуртавацца

праца. Некаторыя таварышы глядзяць пэсымістычна на гэтую працу, кажуць; няма памяшканьняў і нават куткоў. Я згодзен, што бяз сродкаў немагчыма стварыць музэй, але дапамога можа быць і іншая, напр., дублетамі Кажуць няма спэцыялістых. Калі так, экспонаты можна накіроўваць у Менск. У Полацку зараз у Музэі да 600 экспонатаў, а пры дапамозе шляхам абмену ён мог-бы зьмясьціць 30.000!

*Глацёнак* (Мазыршчына). Указаньні аб музэях былі даны і раней. У Асьвейскім раёне былі сабраны экспонаты, насельніцтва аглядвала іх. Гэта дапамагае популярызацыі і падтрымлівае цікавасьць да краязнаўства і, што для нас зараз вельмі важна, выклікае дапамогу з боку РВК і другіх організацый.

*Гірканд* (Клімавічы). Некаторыя таварышы кажуць з некаторай насьмешкай адносна раённых музэяў. Я ня думаю, каб насяленьне так дрэнна адносілася. У прыклад возьмем школьныя выстаўкі, праз якія праходзіць 1.000 і больш чалавек. Селянін над нашымі музэямі ня будзе сьмяяцца, бо ён не сьмяецца над дзіцячымі выстаўкамі. Праўда, няма памяшканьняў. Але гэта не азначае, што экспонаты могуць валяцца. Для гэтага можна зрабіць шафы з палічкамі. Матар'ялы для музэяў можна здабыць, напр., пакідаць экспонаты ад с.-г. выставак. Кажуць: неабходна, каб ЦБК дамагалася, каб з архіваў пасылалі ў раённыя музэі докумэнты, але раённыя музэі ня змогуць прачытаць, дый докумэнты дрэнна будуць там захаваны. Я ўрэшце прасіла-б і гэта будзе як прапанова, каб ЦБК Гомельскі пэдагогічны музэй усімі сіламі абараніла, каб яго ня вывезьлі ў Бранск. Падругое, каб ЦБК зрабіла захады, каб мясцовыя савецкія ўстановы прышлі на дапамогу мясцовым раённым т-вам у стварэньні музэяў.

*Будзько* (Сураж). Некаторыя з выступаючых пэсымістычна глядзяць на стварэньне музэяў. Гэты погляд ня мае пад сабой грунту. Дзіўлюся, што настаўнікі з Полаччыны ня ўмеюць адрозьніць конскай косткі ад мамантавай. І ня мысьлю працы райт-ва без організацыі музэю. Матар'ялы агульнадзяржаўнага значэньня, зразумела, трэба адсылаць, а мясцовыя—у свой музэй. Гэты музэй павінен галоўным чынам адбіваць нашую экономіку і прыроду. У гэтым напрамку наш РВК ідзе нам на дапамогу.

*Казак*. Учора ўжо падкрэсьлівалася вялікое значэньне музэяў. Організацыю іх трэба распачаць як-мага ў большым ліку, ня спыняючыся перад перашкодамі. Т. Касьпяровіч кажа, што музэй павінен быць ляբораторыяй краязнаўства. Можа ў будучыне так і будзе. Даклад т. Аляксандрава дае далейшы напрамак працы. Ніхто не спрачаецца, што сродкі патрэбны, але яны будуць тады, калі вакол пытаньня аб музэях будзе організавана грамадзкая думка.

Заключнае слова на дакладу „Організацыя і тып краязнаўчага музэю".

*Аляксандраў*. Усе, хто выступаў на маім дакладу падзяляюцца на 3 катэгорыі: пэсымісты, оптымісты і гумарысты. Гаварылі, што дакладчык выкінуў лёзунг: даёш музэй і кончана. Гэта ня так. Мэта музэю - стварэньне культурнай каштоўнасьці. Нельга сказаць, што праз год ці болей гэта справа зьдзейсьніцца на 100%. Тыя, якія выступалі з гумарыстычным падыходам, як відаць не прасякнуліся разуменьнем сутнасьці краязнаўчага музэю. Так, калі ніхто не разьбіраецца ў монэтах, ці ў костках, дык-жа ў пляне краязнаўчага музэю гэтыя рэчы не займаюць цэнтральнага месца, і ўся гумарыстыка ідзе „на смарку". Другія кажуць: трэба скласьці спрыяючыя ўмовы працы на мясцох, трэба дэмократызаваць навуку. А т. Касьпяровіч яшчэ кажа аб ляборатарыі. Усё гэта лёгка зрабіць матар'ялам для гумарыстыкі. Важна ня тое, каб музэй стаў ляборатарыяй, а каб нават невялікая праца рэалізавалася. Толькі так і трэба глядзець на раённы краязнаўчы музэй. У сучасны момант стварэньне гэтых музэяў знаходзіцца ў крытычным становішчы. РВК, калі зьвярнуцца да яго за дапамогай, скажа: дзе гэты музэй, на што ён, у вас-жа нічога няма. Я ўпэўнены, што спачатку неабходна прыступіць да працы, прыступіць да зьбіраньня матар'ялаў, экспонатаў. І гэта сьцьвярджаецца вопытам. Тыя прамоўцы, якія ўжо мелі

вопыт у гэтым напрамку, ня ўпалі ў пэсымізм і гумарыстыку і не сказалі што існуюць перашкоды, якія немагчыма было-б перамагчы. У краязнаўчых музэях патрэбны экспонаты, якія не прэтэндуюць на каштоўнасьць дзяржаўных музэяў. На мясцох яшчэ не стварылі жывой справы, вакол якой можа концэнтравацца энэргія. Гэта неабходна. Калі правільна разьмеркаваць працу сярод краязнаўчых гурткоў, дык можна дабіцца гэтага. Музэй павінен быць скуткам працы настаўніка, агронома і г. д. Трэба навучыцца цаніць сваю працу.

*Бялуга.* Неабходна абраць камісію для апрацоўкі рэзолюцыі па дакладу „Організацыя і тып краязнаўчага музэю". Ёсьць прапанова абраць яе ў складзе 5 асоб: Атраховіча, Аляксандрава, Будзько, Глінскага і Струніна.

Зьезд зацьвярджае склад гэтае камісіі.

## РАНЕШНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ ПРЫРОДНА-ГЕОГРАФІЧНАЙ СЭКЦЫІ 12 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ.

У працы сэкцыі прымала ўдзел 39 членаў.

Паседжаньне адчыніў прадстаўнік Оргкамісіі т. *Касьпяровіч* і прапанаваў абраць прэзыдыум для вядзеньня сходу. Аднагалосна быў абраны прэзыдыум у складзе: Салаўёва, Струніна, Касьпяровіча і Паўлава.

Парадак дня:

1. Вывучэньне клімату Беларусі і ўдзел у гэтым краязнаўцаў—дакл т. Макарэўскага.
2. Зьбіраньне расьлін і нагляданьні над імі -даклад проф. Зьбіткоўскага.
3. Фэнолёгічныя нагляданьні—судаклад проф. Салаўёва.

З парадкам дня аднагалосна прынята пропозыцыя заслухаць усе даклады, а тады весьці спрэчкі па ўсіх разам.

Слухалі: Вывучэньне клімату Беларусі і ўдзел у гэтым краязнаўцаў—дакл. т. Макарэўскага (гл. вышэй).

Слухалі: Фэнолёгічныя нагляданьні — судаклад проф. Салаўёва (гл. вышэй).

З тае прычыны, што проф. Зьбіткоўскі яшчэ на паседжаньне не зьявіўся, прымаецца пропозыцыя зачытаць пісьмовае зданьне проф. Мельніка аб фэнолёгічных нагляданьнях над дрэўнаю расьліннасьцю.

Т. *Касьпяровіч* чытае: „Фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнаю расьліннасьцю (з програмай нагляданьняў і кароткай інструкцыяй) (гл. час. „Наш Край" № 2).

Слухалі: Зьбіраньне расьлін і нагляданьні над імі—дакл. проф. Зьбіткоўскага (Друкуецца ў час. „Наш Край" № 5).

Пасьля дакладаў распачаліся спрэчкі.

*Нікіфароўскі* (Барысаў). У галіне фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў ёсьць шмат недахопаў і непаразуменьняў, але, на жаль, гэтыя пытаньні слаба асьвятляліся ў „Нашым Краі". Надрукованы ўсяго тры абагульненьні нагляданьняў надвор'я і адно фэнолёгічнае. Галоўная прычына гэтага тое, што яны не апрацоўваюцца. А для нас—шмат няяснасьцяй. Програма фэнолёгічных нагляданьняў надрукована бяз усякіх тлумачэньняў; справа амаль што не популярызавалася. Пэдагогічная вартасьць нагляданьняў часта зьмешваецца з навуковай; часамі на мясцох не ўявілі сабе самага характару фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў. Таму, напр., жадаюць мець станцыю 2 разраду, а ня ведаюць, што ў даны момант больш карысны нагляданьні над рэйкай. Трэба ўнесьці яснасьць і выразнасьць у програмы, даць тлумачэньні, популярызаваць, высьветліць іх значэньне, друкаваць вынікі нагляданьняў і абагульненьні; выдаць карту фэнолёгічных пунктаў, пашырыць іх сетку. Трэба заснаваць мэтодыку фэнолёгічных нагляданьняў.

*Пакроўскі* (Расна). Наша армія слаба організавана і ня ведае, дзе ёсьць організацыі і пункты. Програма фэнолёгічных нагляданьняў нас мала задаваляла і нават мінімальная програма нас пужала, бо большасьць з нас ня ведае прыроды. Зараз я першы раз на вяку пачуў, што можна наглядаць

адну варону або адзін іншы об'ект. Салаўёў не падкрэсьліў патрэбы арганізацыі правільнай сеткі фэнолёгічных пунктаў, а яе трэба арганізаваць. Лепшым спосабам будзе карткавая сыстэма запісаў. Толькі з гэтага Зьезду мы можам і павінны прыступіць да арганізацыйнай працы: арганізацыі сеткі, высылкі картак і г. д.

*Струнін* (Гомель). У Гомельскай і Рэчыцкай акругах ёсьць толькі 3-4 мэтэоролёгічныя станцыі, чаму прыходзіцца прызнаць тамашнюю мэтэоролёгічную сетку невыстарчаючай. Трэба заснаваць мэтэоролёгічныя станцыі ў Сьвяцілавічах, Насовічах і Ўваравічах. Калі ня можна—мэтстанцый, дык хоць-бы вадамерныя пункты. Мы мелі сувязь з Цэнтральным Гідролёгічным Комітэтам, які і рассылаў нам анкеты. Цяперака—задача БССР рабіць гэта. Трэба каб працаўнікі мэтэоролёгічных станцый, ці кадры настаўнікаў і вучняў пры іх, узялі на сябе фэнолёгічныя нагляданьні. Програму Мельніка трэба ўзгодніць з іншымі і друкаваць з агаворкай, што яна для спэцыялістых, не агульная, бо інакш яна можа зьбіць з панталыку ранейшых працаўнікоў. Не магу згадзіцца з патрабаваньнем проф. Мельніка быць дасканала знаёмым з об'ектам нагляданьня. Але разам з тым проф. Мельнік дае вельмі каштоўную спэцыяльную програму; праўда, яна ня ўсім па сілах. Фэнолёгічныя нагляданьні вяліся ў Гомельшчыне і я-б хацеў, каб наша програма і мэтод працы былі ўлічаны пры ўкладаньні новай програмы для Беларусі. Ні міжнародная, ні програма РСФСР нас задаволіць ня могуць. (Програму, арганізацыю і мэтод працы гл. у № 4 „Нашага Краю“ за 1927 г.).

*Купрэвіч* (Сьмілавічы). На мясцох захапляюцца прыродна-географічным вывучэньнем краю і праца ў напрамку зробленых дакладаў вядзецца. У дакладах няма адзінасьці. На мясцох прымячаецца дзьве плыні—навуковая і музэйная. Часамі працуюць толькі для музэю. А матар'ял наш, бывае, ня мае ні навуковай, ні музэйнай каштоўнасьці: без пашпартоў і г. д., а да азначэньняў у мэтах навуковасьці ёсьць імкненьне. У адным з музэяў было паказана расьлінавае згуртаваньне балота з больш чым 80-90% лацінскіх азначэньняў без мясцовых. І азначэньні гэтыя былі зусім няправільныя. Каштоўнасьць гэтых азначэньняў адмоўная—іх шкоднасьць, імкнуцца да сыстэматызацыі, не ўяўляючы асноў яе.

Прымаецца пропозыцыя спыніць спрэчкі і заслухваць заключныя словы.

*Макарэўскі.* Фэнолёгічныя нагляданьні—навуковая справа. Згаджаюся, што трэба арганізаваць сталую сетку фэнолёгічных пунктаў, якія, дзе магчыма, можна ўвязаць з мэтстанцыямі, бо фэнолёгія і мэтэоролёгія—родныя сёстры. Прадказаньні аб пагодзе фэнолёгіі (Сьмірына) аказаліся аднойчы больш правільнымі, чым мэтэоролёгіі. У нас, у БССР, фэнолёгічных пунктаў ужо ёсьць 35. Апрацоўка фэннагляданьняў вялася Мэтбюро Наркамзему і ўсе прысланыя матар'ялы скарыстаны. Вучні пры належным кіраўніцтве могуць даваць высокакаштоўны навуковы матар'ял. За мінулыя гады, ясна, трэба прысылаць усе фэннагляданьні. Абагульненьні мэтнагляданьняў ня друкаваліся, бо Мэтбюро па незалежных ад яго прычынах не пасьпела апрацаваць іх у час. Голыя лічбы не задаволяць нікога—трэба фон, паясьненьні, а для іх весткі ў час ня прышлі таксама. Штат наш малы—2 чал. А шмат часу оргпраца адняла ды змаганьне з об'ектыўнымі ўмовамі. А спазьніўшыся, мне не хацелася даваць; цяперака я апрацаваў за год. У будучыні будзем друкаваць абагульненьні акуратна. У Гомелі трэба пашырыць сетку, тым лепей, што ў нас ёсьць прылады.

*Салаўёў.* Праўда—ёсьць стракатасьць програм. Я сваіх програм не прапаную—ёсьць Ленінградзкая. Недахопы програмы Мельніка: шмат месца адведзена дубам і боязьні, каб іх не зьмяшалі. У Ленінградзкай-жа програме толькі бясспрэчнае і таму яна можа быць намі прынята. Карысны і такія спэцыяльныя програмы як проф. Мельніка, але як спэцыяльныя. У програме павінен быць чым найбольшы лік об'ектаў і нагляданьні павінны весьціся над імі. Сетка фэнпунктаў памойму ёсьць гэта нашы краязнаўчыя

організацыі, дзе і вядуцца нагляданьні. Хто зацікавіўся апошнімі—няхай вядзе, а штучна пашыраць ня варта. Праца толькі што пачынаецца і, калі ёсьць памылкі ў азначэньнях—ня так страшна.

*Зьбіткоўскі.* Абменнае бюро (расьлінамі і колекцыямі) мае організавацца. Пры зборы расьлін трэба запісваць фэнолёгічныя і біолёгічныя нагляданьні. Іл ад расьлін трэба вывучаць, як і характар берагавой расьліннасьці. Адных біолёгічных куткоў у музэі не хапае—трэба мець і сыстэматычныя колекцыі па штучным разьмеркаваньні або скарыстаньні (гарод, поле і да т. п.). Памылкі, як казалі, ня страшны—спэцыялісты іх выправяць, абы праца вялася.

Уносіцца проект рэзолюцыі, які і прымаецца аднагалосна ў такім відзе.

Заслухаўшы даклады: т. Макарэўскага аб вывучэньні клімату і ўдзеле ў гэтым вывучэньні краязнаўцаў, проф. Салаўёва аб фэнолэгічных нагляданьнях, проф. Мельніка аб фэнолёгічных нагляданьнях над дрэўнымі расьлінамі, проф. Зьбіткоўскага аб зьбіраньні расьлін і нагляданьнях над імі, прыродна-географічная сэкцыя 2 Ўсебеларускага Краязнаучага Зьезду лічыць, што: 1) прыродна-географічнае вывучэньне краю павінна ляжаць у аснове дзейнасьці краязнаўцаў і краязнаўчых організацый; 2) матар'ялы мэтэоролёгічных і фэнолёгічных нагляданьняў павінны сваячасова абагульняцца і друкавацца ў „Нашым Краі", прычым карысна, каб там-жа асьвятляліся хібы і недахопы мясцовых матар'ялаў, што палегчыць выпраўленьне іх; 3) мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны павялічваць лік мэтэоролёгічных і фэнолёгічных пунктаў на мясцох; 4) размаітасьць програм фэннагляданьняў памяншае іх каштоўнасьць, чаму даручыць ЦБК ўзгодніць існуючыя ў БССР програмы з мэтаю дасягненьня аднолькавасьці, прычым пажадана, каб ня было разрыву з програмамі суседніх краін; 5) апублікаваньне спэцыяльных фэнолёгічных програм зьяўляецца вельмі патрэбным; 6) толькі пасьля ўтварэньня асобнага цэнтру фэннагляданьняў мажліва будзе іх сваячасовая апрацоўка і організацыя; 7) толькі шляхам зьбіраньня колекцый мажліва вывучэньне як мясцовай, так і БССР флёры, чаму ўсе організацыі павінны прыступіць да гэрбарызацыі мясцовай флёры і нагляданьняў над ёю, а ЦБК—утварыць абменнае бюро; 8) з прычыны адсутнасьці належнай літаратуры па пытаньнях сэкцыі даручыць ЦБК паклапаціцца выданьнем такой, а таксама зьмяшчэньнем у працах Зьезду ўсіх заслуханых на сэкцыі дакладаў.

## РАНЕШНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНАЕ СЭКЦЫІ 12 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ.

У працы сэкцыі прымала ўдзел 37 членаў.

Адчыняе пасяджэньне т. *Казак,* які знаёміць з абвесткай дня. Па яго прапанове для вядзеньня пасяджэньня абіраецца прэзыдыум у складзе тт.: Васілевіча (старшыня), Мікалаева (намесьнік) і Шашалевіча (сакратар).

Парадак дня:

1. Укладаньне археолёгічнай карты Беларусі—даклад З. Даўгялы.
2. Вывучэньне гісторыі раёну—даклад М. Мялешкі.
3. Вывучэньне саматужнай прамысловасьці краю—даклад Рака.

І. Даклад Даўгялы „Укладаньне археолёгічнай карты Беларусі". (гл. вышэй).

У парадку спрэчак слова мае: *Чайкоўскі* (Тураў): Мы ўжо 3-ці год пасылаем весткі, замалёўваем гарадзішчы, а цяпер дакладчык прапануе зноў улічваць, складаць карты. Гэта—праца толькі падрыхтоўчая. Важна рабіць самім досьледы, бо бяз гэтага праца няцікава, ды і помнікі зьнішчацца. Хоць пропаганда ідзе, каб помнікі старасьветчыны захоўваліся, але селянін усё гэта мала прыймае пад увагу: разорвае курганы пад поле, зрывае валы. Трэба скарыстаць помнікі, рабіць досьледы іх, трэба пэрыодычна прадстаўніком цэнтру выяжджаць на месцы і дапамагчы досьледам. Напр., каля Туразу было каля 40 курганоў. Я прасіў, каб мне дазволілі з вучнямі раска-

паць хоць адзін курган. Гэта забаранілі. І курганы ўсё роўна раскапалі. Я ўношу прапанову прызнаць, што працай па рэгістрацыі не павінна абмежавацца наша краязнаўчая дзейнасьць.

*Сербаў*. Я вельмі шкадую, што прыходзіцца выступаць па прыватным пытаньні. Т. Чайкоўскі ня зусім правільна высьветліў пытаньне. Мы яго апісаньні разгледзелі, як належыць. Рабіць-жа досьледы толькі з аднае цікавасьці немагчыма. Мы паслалі яму запытаньне: хто будзе несьці адказнасьць за руйнаганьне помніку? Трэба было паказаць адказнага сябра. Падругое: неабходна даць плян, які курган думаюць раскапаць і прысылаць матар'ялы і протокол раскопваньня. Я ўношу толькі тлумачэньні, як было. ІБК у досьледах пойдзе на сустрэчу, толькі неабходна выконваць паказаныя ўмовы.

*Цярэшчанка* (Віцебск). Неабходна спачатку ўзяць усе помнікі на вучот і потым пачаць іх вывучэньне. ІБК правільна робіць, што ў першую чаргу бярэ іх на вучот. Нам трэба падумаць, як практычна захаваць помнікі.

*Ляўчук*. Я задаў пытаньне, як будзе весьціся археолёгічнае вывучэньне Беларусі і меў на ўвазе закардонную Беларусь. У Горадзеншчыне ў адным месцы ёсьць украпленьне, якое цяпер пачало разорвацца, там знайшлі залаты сподак. У тым-жа павеце, каля в. Прыліпы, калі селянін вазіў пясок, знайшлі шапку, за якую далі 1.500 руб. У Бярэзыньскім раёне як макам усеяна курганамі, на іх парасьлі магутныя сосны. А досьледаў ня было.

*Дзямяшкевіч* (Чэрвень). Мне здаецца, што ў раскопках неабходна сыстэма. У Чэрвеншчыне нават сяляне пачалі раскопваць. Т. Сербаў кажа, што пры вядомых умовах дазвол можна даваць нават школам. Гэта праца цяжкая і кожнаму брацца за яе ня будзе карысьці. Даклад т. Даўгялы — зусім рэальны плян падрыхтоўчай працы.

*Васілевіч*. Паступіла прапанова за абмежаванасьцю часу спрэчкі спыніць.

Прапанова прыймаецца.

*Бялуга*. Я ўношу прапанову зачытаць тэзісы дакладу і прыняць за аснову рэзолюцыі.

*Даугяла* зачытвае тэзісы.

Пастанавілі: прыняць тэзісы за аснову для рэзолюцыі.

*Серафімаў*. У рэзолюцыю ўнесьці дадатак: даклад у надрукаваным выглядзе хутчэй распаўсюдзіць сярод краязнаўчых організацый; кожнаму дэлегату неабходна атрымаць умоўныя знакі.

*Цярэшчанка*. Мой дадатак: усе матар'ялы па археолёгічным вывучэньні павінны паступаць у акругі.

*Васілевіч*. Ёсьць прапанова для дэтальнай апрацоўкі рэзолюцыі па дакладу выбраць камісію з 3 асоб; Даўгялы, Сербава і Чайкоўскага.

II. Даклад М. Мялешкі „Вывучэньне гісторыі раёну". (Дзеля тэхнічных прычын даклад ня друкуецца).

У парадку спрэчак слова мае *Дзямяшкевіч*: т. Мялешка назваў свой даклад схэматычным. Гэта ня так. Выкананьне намечанага цяжка. Працы гэтай хопіць не на год. Ёсьць прычыны, якія не дазваляюць гэта зрабіць. Калі знаходзімся ў раёне, дык няма крыніц, бо архівы ня трымаюцца ў раёне. Нават раней выданыя кнігі ня знойдзеш. Ня ў кожным раёне ёсьць IX том Сямёнава. Што датычыцца апавяданьняў старых людзей—іх можна сабраць на раёне. Дапамогу могуць аказаць вучні сямігодкі.

*Бычкоў*. Я чакаў ад дакладчыка схэмы колектыўнай працы па двох, трох пытаньням гісторыі. Дакладчык-жа проста пералічыў пытаньні, каб можна было з іх тое ці іншае выбраць. Зьбіраць матар'ялы толькі тады цікава, калі ёсьць мэтавая ўстаноўка, калі ведаеш, для чаго робіцца. Выбіраць тэму і ня ведаць, што з гэтага будзе—немагчыма. Праца будзе мець карысьць, калі яна будзе часткай вялікай працы. Пажадана організаваць вывучэньне гісторыі раённым т-вам па адным якім прынцыпе, пасільным для нас. Я запытваўся, што лепей вывучаць спачатку і дакладчык адказаў:

соцыяльна-экономічныя фактары. Гэта ня зусім так, бо лягчэй вывучаць гісторыю ня з гэтага боку, а з боку павярхоўных зьяў. Вывучаць экономіку цяжка. У прыклад вазьмем вывучэньне вёскі Фэномэнавым. Калі-б нашы організацыі заняліся такой працай, гэта дало-б вялікія вынікі.

*Сосінаў* (Краснапольле). Было запытаньне дакладчыку—на які тэрмін гэта праца. Зразумела, нельга на гэта адказаць. Нам неабходна знайсьці мэтоды працы. У нас ёсьць нездаровы ўхіл: працуюць індывідуальна, а трэба працаваць колектыўна. У працы па вывучэньні гісторыі неабходна сувязь паміж сэкцыямі. Цяпер мы ня можам на месцы вывучаць гісторыю (кажу пра наш раён), бо вялікая адлегласьць ад цэнтраў перашкаджае шуканьню документаў. Мы толькі можам дапамагаць акрузе.

*Глацёнак.* Даклад зроблены тэорэтычна; практычнага мала даў. У нас ёсьць плян апісаньня раёну і даклад зьяўляецца толькі дэталізацыяй часткі пляну. Нам цяжка зьбіраць матар'ялы. Напр., вывучыць гісторыю Асьвеі. Для гэтага неабходна сьпісаць некаторыя документы і прыходзіцца 25 р. заплаціць за чыгунку. А найбольш цікавыя кніжкі ў бібліотэках разабраны. Трэба да гэтага пытаньня падыйсьці больш практычна. Сэкцыя павінна выказаць погляд, каб раённыя і акруговыя т-вы дапамаглі атрымаць матар'ялы.

*Мацьвяёнак* (Магілеў). Даклад зусім конкрэтны. Немагчыма навязваць т-вам акрэсьленыя заданьні. Раённыя працаўнікі не профэсары і імкненьне таварystваў надаць гэтай працы глыбіню і сур'ёзнасьць—гэта імкненьне адзіночак. А для мас патрэбны не паасобныя разьбітыя, а нейкія агульныя заданьні. Трэба ў рэзолюцыі яскрава формуляваць пункт, што раёны павінны вывучаць адно пасільнае пытаньне.

*Будзько* (Сураж). Вывучэньне гісторыі раёну—праца надзвычайна цяжкая, я сказаў-бы немажлівая. Мы хацелі вывучыць гісторыю свайго раёну, а даведаліся, што адзін працаўнік з Віцебску ўжо зрабіў тое, што мы думалі. Вось што трэба нам занатаваць—рэволюцыйную хроніку 1905 году, апісаць мясцовыя падзеі. У літаратуры аб гэтым ня знойдзеш.

*Леванёнак.* Калі паставіць пытаньне аб усебаковым дасьледваньні гісторыі раёну, дык правільна зрабіў т. Даўгяла, які запытаўся, на колькі сталецьцяў будзе разьлічана праца. А вывучыць аддзельныя пытаньні магчыма. Напр., вывучыць гісторыю заводу, узяць весткі ад рабочых—гэта можна зрабіць нават сіламі вучняў. З задачай усебаковага вывучэньня гісторыі раёну мы ня справімся.

*Бялуга.* Пытаньне т. Даўгялы, на колькі год хапіць працы—гэта пэсымізм, нявер'е ў нашыя сілы. Мы ведаем, што можна вывучыць толькі пэўную галіну гісторыі. Трэба, каб т-вы на мясцох абмеркавалі і вырашылі гэтае пытаньне. Калі гісторыю разглядаць, як барацьбу клясаў—справа цяжкая для маладых гісторыкаў, бо патрэбна ўменьне падагульваць. А мы ставім мэтай—разьбіць гісторыю раёну на аддзельныя часьці, якія будуць вывучацца ці колектыўна, ці індывідуальна. Я згодзен з т. Мацьвяёнкам, што патрэбна вывучэньне буйнай прамысловасьці. Але затое вывучэньне гісторыі саматужнай прамысловасьці магчыма і для непадкаванага гісторыка. Пажадана вывучыць уплыў хатніх рамёстваў на дабрабыт вёскі. Матар'ялы можна знайсьці. Я думаю, кожны таварыш можа гэтую галіну гісторыі вывучыць.

Возьмем гісторыю рэволюцыйнага руху. Можа няма гістарычных запісаў, але знойдуцца асобы, якія могуць даць свае ўспаміны. Нядаўна ў ІБК быў заслуханы вельмі цікавы даклад аб падзеях 1905 г. ў Капылі. Адносна гэтага ня было документаў, а толькі ўспаміны. Ня гледзячы на гэта, удалося ажывіць запраўдную хроніку падзей.

Некаторыя таварышы кажуць, што лягчэй вывучаць палітычную гісторыю. Але трэба брацца і за цяжкую працу ў чыста мэтодолёгічных мэтах—падвесьці пад гісторыю экономічны фундамэнт. Прыклад: у нас існавала самаўладзтва. Чаму яно зьмяняла свае палітычныя формы? Былі экономічныя падставы для гэтага. Адносна матар'ялаў трэба сказаць, што і ІБК карыста-

еццa матар'яламі на старане—робяцца выезды ў Ленінград. Для вывучэньня гісторыі раёну трэба скарыстаць мясцовы матар'ял.

*Марголіна.* Пытаньняў вельмі шмат і мы павінны намеціць шэраг пытаньняў, якія неабходна і магчыма вывучыць. Па сельсаветах магчыма вывучыць помнікі старажытнасьці. Ёсьць старыя, якія яшчэ памятаюць 1863 год, іх неабходна выкарыстаць. Мэтод вывучэньня гісторыі—колектыўнае вывучэньне. Мы можам вывучыць толькі некалькі пытаньняў. Са сродкамі ў нас кепска. Іх бязумоўна ня хопіць на перапісваньне документаў з архіваў. Мы з гэтае прычыны, можам даць толькі матар'ялы па жывой гісторыі раёну.

*Мікалаеў* (Гомель). К зачытанаму дакладу, як да проекту, крытычна аднесьціся нельга, але наколькі, у якой меры можна правесьці ўсё гэта. У Гомельшчыне было праведзена абсьледваньне сельсаветаў. Да гэтае працы былі прыцягнуты настаўнікі, мэдпрацаўнікі і агропэрсонал. У мяне склалася ўражаньне, што на падставе іх матар'ялаў і апісаньняў нельга весьці дасьледваньне, бо ўсё прыймалася без гістарычнай крытыкі, праверкі. Толькі адно было каштоўным у гэтых апісаньнях—констатаваньне расслаеньня. Настаўнік ня мог справіцца з намечаным плянам апісаньня раёну. Неабходна, каб заданьні даваліся пасільныя. Неабходна паказаць мэтод, як падыйсьці да працы. Гэта павінен зрабіць ІБК, які зможа даць пробны плян.

*Чайкоўскі.* Усякая праца па апісаньні раёну бязумоўна прадпалагае і пробны плян і мэтод. У нас мала документаў. Нам неабходна мець апісаньне архіваў.

*Васілевіч.* Даклад хварэе поўнасьцю. Лепш было-б, каб дакладчык менш пералічаў момантаў працы, а даў практычныя парады, дзе знайсьці архіўныя документы, якія тут у Менску сконцэнтраваны. Мы ведаем аднаго працаўніка ў Віцебску, які пачаў друкаваць свае досьледы і нарабіў ляпсусаў, бо даверыўся „памятным кніжкам". У дакладзе якраз не падкрэсьлены момант крытычных адносін да крыніц.

*Мялешка* (заключнае слова). Я дзякую за крытыку майго дакладу. Толькі я ня згодзен з усім тым, што гаварылі. Аднальковага заданьня ня можа быць для ўсіх раёнаў. Я падкрэсьліваў, што на мясцох магчыма намеціць тыя ці іншыя пытаньні. Усё гэта прадугледзець у дакладзе немагчыма. Гаварылі аб вывучэньні гэнэолёгіі. Зразумела, мы цяпер гэтага вывучаць ня будзем, а толькі тое, што дапамагае адбудаваньню. *Т. Бялуга* заўважыў, што ў маім дакладзе няма сувязі паміж аддзельнымі часткамі. Я гэта зрабіў наўмысьне, бо спачатку неабходна вывучэньне монографіі. *Т. Васілевіч* абвінавачваў мяне за паўнату дакладу. Я думаю, што гэта плюс, а ня мінус. Апісаньне архіваў даць у дакладзе немагчыма, для гэтага неабходна было-б скласьці другі даклад. Мэтодолёгія—справа цяжкая і гэтым павінна заняцца Гістарычна-Археолёгічная сэкцыя ІБК. Па маім дакладзе я прапаную такую рэзолюцыю (зачытвае яе).

*Васілевіч.* Я прапаную ўзяць гэтую рэзолюцыю за аснову і, калі будуць якія дадаткі да яе, здаць іх у камісію. Для апрацоўкі рэзолюцыі па дакладзе прапануецца абраць камісію з 6 асоб: Васілевіча, Бялугі, Мікалаева, Мялешкі, Шашалевіча і Бычкова.

Рэзолюцыя ў аснову прыймаецца. Камісія ў паказаным складзе зацьвярджаецца.

III. Даклад т. Рака „Вывучэньне саматужнай прамысловасьці Краю" (гл. вышэй).

У парадку спрэчак *Дземяшкевіч.* Т. Рак кажа, што програмы маюць практычную мэту. Калі так, дык неабходна было-б распрацаваць і мэтод, бо вельмі часта програма бывае вялікай і закавырыста напісана. Програму, памойму, неабходна было-б падзяліць на аддзелы, згодна дапасаваньню да вясковай прамысловасьці і да гарадзкой.

*Леванёнак.* Даклад даў максымум тэорэтычнасьці, а невядома, як практычна прыступіць да працы. Прыдзеш на вёску да калесьніка, паспрабуй

дапытацца ў яго, колькі ён зарабляе? Мы ня ведаем, як падыйсьці да гэтага, як дабіцца, каб весткі даваліся правільныя. У дакладзе аб гэтым ні слова.

*Сінская.* Мы разаслалі анкеты па школах. Адказаў няма. Пасьля выззваліся дзеці лясьнікоў. Але нельга ручацца, што весткі даюцца правільныя.

*Дабравольскі.* Мы неяк расплываемся. Адна справа—сядзець у цэнтры і распрацоўваць анкеты, а другая—зьбіраць матар'ялы па анкетах. Калі прыходзіцца праводзіць конфэрэнцыі і рабіць тэорэтычныя даклады, дык чуем, што трэба даць конкрэтныя заданьні. Усе анкеты неабходна пазбавіць пэдантызму. Гэта не пэсымізм, а практычнае спатканьне з перашкодамі. Неабходна ўзяць толькі асноўныя моманты, якія магчыма апісаць. Паколькі мы бярэм курс на шырыню, неабходна нашых працаўнікоў разгрузіць ад іншых абавязкаў.

*Гурыновіч.* Я шмат намеціў запытаньняў, як ехаў сюды. А цяпер я заўважыў, што мала практыкі, а многа тэорыі. Програма распрацоўваецца агульна і для гораду і для вёскі, але мы ведаем, што ўмовы неаднолькавыя там і там. Наогул трэба сказаць, што вывучэньне саматужнай прамысловасьці цяжка рабіц. Сялянам боязна даваць адказы.

*Мурашка.* Я запытаўся, на які тэрмін гэта праца, бо немагчыма, каб узяў, запоўніў ды і ўсё. Справа вывучэньня ўсяго гэтага—справа жыцьця. Мы дарэмна палохаемся, што немагчыма падыйсьці да саматужнікаў. Цяпер яны ўжо абкладзены, ведаюць свой бюджэт і часта паведамляюць аб гэтым інспэктара. Можна знайсьці такіх, якія не пабаяцца даць правільныя весткі. Ня трэба дзяліць на вясковую і гарадзкую саматужную прамысловасьць, бо тады прыдзецца дзяленьне прадоўжыць.

*Бялуга.* Выдзелім адно пытаньне—як падыйсьці да селяніна, які, кажуць, ніколі праўды не пакажа. У гэтым ёсьць доля праўды, але калі гэта цалкам справядліва, мы не змаглі-б нічога вывучыць з таго, што датычыцца вёскі. Т. Рак і не павінен быў спыняцца на гэтым у сваім дакладзе. Другое пытаньне—наколькі практычна програма, якую намеціў ён, ці можна яе выкарыстаць у працы? Памойму яна ня так тэорэтычна. Дэталізацыя програмы патрэбна для пачынаючага дасьледчыка. Інструкцыя мала можа быць пашырана. Я хочу падкрэсьліць, што саматужная прамысловасьць разьвівае індывідуальнага гаспадара, і памойму на гэты пункт трэба было-б зьвярнуць увагу ў програме. Прычына, чаму програма больш дастасавана да вёскі, тая, што вывучаць прамысловасьць вёскі толькі цяпер пачынаюць больш-менш поўна, а ў горадзе лягчэй вывучаць.

*Рак* (заключнае слова). У програмах орыентацыя была на вёску, але яны падыходзяць і да мястэчка. Гаварылі, што програмы складаюцца ў цэнтры і гарадзкія працаўнікі ня ведаюць вёскі. Я сам рабіў экспэдыцыю на вёску (Асіпавічы). Кажуць: сяляне асьцярожны, але калі ня пытаешся прозьвішча, дык весткі даюць. У маёй програме няма тэорэтычнасьці, а трэба толькі адказаць на пытаньні. Калі чаго і нельга было абхапіць у програмах, дык некаторых аддзельных момантаў. Наогул справу гэтую можна наладзіць. Адносна таго, які ўплыў саматужнай прамысловасьці на ідэолёгію—гэта пытаньне будзе распрацавана.

*Васілевіч.* Прапаную выказаць пажаданьне, каб агульныя палажэньні, якія высунуты ў дакладзе т. Рака, былі прыняты пад увагу.

*Рак.* зачытвае проект выказаных пажаданьняў.

Прапанова прыймаецца.

*Васілевіч.* Абвяшчае пасяджэньне сэкцыі зачыненым.

## РАНЕШНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ ШКОЛЬНА-КРАЯЗНАЎЧАЕ СЭКЦЫІ 12 ЛЮТАГА 1927 году.

У працы сэкцыі брала ўдзел 70 членаў.

У прэзыдыум абраны: т. т. Аляксандраў, Аніхоўскі, Сянькевіч А.

У сакратарыят—т. т. Гарасімовіч і Троська.

Заслуханы два даклады: 1) „Краязнаўства ў школе“ т. Шапялевіча (гл. вышэй“ і 2) „Экскурсіі з вучнямі ў прамысловыя прадпрыемствы“ т. Самцэвіча (гл. час. „Асьвета № 2 за 1926 г.).

Ухвалена заслухаць спрэчкі па сутнасьці двох дакладаў.

Выступалі:

*Ражкоў.* Лепш было-б, каб на краязнаўства глядзелі, як на дапамогу школьнаму навучаньню. Хоць дакладчык быў оптымістычны, але ёсьць усё-такі цяжкасьці. Патрэбен мясцовы матар'ял літаратурна апрацаваны для дзяцей. У дакладчыка не прадбачана спэцыяльная экскурсія; але да такой экскурсіі настаўнікі не падрыхтаваны, бо няма ўказаньняў, як яе праводзіць.

*Ламака.* У асноўным з дакладам т. Шапялевіча можна згадзіцца. Аб тэрмінолёгіі: *краязнаўчы мэтод* гэта ня тое самае, што і *дасьледчы*. Трэба ўжо трымацца апошняга. Пад школьным краязнаўствам трэба разумець спосаб скарыстаньня матар'ялаў дасьледваньня краю для агульных мэт краязнаўства.

Здаецца, тут мы з дакладчыкам ня сходзімся. Калі гурток толькі павінен сачыць за краязнаўчым матар'ялам пры школе, дык яго ня трэба, бо з гэтым можа справіцца і школьная камісія. Гурткі пры школе патрэбны, але пераважна ня з вучняў, бо ўся школа—вучнёўскі краязнаўчы гурток.

*Харламповіч.* Я згодзен з Ламакаю. Кожная кляса павінна мець пэўнае заданьне ў выніку програмнае працы. З гэтых матар'ялаў складаецца і школьны музэй. Я пакажу, што магчыма зрабіць з дзецьмі малодшых груп. (Ілюструе замалёваныя вучнямі ўзоры разьбы на хатах, вокнах і інш.).

*Беккер.* Ня можна згадзіцца з папярэднімі двума прамоўцамі. Школа павінна рыхтаваць краязнаўцаў праз гурткі. Скажу яшчэ, што школьна-краязнаўчая праца дае і навуковай вартасьці матар'ялы. Трэба ставіць даклады аб школьным краязнаўстве на ўсіх конфэрэнцыях. У мяне ёсьць проект для краязнаўчага дасьледваньня гораду.

*Мялешка.* Т. Ламака прапануе менаваць краязнаўчы мэтод дасьледчым. Ён памыляецца. Трэба заняцца зьместам школьна-краязнаўчае працы. Школьна-краязнаўчыя гурткі якраз павінны складацца з вучняў. Увязка паміж школьнымі програмамі і краязнаўствам зусім ясная. Трэба, каб дакладчык выказаў погляд аб запісах нар. песень, прыказак і інш. і аб нецэнзурных словах у іх.

*Глінскі.* Гурткі пры вясковай школе даюць добрыя вынікі. Гурткі—жыцьцёвая рэч. Дзе нельга заснаваць музэю, магчымы гурткі. Пры зьбіраньні матар'ялаў трэба мець падыход да зьместу.

## *Заключнае слова дакладчыкаў.*

*Самцэвіч.* На мой даклад выказваліся мала. Гэта зразумела, бо разгледжаны толькі экскурсіі ў прамысловасьць, што не зьяўляецца пільным для масавае сельскае школы. Я нічога не сказаў аб вывучэньні школаю саматужнае вытворчасьці. Школа працуе не для аднаго музэю, а для ўзьняцьця вытворчасьці і палепшаньня ўмоў гэтае вытворчасьці. Програма—краязнаўчая праца—першая рэч. Пры ўкладаньні анкет, павінна даручаць апрацоўку іх проекту толькі некалькім чалавекам, пасьля чаго прагледзець анкеты колектывам.

*Шапялевіч.* Запісаныя песьні, казкі і інш. з нецэнзурнымі словамі можна прымаць, але адначасна рабіць выхаваўчы ўплыў. Адно зьбіраньне матар'ялаў, бязумоўна, нудная рэч. Яно павінна быць вынікам навучальна-дасьледчае працы. Тэрмін *краязнаўчы мэтод,* а *не дасьледчы,* трэ' пакінуць, бо дасьледчы мэтод можа быць і не краязнаўчым.

*Старшыня т. Аляксандраў.* У рэзолюцыі трэба падкрэсьліць краязнаўчую працу па школьных групах. Краязнаўчым экскурсіям трэба даць утачненьне.

Пытаньні, узьнятыя аб школьным краязнаўстве будуць зьмешчаны ў часопісу; яны павінны выклікаць удзел у абмене думкамі і практыкаю; гэта неабходна для большае карыснасьці ў працы школьна-краязнаўчае сэкцыі, якая нядаўна ўтварылася пры ЦБК.

Ухвалена абраць камісію для апрацоўкі рэзолюцыі па двох дакладах. У камісію абраны т. т. Ражкоў, Бэккер, Бялькевіч, Глінскі, Аляксандраў і абодва дакладчыкі.

Заслуханы даклад т. *Сянькевіча „Краязнаўчая праца ў вышэйшых навучальных установах“* (гл. вышэй).

*Мялешка.* Калі не пашырыцца краязнаўчы рух па ВНУ, ня будзе тады патрэбнае зьмены.

Сумна, што ў Сельска-Гасп. Акадэміі толькі 7 чал. У Полацкім Пэдтэхнікуме краязнаўчая праца ажывілася.

*Бялькевіч.* Цяжка гаварыць аб краязнаўстве ў школах, яшчэ цяжэй гаварыць аб гэтай справе ў выш. школах. Перабудова програм павялічыць тэрмін навучаньня і гэта рэч не кароткая. Дзіўна, што ў Полацкім Пэдтэхнікуме выкладчыкі не бяруць удзелу ў краязнаўчай працы. Іх магчыма ўцягваць, як кіраўнікоў па асобных спэцыяльных пытаньнях. У Горках ёсьць Навук. Т-ва і няма грамадзка-краязнаўчага т-ва; Дзеля гэтае прычыны там мала ўцягнута студэнтаў у краязнаўства.

*Самцэвіч.* Пры перабудове навучальных плянаў ВНУ трэба зрабіць папраўкі, кіруючыся на краязнаўства.

*Бараноўскі.* У першую чаргу трэба організоўваць па ВНУ краязнаўчыя гурткі. Асаблівае значэньне трэба надаць пашырэньню краязнаўчага руху сярод вэтэрынараў, дактароў, агрономаў, лясьнічых.

*Тамкоўскі.* Па ўсёй лініі асьветы не асабліва добра ідзе краязнаўчая праца. Бяда ў тым, што няма адпаведнае літаратуры.

*Улашчык.* Патрэбна па ВНУ пропаганда за краязнаўства. Трэба ўвесьці курс „Мэтодыкі Краязнаўства“.

*Рэмез.* У Вэтэрынарным Інстытуте ёсьць Т-ва Краязнаўства з 47 асоб. Няма жывой сувязі з ЦБК.

*Аніхоўскі.* Краязнаўчая праца сярод студэнтаў усе-ж такі была, але аб ёй мала вядома, бо ня было падліку гэтае працы.

*Мяцельскі.* У некаторых пэдтэхнікумах была добра разгорнута краязнаўчая праца, але аб гэтым мала гаварылася. Перашкаджае краязнаўчаму руху заваленасьць студэнтаў працаю.

*Троська.* Ня гледзячы на заўвагі, што нібыта ня так дрэнна краязнаўчая праца ў Выш. Нав. Установах, мне здаецца, што нам усё-ж трэба з жалем константаваць, што там праца была вельмі малая.

Казалі, ня было падліку; думаю, каб было што падлічваць, знайшліся-б спосабы падлічыць. Казалі, ня трэба зьменьваць навуч. пляны, а толькі трэба ўвесьці курс краязнаўства (Вуз). Гэта-ж выклікае адразу перабудову навуч. пляну. Выпраўленьне програм на краязнаўчы ўхіл асабліва ў пэдтэхнікумах пільна патрэбна. Наша вышэйшая школа з боку краязнаўчага зьместу яшчэ не прырасла да краіны, якая яе гадуе, чаго ня можна сказаць аб масавай школе. Дакладчык заўважыў, што ўнясеньне краязнаўчага элемэнту ў програмы і плян ВНУ павінна быць зроблена з ініцыятывы студэнцкіх краязнаўчых організацый. Мне здаецца, гэтага мала, бо самых організацый бадай што няма; тут патрэбен уплыў ЦБК.

*Бэккер.* Трэ'прасіць, каб ва ўсіх тэхнікумах сёлета быў уведзены курс краязнаўства за кошт скарачэньня курсу географіі.

У заключным слове т. *Сянькевіч* падкрэсьліў, што ўсё-ж краязнаўчая праца ў вышэйшых школах і тэхнікумах яшчэ слаба разгорнута і патрабуе для свайго палепшаньня асабліваe ўвагі. Значную ролю ў падрыхтоўцы маладых краязнаўцаў—павінна адыграць катэдра краязнаўства ў вышэйшых школах і мэтодыка краязнаўства ў тэхнікумах.

Для апрацоўкі рэзолюцыі складзена камісія ў наступным складзе: т. т. Аніхоўскі, Мяцельскі, Бэккер, Улашчык, Бараноўскі, Рэмез, Ламака і дакладчык Сянькевіч.

Камісіямі апрацованы па гэтым пытаньні дзьве рэзолюцыі, якія зацьверджаны сходам.

## ВЯЧЭРНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ ПЛЕНУМУ 12 ЛЮТАГА 1927 г.

I. Даклад аб краязнаўчай дзейнасьці Горацкага Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі, т. *Журык.*

Навуковае Т-ва па вывучэньні Беларусі заснавана ў Горках 10 сака-

віка 1925 г. Галоўная мэта Т-ва—вывучэньне Беларусі ў галінах прыроды і сельскай гаспадаркі. Як відаць, мэта Т-ва чыста краязнаўчая, але само Т-ва адрозьніваецца ад краязнаўчых організацый тым, што яно не масавае, а так сказаць вузка навуковае. У Т-ва ўваходзяць галоўным чынам навуковыя працаўнікі Акадэміі, часткай студэнты, некалькі краязнацаў і два селянінадасьледчыка: Язэп Мароз з Лепельшчыны і Алес Сіцько з Мазыршчыны. У разьвіцьці сваёй дзейнасьці Т-ва мае некулькі напрамкаў працы, у гэтым-жа дакладзе будзе вызначана праца толькі ў краязнаўчым напрамку.

Ня гледзычы на пастаноўку сваіх задан., чыста навуковых, Т-ва з першых часоў разгортаваньня сваёй дзейнасьці хацела мець цесную сувязь з краязнаўчымі організацыямі, чаму 10 траўня 1926 г. быў апрацаваны проект сувязі Навуковага Т-ва з краязнаўчым рухам.

Гэты проект быў ухвалены ЦБК, але ён выкананы толькі ў нязначнай частцы.

Так прадстаўнікі Т-ва проф. Лунгерсгаўзен і Серада прымалі ўдзел у Аршанскіх краязнаўчых конфэрэнцыях у чэрвені 1926 г.

Проф. Лунгерсгаўзен прымаў удзел у Магілеўскай Акруговай Конфэрэнцыі Краязнаўства 30 траўня 1926 г. Ён-жа прачытаў і даклад у Магілеве па геолёгіі.

12 Сьнежня г. г. прадстаўнік Т-ва проф. Лунгерсгаўзен прымаў удзел у другой Аршанской Акруговай Конфэрэнцыі Краязнаўства. У Віцебскай Акруговай Конфэрэнцыі Краязнаўства 22-га лістапада 1926 году проф. Лунгерсгаўзен таксама прымаў удзел, як прадстаўнік Т-ва.

На ўсіх гэтых конфэрэнцыях былі зроблены даклады аб дзейнасьці Т-ва.

Больш што зрабіць Т-ву ня было магчыма за адсутнасьцю сродкаў.

Патрэбна таксама адзначыць шчырае жаданьне ЦБК мець цесную сувязь з Навуковым Т-вам у краязнаўчай працы.

На падставе гэтай пастановы Т-ва мае на ўвезе прыняць самы шчыры ўдзел у працы краязнаўчых т-ваў.

Далей патрэбна адзначыць, што Т-вам (проф. Лунгерсгаўзен) распрацован даклад на тэму: „Да пытаньня аб пастаноўцы курсаў беларусазнаўства ў ВНУ Беларусі“. Тут разумееца пад беларусазнаўствам менавіта краязнаўства. Гэты даклад друкуецца і ў хуткім часе выйдзе з друку.

Дасьледчая праца Т-ва вядзецца ў напрамку вывучэньня Беларусі.

Навуковае Т-ва ўжо выпусьціла адзін том „Працы Т-ва“. Праз два тыдні выйдзе з друку другі том—15 друкаваных аркушоў.

Як відаць па зьместу зборнікі зьяўляюцца мясцовымі. Трэці зборнік падрыхтоўваецца спэцыяльна на тэму: „Апісаньне Горацкага раёну“.

Гэты зборнік будзе друкавацца з 1-га сакавіка.

Вось галоўнае, што мае цікавасьць для Краязнаўчага Зьезду.

Жадаючым пазнаёміцца з працай за мінулы год можна рэкомэндаваць I т. „Працы Т-ва“.

Уся праца працякае пад кіраўніцтвам Інбелкульту і карыстаецца вялікай пашанай і дапамогай з боку апошняга.

Трэба толькі адзначыць з жалем дрэнныя адносіны да Т-ва з боку Кіраўніцтва Акадэміі, якое да апошняга часу ня можа даць для працы Т-ва нават невялічкага пакойчыку.

II. „Аб дзейнасьці Смаленскага Губэрскага Т-ва Краязнаўства“—інформацыйны даклад проф. Лапчынскага.

*Лапчынскі.* Перш чым сказаць аб дзейнасьці нашага Смаленскага Т-ва Краязнаўства, я хачу пазнаёміць вас коратка з Смаленскімі музэямі. Першае месца займае музэй б. Ценішавай, які склаў Баршчэўскі. У ім зараз налічваецца да 10.000 экспонатаў. Гэта музэй этнографіі і рускай гісторыі. Другі музэй імя Пржвальскага, потым музэй архэолёгіі, у якім зьмешчаны рэчы, што знойдзены пры раскопках на Смаленшчыне. Ёсьць яшчэ галярэя маляўнічага мастацтва, у якой паміж іншым ёсьць творы вядомага

Бельскага. З музэяў пералічаных мною, вельмі важны для краязнаўства музэй архэолёгіі. Наогул музэі Смаленску вельмі цікавыя. Нават чужаземцы, якія прыяжджаюць на нашу тэрыторыю, лічаць сваім абавязкам наведацца ў Смаленскія музэі.

Смаленскае губ. Т-ва Краязнаўства склалася пры архэолёгічным музэі 19 сакавіка 1925 году. Т-ва ня мае ніякіх абсолютна сродкаў, за 9 месяцаў было сабрана толькі 6 р. сяброўскіх узносаў, якія і выдаткоўваліся. Спробы дабіцца сродкаў на краязнаўчую працу ад Губвыканкому ня мелі посьпеху. Тут, як я бачу, справа лепш ідзе, тут дапамагаюць у гэтай справе. Але т-ва наша працуе. За пэрыод існаваньня быў заслуханы шэраг навуковых дакладаў напр.: „Адкуль пашла назва г. Смаленску“, „1905 год і настаўніцтва“, „Архэолёгічныя раскопкі ў Заслаўі ў параўнаньні з Смаленскімі помнікамі“, „Бунт прыгонных у 1812 г. у маёнтку Барышнікавых“, „1905 год ў Смаленскай паштова-тэлеграфнай акрузе“, „Гістарычныя запіскі аб горадзе Ельні“, шэраг дакладаў, прысьвечаных жыцьцю і дзейнасьці вядомага беларускага этнографа Дабравольскага і шмат іншых дакладаў. Усё гэта мы не змаглі рэалізаваць у друкаванай форме. Зборніку так і ня прыходзіцца выдаць, хоць мы і дабіваліся гэтага ад Маскоўскага Цэнтрархіву. Было толькі адпушчана 200 р. на раскопкі.

Уважліва заслухоўваючы вашы даклады на Зьезьдзе і выступленьні з месц, я бачу ва ўсім гэтым так многа любові, энтузыязму, энэргіі, самаадданасьці, што я вельмі рад за запрашэньне, якое прыслала нам ЦБК Беларусі.

III. „Аб зьбіраньні фольклёру і асабліваасьцяй гутарак“—інформацыя“ т. *Бузука*. (Програма будзе выдана асобна).

IV. „Аб працы Літаратурнай Камісіі ІБК і ўдзеле ў ёй краязнаўцаў“—інформацыйны даклад проф. *Замоціна*.

У склад Аддзелу Мовы і Літаратуры, у ліку іншых камісій, уваходзіць зараз і Літаратурная Камісія. Яна працуе з сакавіка 1925 году.

Асноўнаю мэтаю яе зьяўляецца падрыхтоўка да акадэмічнага выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў, крытычнае вывучэньне беларускай літаратуры, і, значыць, распрацоўка яе гісторыі.

Для гэтае мэты Літаратуная Камісія зьбірае творы беларускіх пісьменьнікаў—асабліва тыя, якія захаваліся толькі ў рукапісах, зьбірае ўсе біографічныя матар'ялы, якія датычацца таго ці іншага пісьменьніка, крытычныя артыкулы і нататкі аб пісьменьніках, розныя даныя і даведкі бібліографічнага характару і г. д.

З тае прычыны, што падрыхтоўка да выданьня поўнага тэксту таго ці іншага пісьменьніка патрэбуе вялікае і зацяглае працы, дык Камісіі прыходзіцца пакуль-што сваю ўвагу сконцэнтраваць на двух-трох пісьменьніках. У цяперашні час Камісія падрыхтавала да выданьня мастацкія творы (вершы і прозу) Максіма Багдановіча, і яны ўжо друкуюцца; разам з тым Камісія рыхтуе да выданьня творы Алеся Гаруна і Цёткі.

Роўналежна з гэтаю працаю ідзе і зьбіраньне матар'ялаў для вывучэньня і выданьня іншых пісьменьнікаў.

Гэтую вялізарную працу немагчыма ва ўсёй паўнаце зрабіць сіламі аднэй Літаратурнай Камісіі. Патрэбна шырокая грамадзкая дапамога, асабліва-ж дапамога краязнаўцаў.

А таму Літаратурная Камісія зьвяртаецца да ўдзельнікаў Краязнаўчага Зьезду з просьбаю зрабіць гэтую дапамогу. Дапамога можа выявіцца ў адшукваньні і прысылцы ў Літаратурную Камісію розных матар'ялаў, якія могуць быць карыснымі для высьвятленьня літаратурнай дзейнасьці пісьменьнікаў ці для выданьня яго твораў.

Сюды адносяцца: 1) творы пісьменьнікаў (асабліва рукапісныя), 2) успаміны аб пісьменьніку, 3) лісты пісьменьніка або лісты розных асоб да пісьменьніка, 4) портрэты пісьменьніка і розныя ілюстрацыі, якія да яго адносяцца, 5) старыя газэтныя і часопісныя аб ім нататкі, 6) пераклады яго

твораў на замежныя мовы і наогул усё, што дапамагае накапланьню матар'-ялаў для выданьня твораў пісьменьніка і іх вывучэньня.

У першую чаргу нам патрэбны матар'ялы для выданьня твораў Гаруна, Цёткі, Каганца і Ядвігіна Ш., але матар'ялы і іншых пісьменьнікаў Камісія пryме з удзячнасьцю і сваячасова іх выкарыстае.

Мы зьвяртаемся да прысутных з просьбаю ня толькі асабіста адгукнуцца на нашыя патрэбы, але і шырака распаўсюдзіць па мясцох нашую просьбу аб зьбіраньні літаратурных матар'ялаў.

V. *Аб сучасным стане і пэрспэктывах слоўнікавай працы на месцох.* (Даклад навуковага сакратара Слоўнікавай Камісіі т. *Байкова).*

У 1926 г. слоўнікавая праца на мясцох адбывалася паводле прынцыпаў, вызначаных у выданай у 1925 „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове". Апроч збору слоў паасобнымі корэсподэнтамі на мясцох была з'організавана праца укладаньня краёвых слоўнікаў.

Агульная колькасьць карткавага матар'ялу, дасланага непасрэдна ў Камісію да часу Зьезду, выяўляецца ў наступных лічбінах па акругах: Аршанскай—3.874 карткі-словы, Бабруйскай—8.015, Барысаўскай—5.689, Віцебскай—2.742, Калінінскай—4.353, Магілеўскай—9.138, Менскай—7.937, Мозырскай—556, Полацкай—450, Слуцкай—8.116, Гомельшчыне—2.269, Рэчышчыне—271, Зах. Беларусі—3.256, Смаленшчыне—242, усяго 57.722 карткі-словы. Апроч таго—да 35.000 картак-слоў, дастаўлены асобна з Віцебшчыны.

У справе ўкладаньня краёвых слоўнікаў найбольш інтэнсыўна праца разьвінулася ў Віцебшчыне. „Віцебскі краёвы слоўнік", апрацаваны М. Касьпяровічам ужо прашоў рэдакцыю Камісіі і знаходзіцца ў друку. З іншых краёвых слоўнікаў Камісіяй вызначаны для апрацаваньня ў першачарговым парадку слоўнікі Калініншчыны і Мозыршчыны. Чэрвенскім краязнаўцай М. Шатэрнікам напалову ўжо апрацаваны краёвы слоўнік Чэрвеншчыны.

Слоўнікавай Камісіяй прэміяваны да 10 корэсподэнтаў, якія даставілі найлепшыя слоўныя запісы.

У далейшым працягу слоўнікавай працы на мясцох у 1927 г., каб ухіліцца ад назьбіраньня звычайных слоў, Камісія знайшла мэтазгодным абмежаваць збор слоўных матар'ялаў для акадэмічнага слоўніка дадаткамі да „Беларуска-Расійскага слоўніка" М. Байкова і С. Некрашэвіча. Апроч таго, Камісія мае на ўвазе з дапамогаю краязнаўчых організацый зрабіць дакладны разгляд гэтага слоўніка ў розных акругах кваліфікаванымі корэсподэнтамі.

Выданая ў 1925 годзе інструкцыя Камісіі можа быць скарыстанай на мясцох для ўкладаньня краёвых слоўнікаў апроч тых, якія вызначаны для апрацаваньня ў першачарговым парадку Слоўнікавай Камісіяй.

VI. „Аб выяўленьні, вывучэньні і ахове помнікаў"—інформацыя т. *Мароза.*

На тэрыторіі БССР ёсьць шмат вельмі каштоўных помнікаў старажытнасьці, быту, культуры і прыроды, якія неабходна выяўляць, апісваць, вывучаць, весьці ім рэгістрацыю і ахоўваць ад руйнаваньня ці зьнішчэньня.

Да 1925 году ў БССР ня было дзяржаўнай установы, якая-б ведала гэтай справай, толькі вясною 1925 пры ІБК організавана Камісія па ахове помнікаў.

На працягу 1926 г. Камісія правяла організацыйнае аформленьне, злажыла і правяла праз СНК проект законаў па ахове помнікаў і склала па акругах сьпіс помнікаў, якія абвешчаны СНК дзяржаўнай уласнасьцю; вызначыла на мясцох корэспондэнтаў па ахове помнікаў, сабраны дадаткова матар'ялы дзеля новага сьпісу помнікаў, падрыхтоўвае выданьне зборніку па апісаньні г. Менску і яго ваколіц, сабрала матар'ялы для сьпісу помнікаў дагістарычнай прыроды. Камісія мае на мэце: а) выдаць зборнік з апісаньнем помнікаў г. Менску, б) правесьці выяўленьне ўсіх помнікаў паводле спэцыяльнай анкеты па ўсёй тэрыторыі БССР, б) скласьці для кожнага помніку, які будзе высьветлены, тэхнічнае апісаньне і навуковае.

Ажыцьцяўленьне ўсяго гэтага магчыма пры дапамозе мясцовых краязнаўчых організацый.

VII. „Аб зборы народных мэлёдый“—інформацыя т. *Грыневіча*.

Я хацеў-бы сказаць вельмі многа, але прыходзіцца абмежавацца і сказаць толькі, што намі зроблена і паказаць на неабходнасьць зьбіраньня народнай музыкі. Камісія не магла зрабіць многа, бо сродкі былі вельмі абмежаваны. Да гэтага часу к друку падрыхтаваны 2 зборнікі народных сьпеваў, якія выйдуць к пачатку навуковага году. Цяпер неабходна напружыць усе сілы, каб сабраць гэтыя мэлёдыі, бо яны адыходзяць у мінулае і ёсьць небясьпека, што гадоў праз 5 мы ўжо ня зможам занатаваць гэтага.

VIII. „Аб вывучэньні хатніх рамёстваў“—інформацыя т. *Рака*.

У раённыя т-вы было адаслана 1.200 анкет па вывучэньні саматужнай прамысловасьці. Да апошняга моманту анкеты запоўненыя паступаюць вельмі мала—усяго 140 штук. Толькі Магілеўская акруга больш-менш адклікнулася на гэта. Трэба паклапіцца аб прысылцы запоўненых анкет, бо распрацоўваць анкетны матар‘ял немагчыма, пакуль мы ня будзем мець яго ў выстарчаючым ліку.

**Рэзалюцыя**

Сэкцыі Школьнага Краязнаўства, прынятая на II Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

Заслухаўшы даклад тав. *Шапялевіча* на тэму: „Краязнаўства ў школе“ і тав. *Самцэвіча* на тэму: „Экскурсіі ў прамысловыя прадпрыемствы“, Зьезд лічыць:

1) што ў справе школьнага краязнаўства ў бліжэйшы час трэба зьвярнуць увагу на наступнае: а) лёкалізацыя навучальнага матар‘ялу і запраўднае запаўненьне програм мясцовым зьместам, б) павышэньне краязнаўчай кваліфікацыі настаўніка, в) мэтодычная распрацоўка пытаньняў школьняга краязнаўства з пункту погляду іх месца ў пэдагогічным процэсе; г) організацыя пазашкольнай краязнаўчай працы вучняў.

2) для ажыцьцяўленьня паказаных задач Зьезд лічыць неабходным:

а) настаўнікам краязнаўцам на мясцох разам з акруговымі і раённымі мэтодычнымі бюро прапрацаваць пытаньні дэталізацыі програм школ БССР на краязнаўчай аснове, як у адносінах да асобных груп, так і ў адносінах да асобных дысцыплін;

б) распачаць распрацоўку сыстэматызацыі мясцовага навучальнага матар‘ялу і прыняць меры, каб ён быў выпушчаны ў друкаваным ці ў рукапісным выглядзе;

в) на старонках „Нашага Краю“ і „Асьветы“ зьвярнуць належную ўвагу на пытаньні школьнага краязнаўства і на іх мэтодыку;

г) скласьці плян краязнаўчых заданьняў па асобных гадох навучаньня дапасавальна да ўзросту вучняў;

д) распрацаваць у першую чаргу пытаньні школьных экскурсій у сельска-гаспадарчыя і прамысловыя прадпрыемствы БССР.

е) Папулярызаваць пытаньні школьнага краязнаўства сярод шырокіх настаўніцкіх мас шляхам організацыі адпаведных лекцый, абгаварэньня гэтых пытаньняў на настаўніцкіх конфэрэнцыях, організацыі вывучэньня мэтодыкі краязнаўства на мясцовых і цэнтральных курсах па перападрыхтоўцы настаўніцтва, організацыі школьна-краязнаўчых выставак і г. д.

ж) Школьна-Краязнаўчай Камісіі пры ЦБК зьвязацца з месцамі і азнаёміцца з працаю школьна-краязнаўчых гурткоў, для ўнясеньня ў яе плянавасьці і дакладнасьці.

**Рэзалюцыя**

II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду 10—13. II. 1927 г. па дакладу т. *Сяньакевіча* аб краязнаўстве ў вышэйшых школах і тэхнікумах.

1. II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд констатуе слабы стан краязнаўчай працы ў вышэйшых школах і тэхнікумах: а) вельмі малы процант студэнцтва ўцягнуты ў краязнаўчыя організацыі як агульныя, так і студэнцкія; б) наглядаецца амаль што поўная незацікаўленасьць большасьці профэсуры

і выкладчыкаў справаю краязнаўства; в) адсутнічае ўзгодненасьць паміж навучаньнем і дзейнасьцю студэнцкіх і краязнаўчых арганізацый; г) тыя дысцыпліны, якія гэта дапушчаюць слаба прасякнуты краязнаўчым зьместам; д) у пэдагогічных установах не выкладаецца мэтодыка краязнаўства; е) асабліва ненормальнай зьяўляецца адсутнасьць краязнаўчых арганізацый, у некаторых тэхнікумах.

2. У мэтах належнай пастаноўкі краязнаўчай справы ў вышэйшых школах і тэхнікумах Зьезд лічыць неабходным: а) зрабіць усе захады да масавага ўцягненьня ў краязнаўчыя арганізацыі як студэнцтва, так і навуковых працаўнікоў і да ўзмацненьня дзейнасьці студэнцкіх краязнаўчых арганізацый; б) прыняць меры да прасякненьня програм вышэйшых школ і тэхнікумаў краязнаўчым зьместам і ўзгадненьня працы студэнцкіх краязнаўчых арганізацый з выкладовай працай дысцыплін, якія гэта дапушчаюць; в) у мэтах як падрыхтоўкі краязнаўцаў, так і сталых працаўнікоў ва ўсіх галінах, даручыць ЦБК увайсьці з хадайніцтвам у адпаведныя органы ўлады аб неабходнасьці арганізацый катэдры краязнаўства ў БДУ і СГА., а таксама—выкладаньня мэтодыкі краязнаўства ў тэхнікумах; г) скліканьне нарад прадстаўнікоў студэнцкіх краязнаўчых арганізацый.

3. Зьезд лічыць сваячасовым і карысным утварэньне пры ЦБК камісіі для кіраўніцтва студэнцкімі краязнаўчымі арганізацыямі.

## ПАСЯДЖЭНЬНЕ ЯЎРЭЙСКАЙ СЭКЦЫІ 12-13 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ.

У працы сэкцыі брала ўдзел 25 членаў.

Старшыня—тав. *Мац*, сакратар—тав. *Клінг*.

П а р а д а к д н я:

1) Плян працы яўрэйскіх сэкцый пры мясцовых таварыствах краязнаўства—Г. Аляксандраў.

2. Даклады з месц—Бэккер (Віцебск), Бабіцкі (Мозыр).

3. Інформацыйнае паведамленьне лінгвістычнай камісі Яўаддзелу ІБК—М. Вэйнгер.

4. Вывучэньне сучаснага мястэчка—Г. Аляксандраў.

І. Плян працы яўрэйскіх сэкцый і паведамленьні з месц.

Тав. *Аляксандраў*, спыняючыся на становішчы краязнаўчай працы Яўсэкцыі ў сучасны момант, адзначае, што апошняя яшчэ не разгарнулася, як належыць. Асноўная прычына—адсутнасьць краязнаўчай культуры, таго базысу, які дае магчымасьць разьвіваць краязнаўчую працу на мясцох; амаль зусім няма мясцовай статыстыкі, якая-б закранала экономіку яўрэйскага насельніцтва ў дарэволюцыйны час; не падлічаны і не сыстэматызаваны матар'ялы мясцовых архіваў аб яўрэйскім насельніцтве; этнографічны матар'ял за час вайны і рэволюцыі амаль зусім ня зьбіраўся. Няма на мясцох патрэбнага кадру культурных сіл, зьвязаных з даным месцам; большасьць яўрэйскіх культурных працаўнікоў—моладзь, якая не пасьпела яшчэ пусьціць глыбокія корані ў мястэчку. Ня гледзячы, аднак, на гэтыя цяжкасьці, можна адзначыць, што за апошнія месяцы пачынаецца зрух у арганізацыі краязнаўчай працы. Пры акруговых таварыствах краязнаўства арганізаваны яўрэйскія сэкцыі, таксама сэкцыі арганізаваны пры раённых таварыствах у шэрагу мястэчак. ЦБК з свайго боку робіць усё неабходнае для наладжваньня працы сэкцый на мясцох. Няма сумненьня, што пры належнай ініцыятыве і энэргіі краязнаўчая праца пасунецца.

У мэтах правільнай арганізацыі краязнаўчай працы вызначаецца наступны плян:

1) Яўрэйскія сэкцыі організуюцца пры мясцовых краязнаўчых таварыствах—акруговых раённых і гурткох—з мэтаю абсьледваньня і вывучэньня асаблівасьцяй мясцовага яўрэйскага насельніцтва ў галіне экономікі, гісторыі, мовы і быту. Дзеля гэтага яўрэйскія сэкцыі падзяляюцца на адпаведныя камісіі.

2. Бліжэйшым об'ектам краязнаўчага абсьледваньня павінна быць мя-

стэчка, з пункту погляду тых экономічных і социяльных зрухаў, якія адбыліся пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі і грунтоўна зьмянілі социяльную структуру мястэчка.

Праца па яго вывучэньні можа весьціся сумеснымі сіламі ўсяе краязнаўчае організацыі, паколькі мястэчка зьмяшчае рознастайны нацыянальны склад.

3. У галіне вывучэньня мясцовай экономікі трэба азнаёміцца з экономікаю працоўных слаёў яўрэйскага насельніцтва—сялян, рабочых, саматужнікаў, а таксама і непрацоўных элемэнтаў, паколькі апошнія паступова ўцягваюца ў процэс, які спрыяе экономічнаму аздараўленьню яўрэйскага насельніцтва—аграрызацыі і індустрыялізацыі; прыняць удзел у абсьледваньні бюджэтаў гаспадарак, часу, коопэрацыйных устаноў і г. д.

4. У галіне культурна-гістарычнай распачаць зьбіраньне і падлік матар'ялаў па рэволюцыйным руху, гістарычных матар'ялаў мясцовых архіваў, вопіс і перапіска мясцовых „летапісаў“ (пінкосім), зьбіраньне старажытных кніг, рукапісаў, якія маюць гістарычную каштоўнасьць і прыняць меры да аховы гістарычных помнікаў,—сфотографаваць, зарысаваць і г. д.

5. Зьбіраць матар'ял для яўрэйскага акадэмічнага слоўніка паводле разасланых інструкцый.

6. Зьбіраць этнографічныя матар'ялы—вуснай народнай творчасьці, народнай мэдыцыны, звычаяў і г. д.

Тав. *Бэккер* (Віцебск) зрабіў паведамленьне аб працы яўрэйскай сэкцыі пры Віцебскім акруговым таварыстве, утворанай у сьнежні мінулага году. Організаваны тры падсэкцыі—гістарычная, экономічная і этнографічная, складзены плян працы на бліжэйшыя месяцы. Этнографічная падсэкцыя распрацавала 14 тэм—заданьняў, разьмеркаваных паміж асобнымі членамі падсэкцый. Вядзецца краязнаўчая праца ў мясцовым пэдагогічным тэхнікуме.

Тав. *Бабіцкі* (Мозыр) зрабіў паведамленьне аб працы яўрэйскай сэкцыі пры Мозырскім акруговым таварыстве. Плян працы сэкцыі ўключан у агульны плян працы т-ва; наладжана сувязь з раённымі пунктамі; у мястэчках вылучаны спэцыяльныя ўпаўнаважаныя па зьбіраньні краязнаўчых матар'ялаў. Сабраны лінгвістычны матар'ял у мястэчках Скароднае, Капаткевічы, зроблены вопісы мясцовых пінкосімаў; сабраны матар'ялы па гісторыі мясцовых пазычковых таварыстваў, якія існавалі да рэволюцыі. Неабходна больш падрабязнае інструктаваньне з цэнтру.

Тав. *Палеес* (Яўаддзел Дзяржмузэю) адзначае, што неабходна зьвярнуць увагу на мясцовыя судовыя архівы, вайсковыя і інш., у якіх знаходзіцца вельмі каштоўны матар'ял. Неабходна таксама зацікавіцца тэхнічнымі і мастацкімі асаблівасьцямі яўрэйскага рамяства, неабходна, каб на мясцох больш энергічна зьбіралі матар'ялы для яўрэйскага аддзелу Дзяржмузэю.

Тав. *Разоўскі* (Бабруйск) прапануе выпрацаваць дэтальную схэму заданьняў для мясцовых яўсэкцый.

Тав. *Аршанскі* (Яўаддзел ІБК) зазначае, што праца Яўсэкцыі пры ІБК пачалася толькі некалькі тыдняў таму назад; неабходна ў першую чаргу зацікавіцца матар'яламі па гісторыі рэволюцыйнага руху на мясцох і сучаснаму мястэчку, у якіх адчуваецца вялікая патрэба.

Тав. *Трус* (Ворша) лічыць, што пры адсутнасьці падрыхтаваных працаўнікоў на мясцох асабліва неабходны інструкцыі збоку цэнтру.

Тав. *Дзіхцяр* (Наркамздраў). Зьвярнуць увагу на неабходнасьць азнаямленьня з санітарна-гігіенічным станам яўрэйскага местачковага насельніцтва, спэцыфічнымі хваробамі і г. д. Неабходна азнаёміцца з матар'яламі прызыўных сьпісаў, якія зьяўляюцца вельмі цікавым матар'ялам.

Тав. *Эфрон* (Яўпэдтэхнікум) лічыць неабходным популярызацыю краязнаўчай працы сярод яўрэйскага насельніцтва, у гэтых адносінах вельмі мала зроблена. Трэба выдаць на яўрэйскай мове кніжку з інструкцыйнымі краязнаўчымі матар'яламі.

Тав. *Бэккер* (Віцебск) адзначае, што ў краязнаўчую працу мала ўцягнуты працоўныя слаі насельніцтва, якія могуць даць вельмі каштоўны матар'ял.

Тав. *Шэйнгайт* (Клімавічы) зазначае, што ў сучасны момант краязнаўчая праца лажыцца цалкам на плечы інспэктароў Акрана, апрача перагрузкі сваімі непасрэднымі абавязкамі; трэба ўцягнуць у актыўную працу настаўніцтва.

Тав. *Гутнер* (Гомель) лічыць неабходным удасканаліць арганізацыйныя формы ўзаемаадносін паміж яўсэкцыямі і таварыствамі.

Тав. *Мац* (Яўсэкцыя ЦБК) падагульваючы вынікі спрэчак, адзначае, што на мясцох можна знайсьці тых людзей, якія будуць зацікаўлены ў краязнаўчай працы—настаўнікаў, дактароў, агрономаў, мясцовых грамадзкіх працаўнікоў з рабочых і саматужнікаў. Праца па санітарна-гігіенічным абсьледваньні мястэчка не павінна насіць спэцыфічны нацыянальны характар, а праводзіцца сумесна з усёю краязнаўчаю арганізацыяй. Неабходнасьць азнаямленьня з гісторыяй рэволюцыйнага мінулага ня выключае задачы зьбіраньня матар'ялаў па агульна-социяльнай і экономічнай гісторыі яўрэйскага насельніцтва Беларусі.

Дакладчык т. *Аляксандраў* (ЦБК) зазначае, што арганізацыйныя пытаньні найлепш разьвязваюцца ў процэсе працы, да якой неабходна зараз-жа прыступіць. Адзначаецца, што опонэнтамі ўнесены цэлы шэраг прапаноў практычнага характару, якія будуць прыняты пад увагу Яўсэкцыяй ЦБК.

Па дакладу тав. *Аляксандрава* выносіцца наступная пастанова:

1) Прапанованы плян працы прыняць за аснову, дэталізаваць і разаслаць на месцы.

2) Популярызаваць краязнаўчую працы сярод яўрэйскага насельніцтва шляхам наладжаньня сходаў, лекцый і г. д. і прыцягнуць да працы працоўныя слаі насельніцтва і мясцовую інтэлігенцыю.

3. Лічыць пажадым частыя выезды прадстаўнікоў Яўсэкцыі ЦБК на месцы для арганізацыі працы і інструктаваньня.

4. Лічыць неабходным выданьне на яўрэйскай мове інструкцыйна-краязнаўчых матар'ялаў асобнаю кніжкаю.

5. Прыняць актыўны ўдзел у працы краязнаўчых таварыстваў па абсьледваньні раёнаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на абсьледваньне мястэчка.

6. Даручыць Яўсэкцыі ЦБК у бліжэйшы час выпрацаваць і разаслаць інструкцыі па: а) вывучэньні мястэчка, б) зьбіраньні этнографічнага матар'ялу.

7. Зьвярнуць увагу на неабходнасьць мэдычна-статыстычнай працы сярод яўрэйскага местачковага насельніцтва, якую праводзіць разам з краязнаўчымі таварыствамі на мясцох.

8. Прыняць удзел у часопісу „Наш Край" і мясцовых краязнаўчых выданьнях.

9. Зьбіраць на мясцох матар'ялы для Яўрэйскага аддзелу Дзяржаўнага Музэю.

II. Інформацыйнае паведамленьне *М. Вэйнгера* аб працы лінгвістычнай камісіі Яўаддзелу ІБК (гл. разасланую інструкцыю).

Пастанавілі: прыняць да ведама.

Пасьля гэтага быў заслуханы даклад т. *Аляксандрава* „Вывучэньне сучаснага мястэчка" (гл. вышэй).

Па дакладу т. Аляксандрава выступалі т.т. *Глазёная* (Асьвея), *Палеес* (Дзяржмузэй), *Трус* (Орша), *Мац* (Яўсэкцыя ЦБК), якія адзначылі, што для абсьледваньня сучаснага мястэчка неабходна папярэдняя дасьледчая праца, а таксама дэталёвае вывучэньне пінкосаў, патрэбны дакладны падлік дакумэнтаў мясцовых архіваў, у якіх ёсьць матар'ялы па дасьледваньні яўрэйскага мястэчка.

Пасьля спрэчак была прынята рэзолюцыя:

1) даклад прыняць да ведама;

2) прызнаць пажаданым распрацоўку дакладу т. Аляксандрава і надрукаваньне ў працах Зьезду ці „Нашым Краі".

## РАНЕШНЯЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ ПЛЕНУМУ ЗЬЕЗДУ 13 ЛЮТАГА.

Даклады старшынь сэкцый Зьезду.

I. Праца прыродна-географічнай сэкцыі— даклад т. Касьпяровіча.

*Касьпяровіч* знаёміць Зьезд са зьместам зачытаных на пасяджэньні сэкцыі даклаў і зачытвае рэзолюцыі, прынятыя сэкцыяй.

Зьезд аднагалосна зацьвярджае працу і рэзолюцыі.

II. Праца культурна-гістарычнай і грамадзка-экономічнай сэкцыі — даклад тав. Васілевіча.

*Васілевіч* (Віцебск) знаеміць Зьезд са зьместам дакладаў т. т. Даўгялы, Мялешкі і Рака і рэзолюцый па іх.

Зьезд зацьвярджае працу культурна-гістарычнай сэкцыі.

III. Праца школьна-краязнаўчае сэкцыі—даклад т. Аляксандрава і садаклад т. Ламакі.

*Аляксандраў* знаёміць са зьместам прачытаных у сэкцыі дакладаў.

*Ламака* зачытвае прынятыя сэкцыяй рэзолюцыі. Рэзолюцыя па дакладу Сянкевіча „Краязнаўства ў Вузах“ прымаецца па пунктах. (Гл. вышэй).

Праца сэкцыі зацьвярджаецца цалкам.

IV. Праца Яўрэйскай сэкцыі Зьезду—даклад т. Аляксандрава аб зьмесьце працы і рэзолюцыях.

Праца сэкцыі зацьвярджаецца.

VI. Даклад Мандатнай Камісіі Зьезду—інформацыя т. Аніхоўскага.

На Зьезд павінна было прыехаць ад акруговых організацый—33 дэлегаты, ад раённых—89, ад студэнцкіх і вучнёўскіх—15, ад ІБК, ЦБК і Цэнтральных устаноў г. Менску—48, ад СССР—3, а ўсяго—187 дэлегатаў. Прыбыло на Зьезд дэлегатаў з рашучым голасам—155, з іх ад акруговых т-ваў—31, ад раённых 80 (не зьявіліся прадстаўнікі 4 раённых т-ваў Барысаўскай акругі і 3-х раённых т-ваў Бабруйскай), ад Цэнтральных устаноў г. Менску—43, ад Смаленшчыны—1; з дарадчым голасам зьявілася—32, з іх ад раённых організацый 7.

Склад дэлегатаў:

| | | |
|---|---|---|
| а) | пол: | |
| | мужчын | 169 |
| | жанчын | 13 |
| б) | узрост: | |
| | Да 20 год | 4 |
| | Ад 20—25 | 34 |
| | „ 25—30 | 50 |
| | „ 30—40 | 61 |
| | 40 і звыш | 33 |
| в) | партыйнасьць: | |
| | членаў і канд. КПБ | 41 |
| | „ „ КСМ | 6 |
| | беспартыйных | 135 |
| г) | нацыянальнасьць: | |
| | беларусаў | 150 |
| | яўрэяў | 21 |
| | палякаў | 2 |
| | расійцаў | 6 |
| | іншых | 3 |
| д) | социяльнае пахаджэньне: | |
| | рабочых | 12 |
| | сялян | 103 |
| | служачых | 55 |
| | іншых | 12 |

е) п р о ф э с і я:

| | |
|---|---|
| настаўнікаў . . . | 135 |
| профэсар. і нав. супрацоўнікаў | 9 |
| агрономаў . . . | 5 |
| мэдпрацаўнікоў . . . | 4 |
| студэнтаў . . . . | 7 |
| рабочых . . . . | 1 |
| земляробаў . . . | 4 |
| іншых . . . . | 17 |

ж) прыналежнасьць да профсаюзаў:

| | |
|---|---|
| працасьветы . . . | 160 |
| працземлесу . . . | 7 |
| мэдпрац . . . . | 5 |
| саўгандльслуж. . . . | 6 |
| ня членаў саюзаў . . | 4 |

з) а с ь в е т а:

| | |
|---|---|
| з вышэйшай . . . | 85 |
| няскончаная. вышэйш . . | 19 |
| сярэдняй . . . . | 72 |
| ніжэй сярэдняй . . . | 3 |
| ніжэйшай . . . . | 3 |

і) с т а ж к р а я з н а ў ч а й п р а ц ы:

| | |
|---|---|
| Ад 1 году да 5 г. . . | 153 |
| „ 5 „ „ 10 „ . , | 12 |
| „ 10 „ „ 15 „ . . | 2 |
| „ 15 „ „ 20 „ . . | 2 |
| „ 20 і звыш . , . | 5 |
| не займаліся краязнаўч. працай | 8 |

к) г а л і н а к р а я з н а ў ч а й п р а ц ы:

| | |
|---|---|
| прыродна-географічная . . | 29 |
| культурна-гістарычная . . | 42 |
| грамадзка-экономічная . . | 52 |
| ня вызначана . . . | 59 |

л) Д р у к а в а н ы я п р а ц ы:

| | |
|---|---|
| маюць . . . . | 43 |
| ня маюць. . . . | 139 |

Ад 5 дэлегатаў з дарадчым голасам не атрыманы запоўненыя анкеты і весткі на іх у дакладзе Мандатнай Камісіі не даюцца.

Зьезд ухваляе прыняць даклад Мандатнай Камісіі да ведама.

VII. Даклад камісіі па апрацоўцы рэзолюцыі па дакладах: „Справаздача ЦБК“, „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР і „Вывучэньне тыповага раёну“.

*Мялешка* зачытвае прынятую камісіяй рэзолюцыю. Рэзолюцыя галасуецца па пунктах і прымаецца ў наступным відзе.

## II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд.

### Р э з о л ю ц ы я

па дакладах: „Справаздача ЦБК і пэрспэктывы далейшай яго працы“, „Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР“ і „Дасьледваньне Асіпавіцкага раёну“.

1. Ад I да II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду краязнаўчы рух БССР, выкліканы ўмовамі і патрэбамі надзвычайнага ўзросту гаспадарча-культурнага будаўніцтва і яго соцыялістычных элемэнтаў, пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, становіцца запраўды шырокім грамадзкім рухам навуковага вывучэньня мясцовага краю ў мэтах дапамогі соцыялі-

стычнаму будаўніцтву, паступова ўцягваючы ў гэтую справу шырокія масы працоўных.

2. Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і краязнаўчай сеткі нормальна разьвіваецца ў кірунку ажыцьцяўленьня пастаноў I Зьезду, што сьцьвярджаецца агульным узростам членаў з 3.738 да 7.073, узростам удзелу членаў партыі з 7 да 10%, Комсамолу з 4 да 9% і больш масавым характарам організацыі.

3. У організацыйным кірунку канчаткова вывучаны і ўсталяваны наступныя формы краязнаўчага руху: гурток, раённае таварыства і акруговае і адпаведна: школьны гурток, гурток пры тэхнікумах і таварыства пры вышэйшай школе; для ўсіх памянёных організацый укладзены і зацьверджаны статуты з адзнакаю ўзаемасувязі організацый.

4. У галіне навуковай вывучэньне раёнаў дало значныя вынікі як навуковага, так і організацыйна-мэтодычнага характару: ёсьць некалькі апісаньняў раёнаў, высьветлены мэтоды організацыі вывучэньня, заснаваны ў некаторых раёнах музэі і ва ўсіх раёнах заснаваны краязнаўчыя бібліотэкі.

5. Цэнтральным Бюро Краязнаўства, апрача сталага кіраваньня справаю пісьмова, інструкцыямі, мэтодычнымі паказаньнямі і праз часопіс „Наш Край", абслужаны жывым інструктажам у плянавым парадку ўсе акруговыя таварыствы і ў сярэднім па два раённых таварыствы па акрузе.

6. Матар'ялы мясцовых краязнаўчых організацый, якія дасылаліся ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, апошнім падлічваліся і перадаваліся адпаведным сэкцыям ці камісіям Інстытуту Беларускае Культуры для апрацоўкі, у выніку чаго ў апошнія часы зьяўляліся агляды іх у друку ў „Нашым Краі" з мэтодычнымі заўвагамі.

7. „Наш Край" да II Зьезду стаў, запраўды кіраўнічым і аб'яднаючым органам краязнаўчага руху, зьмяшчаючы мэтодычныя матар'ялы і працы месц.

8. Побач з гэтым прыходзіцца адзначыць шмат недахопаў у працы, якія заключаюцца ў наступным:

а) слабая популярызаванасьць краязнаўства сярод шырокіх мас працоўных, а значыць і слабое ўцягненьне іх у дзейнасьць краязнаўчай сеткі;

б) да гэтага часу ня створана навакол краязнаўства належная грамадзкая думка;

в) не заснавана належная матар'яльная база;

г) не праведзены сталы падлік краязнаўчых сіл і ўстаноў;

д) не хапае інструкцыйнага і мэтодычнага матар'ялу;

е) няпоўная і несваячасовая апрацоўка дасылаемага ў ІБК матар'ялу, а таксама несваечасовае паведамленьне аб лёсе прысылаемых матар'ялаў у ЦБК;

ж) маса студэнцтва вельмі слаба ўцягнута ў працу;

з) некаторыя організацыі не разгарнулі сваёй дзейнасьці;

і) не разгарнулася экскурсійна-экспэдыцыйная праца організацый:

к) вытворчая праца організацый толькі распачалася;

л) слаба інформуецца друк аб працы краязнаўчай сеткі;

м) не разгарнулася належным чынам праца па організацыі раймузэяў і зборы колекцый;

н) адсутнічае інвэнтарызацыя маёмасьці організацый;

о) „Наш Край" выходзіць нерэгулярна;

п) ня ўсюды ёсьць належная сувязь краязнаўчых організацый з установамі і організацыямі, якія вядуць вывучэньне краю;

р) на практыцы зьмешваецца школьнае програмнае краязнаўства з агульным.

Адзначаючы дасягненьні як у організацыйна-мэтодычным кірунку, так і ў навукова-дасьледчым, II Краязнаўчы Зьезд на далейшае лічыць неабходным:

У галіне арганізацыйнай.

1) Вывучаныя, праваранымя на практыцы і ўсталяваўшыяся арганізацыйныя формы краязнаўчага руху—сельсавецкія гурткі, раённыя і акруговыя таварыствы і адпаведныя школьныя арганізацыі замацаваць, пераверуўшы іх працу на грунт прынятых і зацьверджаных адпаведнымі органамі статутаў, удасканаліўшы сэкцыйны падзел арганізацый. Але разам з тым ня спыняць у далейшым вывучэньня і ўдасканаленьня формаў краязнаўчага руху.

2) Усім краязнаўчым арганізацыям узмацніць популярызаваньне краязнаўства з тым, каб ідэю краязнаўства прасунуць у шырокія гушчы працоўнай масы з мэтай уцягненьня яе ў справу па непасрэдным вывучэньні і дасьледваньні краю.

3) Узяць цьвёрды курс на арганізацыю тэрыторыяльных сельсавецкіх гурткоў, як першапачатковых краязнаўчых арганізацый па вывучэньні раёнаў.

4) З мэтай накіраваньня пытаньняў краязнаўства на правільны шлях і дасягненьня належных вынікаў, асабліва ў справе дасьледваньня сучаснасьці, гаспадарчага і экономічнага становішча вёскі павялічыць лік членаў краязнаўчых арганізацый за кошт членаў комсамольскіх, профэсіянальных арганізацый, піонэраў і рабоча-сялянскага актыву, захаваўшы пры гэтым поўнасьцю прынцып добраахвотнасьці.

5) Узяць цьвёрды курс на арганізацыю раённых краязнаўчых музэяў з тым, каб зрабіць іх выхаваўчымі асяродкамі, як для насельніцтва, так і для школ, а таксама на заснаваньне сталых раённых краязнаўчых бібліотэчак пры іх і на арганізацыю бібліографічнай працы.

6) Наладзіць справу раймузэяў такім чынам, каб яны адбівалі ўсё жыцьцё раёну і прыцягвалі да сябе ўвагу шырокіх працоўных мас і органаў улады, якія, бачачы яго дасягненьні і карысьць, будуць падтрымліваць яго матар'яльна.

7) Усякага роду дасягненьні ў краязнаўчай справе як з боку таго ці іншага досьледу ці арганізацыі музэю краязнаўчыя арганізацыі высьвятляюць у пэорыдычным друку.

8) Дзеля высьвятленьня стану краязнаўчых арганізацый і правільнага кіраваньня справай паставіць належным чынам падлік членаў, асабліва актыву вынікаў працы навукова-краязнаўчых установ, паводле ўстаноўленых ЦБК формаў, падлік літаратуры і об'ектаў абсьледваньня.

9) Перавесьці працу ўсёй краязнаўчай сеткі на плянавы кірунак, паклаўшы ў аснову працы выкананьне паасобных заданьняў па выбары членаў.

10) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў краязнаўчую справу нацыянальных меншасьцяй і на вывучэньне і ўдасканаленьне формаў і мэтодаў працы праз краязнаўчыя сэкцыі нацменшасьцяй пры ЦБК і акруговых таварыствах.

11) Праз організаваныя пры ЦБК камісіі школьна-краязнаўчую і студэнцкую наладзіць накіраваньне працы школьна-краязнаўчых гурткоў у навучальных установах з тым, каб у выніку працы з членаў гэтых гурткоў выходзілі актыўныя дасьледчыкі і кіраўнікі гурткоў.

12) У мэтах падняцьця кваліфікацыі і падрыхтоўкі краязнаўцаў лічыць пажаданым організацыю краязнаўчых студый, курсаў, сэмінарыумаў у акруговых цэнтрах, даручыўшы ЦБК апрацаваць адпаведныя програмы і мэтоды працы.

У галіне навукова-дасьледчай.

13) Асноўным пытаньнем кожнай раённай краязнаўчай організацыі ў галіне навукова-дасьледчай лічыць усебаковае вывучэньне і дасьледваньне раёну па пэўным пляне, апрацаваным раённым таварыствам; сельсавецкія гурткі робяць вывучэньне свайго сельсавету па пляне, ўзгодненым з раённым таварыствам; першачарговай працай павінна быць вывучэньне гаспадарча-экономічнага боку і быту.

14) Каб мець прыклад, як рабіць вывучэньне раёну, даручыць ЦБК закончыць распачатае ўзорнае дасьледваньне і вывучэньне Асіпавіцкага раёну, а матар'ялы выдрукаваць не пазьней восені гэтага году; ІБК павінен

усямерна дапамагаць сваечасоваму выхаду гэтага дасьледваньня; таксама прапанаваць акруговым таварыствам правясьці вывучэньне і дасьледваньне вылучаных імі для гэтай мэты раёнаў з тым, каб гэтую працу друкаваць.

15) Адначасна з вывучэньнем раёну ўсе краязнаўчыя організацыі дапамагаюць у працы ІБК яго сэкцыям ці камісіям—шляхам допісаў, запаўненьня тых ці іншых анкет, програм, зьбіраньня навуковых матар'ялаў і інш.; у мэтах коордынаваньня справы ўсе матар'ялы як камісіямі, так і краязнаўчымі організацыямі дасылаюцца праз ЦБК.

16) На бліжэйшы пэрыод у плян працы мясцовых краязнаўчых організацый, паводле заданьняў ІБК, павінны ўвайсьці: а) сэзонныя фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні; б) вывучэньне бюджэту часу селяніна; в) вывучэньне хатніх рамёстваў; г) зьбіраньне вуснай народнай творчасьці; д) зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу; е) апісаньне паселішча; ж) апісаньне помнікаў старажытнасьці і ўкладаньне археолёгічных карт і інш.

17) ЦБК вывучыць пытаньне аб патрэбе тых ці іншых анкет, ці програм, згодна запатрабаваньням месц і краязнаўчай справы і выдаць іх з тлумачальнымі мэтодычнымі заўвагамі.

18) Краязнаўчыя організацыі вядуць сваю працу па вывучэньні краю ў сьціслай сувязі з органамі Дзяржпляну, статыстычнымі, коопэратывамі і іншымі, абменьваючыся дасьледчымі матар'яламі.

19) Усе экспэдыцыі, якія пасылаюцца ІБК на месцы для досьледаў, увязваюць сваю дзейнасьць з мясцовай краязнаўчай організацыяй, каб даць апошняй магчымасьць скарыстаць вынікі гэтых досьледаў ЦБК сваечасова паведамляе месцы аб эксэпэдыцыях.

20) Зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсіх краязнаўчых організацый на выяўленьне найбольш каштоўных і цікавых месц у БССР з мэтай наладжаньня экскурсій, ЦБК выдаць апісаньне гэтых месц і маршрутаў, асаблівую ўвагу зьвярнуць на організацыю экскурсій па сваім краі.

21) ЦБК дабіцца сваечасовай і поўнай апрацоўкі матар'ялаў з месц з тым, каб вынікі працы зьмяшчаць сваечасова ў друку.

22) ЦБК выпрацаваць парадак, якія матар'ялы пасылаюцца організацыямі ў ІБК і якія скарыстоўваюцца на мясцох, а таксама сваечасова паведамляць месцы аб атрыманьні дасылаемых у ЦБК матар'ялаў.

23) Даручыць ЦБК узьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб матар'яльнай дапамозе краязнаўчым організацыям.

24) Даручыць ЦБК клапаціцца, каб Дзяржаўны музэй дапамагаў мясцовым краязнаўчым музэям, дасылаючы дублеты і фотографіі.

25) Узяць курс на пэўнае вызначэньне месца ЦБК пры Інстытуце Беларускае Культуры і на ўвядзеньне інстытуту корэспондэнтаў у ЦБК.

26) Даручыць ЦБК зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне краязнаўчай працы ў Гомельскай і Рэчыцкай акругах, узяўшы кірунак на падраўніваньне іх да стану краязнаўчых організацый БССР.

У галіне мэтодычна-кіраўнічай.

27) ЦБК наладзіць сталае мэтодычнае кіраўніцтва краязнаўчымі організацыямі, дзеля чаго: а) апрацаваць на падставе практыкі дасьледваньня Асіпавіцкага раёну прыкладны плян вывучэньня і дасьледваньня раёнаў; б) у „Нашым Краі“ зьмяшчаць больш популярных артыкулаў організацыйнага і мэтодычнага зьместу; в) папоўніць краязнаўчыя бібліотэчкі новай літаратурай; г) пасіліць жывы інструктаж раённых організацый, узгадняючы пасылку інструктароў у тыя ці іншыя раёны з праўленьнямі акруговых таварыстваў краязнаўства.

28) ЦБК прыняць усе меры да рэгулярнага і сваечасовага выхаду часопісу „Наш Край“, ні ў якім разе не дапушчаючы скарачэньня яго і выхаду падвойных нумароў.

29) Прымаючы пад увагу вялікую колькасьць матар'ялаў, якія дасылаюцца з месц для часопісу, і вялікую вартасьць некаторых з іх, лічыць неабходным выданьне іх паасобнымі краязнаўчымі зборнікамі.

30) Лічыць мэтазгодным выданьне мясцовымі краязнаўчымі організа-

цыямі рукапісных краязнаўчых часопісаў, у якіх зьмяшчаць сабраныя і апрацаваныя організацыямі матар'ялы.

31) Абавязаць мясцовыя краязнаўчыя організацыі прыняць усе неабходныя меры да популярызацыі часопісу „Наш Край“ з мэтай шырокага яго распаўсюджваньня.

32) Даручыць ЦБК ня спыняць дармовай пасылкі часопісу „Наш Край“ краязнаўчым організацыям на мясцох.

33) Прымаючы пад увагу, што дзеля абмежаванасьці сродкаў нельга было працягнуць Зьезд яшчэ на некалькі дзён і праца павінна была вясьціся пасэкцыйна, што не дало магчымасьці ўсім дэлегатам Зьезду заслухаць усе даклады, якія зьяўляюцца каштоўным кіруючым матар'ялам, прапанаваць ЦБК прыняць усе меры, каб у месячны тэрмін выдаць працы II Ўсебелар. Краязнаўчага Зьезду.

VIII. Даклад камісіі па апрацоўцы рэзолюцыі па дакладу „Організацыя і тып раённага краязнаўчага музэю“.

*Радзевіч* зачытвае прынятую камісіяй рэзолюцыю. Зьезд аднагалосна прымае яе ў наступным відзе:

1. Сучасны стан краязнаўчай працы і неабходнасьць яе далейшага разьвіцьця і паглыбленьня вымагае стварэньня на мясцох тых установ, якія з аднаго боку адбіваюць прыроду, экономіку, культуру і гісторыю данага раёну ў іх розных праявах, з другога—зьяўляюцца месцам, вакол якога концэнтруюцца краязнаўчыя сілы раёну. Такой установай зьяўляецца раённы краязнаўчы музэй.

2. Каб адрозьніць ад музэяў дарэволюцыйнага тыпу, якія пераважна фіксавалі застыглыя і адышоўшыя ў мінулае формы жыцьця, у раённых краязнаўчых музэях трэба ў першую чаргу адбіваць дынаміку акаляючага гаспадарчага жыцьця і тых формаў быту, якія на яго грунце ўзьнікаюць.

3. Маючы гэтую мэту, раённы краязнаўчы музэй павінен пры сваёй організацыі кіравацца сазнаньнем неабходнасьці адбіць энэргію, барацьбу і быт працоўных мас і ўзвысіць іх культурны ўзровень шляхам дэманстраваньня больш удасканаленых і разьвітых праяў культуры.

4. Паказаная грамадзка-культурная роля краязнаўчага музэю ў раёне дыктуе і адпаведную яму сыстэматыку—падзел яго на тры разьдзелы: 1) прыродна-географічны, 2) грамадзка-экономічны і 3) культурна-гістарычны.

5. Пабудова музэю па паказаных трох разьдзелах павінна рабіцца па сынтэтычным прынцыпе, бо толькі такім шляхам раённы краязнаўчы музэй дае прадстаўленьне аб раёне, як адзіным цэлым.

6. Гэта сыстэматызацыя і пабудова па сынтэтычным прынцыпе будуць адпавядаць асьветным і выхаваўчым задачам сучаснай школы, якую краязнаўчы музэй павінен у першую чаргу абслугоўваць.

7. Раённы краязнаўчы музэй не павінен абмяжоўвацца зьбіраньнем экспонатаў, якія характэрны толькі для данага раёну і апрача матар'ялаў чыста мясцовага характару ён можа зьмяшчаць такія экспонаты, дапаможнікі і інш., якія выводзяць наглядальніка за вузкія межы яго роднага краю ў шырокі сьвет.

8. У мэтах разгарненьня працы па організацыі раённых краязнаўчых музэяў ЦБК даручаецца аддаць належную ўвагу гэтаму пытаньню на старонках „Нашага Краю“, выдаць адпаведную брошуру з неабходнымі тэхнічнымі тлумачэньнямі; на раённых і акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях весьці шырокую агітацыю ў напрамку зьбіраньня матар'ялаў і ўцягнуць у гэтую працу прадстаўнікоў працоўных мас і мясцовых культурных працаўнікоў—настаўнікаў, агрономаў, дактароў і інш.; прыняць належныя меры да адводу пад музэі адпаведных памяшканьняў.

IX. *Організацыйныя пытаньні*—даклад старшыні ЦБК т. *Бялугі.*

На Зьезьдзе мы павінны вырашыць два пытаньні організацыйнага зьместу: 1) юрыдычна аформіць скліканьне пленуму пасяджэньняў ЦБК і 2) падлегласьць нашых краязнаўчых організацый. Пленумы ЦБК, якія

вырашаюць організацыйныя і мэтодычныя пытаньні ў нашай працы, дагэтуль ня былі юрыдычна аформлены. Зразумела, гэтае пытаньне павінна быць вырашана статутам ЦБК., але ЦБК яго дагэтуль яшчэ ня склала. Прычына: нявысьветленасьць узаемаадносін паміж ЦБК і ІБК. Цяпер гэтыя ўзаемаадносіны больш-менш высьветлены, і ЦБК можа прыступіць да апрацоўкі свайго статуту. ІБК меркавалася стаць Акадэміяй Навук, цяпер гэта пытаньне высьветлена. Нам патрэбна ведаць думку Зьезду аб нашых пленумах. Мы думаем, што Зьезд павінен абгаварыць склад гэтых пленумаў. Наш проект: пленум будзе складацца з 45 дэлегатаў, з іх ад ЦБК усе штатныя працаўнікі—8, ад аддзелаў ІБК (мовы, літаратуры, прыроды і тэхнікі, соцыяльных навук)—5, ад 4-х т-ваў ІБК (мэдыцынскі інстытут, мастацкая сэкцыя, Горацкае т-ва, асоцыацыі НОП)—4, ад Дасьледчага І-ту—1, Наркамасьветы—3, ад Дзяржпляну, АПАЦК, ЦКЛКСМ, ЦСПСБ, ЦСУ, Дзяржаўнага Музэю, Працасьветы, БДУ, С.Г. Акадэміі, ЦБЮП, Комвузу па 1 дэлегату, усяго 15 дэлегатаў, Навуковы Сакратар ІБК і ад акруговых т-ваў 12 дэлегатаў. Пленум у пералічаным складзе на сваім бліжэйшым пасяджэньні павінен абраць прэзыдыум ЦБК.

Адносна другога пытаньня—падлегласьць краязнаўчых організацый—ЦБК вырашыла яго, склаўшы статуты краязнаўчых організацый. Гурткі згодна статуту падпарадкуюцца раённаму т-ву. З гэтага боку ніякіх супярэчнасьцяй няма. Але адносна сувязі паміж акруговымі раённымі т-вамі ёсьць думка, што-б раённыя т-вы былі цалкам падпарадкаваны акруговым т-вам, бо акруговыя т-вы пры вывучэньні акругі ня могуць абыйсьціся без матар'ялаў раённых т-ваў. Па статуту, які мы апрацавалі, раённыя т-вы досыць самастойныя організацыі, якія ў навукова-дасьледчай сваёй працы ўсё-ж такі не павінны адрывацца ад працы акруговага т-ва. Такі наш погляд, і мы гэта пытаньне выносім на абгаварэньне Зьезду, бо на мясцох існуюць розныя думкі. Якая павінна быць ўвязка паміж ЦБК і раённымі т-вамі? Дагэтуль мы ўсе інструкцыі дасылалі раённым т-вам, ня ўлічваючы, што акруговыя т-вы даюць ім свае заданьні. Зьезд павінен сказаць сваё слова.

Пастунае прапанова згадзіцца з лініяй, якая праведзена ў статутах, што апрацавала ЦБК.

Зьезд прымае гэтую прапанову.

Адносна ліку дэлегатаў на пленумы ЦБК Зьезд зацьвярджае пералічаны склад дэлегатаў з дапаўненьнем прадстаўніка ад Вэтінстытуту, ад т-ваў пры Вузах—4, а ўсяго 50 асоб.

Заключнае слова перад зачыненьнем II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду.

*Абрамчук (АПА).* Калі падагуліць нашу працу на працягу трох дзён Зьезду, дык можна сказаць, што асноўным пытаньнем, перад якім мы цяпер стаім, гэта ёсьць пытаньне аб уцягненьні ў краязнаўчую працу мас. Нам неабходна організаваць вытворчасьць і для гэтага неабходна ўцягнуць у справу шырокія працоўныя масы. Яшчэ дагэтуль пытаньне гэта—слабае месца ў нашай працы. Неабходна рабіць вывучэньне экономікі і гаспадаркі ў раённым маштабе. Мясцовыя органы—саветы—заняты працай адбудовы гаспадаркі, а краязнаўчыя організацыі павінны заняцца вывучэньнем вытворчых сіл. Нашы краязнаўчыя організацыі пераважна складаюцца з настаўніцтва і гэта адчуваецца на Зьезьдзе. На Зьезьдзе гаварылі, што адзін селянін рабіў фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя нагляданьні і прынёс вынік іх у краязнаўчую організацыю. Гэта азначае, што селянін шукае законаў умоў яго працы. Краязнаўчыя організацыі і павінны даваць адказы сялянам у іх запытаньнях і шуканьнях. Каб зацікавіць селяніна, небходна так наладзіць нашу працу, што-б вывучэньне вытворчых сіл раёнаў было на першым месцы, а ня толькі вывучэньне фольклёру. Апошняе таксама неабходна для патрэб школы, асьветы.

Зьезд констатуе актыўнасьць краязнаўчых організацый. Да 30% з агульнага ліку членаў краязнаўчых організацый уцягнуты ў актыўную працу. У далейшым нам неабходна дабіцца таго, каб у тэй ці іншай краязнаўчай організацыі ня было ніводнага сябра, які не працаваў-бы актыўна.

У сувязі з гэтым пытаньнем стаіць пытаньне аб стварэньні краязнаўчага актыву з рабочых і сялян. Трэцім нашым чарговым заданьнем ёсьць неабходнасьць апрацоўкі матар'ялаў на мясцох. Зьбіраць мы зьбіраем, а не навучыліся альбо ня хочам апрацоўваць на мясцох. Трэба каб у раёнах і акругах матар'ялы апрацоўваліся, прыстасоўваліся да мясцовых запатрабаваньняў.

Вось тыя заданьні, якія стаяць перад намі ў нашай далейшай працы. На гэтым нам можна закончыць нашу працу на Зьезьдзе і з новымі сіламі ўзяцца за паглыбленьне яе.

*Казак.* II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд абвяшчаю зачыненым. (Інтэрнацыянал).

---

# Сьпіс дэлегатаў II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду.

**10—13 лютага 1927 году.**

1. Адзярыха А. Д.—Буда-Кашалёўскае райт-ва, Бабр. акр.
2. Азбукін М. В.—Георграфічная Камісія ІБК.
3. Ажэўскі П. А.—Слуцкае акруговае Т-ва.
4. Аляксандраў Г. С.—ЦБК.
5. Аніхоўскі А. Ю.—ЦБК.
6. Атраховіч К. К.—ЦБК.
7. Бабарэка П. Я.—Краязн. Т-ва пры Унівэрсытэце.
8. Бабарыкін С. Х.—Гомельскае акр. Т-ва.
9. Бабіцкі З. М.—Мазырскае акр. Т-ва.
10. Багатаў Я. Л.—Жлобінскае райт-ва, Бабр. акр.
11. Бараноўскі Я. І.—Краязнаўч. Т-ва пры Унівэрсытэце.
12. Барысаў З. М.—Копыскае райт-ва.
13. Берднік М. З.—Слуцкія агульна-адук. курсы, гурток краяз.
14. Будзька М. Я.—Сураская райт-ва, Віцеб. акр.
15. Будрых Н. М.—Старадароскае райт-ва, Слуцкае акр.
16. Бузук П. А.—Фольклёрная Камісія ІБК.
17. Буцько Ц. М.—Лагойскае райт-ва, Менскай акр.
18. Быліна М. І.—С. Г. музэй у Воршы.
19. Бычкоў А. Я.—Магілеўскае акр. Т-ва
20. Бэккер Г. Г.—Віцебскае акр. Т-ва
21. Бялуга М. І.—ЦБК.
22. Бялюсь Я. К.—Самахвалавіцкае райт-ва, Менскае акругі.
23. Бялькевіч Я. Г.—Масьціслаўскае райт-ва, Калін. акр.
24. Вадэйка Я. Сьц.—гурток краязн. пры Куставым. аб'яднаньні настаўнікаў Менскіх чыгуначных школ.
25. Ваягэрбер М. А.—Барысаўскае акр. Т-ва.
26. Васілеўскі Д. М.—Аршанскае акр. Т-ва.
27. Васілевіч Я. І.—Віцебскі Дзяржаўны Музэй.
28. Вокунь Б. С.—Магілеўскае акр. Тва.
29. Вянюкоў В. Л.—Магілёўскае акр. Т-ва і Чачэвіцкае райт-ва.
30. Габруковіч П. Р.—Бешанковіцкае райт-ва, Віцебск. акр
31. Габшэвіч К. А.—Кармянскае райт-ва, Магіл. акр.
32. Гайдучэня Ў. Сьц.—Вышэйшыя курсы беларусазнаўства, Менск.
33. Гарбок. Н. Я.—Грозаўскае райт-ва, Слуцкай акр.
34. Гэрасімовіч М. А.—Лепельскае райт-ва, Віцеб. акр.
35. Гіркант А. Я.—Калінінскае акр. Т-ва.
36. Глацёнак Б. З.—Асьвейскае райт-ва, Полацк. акр.
37. Глінскі Я. Я.—Хоцімскае райт-ва, Калін. акр.
38. Голікаў—Аршанскі пэдтэхнікум, гурток краязнаўства.
39. Грабоўскі Я. С.—С.-Г. сэкцыя ІБК..
40. Грыневіч А. А.—Песенная камісія ІБК.
41. Грынкевіч. Я. Я.—Мсьціслаўскі пэдтэхнікум, гурток краязн.
42. Гурыновіч І. Я.—Чэрыкаўскае райт-ва, Калін. акр.
43. Гурыновіч Т. І.—Старобінскае райт-ва, Слуцк. акр.
44. Густыр Я. Т.—Краязнаўчае Т-ва пры БДУ.
45. Гутнер А. Я.—Гомельскае акр. Т-ва.
46. Дабравольскі Т. Ю.—Мілаславіцкае райт-ва, Калін. акр.
47. Дамарацкі Я. А.—Прапойскае райт-ва, Магіл. акр.

48. Дамброўскі Ч. Ч.—ЦБК.
49. Дарашэвіч А. Я.—Каралінскае райт-ва, Мазырск. акр.
50. Дарашэвіч М. А.—Слабадзкое райт-ва, Мазырск. акр.
51. Даўгяла З. Я.—Гістарычна-Археолёг. камісія ІБК.
52. Дземяшкевіч У. М.—Чэрвенскае райт-ва, Менск. акр.
53. Дзівак Г. Л.—Бабруйскае акр. Т-ва.
54. Дзянісёнак З.—Круглянскае райт-ва, Аршан. акр.
55. Дзяхцяр С. Р.—Нар. Кам. Аховы Здароўя БССР.
56. Дудар (Дайлідовіч) А. А.—ЦБ „Маладняк".
57. Журык Сьц. І.—Навуковае Т-ва па вывуч. Беларусі, Горкі.
58. Завацкая З. П.—Марына-Горскі садова-гар. тэхнікум.
59. Замоцін І. І.—Літарат. камісія ІБК.
60. Зыкаў Сьц. Р.—Журавіцкае райт-ва, Магіл. акр.
61. Зэлях Р. В.—Слуцкае акр. Т-ва.
62. Зяленка Г. І.—Капыльскае райт-ва, Слуцкае акр.
63. Зянкевіч А. Х.—Лёзьненскае райт-ва, Віцеб. акр.
64. Іванаў Х. Г.—Чашніцкае райт-ва, Віцеб. акр.
65. Казак А. З.—ЦБК.
66. Казакевіч С. С.—ЦБК.
67. Калбека Я. М.—Дрысенскае райт-ва, Полацк. акр.
68. Калецкі Л. П.—Ляднянскае райт-ва, Аршан. акр.
69. Камінскі Ю. Т.—Чавускае райт-ва, Магіл. акр.
70. Камоцкі А. М.—Менскае акр. Т-ва.
71. Карпіловіч У. М.—Краязнаўчы гурток пры Менскім Белпэдтэхнікуме.
72. Касьпяровіч М. І.—ЦБК.
73. Кіркевіч М. М.—ЦСУ, Менск.
74. Краскоўскі Я. І.—Дзяржплян.
75. Крачкоўскі Я. С.—Полацкае акр. Т-ва.
76. Крукоўскі А. Я.—Мазырскае акр. Т-ва.
77. Крыжаноўскі К. В.—Шклоўскае райт-ва, Магіл. акр.
78. Кузьняцоў П. А.—Багушэўскае райт-ва, Аршан. акр.
79. Кулакоў Т. П.—Азарыцкае райт-ва, Мазыр. акр.
80. Купрэвіч В. Ц.—Смалявіцкае райт-ва, Менск. акр.
81. Лакін. Я. Н.—Мазырскае акруг. Т-ва.
82. Ламака М. А.—Гурток краязн. пры Магіл. пэдтэхнікуме.
83. Лапчынскі Ў. П.—Смаленскае губ. Т-ва Краязнаўства.
84. Леванёнак Ю. А.—Гарадоцкае райт-ва, Віцеб. акр.
85. Левін А. Г.—Дрыбінскае райт-ва, Аршан. акр.
86. Лейзэраў Ц. І.—Саюз Мэдсанпрацы.
87. Ліпаў А. М.—Рэчыцкае акр. Т-ва.
88. Ліпскі Я. А.—Капаткевіцкае райт-ва, Мазыр. акр.
89. Мазуркевіч М. М.—Езярышчынскае райт-ва, Віцеб. акр.
90. Мазуркевіч Я. І.—Віцебскае акруговае Т-ва.
91. Макарэвіч М. В.—БДУ, Т-ва Краязнаўства.
92. Марголіна М. М.—Койданаўскае райт-ва, Менск. акр.
93. Марозаў С. Т.—Пятрыкоўскае райт-ва, Мазыр. акр.
94. Марук Я. Н.—БДУ, Т-ва Краязнаўства.
95. Мац Д. М.—Яўсэкцыя ЦБК.
96. Мацьвяёнак І. К.—Магілеўскае акр. Т-ва.
97. Маяровіч Р. С.—Халопеніцкае райт-ва Барыс. акр.
98. Мікалаеў А. М.—Гомельскае акр. Т-ва.
99. Мікалаеў Т. С.—Касьцюковіцкае райт-ва, Калін. акр.
100. Міскевіч У. К.—Вушацкае райт-ва, Полацк. акр.
101. Міхалковіч У. І.—Рагачэўскае райт-ва, Бабруйск. акр.
103. Мурашка Ў. А.—Ветрынскае райт-ва, Полацк. акр.
102. Мэтта К. Ю.—Менскі Польпэдтэхнікум, гурток краязн.
104. Мялешка М. В.—Цэнтрархіў.
105. Мялешка С. М.—Полацкае акр. Т-ва.
106. Мяцельскі А. Х.—Менскі Белпэдтэхнікум, гурток краязнаўства.

107. Назарэнка П. А.—Высачанскае райт-ва, Віцеб. акр.
108. Некрашэвіч Д. Р.—Стрэшынскае райт-ва, Бабр. акр.
109. Немцаў А. Г.—Асіпавіцкае райт-ва, Бабр. акр.
110. Нікіпэровіч А. В.—Калінкавіцкае райт-ва, Мазыр. акр.
111. Нікіфаровіч Сьц. П.—Барысаўскае акр. Т-ва.
112. Небрадоўскі П. П.—Вульскае райт-ва, Полацк. акр.
113. Падбярэзны Ў. М.—Нараўлянскае райт-ва, Мазыр. акр.
114. Пакроўскі М. Я.—Расьнянскае райтва, Калін. акр.
115. Палікарповіч Н. В.—Лупалаўскае райт-ва, Магіл. акр.
116. Палякова Т. М.—Валынецкае райт-ва, Полацк. акр.
117. Паляшчук Т. М.—Бярэзыньскае райт-ва, Барыс. акр.
118. Палеес А. Д.—Дзяржаўны Музэй, Менск.
119. Паплаўскі Н. Я.—Быхаўскае райт-ва, Магіл. акр.
120. Паўлаў А. М.—Гарадзецкае райт-ва, Бабруйск. акр.
121. Пінчук М. Р.—Полацкі Лясны Тэхнікум, гурток краязнаўства.
122. Пірагоў У. С.—Полацк. акр. Т-ва.
123. Піскун. Ц. А.—Бялынкавіцкае райт-ва, Калін. акр.
124. Плаўнік С. Я. (З. Бядуля)—ЦБК.
125. Пракаповіч В. А.—Коханоўскае райт-ва, Аршан. акр.
126. Пракулевіч У. М.—Бібліограф. камісія ІБК.
127. Прыгароўскі С. В.—Чырвонапольская райт-ва, Полацк. акр.
128. Пяскоўскі Ц. Ц.—навукова-формац. гурток пры саюзе Мэдсанпрацы.
129. Пятневіч В. К.—Гідротэхнікум, гурток краязн., Менск.
130. Пяцэвіч Р. А.—Слуцкае акр. Т-ва.
131. Радзевіч Ю. Сьц.—Узьдзенскае райт-ва, Менск. акр.
132. Ражкоў М. М.—Гомельскае акр. Т-ва.
133. Разоўскі М. Г.—Бабруйскае акр. Т-ва.
134. Рак Р. П.—сэкцыя хатніх рамёстваў ІБК.
135. Ратнэр Д. М. ЦКЛКСМБ.
136. Рэвут М. І.—Мазырскі Белпэдтэхнікум, гурток краязн.
137. Рэмез Сьц. С.—Т-ва пры Вэтінстытуце, Віцебск.
138. Сабалеўскі З. М.—Чырвона-Бярэскі агропэдтэхнікум, гурток краязн.
139. Сакалоўскі Я. В.—Жыткавіцкае райт-ва, Мазыр. акр.
140. Салаўёў П. Х.—Горацкае райт-ва, Аршан. акр.
141. Самцэвіч В. А.—Барысаўскае акр. Т-ва.
142. Сапуноў Т. Т.—Рагачэўскае райт-ва, Бабруйск. акр.
143. Сафарэвіч А. С.—НКЗ БССР.
144. Серафімаў В. С.—Менскае акр. Т-ва.
145. Сербаў І. А.—камісія аховы помнікаў пры ІБК.
146. Сватко Ў. Я.—Комвуз, Менск.
147. Сінская Н. І.—Талачынскае райт-ва, Аршан. акр.
148. Скалаў Б. М.—Лельчыцкае райт-ва, Мазыр. акр.
149. Сосенаў Е. І.—Краснапольскае райт-ва, Калінін. акр.
150. Струнін З. З.—Гомельскае акр. Т-ва.
151. Сухан М. М.—Любаньскае райт-ва, Слуцк. акр.
152. Сьцяпуржынскі А. А.—Менскае акр. Т-ва.
153. Сянкевіч А. А. ЦБК.
154. Сянчук І. К.—Астрашыцка-Гарадзецкае рай-тва, Менск. акр.
155. Сяргеенка Я. Я.—Сеньненскае райт-ва, Віцеб. акр.
156. Тамкоўскі М.—Бягомльскае райт-ва, Барысаўск. акр.
157. Троська Я. К.—ЦБК.
158. Трус С. М.—Аршанскае акр. Т-ва.
159. Трус Т. Сьц.—Межынскае райт-ва, Віцеб. акр.
160. Трэмповіч П. В.—Мэдычн. сэкцыя ІБК.
161. Трэцьцякоў І. Ц.—Дубровенскае райт-ва, Аршан. акр.
162. Туркін І. П.—Бялыніцкае райт-ва, Магілеўск. акр.
163. Улашчык М. М.—Т-ва пры БДУ.
164. Харламповіч П. В.—Бел. Дзярж. Музэй, Менск.

165. Хвёдараў У. І.—Сіроцінскае райт-ва, Віцеб. акр.
166. Хведарынчык П. Сьц.—Расонскае райт-ва, Полацк. акр.
167. Хмялеўскі М. Ц.—Старобінскае райт-ва, Слуцк. акр.
168. Храмовіч Н. В.—Глускае райт-ва, Бабруйск. акр.
169. Храмцоў К. М.—Крычаўскае райт-ва, Калінін. акр.
170. Цітоў Я. А.—Менскае акр. Т-ва.
171. Цэхановін М. М.—Аршанскі Рабфак, гурток краязн.
172. Цярэшчанка З. К.—Віцебскае акр. Т-ва.
173. Чайкоўскі П. М.—Тураўскае райт-ва, Мазыр. акр.
174. Шалешка Ў. І.—Заслаўскае райт-ва, Менск. акр.
175. Шандора С. П.—Шацкае райт-ва, Менск. акр.
176. Шапялевіч К. І. ЦБК.
177. Шашалевіч А. А.—ЦБК.
178. Шлкбскі А. А.—Фольклёрна-Дыялектол. камісія ІБК.
179. Шыдлоўскі А. К.—Сьмілаўскае райт-ва, Менск. акр.
180. Шэнгаўт Я. Л.—Калінінскае акр. Т-ва.

# Папраўкі.

На ст. 26 (4-ы радок зьнізу) надрукавана: „праз Культаддзел РВА“ трэба чытаць: „праз культаддзел РВК“.

На ст. 32 у самым канцы прапушчана: „якая дапамагае працы мясцовых культурных устаноў“.

На ст. 40 (6-ы радок зьнізу) надрукавана: „штамгадовага“, трэба чытаць: „шматгадовага“.

На ст. 64 (3-ці радок зьверху) надрукавана: „па Дзонс-Літоўскаму“, трэба чытаць: „па Дзенс-Літоўскаму“.

На ст. 82 пасьля аддзелу навесткі дня Пленуму прапушчана:

*„II. Прыродна-географічная Сэкцыя“.*

1. Вывучэньне клімату Беларусі і ўдзел у гэтым краязнаўцаў—даклад Макарэўскага.
2. Зьбіраньне расьлін і нагляданьне над імі—даклад Зьбіткоўскага.
3. Фэнолёгічныя нагляданьні—судаклад проф. Салаўёва.

На ст. 95 (7-ы радок зьверху) надрукавана: Глацёнак (Мазыршчына)“, трэба чытаць: „Глацёнак (Полаччына)“.

На ст. 111 (10-ы радок зьнізу) надрукавана; „Глазёныя (Асьвея), трэба чытаць: „Глацёнак (Асьвея)“.

На ст. 112 (5-ы радок зьверху) надрукавана: „сэкцыі даклаў“, трэба чытаць: „сэкцыі дакладаў“.

